


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**7** (1029)

ЛІПЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



**Адам ГЛОБУС**

# ВУЧЭЛЬНЯ

*Словы пра мае часы*
*ў мастацкай вучэльні*

## УСТУП

### Іспыты і слёзы

Малюнак алоўкам і жывапіс акварэллю я здаў лёгка. Нават не перажываў за гэтыя нацюрморты. У сёмым і восьмым класе я па тры разы на тыдзень маляваў і пісаў акварэллю ў студыі Палаца школьнікаў. Заперажываў я на кампазіцыі, бо вырашыў напісаць шматфігурную карціну з хлопцамі і коньмі. У маёй карціне чорныя, рудыя і белыя коні купаліся ў рэчцы. Хлопцы, што купалі коней, былі ў рознакаляровых кашулях. Я рабіў імправізацыю з палатна Пятрова-Водкіна «Купанне чырвонага каня». Мае коні былі не такія яркія, як у Пятрова-Водкіна, яны былі больш стрыманыя. За адведзены на кампазіцыю час я ледзь паспеў зафарбаваць паперу. Сваёй кампазіцыяй я быў страшэнна не задаволены. Думаў, што атрымаю за яе «тройку», але мне паставілі «пяцёрку». Так што ўсё па асноўнай спецыяльнасці я здаў на выдатна, як на выдатна здаў вусны іспыт па рускай мове і літаратуры. Адзінай «чацвёркай» я быў узнагароджаны за беларускую дыктоўку. Каб я пісаў рускую дыктоўку, дык атрымаў бы стоадсоткавую «двойку», як яе атрымаў Ігар Цішын. Ігар пабачыў сваю «двойку» за рускую дыктоўку і заплакаў. Каб мы не глядзелі на яго слёзы, Ігар выбраўся з натоўпу і пабег у сквер. Слёзы Цішына былі самай запамінальнай з'явай на іспытах у мастацкую вучэльню.

---

*__Глобус Адам (Адамчык Уладзімір Вячаслававіч)__ нарадзіўся 29 верасня 1958 года ў горадзе Дзяржынску Мінскай вобласці ў сям'і пісьменніка Вячаслава Адамчыка. Скончыў педагагічнае аддзяленне Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава (1977), Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Працаваў чарцёжнікам, мастаком-рэстаўратарам, мастаком-афарміцелем, рэдактарам у часопісе «Крыніца». Цяпер займаецца выдавецкай дзейнасцю, а таксама жывапісам, графікай, у тым ліку, кніжнай.*

*Аўтар кніг паэзіі «Парк» (1988), «Новае неба» (2010); кніг прозы «Адзінота на стадыёне» (зборнік апавяданняў, 1989), «Смерць — мужчына» (1992), «Скрыжаванне» (1993), «Дамавікамерон» (1994), «Толькі не гавары маёй маме» (1995), «Койданава» (1997), «Новы дамавікамерон» (1998), «Post scriptum» (1999), «Тэксты» (2000), «Браслаўская стыгмата» (2001), «Сшыткі» (2003), «Дом» (2005), «сУчаснікі» (2006), «Літары» (2006), «Play.by» (2009), «Крутагорскія казкі» (2010), «Сказы» (2012), «Казкі пра дарослых» (2013), «Гісторыі» (2015).*

## Памяшканні

Калі я займаўся ў вучэльні, у яе не было свайго будынка. Мы хадзілі і ездзілі ў розныя месцы. Літаратура і гісторыя нам чыталася ў вечаровай школцы, што стаяла ў дварах на вуліцы Кузьмы Чорнага. Нашы сталярныя майстэрні для раблення планшэтаў і падрамнікаў былі ў сутарэннях жылога дома на вуліцы Змітрака Бядулі. Асноўныя заняткі праходзілі ў левым крыле палітэхнікума. Былі ў нас яшчэ прасторныя мансарды з вялікімі вокнамі, што пазіралі на міліцэйскую акадэмію. Потым, усё пералічанае, у мастацкай вучэльні забралі і далі нешта іншае. Мастацкай вучэльні хутка будзе 65 гадоў, а будынак свой яна так і не займела, так і бадзяюцца маладыя мастакі па Мінску з адной вуліцы на другую, з адной чужой майстэрні ў другі чужы клас.

## Пазвоньванні ў вучэльні

Так як заняткі праходзілі ў самых разнастайных памяшканнях, званкі, што абвяшчалі пачаткі і заканчэнні ўрокаў, мелі розныя галасы, а часам іх і зусім не было; і мы пачыналі і сканчалі працу па сваіх гадзінніках. Гэта надавала нашаму, яшчэ зусім маладому жыццю, дарослясці. Мае былыя аднакласнікі сядзелі за партамі ад званка да званка, а я стаў жыць па гадзінніку. З усіх пазвоньванняў у вучэльні самымі важнымі былі пазвоньванні акварэльных пэндзляў у шкляных слоіках з вадой. Па самым вялікім рахунку мастацкая вучэльня была адной з самых ціхіх устаноў у краіне. На занятках мы маўчалі, хадзілі па майстэрнях як мага цішэй, перагаворваліся шэптам. Таму пазвоньванні пэндзляў нашых першакурснікаў (акварэллю мы пісалі толькі адзін першы год) гучалі выразна і востра.

## Дзеці выкладчыкаў

У вучэльні займалася шмат дзяцей з сем’яў мастакоў. Кідалася ў вочы, што ў таленавітых выкладчыкаў дзеці былі як таленавітыя, так і бяздарныя, а ў бяздарных — выключна бяздарныя.

## Навучэнцы і матэрыялы

У час вучобы мы карысталіся самымі рознымі матэрыяламі, і кожны з гэтых матэрыялаў нібыта выбіраў аднаго з нас, каб менавіта праз яго самым найлепшым чынам увасобіцца ў твор. Каляровы пластылін выбраў сабе Вову Жбанава. Ён вылепліваў з яго хакеістаў і рускіх асілкаў. Мяккі аловак «Архітэктар 3-М» найлепшым чынам змалёўваўся рукою Міколы Ступакова, які зрабіў шэраг унікальных партрэтаў. Акварэльная папера свяцілася радасцю ў працах Зміцера Давідовіча. Той накладаў акварэль акуратнымі, як кавалачкі мазаікі, квадратнымі мазкамі. Кедравы лак зіхацеў на палотнах Васіля Хмялеўскага. Ільняное палатно добра глядзелася ў Вовы Гладкевіча. Лішкі фарбы Вова саскрабаў з палатна лёзамі для галення. Шарыкавая асадка знайшла сябе ў малюнках Вовы Ісачанкі. Найлепшыя свае малюнкі ён зрабіў у войску, адразу пасля заканчэння вучэльні. Каб іх пабачылі гледачы, Ісачанка зладзіў калідорную выставу ў вучэльні. Гуаш палюбіла Ігара Цішына, у яго нават

алейная фарба і тэмпера глядзеліся і глядзяцца гуашшу. Мастыхін быў створаны для Вовы Шчарбакова. З шырокіх пласкасцей ён выкладаў на палотнах залатаскурых натуршчыц і чырванасценныя краявіды старога горада. Пэнзлі нулявога памеру выпускалі для Анатоля Александровіча. Ён імі пісаў паўпразрыстыя шарыкі дзьмухаўцоў.

## Гнядок і бойкі

Чаму ў нас слова «гнядок» лічылася абразлівым? Не ведаю. Можа, з-за сугучнасці з «гнідай»? Тады я асабліва не заглыбляўся ў этымалогію. Ведаў, што «гнядок» — кепскае і абразлівае слова. Ведаў і выкарыстоўваў яго. «Ну што, гнядок?» — задаеш такое пытанне і можна пачынаць бойку. Шмат боек пачаліся ў вучэльні менавіта з абразы, выказанай праз слоўца «гнядок».

## Фарбы і колеры

Як матэрыялы выбіралі сабе студэнта, так і фарбы выбіралі сабе любімцаў. Можна было б сказаць наадварот... У кожнага з нас была свая ўлюбёная фарба. Так яно так, але ў аднаго атрымлівалася з фарбы зрабіць колер яркі і запамінальны, атрымлівалася стварыць каларытны каляровы вобраз, а ў другога на палатне ляжала толькі марна сапсаваная дарагая фарба. У Вовы Кожуха атрымлівалася з краплака ствараць кранальныя вечаровыя краявіды са смарагдавымі соснамі. Вова Ісачанка з ультрамарына зрабіў шэраг краявідаў з мазырскай турмой. А былі фарбы недасягальныя па коштах для нашых навучэнцаў. Ніхто не купляў сабе цыруліўм, і цыруліўмныя нябёсы мы бачылі толькі на палотных багатых мастакоў, кшталту Вашчанкі ды Шчамялёва. Вялікай пашанай у нас карысталіся фарбы земляных колераў вохры і марса. Марс карычневы знайшоў сабе Гарэлава, які пісаў ім глыбока-цёмныя цені на сваіх нацюрмортах з качкамі ды кошыкамі бульбы. Маёй фарбай у вучэльні была вохра залацістая, вохры цёмную і светлую я таксама любіў, але толькі залацістая грэла маё сэрца. Я пісаў ёй краявіды і партрэты, і адзін са сваіх дыпломаў я напісаў лісероўкамі гэтай самай залацістай вохрай. Гена Чэх любіў сажу газаваю ён яе разбельваў, услед за вялікім Пікасо, ён яе крыху падфарбоўваў, але яна была для яго асновай усяго. Зялёны вокіс хрому быў ці не самай папулярнай у вучэльні, бо яна выдавала сябе за спрошчаны колер лета. Хто не любіць лета? Толькі ў аднаго Толіка Александровіча гэтая салдацкая фарба — вокіс хрому — ператварылася ў колер празрыстага траўня, у колер вяселля і шчасця.

## Водары і пахі

Алейная фарба — каралева водараў вучэльні. Большасць студэнтаў любіла гэты гладкі пах больш за ўсе астатнія ў сваім маладым жыцці. За алейнай фарбаю вышнуроўваюцца водары лакаў — кедравага і фісташкавага, водар ільнянога алею і разбаўляльнікаў піненаў. На старэйшых курсах уся наша вопратка патыхала алейнасцю і шкіпінарнасцю. Студэнта з мастацкай вучэльні можна было адразу пазнаць па ягоным паху. Яшчэ ў вучэльні пахла вільготнай паперай і сухім дрэвам. Планшэтаў з дыкты і падрамнікаў з драўляных рэек

у нас было шмат, як было шмат і першакурснікаў, якія пісалі акварэллю на паперы. Па калідорах плаваў вадзяністы пах зваранай бульбы, бо ў буфеце на гарнір падавалі бульбянае пюрэ. Старшакурснікі шмат курылі, і ў калідорах ды прыбіральнях было задушліва ад спаленага тытуню.

## Натуршчыкі і натуршчыцы

Натуршчыкі і натуршчыцы ў вучэльні былі другога гатунку, бо першы гатунак працаваў у інстытуце, а трэці гатунак падзарабляў у мастацкай школе-інтэрнаце. Усе нашы натуршчыкі марылі перайсці ў інстытут, і ўсе яны расказвалі, як пагана працуецца ў інтэрнаце для адораных (задураных) дзяцей. У інстытуце плацілі больш, а ў інтэрнаце школьнікі былі кепска выхаваныя і часам здзекаваліся з натуршчыкаў. Маглі прывесці на заняткі чужога чалавека, бо той хацеў-паміраў «пазырыць на голую бабу». Маглі на спіне старога дзеда, калі той зморыцца і засне, напісаць слоўца з трох літар. Маглі голасна абмеркаваць заганы цела, якое чалавек пагадзіўся ім паказаць. У вучэльні такога не рабілі, бо старэйшыя, нават пасля войска, хлопцы да нас паступалі, бо ўсё ў нас было сур'ёзнае, а самым сур'ёзным было маляванне з натуры. Мы, можна сказаць, любілі большасць сваіх натуршчыкаў і натуршчыц. Мы паважалі даўганосага дзеда з доўгай сівой барадою. Ён нават у самых няздар атрымліваўся падобны. Нос, барада, вочкі — дзве кропелькі блакітныя. А вось Ніну — Арэхавыя вочкі — маляваць было цяжкавата. Яна ўся складалася з нейкіх шароў і мячыкаў для гульні ў рэгбі. Бурбалка, а не жанчына. Але ж Ніна магла сядзець нерухома. Цэлую акадэмічную гадзіну прасядзіць і не зварухнецца. Талент. Алена — Роўная спіна — кожныя пяць хвілін ускоквала з крэсла і праходжвалася па майстэрні. Яна ўся з галавы да ліловых пятак была абсыпана рабаціннем, але якія Алена мела валасы... Густыя, рыжыя, доўгія — да самага пояса. Такога Рыжыка сам Бог параіў бы табе напісаць алейнымі фарбамі на фактурным палатне. Была ў нас яшчэ і Вольга — Цыцкі шостага памеру — на зусім кароценькіх ножках. Вольга вучылася ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, і ў яе не хапала грошай, каб плаціць за здымны пакой. Яна ў нас падзарабляла і любілася са студэнтамі. Ёй больш падабалася рухацца ў сексе, чым сядзець нерухома на мулкім крэсле. Яна пазіравала ў нас нядоўга, бо знайшла для сябе больш адпаведны спосаб зарабляць на пакой. Калі ж адным словам намаляваць усіх нашых натуршчыкаў, дык будзе слова «шэры». Усе яны былі звычайней самых звычайных людзей. Гэта мы шукалі і знаходзілі ў іх нейкую адметнасць, каб намаляваць і напісаць. У нашых натуршчыц былі шэрыя сукенкі і шэрыя спадніцы, а нашы натуршчыкі насілі шэрыя вусы і шэрыя пінжакі.

## Аднагрупнікі і ўзросты

Большасць студэнтаў прыйшла ў вучэльню пасля восьмага класа. Былі і такія, хто з першага разу не паступіў і патрапіў да нас пасля дзявятага. Яны лічыліся старымі. Здавалася б, што той адзін год вырашае. Ён вырашаў шмат, бо дзяліў аднагрупнікаў на старых і звычайных. Цягам усёй чатырохгадовай вучобы старыя так і заставаліся старымі, так яны і не станавіліся звычайнымі. Яшчэ ў нас трапляліся студэнты старэйшыя за звычайных на некалькі гадоў, але іх было зусім мала, таму іх таксама залічвалі да проста старых.

## Куміры і выкладчыкі

У калідорах і майстэрнях вучэльні вяліся бясконцыя спрэчкі пра нашых куміраў. Іх было шмат…

Брэйгель. Пра яго немцы выпусцілі добры альбом, які мы набывалі ў краме «Дружба». Дзякуючы гэтай кнізе папулярнасць Брэйгеля моцна ўзрасла і шмат дыпломых палотнаў пісалася пад Пітэра Брэйгеля мужыцкага.

Пятроў-Водкін. Яму наследаваў Міхаіл Савіцкі, які быў самым любімым беларускім мастаком у тагачаснай вучэльні. Усіх мастакоў, якіх любіў Савіцкі, шанавалі і мы. Пятрова-Водкіна ён любіў больш за Эль Грэка і Ароска, больш за Рыверу і Далі, больш за Кольвіц і Барлаха. Беларускі жывапіс Савіцкага выйшаў з рускага жывапісу Кузьмы Пятрова-Водкіна, як у свой час руская літаратура выйшла з «Шыняля» ўкраінца Гогаля.

Гаген і Ван Гог. Іх любілі навучэнцы другіх і трэціх курсаў, калі ездзілі ўлетку на жывапісную практыку. Там, пад цёплым летнім сонцам, у полі, каля рэчкі, на ўзлеску можна было ўявіць сябе вялікім жывапісцам, які малюе Рай і якога чакае сусветнае прызнанне.

Руо. Студэнты пачыналі яго вывучаць на чацвёртым курсе, калі траплялі да жывапісца Малішэўскага. Ён сам захапляўся экспрэсіяністамі. Узвялічваў Какошку. Абагаўляў Жоржа Руо. Нам падабаліся карціны настаўніка, падабаўся фактурны жывапіс Малішэўскага. Мы праз яго ішлі да таямнічага і вітражнага святла, што сыходзіла і лілося ад палотнаў Руо.

## Мары і спадзевы

Пра што мы марылі? Пра брашуркі з малюнкамі Пікасо і брашуркі з карцінамі Папкова. Такія брашуркі мы маглі сабе набыць. Пра альбом Марка Шагала за сто пяцьдзясят рублёў мы нават не марылі. Са сваёй стыпендыяй у васямнаццаць рублёў такі, аддрукаваны ў Японіі альбом, нам быў не па кішэні. Мы марылі пра маленечкую майстэрню ў сутарэннях ці на якім гарышчы, пра сапраўдную мастакоўскую майстэрню, што давалі членам Саюза мастакоў, мы не марылі. Мы марылі пра тое, што станем сапраўднымі мастакамі, пра тое, што мы станем звычайнымі настаўнікамі малявання і чарчэння, мы, вядома, не марылі.

## Адзнакі

Лепшыя нашы накіды Трафім Ігнаценка пазначаў «птушачкай» у форме лацінскага «V». З гэтай «птушачкі» і пачаліся адзнакі маёй прафесійнай мастакоўскай дзейнасці. Да першай «птушкі» я быў аматарам, і малюнкі мае былі школьнымі ды студыйнымі. Тыя малюнкі і ўхвалялі і ганілі, але не ацэньвалі іх за прафесіяналізм. Колькасць «птушак» павінна была расці і множыцца, каб у самым канцы семестра на праглядзе перакінуцца ў добрую адзнаку, а колькасць добрых адзнак перарастала ў грашовую ўзнагароду, якую штомесяц выдавалі ў выглядзе васямнаццацірублёвай стыпендыі. Акрамя добрых адзнак і «птушак» падчас праглядаў на самых найлепшых працах ставілася літара «Ф», так пазначалася тое, што працу забіралі ў фонд мастацкай вучэльні. У фондзе захоўваліся палотны і аркушы ўзорныя, на прыкладзе якіх вучыліся наступнікі. Малюнкі і жывапіс з фонду развешваліся на высокіх цёмна-шэрых

сценах у доўгіх калідорах. Калі твой малюнак або кампазіцыя траплялі на сцяну, ты мог і заганарыцца. Каб навучэнцы не хварэлі на пыху, на сценах, зазвычай, віселі малюнкі і кампазіцыі тых, хто прайшоў і скончыў чатырохгадовую адукацыю.

### Дырэктары

Пакуль я хадзіў у вучэльню, там кіравалі Ц. і К. Знешне яны моцна адрозніваліся. К. — чорнабароды, з пратэзам у чорнай пальчатцы замест рукі. Рухаўся ён мядзведзікавата. Ц. — светлавалосы, паголены. Ён меў хаду бадзёрага кавалерыста. У абодвух дырэктараў была агульная рыса — яны не разумелі мастацтва. Калі ж нешта нейкае і разумелі, дык іх разуменне не ўздымалася за рамкі даўно састарэлай праграмы для першакурснікаў. Абодва дырэктары былі хутчэй аматарамі, чым прафесіяналамі ў вялікім свеце мастацтва. Іх імпэт ішоў у рэчышча службовай кар’еры, а не ў творчасць. Выкладчыкі і студэнты не паважалі ні Ц., ні яго спадкаемцу — К.; бо ўсё ж мастацкую вучэльню павінен узначальваць добры мастак, а не мастак кепскі.

## ПЕРШЫ КУРС

### Лось і бутэрброды

На першым курсе заняткі цягнуліся з раніцы да вечара. Трэба недзе абедаць. У буфеце ўсё прэснае, нейкае прыгаслае, вадзяністае і нясмачнае. Часам там яшчэ ламаўся «Тытан» — апарат, які награваў ваду. «Тытан не працуе!» — выраз, які паўтараўся ў вучэльні бясконца. Калі нешта ламалася, псавалася, здаралася, адразу ж і чулася «Тытан не працуе!» Ад дзвярэй зачыненага буфета голад гнаў мяне ў сталоўку з лагернай мянушкай «Бухенвальд». Там браў сырнікі са смятанай за адзінаццаць капеек і салодкую гарбату за тры. Хлеб у «Бухенвальдзе» ішоў задарма. Прызвычаіцца да харчоў у буфеце з «Тытанам» і «Бухенвальдзе» было цяжкавата. Таму першыя месяцы я прыносіў з дому бутэрброды. Мой тагачасны таварыш Алесь Лось таксама меў ссабойку. Мы з’ядалі бутэрброды ў восеньскім прахалодным духмяным парку, што стаяў за вучэльняй. Смаката.

### Ружовы конь

Па кампазіцыі задалі намаляваць казачны персанаж. Я зрабіў рукакрылага Ікара, зрабіў залацістакрылага матылька над гарадскімі вежамі і зрабіў ружовага каня ў шматзорным небе. Кампазіцыю ў нас выкладаў Юры Выхадцаў, але найцікавейшае пра казачныя кампазіцыі я пачуў ад выкладчыка па малюнку — Трафіма Ігнаценкі. Ён схіліўся да ружовага каня і прачытаў яму чатырохрадкоўе:

Я теперь скупее стал в желаньях,
Жизнь моя? иль ты приснилась мне?
Словно я весенней гулкой ранью
Проскакал на розовом коне.

Верш спадабаўся і запомніўся не толькі намаляванаму крохкай пастэллю ружоваму каню.

## Плячкоў і Клод Монэ

На першым курсе я любіў Сурбарана, вывучаў ягоныя нацюрморты з грушамі і глінянымі збанкамі. Мы бясконца малявалі розныя нацюрморты і прыклад Сурбарана быў з найлепшых. Тую любоў да іспанскага майстра я захаваў на ўсё жыццё. Толькі ў адзін цудоўны дзень да Сурбарана дадаўся Клод Монэ. Яго любіў скульптар Плячкоў. Я зайшоў у майстэрню да скульптара, дзе займаліся аднакурскніцы — Эма Няпомняшчая і Вольга Палікарпава. У шэрым, пазастаўляным глінянымі авербуямі памяшканні, я пабачыў некалькі светлых, напісаных алейнымі фарбамі на кардоне, маляўнічых эцюдаў. На іх быў блакітны куток лесу, балота з белымі лілеямі і поле, засаджанае бульбай. Эцюды напісаў Плячкоў. Ён і расказаў пра Клода Монэ, пра уражанні ад сонечнасці, пра хутказменлівасць краявідаў. Плячкоў сказаў, што ў яго была тэмпература трыццаць восем, калі пайшоў на эцюды і напісаў узапар тры краявіды. Мяне ўразіў Плячкоў і Клод Монэ. Пасля Сурбарана я пачаў старанна вывучаць светагляд, тэхніку і гісторыю суполкі імпрэсіяністаў.

## Выхадцаў і Эль Грэка

У сямідзясятыя гады маньерыст Эль Грэка набыў неверагодную папулярнасць у беларускіх мастакоў. Аблокі, якія некалі праплылі над Таледа і напісаліся тэмпераментным грэкам, пачалі праплываць над Навагрудкам і Мінскам, над Браславам і Магілёвам. Эльгрэкаўскія твары выцягнутыя, вялікавокія і мінорныя з’явіліся ў беларускіх партызан. Эльгракаўскія трапяткія рукі апосталаў перайшлі да беларускіх калгаснікаў і калгасніц, да беларускіх будаўнікоў і працаўнікоў. Беларускія жывапісцы нарабілі безліч постэльгрэкаўскіх карцін з Леніным і без Леніна, з паэтамі маладнякоўцамі і без паэтаў маладнякоўцаў, з аўтапартрэтамі і партрэтамі іншых, вельмі далёкіх ад Таледа людзей. У гэтай эльгрэкакампаніі, якая прыйшла на Беларусь пасля суровага стылю шасцідзясятых, малявальшчык Выхадцаў выглядаў сціпла і разумна, бо запазычваў у іспанскага майстра толькі аблокі. Ну а хмаркі нябесныя, вандроўніцы вечныя маглі і з далёка-далёкага Таледа да Мінска даляцець…

## Чорны горад

На зімовыя эцюды я хадзіў з Яўменавым. Мы ішлі ў стары горад, у раён вуліц — Няміга і Шпалерная. Малявалі, стоячы ў пад’ездах, каля кепска памытых вокнаў. Грэліся, прытуліўшы спіны да пад’езднай батарэі. Пілі гарачую гарбату ў хлебных крамах. Зноў ішлі маляваць ледзяны горад з чорнымі будынінамі, чорнымі дахамі, чорнымі комінамі пад фіялетавым небам, у якое ўздымаліся белыя слупы дымоў.

## Ігнаценка і любаванне

Выкладчык акадэмічнага малявання — Ігнаценка — вучыў студэнтаў любавацца ўласным творам. Перад тым, як сысці з майстэрні, трэба некалькі імгненняў палюбавацца зробленай працай. Варта знайсці ў ёй нешта добра выкананае і тады ўжо сыходзіць з майстэрні. Сыходзіць трэба ў гуморы, каб

хацелася ў майстэрню вярнуцца і дарабіць пачатае. Пра падобныя рэчы пісаў Эрнэст Хемінгуэй. Ён таксама раіў перарываць працу на ўзлёце, а не кідаць твор з кепскімі думкамі пра яго і пра сябе. Трэба працаваць і працаваць, ажно пакуль праца не пачне атрымлівацца і падабацца, а тады можна і перапынак зрабіць; менавіта такое і раіў нам Ігнаценка.

## Акоп і малюнак

Ёсць рэчы, якія наўпрост патрабуюць, каб ты іх намаляваў. Ты адмахваешся, адкладаеш пачатак малявання на потым, спрабуеш забыць. Чым больш ты робіш намаганняў ад навязлівага вобраза ўцячы, тым больш грунтоўна ён запаўняе свядомасць. Ты пра яго толькі і думаеш. У мяне на першым курсе ўзнікла патрэба намаляваць акоп. Гэта быў акоп з Першай сусветнай вайны. Мне трэба было з яго вылезці і пайсці ў атаку. Адкуль узяўся вобраз? З якіх кніжак, карцін і фільмаў ён прыйшоў? Так і не змог я высветліць. Было адчуванне, што ён не толькі прысніўся некалькі разоў, а ён мне ўспомніўся. Я намаляваў акоп; намаляваў сябе ў вайсковай форме з ружжом, на якім паблісквае штых; намаляваў гурбы зямлі, што абсыпаюцца ў акоп з-пад маіх чаравікаў. Зроблены малюнак я схаваў. Ёсць малюнкі, якія трэба на нейкі час хаваць ад чужога вока, бо ты не можаш патлумачыць, нашто іх зрабіў. Сябе я супакойваў тым, што хаваю малюнак, бо мастакі могуць скрасці тэму і кампазіцыю. Я, салдат Першай сусветнай, уваскрасаў і выходзіў са сваёй магілы — акопа. Чаму баяўся плагіяту? Зазвычай такое цешыла, што нехта спрабуе капіраваць нешта з маіх малюнкаў. А тут я схаваў акоп, схаваў надоўга, каб пазней, значна пазней напісаць пра гэты вобраз апавяданне і назваць яго і сябе ў ім — Акопнік.

## Гадзіннік на ланцужку

Мяне малога тата вадзіў на ёлку ў Саюз пісьменнікаў. Там ладзіліся забаўляльныя гульні з віктарынамі, танцавалі Дзед Мароз са Снягуркай, паказваліся мультфільмы і раздаваліся падарункі — кардонныя скарбонкі з печывам ды цукеркамі. Найбольш мяне ўражваў Мядзведзь. Нават не сам артыст, апрануты ў брунатнага вялікагаловага Мішку, мяне радаваў, вабіў ягоны круглы, пасаджаны на ланцуг, гадзіннік. Той гадзіннік быў пафарбаваны ў жоўтую, лічы, залатую фарбу. Чорныя стрэлкі нястомна паказвалі без пяці дванаццаць, паказвалі вечнасвяточны навагодні час. Танцуючы з Мядзведзем, я марыў як хутчэй вырасці і набыць круглы гадзіннік на ланцужку… У мастацкай вучэльні я з першай стыпендыі пачаў адкладваць грошы і пакрысе назбіраў сямнаццаць рублёў на ўласны гадзіннік — круглы, кішэнны і з доўгім ланцужком. Насіць яго не змог, бо нязручна.

## Васільеў і змрочнасць

Сярод выкладчыкаў быў у нас і акварэліст Васіль Васільеў. Ён насіў цёмныя, брунатныя ды бруснічныя пінжакі. Твар Васіля Васільева ўпрыгожвалі чорныя вусы і бародка-эспаньёлка. Гаварыў Васільеў мала. Зрэдку сядаў за мальберт і вялікім круглым пэндзлем папраўляў вучнёўскія работы. Зазвы-

чай, гэта былі нацюрморты акуратных дзяўчатак, якім на праглядзе замест «тройкі» трэба было атрымаць «чацвёрку», каб крый бог не страціць такую патрэбную стыпендыю. Пэўна, Васіль Васільеў быў добры і разумны чалавек, але знешне яго дабрыня была схаваная за змрочным чырванаватым тварам самотнага чалавека.

### Сокалаў і Тунік

Навучэнца Туніка выкладчык фізкультуры Сокалаў знарок называў Тупікам. Тунік быў чалавек сціплы і ціхі. Свае абурэнні ён выказваў буркатлівым шэптам: «Добра, што не Трупік!» На фізкультуру Тунік наведваўся праз раз.

### Калінік і лямпачка

Калінік выкладаў у вучэльні не толькі перспектыву. Ён і шрыфты выкладаў. Сам ён зусім не валодаў шрыфтамі, але быў жорсткі ды патрабавальны ў якасці выкладчыка. Вычарціўшы перспектыву пакоя, асветленага адной лямпачкай, я зразумеў, што не паспею зрабіць у тэрмін шрыфтавую кампазіцыю. Давялося ўзяць працу ў сваяка Толіка Александровіча, які займаўся тады графікай на першым курсе тэатральна-мастацкага інстытута. Калінік убачыў чужую працу і паспрабаваў прымусіць мяне прызнацца ў махлярстве. Я не прызнаўся, але Калінік не паставіў за шрыфты «выдатна», паставіў «добра» і пахваліў мой акуратна вычарчаны пакой, асветлены самотнай лямпачкай.

### Дванаццаць «двоек»

Жора атрымаў «двойкі» па ўсіх дысцыплінах, акрамя спецыяльных. Калі адкінуць жывапіс, малюнак і кампазіцыю, заставалася дванаццаць прадметаў, і па ўсіх Жоры выставілі «нездавальняюча». Нават па фізкультуры ён атрымаў «дваяк», бо аднаго разу перад самымі заняткамі папіў піва. З поўным страўнікам кепскага напою ён прабег стометроўку і званітаваў адразу пасля фінішу, пусціў фантан на бегавую дарожку. Выкладчык фізкультуры, прафесійны лёгкаатлет, удзельнік алімпійскіх гульняў у Сіднеі — Сакалоў — накрычаў на Жорыка і прагнаў са стадыёна. З фізкультурнай двойкі і пайшлі на хлопца кепскія адзнакі, як галодныя каты на рыбны пах. Жора аброс двойкамі так, што яму пагражала немінучае адлічэнне. У кабінеце аднарукага дырэктара К. няшчасны Жора горка плакаў і абяцаў задавіцца ў вяровачнай пятлі, калі ў яго забяруць магчымасць вучыцца на мастака. Жору дырэктар К. усё ж выпхнуў у акадэмічны адпачынак. Праз год яго аднавілі, і Жора скончыў вучэльню. Нікому ж не хацелася, каб студэнт з-за двоек павесіўся, нават калі гэтых двоек ажно дванаццаць.

### Данілевіч і дзень народзінаў

Усе кажуць: Мінск — сталіца… Зайдзі ты да мінчука ў кватэру, азірніся, прынюхайся і няма ніякага Мінска ў ягонай кватэры. Замест Мінска там могуць панаваць Ганцавічы ці Івацэвічы. На вуліцы ён нібыта і мінчанін, а ў сябе дома — пінскі шляхцюк. Пераканаўся я ў такой неадпаведнасці, калі

наведаў Лондан. Зайшоў да знаёмага мастака — Валеры Мартынчыка. Зайшоў да яго ў кватэру, і Лондан знік. Быў і прапаў. Замест Лондана я з Мартынчыкам апынуўся ў Мінску. Падобнае пачуцці мяне агарнулі, калі я разам са сваімі аднакурснікамі зайшоў у кватэру Ларысы Данілевіч. Яна запрасіла ўсю групу на дзень народзінаў. Кватэра пахла смажанай курыцай і духамі «Чырвоная Масква». Ларыса ў цёмна-васільковай сукенцы была падобнай да прынцэсы з Чавусаў, якая брала ўзоры для апранання і расфарбоўвання твару з індыйскіх кінастужак. Так бывае, ты робіш адзін крок і трапляеш у іншы свет. Быў у Мінску, зрабіў крок і апынуўся ў Чавусах, дзе на цябе наплывае блакітнатварая прынцэса з бурачковымі вуснамі і малінавымі шчочкамі. Ясная справа, што на тым дні нараджэння дайшло да самагонкі. Мы пілі самагонку таемна, у цемнаватай спачывальні з высокімі жалезнымі ложкамі, на якіх узвышаліся пагады, складзеныя з рознавялікіх падушак і падушачак. Самагонка нас разняволіла канчаткова. Група пачала гарлаць рэвалюцыйныя песні. Бацькі Лоры Данілевіч вывелі нас усіх разам з песнямі на аўтобусны прыпынак і кінулі там, пад слабкім ліхтаром. Пад ледзь жывым ліхтаром я зноў вярнуўся ў Мінск, хай сабе і не ў цэнтр, але ў сталіцу. Мне зрабілася добра, нібыта вярнуўся з іншасвету.

## Мажураў і вялікія дрэвы

Мажураў вучыўся на курс вышэй за мяне. Як і большасць старэйшых, ён быў для нас прыкладам. Аднойчы ён зрабіў шэраг малюнкаў са старымі яблынямі. Малюнкі так уразілі, так здзівілі, так закранулі, што я вырашыў наследаваць Мажураву, які ў сваю чаргу захапляўся Пятром Мітурычам. Культ малюнкаў Мітурыча прывёз у вучэльню Алег Луцэвіч. Ён сам, вучачыся ў Маскве, там захапіўся спадчынай выдатнага творцы. Безумоўна, малюнкі Мітурыча былі вартыя ўсялякіх імправізацый і варыяцый. Шмат хто спрабаваў эпігонстваваць, наглядзеўшыся ў альбом з рэпрадукцыямі, але мала ў каго нешта вартае вымалёўвалася. У Мажурава атрымалася ўсё: і вугальная чарната вясновых яшчэ бязлістых яблынь, і бліскучая зямлістасць разораў пад дрэвамі, і лёгкасць аблокаў у далёкім небе. Я знайшоў у Мінску краявід з вялікімі дрэвамі. Гэта былі таполі, што стаялі на былых могілках, насупраць хлебазавода. Я маляваў высокія дрэвы і архіў, які месціўся ў былой царкве. Маляваў я мяккім простым алоўкам па звычайна-белай паперы. Паветра было насычана водарам свежага хлеба. Мой малюнак пахваліў архітэктар Каўрэй, які праходзіў міма. Малюнак і ў вучэльні атрымаў добрыя словы, але ён быў значна горшы за «Яблыні» Мажурава, і я гэта сам бачыў і разумеў… Часам узнікае жаданне вярнуцца і намаляваць высокія дрэвы наноў. Але матыў моцна змяніўся, бо цяпер у былым архіве ізноў праваслаўная царква.

## Русава і Гавазюк, нуда і меланхолія

Нуда і меланхолія жылі і ў нашай вучэльні. Самай меланхалічнай з навучэнак была Люда Русава. Зазвычай яна сядзела каля свайго акуратна пафарбаванага палатна на крэсле і вязала пруткамі шалік. Шапкі і шалікі, што вязала Русава, былі брудна-шэрага колеру, які мастачка бачыла вытанчаным. Каля кароценькіх ног Люды, на дашчанай падлозе ляжаў клубок ваўняных нітак.

Калі нехта спрытна вяжа, дык клубкі хутка змяншаюцца, а ў Русавай клубок не змяншаўся. Ён нібыта рос, нібыта павялічваўся. Люда кідала круглым вокам на мышына-шэры клубок і цяжка ўздыхала. Яна ўздыхала так цяжка, што яе меланхалічны настрой расплываўся па ўсёй майстэрні. Калі Русава была самай меланхалічнай, дык самым занудным быў Гавазюк. Ён нудзіўся з-за таго, што час цячэ марудна. Гавазюк выконваў усе заданні хутка. Кампазіцыя? Раз-два — і гатовая. Малюнак? Два дні — і ён ёсць. Жывапіс? Няма праблем. Праблемы пачыналі з'яўляцца пасля заканчэння працы. Гавазюк не ведаў, куды сябе падзець. Ён хадзіў па майстэрні з кутка ў куток і казаў: «Ну калі ўжо настане дзень прагляду, каб мне паставілі адзнакі і я адчуў сябе вольным…» Пасля прагляду Гавазюк чакаў ад'езду на практыку. На практыцы ён чакаў вяртання ў вучэльню. Яму не жылося ў нармальным часе. Час у Гавазюка або ляцеў на злом галавы, або ён валокся ці нават стаяў. Мяне гэта дзівіла і крыху раздражняла, бо цяжка глядзець на чалавека ў нудзе і пагатоў на чалавека ў невылечнай меланхоліі.

## ДРУГІ КУРС

### Чэх і эцюды

Улетку, пасля першага курса, я вырашыў самастойна авалодваць алейным жывапісам. Зрабіў некалькі невялікіх палотнаў. Набыў раскладны эцюднік і фарбы з пэндзлямі. Карацей, экіпіраваўся пад сапраўднага пейзажыста і паехаў у вёску, да дзеда з бабай. Там напісаў краявід з шэра-салатнымі вербамі над залаціста-бліскучай рэчкай. Напісаў белы дом чыгуначнікаў пад чырвонай дахоўкаю. Неба над тым домам выглядала зеленкаватым побач з двума высокімі чорна-чырвонымі комінамі. На трэцім палатне ззяла блакітная поўня над зялёна-блакітнымі хатамі і цёмнымі таполямі. Сваімі першымі вопытамі з палатном і алеем я беспадстаўна, як цяпер бачыцца, ганарыўся. У верасні прынёс іх у вучэльню і паказаў аднакурснікам. Амаль усе засталіся раўнадушнымі да эцюдаў, і толькі Гена Чэх пахваліў вербы над рэчкай. Ухвалу Чэха я ставіў высока, але і яна не ўратавала эцюды, якія ў тую ж восень я пазапісваў вечаровымі краявідамі з густа-жоўтым небам і фіялетавымі хатамі.

### Шастоўскі і Пікасо

Выкладчык жывапісу Кім Шастоўскі расказваў: як ён паступіў у мастацкі інстытут, як забралі з інстытута ў войска, як вярнуўся і прыйшоў да сябрука — скульптара Маркава. Той паказваў працы і агітаваў Кіма вярнуцца ў інстытут, але не на жывапіс, а на скульптуру. Шастоўскаму падабаліся працы Маркава, асабліва ўражвала выразнае абагульненае маляванне натуршчыкаў і натуршчыц. «Такога я раней не бачыў. Мне захацелася стаць побач з Маркавым і маляваць, як ён. Я амаль пагадзіўся пайсці на скульптуру, але ўвечары адкрыў стары эцюднік, пачуў водар алейных фарбаў і зразумеў — жывапіс, толькі жывапіс і ніякіх іншых думак акрамя як пра жывапіс…» Нешта падобнае адбылося і са мною, калі разглядаў напісаную акрылам на палатне натуршчыцу Пабла Пікасо. «Жывапіс, акрылам на палатне і толькі так», — падумаў я і накіраваўся ў краму па фарбы і палотны, да якіх не дакранаўся дваццаць гадоў.

## Лось і рукі

«Палі вады мне на рукі!» — так я казаў шмат каму. Так шмат хто казаў мне. У вучэльні я амаль заўсёды прасіў паліць мне на рукі Алеся Лася; а ён, адпаведна, прасіў мяне.

## Лось і пачатак змагання

Сяброўства маё з Ласём прайшло праз усю вучэльню. Ён — выхаваны чалавек з сям'і мастакоў. Маці, бацька, дзве старэйшыя сястры былі мастакамі. У Лася не было правінцыйнага хамства і вясковых хітрыкаў. Ён меў мужнасць сказаць тое, пра што думаў; а не толькі тое, што ад яго хацелі пачуць. Таму менавіта Ласю я прапанаваў стварыць таемную арганізацыю, якая пачне змагацца за вольную Беларусь. Лось даў згоду. Разам мы абмеркавалі трэцяга чальца нашай таемнай, рэвалюцыйнай і баявой суполкі. Трэцім стаў Максім Клімковіч. На дні нараджэння Максіма мы і запачаткавалі гурток па вывучэнні праўдзівай беларускай гісторыі і стварэнні новай беларускай рэальнасці. Сваю працу мы пачалі з чытання п'есы Янкі Купалы «Тутэйшыя». У Клімковіча быў том з гэтым забароненым творам. У мяне быў, перапісаны бацькавай рукою, забаронены верш Купалы «Перад будучыняй». Верш мы дамовіліся завучыць на памяць…

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы з душой, упаўшай, звяўшай,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

З гэтых слоў і пачалося нашае змагарства.

## Луцэвіч і фота

Алег Луцэвіч стварыў у вучэльні ўласную школу акадэмічнага малявання. За аснову ён узяў прынцып мокрай праяўкі фотаздымка. У кювеце з праяўляльнікам на фотапаперы спачатку з'яўляліся самыя цёмныя плямы, а потым паступова да іх дадаваліся паўтоны і так да самага светлага бліца. Падобнае рабілі луцэвічаняты на звычайнай паперы простымі мяккімі алоўкамі і сціральнымі гумкамі. Малюнкі луцэвічанят нагадвалі кантрастныя фотаздымкі і выглядалі эфектна. Асабіста я не вельмі шанаваў такі падыход, бо ў ім не было празрыстасці і крыштальнасці, усе рэчы на такіх малюнках былі гіпсавыя ці падобныя да гіпсавых. Мне падабалася маляваць свет паўпразрыстым, прасякнутым сонечным святлом наскрозь. Я любіў паказваць геаметрычнасць і канструкцыю рэчы. Таму ад Алега Вінцэнтавіча Луцэвіча я ніколі не чуў добрага слова ў свой бок.

## Давідовічы і ўзрост

Са мной на адным курсе вучыўся Давідовіч. Яго бацька, вядомы ілюстратар дзіцячых часопісаў і кніжак, таксама — Давідовіч. Не скажу, што я сябраваў з Давідовічам-малодшым, але адносіны ў нас былі цёплыя. Аднаго разу на невялічкім палатне Давідовіч-малодшы напісаў заснежаны начны двор,

асветлены жоўта-белым ліхтаром. Пасярод двара стаяла машына-аўтобусік з чырвоным крыжам — «хуткая дапамога». Палатно мяне зачапіла і расхвалявала. Я пацікавіўся: «Да каго прыязджала хуткая?» — «Да бацькі», — адказаў Давідовіч. Калі большасці бацькоў маіх аднакурснікаў было па 40—50, дык Давідовіч старэйшы меў усе 70. Час ад часу я пачаў цікавіцца здароўем Давідовіча-старэйшага і цікавіўся, пакуль не пачуў: «Ён у тым веку, калі папісяеш і заплачаш!» Да такой шчырасці ва ўзаемаадносінах з Давідовічамі я быў непадрыхтаваны.

## Казлова і Мадэльяні

Вучылася ў нас на мастака-афарміцеля і Тамара Казлова. Вучылася пасрэдна, як той казаў — зорак з неба не хапала. Характар у Казловай быў спакойны, таму ніхто на яе пільна не заглядаўся. Так было, ажно пакуль два Юрыя, Сутулін з Яўменавым, не пачалі пісаць партрэты Казловай. Як Юра Сутулін, так і Юра Яўменаў, зрабілі на сваіх палотнах Тамару падобнай да натуршчыцы Мадэльяні. У той час мастакоўская маладосць праходзіла пад зоркай парыжскага жывапісца прыгажуна наркамана і п’яніцы — Амадэа Мадэльяні. Мы ўсе так любілі палотны Мадэльяні, што за Яўменавым і Сутуліным пабачылі парыжскую прыгажосць і ў Томе Казловай. На нейкі час яна зрабілася самай прыгожай дзяўчынай у вучэльні. Ні вочкі-пацеркі, ні задоўгая шыя, ні маленечкія грудзі, ні зашырокі крыж, ніводная асобная загана яе нестандартнай знешнасці не магла азмрочыць яе мадэльянаўскую вытанчанасць. Юры, Яўменаў і Сутулін зрабілі з Тамары зорку. Канешне, яны зрабілі з яе прыгажуню, дзякучы стылістычнаму таленту Амадэа Мадэльяні. Але над нашай маладосцю ззялі і шматлікія іншыя зоркі вялікіх мастакоў. Пасля прыгажосці Казловай, усе раптам пабачылі прыгажосць іншай дзяўчыны, якая прыехала вучыцца ў шэры Мінск са змрочнага Кёнігзберга. Алёна-Кёнігзбергская была падобная да жанчын, напісаных пэндзлямі Лукаса Кранаха, што таксама зачароўвала.

## Няскончанасць і незавершанасць

Шмат хто ў мастацкай вучэльні не ўмеў сваечасова спыняць працу над адным палатном і распачынаць працу над новым. Не мог спыняцца Кулікоўскі і Гарэлаў, Сутулін і Яўменаў, не мог спыняцца і Гена Чэх. Усе яны жылі ў нейкіх недаробленых пераробках, у нейкай сваёй татальнай незавершанасці і неахайнай няскончанасці.

## Сабака і вожык

Пасля другога курса летняя жывапісная практыка праходзіла ў вёсцы Латыголь. Жылі мы ў старой школе. Дні навылёт малявалі і пісалі эцюды. Аднаго разу, вярнуўшыся надвячоркам з эцюдаў, пабачылі каля школьнага ганка рудога сабаку, які гучна чхаў. Прычынай чхання быў вожык. Ён скруціўся ў нашатораны іголкамі клубок. Сабака спрабаваў чапаць яго лапаю, але вожык быў страшэнна калючы. Сабака спрабаваў яго абнюхаць, але гэта выклікала канвульсіўнае чханне. Мы адагналі сабаку, закацілі вожыка на

стары ручнік і занеслі ў пакой. Усю ноч вожык пратупаў па пакоі, шукаў выйсце. Раніцай мы пабачылі, што ён не проста патупаў па пакоі, вожык паразмазваў панапісаныя алейнымі фарбамі эцюды. Жывапіснага вожыка мы зноў закацілі на ручнік і занеслі за школу, у стары недагледжаны сад, дзе выпусцілі ў зарасці лопухаў.

## Васіль і гняўлівасць

Мастакі мала гавораць, мала крычаць. Іх свет — самота. Мастак нават у майстэрні, поўнай студэнтаў, застаецца самотны. Для яго больш важны свет на малюнку ці палатне, чым свет рэальны. У рэальным свеце шмат бруду і выпадковасцей, шмат смецця і замала ўпарадкаванасці. На палатне свет выпраўлены, дасканалы і маўклівы. Але свет вонкавы на мастака можа паўплываць моцна і адмоўна. Напрыклад, калі натуршчыца стаіць не так, як мусіць стаяць. Мастак кажа, каб стала правільна, а яна не можа так стаць, бо іншы мастак кажа, што яна стаіць правільна і паварочвацца ёй нельга ні ў якім разе. Пачынаецца сварка. Мастакі паказваюць малюнкі ў якасці доказаў правільнасці ўласных слоў. Так было з нашым Васілём і ягоным аднакурснікам — Сяргеем. Васіль і Сяргей спрачаліся і даспрачаліся да лаянкі і абраз. Калі ў іх скончыліся абразы і моцныя мацюкі, у справу пайшлі кулакі. Васіль лупіў Сяргея, Сяргей мясіў Васіля. У нейкі момант натуршчыцы і студэнтам падалося, што Васіль вось-вось пераможа. Што кулакі ў Васіля важчэйшыя за кулакі Сяргея. Мусіць, і Сяргей зразумеў, што кулакамі ён не давядзе сваю праўду, таму схапіў табурэт, узняў і абрынуў на Васілёў твар. Вася паваліўся на падлогу. Акрываўлены, ён ляжаў паміж перакуленых мальбертаў і параскіданых順 планшэтаў. Ляжаў, як мярцвяк. Сяргей падумаў, што табурэтам забіў аднагрупніка. Ад страху і перажыванняў Сяргей страціў розум. Можа, ён яго страціў і раней, калі завёў спрэчку пра позу натуршчыцы. Разабрацца цяжка. Толькі спецыяліст можа выказацца больш дакладна. Мы ў вучэльні ведалі тое, што пасля бойкі Сяргей паехаў дамоў, а ўжо з дому яго забралі ў бальніцу. Як склаўся лёс Сяргея? Не ведаю. У вучэльню ён не вярнуўся, і ў мастацкіх асяродках яго ніхто не сустракаў. Васіль той раз моцна адпакутаваў. Пасля ўдару табурэтам твар змяніўся да непазнавальнасці, але праз які месяц рысы збольшага павярталіся на свае месцы. Каб хто больш спрачаўся з Васілём пра правільнасць пазіцыі натуршчыцы, я не чуў.

## Партрэты выкладчыц

За занятках па фізіцы можна было сядзець і любавацца Святланай. Яна ў нас тую фізіку і выкладала. Святланай шмат хто любаваўся і найбольш яе муж — Леанід Шчамялёў. Найлепшае ў творчасці Шчамялёва знітавана з любаваннем Святланаю. Ён яе пісаў і пісаў. Апранутай пісаў і аголенай. Можна было сядзець на занятках і ўяўляць аголеную выкладчыцу. Натуршчыца яна была выдатная. Такая ж выдатная, як і Грэта — выкладчыца чарчэння. Яе пісаў і маляваў яе муж — Лісоўскі і яе сябра — Альгерд Малішэўскі. У Альгерда атрымалася музейная рэч. Так што на чарчэнні можна было любавацца нашай Грэтай Станіславаўнай Лісоўскай, як на фізіцы — Святланай Мікалаеўнай Шчамялёвай. У бібліятэцы можна было палюбавацца Ларысай. Яе са старым насценным гадзіннікам напісаў Шчамялёў. У Ларысы былі вялікія вочы, тонкія

пальцы, як у мадонны Пірміджаніна, і залацістыя кудзеры. Залацістыя кудзеры былі і ў Грэты, а ў Святланы былі гладкія і каротка падстрыжаныя валасы. У рысах мастацтвазнаўцы Фрыны была свая чароўнасць. Некалі і яна, безумоўна, была прыгажуняй, а яе муж, акварэліст Лейтман, мусіў пісаць з яе партрэты, але я іх не бачыў. На жаль. І гэта не так і важна. Істотна іншае — выкладчыцы ў мастацкай вучэльні мелі ўзорную прывабнасць.

### Чэх і падслухоўванне

Адзнакі за малюнак, жывапіс і кампазіцыю былі каштоўнымі. Атрымаць пяцёрку за партрэт ці нацюрморт хацелася ўсім. Таму нас і цікавіў сам працэс узнікнення адзнакі. Як выкладчыкі абмяркоўваюць працы? Хто каго любіць? Хто каго бароніць? Гена Чэх прапанаваў зачыніцца ў кладоўцы, дзе мы хавалі пад замком эцюднікі, фарбы ды пэндзлі. З кладоўкі было добра чуваць размовы ў майстэрні, дзе на сценах віселі палотны і аркушы, падрыхтаваныя да прагляду. Мы цудоўна разумелі, што за падслухоўванне можна вылецець з вучэльні, а калі цябе не прагоняць, дык стыпендыю не дадуць. Я з Чэхам рызыкнуў. Жана Башук нас зачыніла. Выкладчыку Шастоўскаму яна сказала, што гэта я зачыніў кладоўку і сышоў дамоў спаць, бо ноч прамаляваў. Мы спадзяваліся, што выкладчыкі не стануць ламаць замкі. Яны і не сталі. Але ў той дзень я моцна пашкадаваў, што слухаў водгукі пра свае і чужыя працы. Выкладчыкі насміхаліся з малюнкаў. Жорстка і здзекліва насміхаліся. Асаблівыя кпіны дасталіся імпрэсіяністычнаму жывапісу Марыны Фурман, зробленага вялікімі мазкамі. Кім Шастоўскі казаў, што ягоныя дзеці ў дзіцячым садку лепей фарбуюць. Мае малюнкі і малюнкі Чэха крытыкаваў Алег Луцэвіч, яму не падабалася методыка нашага выкладчыка Каробушкіна. «Малюнкі добрыя, але трэба ім паставіць тройкі, каб не фанабэрыліся. Яны занадта самаўпэўненыя. Таму варта знізіць адзнакі...» І ўсё такое, і ўсё ў такім духу. Пасля падслухоўвання я страціў павагу да большасці выкладчыкаў.

## ТРЭЦІ КУРС

### Чэх і ліст

На трэцім курсе ў нас пачалі выкладаць К. і Г. Можна сказаць — яны цалкам нармальныя людзі, а Г. добры і вясёлы чалавек. Але выкладчыкі яны кепскія. З Г. было выдатна піць віно і слухаць яе бясконцыя апавяданні пра розных вядомых і малавядомых мастакоў. К. гаварыў мала, але палова са сказанага выглядала глупствам. За другі курс К. нам надакучыў. Ну добра, ну адзін год з бяздарным выкладчыкам, але два гады ўзапар… Наспеў бунт. Гена Чэх прапанаваў напісаць ліст, у якім мы ўсёй групай адмаўляемся вучыцца ў Г. і К.. Наконт К. асабіста ў мяне сумневаў не было, а Г. я шкадаваў. Але рэвалюцыя — ёсць рэвалюцыя, на барыкадах больш за ўсё не паважаюць тых, хто не вызначыўся, хто ўстрымаўся, хто сваёй тупасцю замінае абодвум бакам. Ліст, ініцыяваны і напісаны Чэхам, я падпісаў з лёгкай душой. Яго падпісалі ўсе, бо Чэх пагражаў непадпісантам зладзіць байкот. Не падпішаш, і ўся група перастане размаўляць з табой. У тым лісце мы прасілі прызначыць нам у выкладчыкі Малішэўскага і Дубара. Нам іх прызначылі, але толькі праз год. На трэцім курсе ў нас выкладалі Г. і С., К. мы прыбралі.

## Сарока і сціпласць

Дзмітрый Сарока — чалавек ціхмяны, акуратны, плаўны ў рухах і ашчадны ў словах. Ад яго я ніводнага разу не пачуў гучнага слова. Сарока гаварыў са студэнтамі паўшэптам. Колеры на ягоных невялічкіх, напісаных алейнымі фарбамі, краявідах таксама былі сцішаныя, стрыманыя і прыгаслыя. Апранаўся Дзмітрый някідка. Аўтарытэту ў нашых навучэнцаў ён не меў, таму неўзабаве пайшоў з вучэльні выкладаць у дзіцячую мастацкую школу, дзе дапрацаваў ажно да пенсіі.

## Каробушкін і Ступакоў

Мікола Ступакоў, мянушка — Ступак, ледзь-ледзь стрымаўся, каб не пабіць выкладчыка Каробушкіна. Пачалося ўсё з крылаў. Навучэнцы рыхтаваліся да прагляду і развешвалі на сценах свае малюнкі. Ступак у тым семестры намаляваў проста бліскучыя партрэты. Формы на малюнках былі зроблены так, нібыта іх адлілі са сталі, а потым адпаліравалі да люстранога бляску. Такім малюнкам мог пазайздросціць любы майстар. Усе віншавалі Ступака з поспехам. Малюнкі ляжалі на падлозе і чакалі, пакуль прыйдзе чарга Міколы ўзяць драбіны, узняцца па іх пад высозную столь і замацаваць на сцяне папяровую стужку з выбітнымі малюнкамі. Тут і з’явіўся ў майстэрні Каробушкін. Ён стаў пасярод памяшкання і пачаў разважаць пра крылы і магчымасць лётаць. «Каб у студэнтаў перад праглядам выраслі крылы… Або інакш… Каб студэнт мог уздымацца ў паветра. Дык зараз бы ніхто не чакаў лесвіцу, а ўсе ўзняліся б пад столь і замацавалі б на сценах свае малюнкі…» — кажучы пра крылы і палёты, Каробушкін зрабіў неабачлівы крок і наступіў на вялікі цюбік з клеем ПВА. Каламутна-белы струмень вылецеў з-пад выкладчыцкай падэшвы і расплёхаўся па малюнках Міколкі Ступакова. Прысутныя сцяліся, бо ведалі пра псіхаватасць Ступака, бо чакалі бойкі, бо шкадавалі найлепшых малюнкаў, зробленых за семестр. Ступакоў заплюшчыў вочы і замацюкаўся. Каробушкін пачаў выбачацца. Мы зразумелі — бойкі не будзе… Такіх выдатных партрэтаў Мікалай больш не намаляваў, ні ў вучэльні, ні ў акадэміі, нідзе і ніколі.

## Рэвалюцыя Янаўна і чысціня

Багемнасці, неахайнасці нашага мастакоўскага жыцця ў вучэльні супрацьстаяла Рэвалюцыя Янаўна — выкладчыца чарчэння на старэйшых курсах. На першым і другім курсе мы чарцілі пад наглядам Грэты Станіславаўны. У Грэты была добрая душа, адкрытае сэрца і любоў да мастакоў. Рэвалюцыя не любіла мастакоў і выхоўвала з нас жорсткіх выкладчыкаў для савецкай школкі, якія могуць выдатна спраўляцца з машынабудаўнічымі чарцяжамі. Дыметрыі, кабінетныя праекцыі і складаныя разрэзы мы чыталі і крэслілі лёгка, каб не раз’юшваць злосную Рэвалюцыю. А яна ўсё адно раз’юшвалася і крычала, што славяне не маюць рацыянальнага мыслярства, што яны не разумеюць важнасці дысцыпліны і ўпарадкаванасці, што ўсе беларускія гаспадыні змятаюць смецце ў куткі, а пачынаць уборку смецця трэба менавіта з куткоў... Латышка, дачка стралка, які ахоўваў Маскоўскі Крэмль і Леніна, яна ўсё жыццё правыкладала ў мінскай вучэльні, дзе прапагандавала парадак і чысціню. Яе шмат хто слухаў, але амаль ніхто не разумеў і нават не хацеў разумець яе нямецкую звышжорсткасць да нас і да сябе.

## Брушко і шклянкі

Нашу вучэлюню заканчваў і Брушко. Быў такі волат, які акрамя малявання займаўся боксам. Ён выступаў і біўся не толькі на рынгах. Ён і ў жыцці шмат выступаў і біўся. Праз бойку Брушко трапіў у турму, але выбраўся з-за кратаў і вырашыў давучыцца на мастака. Першыя курсы Брушко скончыў недзе ў Расіі, а на трэці прыйшоў да нас, у мінскую мастацкую імя Глебава. Яму было пад трыццаць, калі нам было па сямнаццаць. Мы яго паважалі, нават даравалі пэўнае вар'яцтва. Брушко, калі напіваўся, усе пустыя бутэлькі і шклянкі разбіваў аб сцяну ў сваім інтэрнацкім пакойчыку. Раз на два месяцы былы баксёр абавязкова засыпаў інтэрнацкі пакой бітым шклом. Работы Брушко былі малацікавыя і цяжказапамінальныя. Ён усё выдзёўбваў модныя чаканкі з мяккай медзі, але для мяне ўсе тагачасныя чаканкі былі на адзін тбіліскі твар.

## Сіўчык і Снежны чалавек

Воўка Сіўчык аброс валасамі. Хутка і шчыльна аброс… Пасля трэцяга курса мы прыехалі на летнюю жывапісную практыку ў мястэчка Раўбічы. Засяліліся ў інтэрнат. Агледзеліся, пагулялі па высокіх пагорках ды ўздоўж крынічнай рэчачкі, вярнуліся і пайшлі ў душ. Там усе і заўважылі, што Сіўчык стаў валасаты, як неандэрталец. На іншых навучэнцах таксама там-сям раслі валасы, але валасатасць Сіўчыка проста дзівіла. Ніхто нават смяяцца не стаў і жартаваць ніхто не жартаваў. Адно я падумаў, што калі прозвішча Сіўчык спрацуе, і валасы на Воўчыку пабялеюць, ён зробіцца падобны да Снежнага чалавека.

## Лось і ногі

У Сашы Лася вялікія ногі. Самыя вялікія ў нашай групе. Лось пачынае мыцца з ног. Я заўсёды пачынаю з галавы, а Лось са ступакоў. Ён лічыў, што ногі трэба трымаць чыстымі. Я не супраць. Хто супраць? Ніхто! Проста лепей застацца, калі што якое, з чыстай галавою і бруднымі нагамі, а не наадварот. Лось не прымаў такі аргумент. Ён і другі аргумент не прымаў, што бруд льецца з галавы на памытыя ногі, калі мыццё пачынаць з ног і канчаць галавою.

## Аляксандр і Леанарда

У Аляксандра былі старыя бацькі. Ён толькі паступіў у мастацкую вучэльню, а яны павыходзілі ўжо на пенсію. Позняе дзіця. Зусім позняе. Такое позняе, што ён нечым нагадваў мула, тупіковую жывёльную пароду ў чалавечым абліччы. У Аляксандра ўсё было на сваіх месцах. Ён валодаў нават своеасаблівай, можна сказаць, леанардаўскай прыгажосцю, але з першага погляду было відаць — пладзіцца не стане. Маляваў ён старанна. Маляваў абагульнена. Маляваў кухараў з рондалямі, над якімі ўздымалася пара. Маляваў асфальтаўкладчыкаў з важкімі шуфлямі ў воблаках дыму. Леанарда са сваімі затуманенасцямі быў кумірам для Аляксандра. Таму ён гадзінамі трэніраваўся перад люстэркам рабіць усмешку Джаконды. Вытрэніраваўся! У нашага аднакурсніка, падобнага да мула, на вуснах грала ўсмешка Джаконды. Яшчэ —

Саша з завязанымі вачыма мог намаляваць профіль богаабранага Леанарда з горада Вінчы. У мястэчку Раўбічы, профілямі Леанарда ён абмаляваў увесь закінуты касцёл. Дзе дастаў, там і намаляваў профілі доўгавалосага і доўгабародага куміра.

### Аляксандр і альбомчык

Ён любіў Леанарда, але і Пікасо лічыў мастаком аўтарытэтным, таму і набыў акуратны альбомчык з цыркавымі блазнамі і вулічнымі артыстамі, намаляванымі вясёлым Пабла. У нашай групе большасць студэнтаў захаплялася творчасцю Пікасо, і кожны з вялікай радасцю прыдбаў бы такі альбомчык з Арлекінамі і П’еро, толькі Аляксандр адразу нам не сказаў пра каштоўны набытак. Саша пачакаў, пакуль у краме той альбомчык раскупіцца, а толькі потым пачаў выхваляцца: «У мяне ёсць, а ў вас не было і не будзе!» Саша не проста пашкадаваў нам даць альбом, ён пазбавіў нас самой магчымасці набыць кнігу пра Пабла Пікасо. Такая ў яго была вытанчаная форма сквапнасці. «Я буду вучыцца ў Пікасо, а ты не будзеш...» Вычварэнец. Інакш і не скажаш.

### Далоні і калена

Карціны імпрэсіяністаў я любіў моцна. Мяне хвалявалі карціны з рэчкамі і мастамі. Мяне радавалі палотны з чаўнамі на ціхай вадзе. Я ўважліва разглядаў публіку ў тых чаўнах. Мужчыны ў паласатых кашулях, жанчыны ў белых сукенках выглядалі па-нядзельнаму святочна і сексуальна. Я ведаў наперад, што вазьму човен, каб плаваць разам з белатварай дзяўчынай. Так яно і адбылося. У Астрашыцкім Гарадку я заклаў пашпарт, узяў човен, у якім плаваў з белатварай Жаннай. У нас мелася бутэлька чырвонага віна. Мы пілі з рыльца на сярэдзіне возера. Мы пілі і шмат смяяліся. У тую сонечную нядзелю аб цяжкія вёслы я сцёр далоні да крывавых мазалёў. А Жанна, калі мы па дарозе з Астрашыцкага Гарадка ў Раўбічы адпачывалі ў лесе, моцна сцёрла калена.

### Мароз і дождж

Мы пісалі ў Раўбічах партрэт натуршчыка пад вярбою, каля рэчкі. Пайшоў дождж. Ён сыпаўся і сыпаўся. Я намаляваў зааконны краявід. Замаркоціўся. Сказаў пра маркоту Лёніку Марозу, а той прапанаваў прагнаць маркоту вінам. Мы схадзілі ў краму, набралі віна. Мы пілі вермут і глядзелі на зааконныя Раўбічы. Маркота тады прайшла. Цяпер, калі мне ў рукі трапляе купюра ў пяць тысяч беларускіх рублёў з намалёванымі на ёй Раўбічамі, я згадваю вермут, дождж і Лёніка Мароза з ягонай здатнасцю праганяць маркоту. Акрамя, як праганяць маркоту, Лёнік умеў ленавацца. Мароз рабіў роўна столькі прац, колькі хопіць для атрымання заліку. Ён мог не працаваць месяц, а потым за тры дні «намахаць» патрэбную колькасць эцюдаў і атрымаць добрую адзнаку за жывапісную практыку ў тых жа Раўбічах. Ленавацца цэлы месяц было цяжка нават Лёніку Марозу, таму ён два тыдні рабіў халтуру — пісаў вялізны партрэт Леніна для правінцыйнага клуба, і дзесяць дзён прапіваў з дзеўкамі і рэдказубым натуршчыкам, па мянушцы Цмок, заробленае за Леніна. Мароз быў адным з самых узорных лянотнікаў у нашай вучэльні.

# ЧАЦВЁРТЫ КУРС

## Малішэўскі і рама

У час майго наведвання мастацкай вучэльні ніякіх багетных майстэрняў у Мінску не было. Зрабіць добрую раму і зараз цяжка, а тады — пагатоў. Мастакі і студэнты саматугам абабівалі палотны простымі рэйкамі. Выраз Альгерда Малішэўскага «Рама — гэта драма!» меў папулярнасць. «Рама павінна высякаць палатно з асяроддзя. Яна мусіць гарманічна аздабляць жывапіс, але рама не мае права станавіцца часткай карціны. Рама аберагае жывапіс ад пашкоджанняў. Рама пажаданы элемент у час экспанавання карціны», — так Малішэўскі казаў вучням. Мы слухалі, абабівалі палотны свежа нарэзанымі рэйкамі, а потым «старылі» рэйкі чорнай тушшу, якую моцна разводзілі звычайнай вадой. У рэек, пафарбаваных рэдзенькай тушшу, быў прыемна-срэбны колер старога, вымытага дажджамі і высушанага ветрам, каштоўнага дрэва.

## Заўялаў і пліты

Ёсць падзеі, што ўзрушваюць спакойнае жыццё вучэльні — выставы, конкурсы, канцэрты і спектаклі; а ёсць такія, што запамінаюцца на ўсё жыццё сваёй агаламшальнай адмоўнасцю… У калідоры, насупраць буфета загінуў першакурснік — Валодзя Заўялаў. Заўгас, ён жа і загадчык сталярнай майстэрні, загадаў першакурснікам насіць пліты, зробленыя з прасаваных габлюшак. Пліты не такія каб і цяжкія, але памерам вялікія — два на чатыры метры. Рабочыя іх знялі з машыны і паклалі на вуліцы, а студэнты пераносілі з вуліцы ў калідор, дзе іх састаўлялі каля сцяны. Пліты ставіліся амаль ушчыльную да сцяны, каб не паехалі па падлозе. Яны і не паехалі, яны завярнуліся на хлопца. Пліт тых было сем штук. Іх цяжар і расціснуў невысокага хлопчыка. Яго партрэт у чорнай рамцы тыдні два стаяў каля гардэроба. Заўгаса разам з дырэктарам судзілі. Далі па два гады ўмоўна. Размовы пра хлопца, расціснутага плітамі, яшчэ доўга хадзілі па вучэльні. Нарэшце размовы пра трагічны выпадак сціхлі, але месца ў цемнаватым шэрасценным калідоры, дзе здарылася трагедыя, мы ўсе стараліся праходзіць як хутчэй.

## Жанна і памяло

Жанна ніколі не лётала на памяле. Яна як праўдзівая бландзінка не любіла вядзьмарства. Жанна Башук малявала памяло. Яна намалюе памяло, і кажа, што гэта — букет. Дзіўна: мала хто бачыў у башуковых букетах вядзьмарскае памяло. Калі нехта і сумняваўся ў якасці намаляванага Жаннаю букета, дык казаў на яго — венік.

## Лапчынскі і таптанне

Выкладчыка Лапчынскага студэнты называлі Тапчынскі, бо любімае слова ў яго — «таптаць». «Трэба таптаць палатно!» — так Лапчынскі-Тапчын-

скі казаў пра жывапіс. Ягоныя навучэнцы разумелі словы старэйшага мастака літаральна і круглымі ды плоскімі пэндзлямі растоптвалі фарбу па сваіх кепска нацягнутых палотнах. Культура жывапіснай тэхнікі ў вучэльні была на нізкім узроўні. Палотны, падрамнікі, фарбы і пэндзлі былі кепскія. Мала хто з нас спрабаваў выйсці да яркіх і адкрытых колераў. Адзінкі дазвалялі сабе спалучаць блакітна-зялёны з агніста-чырвоным, ці глыбока-сіні з аранжава-залатым. Большасць вучнёўскіх палотнаў мелі брунатнае ды вохрыстае адценне. Самымі безнадзейна-шэрымі, самымі бляклымі, самымі «сляпымі» былі палотны ў таптуноў — навучэнцаў Лапчынскага. Толькі самі яны лічылі, што ў іх палотнах пануе ўраўнаважанасць, згарманізаванасць і нават вытанчанасць.

Заклік Лапчынскага: «Тапчыце, тапчыце...» нечым нагадваў словы жывапісца Жана Батыста Сімяона Шардэна, запісаныя ў 1765 годзе Дэні Дзідро: «...больш мяккасці, больш мяккасці».

### Лапчынскі і абстракцыянізм

З Лапчынскім-Тапчынскім мы ездзілі ў Ленінград. Студэнты з ленінградскай мастацкай вучэльні ехалі ў мінскую ці кемераўскую вучэльню, а мінчане і кемераўцы прыязджалі ў Піцер. Музеі, крамы, кавярні... Леанарда, Ван Гог, Шардэн... Піцер нам падабаўся. Нават наша класная — звераватая Рэвалюцыя Янаўна не моцна атруціла падарожжа ў рэвалюцыйны горад. Вярталіся мы цягніком. Лапчынскі запрасіў мяне на прагляд сваіх скарбаў — альбомаў па мастацтве, набытых у ленінградскіх букіністах. Большасць кніжак была прысвечана скандынаўскаму абстрактнаму мастацтву. Жаночыя імёны шведак і фінак мне нічога не казалі. Іх бляклыя палотны з крышталічнымі айсбергамі мне тады не спадабаліся, але запомніліся. Іх лаканічнасць, сціпласць і сцішанасць неаднойчы прыгадвалася. Лапчынскі казаў: «Глядзі, глядзі... Запамінай... Зразумеш гэтую прыгажосць пазней...» Ці зразумеў я прывабнасць скандынаўскага абстрактнага жывапісу? Так, зразумеў, але ён застаўся для мяне захалодным, як той цягнік «Ленінград—Львоў», у якім мы гарталі альбомы, прыдбаныя Лапчынскім.

### Тамара і эратычнае пытанне

Выкладчык Д. прывёў натуршчыцу Тамару. У яе былі рудыя валасы і блакітная скура, роўная спіна і цяжкія прахалодна-ружовыя рукі. Рудавалосая Тамарка глядзела на свет лялечнымі вачыма. Мне Тамара падабалася, асабліва падабалася светла-блакітная спіна. Аднойчы я наважыўся задаць Тамарцы эратычнае пытанне: «Том, а ты б з Д. пераспала?» — «Не прапаноўвае…»

## ДАДАТАК

### Правалы і паступленні

Увосень мы вярталіся пасля канікул у вучэльню і пачыналі абмяркоўваць паступленні ў інстытут. Хто з нашых і чужых вытрымаў іспыты, а хто праваліўся. Вядома, больш хвалявалі правалы. Як так магло здарыцца, што

Валодзя Шчарбакоў, наш выдатнік, у інстытут не патрапіў? Чаму зноў на графіку не ўзялі Вову Цэслера? Таму што яўрэй? А Шчарбакова не ўзялі, бо рускі з Калінінграда? Можа, у інстытут не бяруць выбітных, і варта крыху замаскіраваць сваю індывідуальнасць? Паціху размовы пра іспыты ды правалы заціхалі, каб з новай сілаю распачацца ў наступным верасні. Чаму не паступілі Трушын і Воранаў? Па вучэльні яны хадзілі геніямі, а ў інстытут не патрапілі. Мне падабаліся малюнкі Воранава і жывапіс Трушына, але браць іх за ўзоры цяпер небяспечна. Праз год у інстытут не ўзялі Ісачанку і Сярмяжку, а я падоўгу любаваўся іх палотнамі. Пэўна, так у вучэльні абмяркоўвалі правалы і маіх аднакурснікаў Гены Чэха, Тані Смірновай і Жанны Башук.

## Чэх і інстытут

У інстытут на мастацкі факультэт бралі толькі з добрай падрыхтоўкай. Такой падрыхтоўкай лічылася заканчэнне вучэльні або парнату. Там ты праходзіў адбор і атрымліваў патрэбныя рэкамендацыі. Без рэкамендацый на жывапіс, графіку, манументальнае і скульптуру чалавек паступіць не мог. Ён мог паспрабаваць паступаць, яго пры пэўных акалічнасцях маглі і залічыць у студэнты, але пазней такога выганялі. У інстытут не бралі кепскіх. Зразумела. За гэта ніхто нікога асуджаць не стане. Але ў наш інстытут не бралі і самых найлепшых. Не пускалі тых, хто за гады вучобы ў вучэльні ці парнаце паспеў сфармавацца ў мастака. «Разумнейшых за сябе не бяруць!» — папярэджваў нас Альгерд Малішэўскі. Можна было не сумнявацца ў праўдзівасці слоў Малішэўскага. Каб паступіць, трэба было прадэманстраваць не найлепшае, а патрэбнае інстытуту. Большасць маіх аднагрупнікаў так і зрабіла, адно Гена Чэх паказаў пэўную наравістасць, і яго не ўзялі. Гена быў ці не самы здольны на курсе, але ў інстытут паступіць не змог і мастаком не стаў. Шмат хто не змог стаць мастаком і пасля заканчэння інстытута, але гэта ўжо іншая гісторыя.

## Лось і спірт

Ёсць учынкі недаравальныя. Зробіш, а потым доўга шкадуеш пра ўтворанае. Хацелася б выправіць, а яно ж у мінулым і ну ніяк не выпраўляецца. Падобнае ў мяне здарылася ў мястэчку Слабодка, што пад Браславам. Пасля заканчэння вучэльні і здачы іспытаў у інстытут, я з Алесем Ласём паехаў працаваць на археалагічныя раскопкі. Кіравала раскопкамі Люда Дучыц, яна і выдала нам у якасці ганарару бутэльку са спіртам. Вечарамі, калі за вокнамі на Слабодку сыпаўся дождж, мы любілі каўтнуць пару чарачак пякучай вадкасці. Мы навучыліся піць неразбаўлены спірт. Спынялі дыханне, каўталі і запівалі глытком крынічнай вады. Піць спірт — справа сур'ёзная. Яна патрабуе засяроджанасці і майстэрства. Мяне як чорт пад'юдзіў… Калі Лось каўтаў спірт, я акуратна паказытаў ягоны кадык. Алесь папярхнуўся. Закашляўся. Наліўся чырванню. Разам з чортам я засмяяўся. Ідыёт! Вялікай шкоды не было, але Лось дні два са мной не гаварыў, ну і голас у яго на дні тры прапаў. Напраўду, голас у Алеся быў, але нейкі чужынскі, слабы і сіпаты. Часам я згадваю тое паказытванне кадыка, і робіцца прыкра за сябе. Хочацца вярнуцца ў мінулае і выправіцца, але мінулае нашае і насамрэч невыпраўляльнае.

## Саша і сон

Па вучэльні хадзіў ціхі Саша. Невысокі, хударлявы, крыху запаволены ў рухах студэнт. Яго ведалі як вялікага аматара паспаць. Саша спаў па пятнаццаць гадзін у дзень. Ён шмат спаў, але гэта не замінала яму вучыцца на выдатна. Ён быў стоадсоткавым выдатнікам, які маляваў чырвонаармейцаў, а камісары на ягоных карцінах былі падобныя да дырэктара Цуканава. На апошнім курсе Саша ажаніўся, узяў сабе Аляксандру, якая вучылася не так добра, але таксама любіла паспаць. Саша з Аляксандрай малявалі чырвонаармейцаў у абзораных будзёнаўках, і мы думалі, што яны абавязкова паступяць у інстытут, але іх туды не прынялі, бо каб вучыцца ў інстытуце трэба спаць крыху менш за пятнаццаць гадзін у суткі.

## Бароўка і Бацічэлі

Валянцін Бароўка захапляўся фрэскамі Сандра Бацічэлі. Валянцін маляваў ілюстрацыі да прозы Кузьмы Чорнага, і ўсе дзяўчаткі на малюнках былі падобныя да маладых жанчын, напісаных боганатхнёным пэндзлікам вытанчанага Сандра. Кніга Бароўкі дзякуючы Бацічэлі займела вясновыя колеры і травеньскую свежасць. Бароўка напісаў яшчэ і вялікае палатно з будаўніцамі, падобнымі да танцорак, створаных Сандра. Пошукі Бароўкі былі цікавыя і плённыя, але скончыліся яны раптоўна і гвалтоўна. Мастак згарэў у сваёй майстэрні. Бароўка крыху выпіваў. Тады ўсе мастакі выпівалі. Хто больш, хто менш, хто шмат, а хто і зашмат. Валянцін Бароўка крыху выпіваў. У майстэрні ён выпіў і запэцкаў светлы плашч у алейную фарбу. Пачаў чысціць плашч піненам. Пачысціў і закурыў. Плашч успыхнуў. Мастак згарэў разам з майстэрняй. Мастакоўская вучэльня, дзе выкладаў Валянцін, яго аплакала. Існуе і другая, неафіцыйная, таемная версія смерці мастака. Па той версіі ён прыйшоў дамоў п’яны і пасварыўся з жонкай. Яна крычала на яго і папракала п’янствам. Мастак абліў сябе газаю і падпаліў. Такім чынам Бароўка скончыў сваё жыццё ў вогненным самазнішчэнні. Улады з міліцыянтамі вырашылі схаваць праўду і прыдумалі гісторыю з плашчом, запэцканым у чорную фарбу. Абодва варыянты жахлівыя, але другі — больш пераканаўчы.

## Ініцыятыва і пакаранне

Выкладчыкі вучэльні не любілі ініцыятыўных студэнтаў. Не любілі і нават прыгняталі тых, хто быў здатны запачаткаваць нейкую новую моду. Так Вова Шчарбакоў пачаў пісаць мастыхінам. Ён арганізоўваў свае палотны шырокімі плоскасцямі. Так Алена Шыдлоўская перафарбоўвала матывы Ван Гога ў густа-фіялетавыя, ружовыя і смарагдавыя адценні. Так Юра Сутулін тонкім пяром маляваў твар Хрыста ў кусце, які ахапіла полымя. Ні Шчарбакоў, ні Шыдлоўская, ні Сутулін не змаглі атрымаць паўнавартасную адукацыю і стаць мастакамі. Яны былі яркія, але слабыя. Іх збілі на ўзлёце.

## Хмялеўскі і пыха

Хто ў вучэльні самы фанабэрысты? А самы пыхлівы? А самы задзёрты ўгару нос? Хмель — Вася Хмялеўскі, безумоўна, перамог бы ў конкурсе на самага фанабэрлівага навучэнца. Адны чорныя вусы чаго вартыя? Драгун! Кароль жывапісу! Праўду варта сказаць, жывапіс у Васіля атрымліваўся на выдатна. Чуў ён колеры, мог згарманізаваць іх на палатне. Таму і паступіў на кафедру жывапісу без праблем. Таму і ў вучэльні, і ў інстытуце вучыўся ён лёгка. Здароўя ў Васіля было, як на трох. Ён нават барацьбой займаўся і дайшоў да чэмпіёнства з медалямі. Кінуў барацьбу. Заглыбіўся ў жывапіс і п’янкі. Мала пражыў, але ягоная фанабэрыя помніцца, як і ягоныя сакавіта-праўдзівыя эцюды летніх краявідаў, зробленыя з натуры.

## Данілевіч і Рэвалюцыя

Лора Данілевіч кепска чарціла. Зусім кепска. Так кепска, што выкладчыца чарчэння — Рэвалюцыя Янаўна нервавалася і злавалася. Рэвалюцыя і без нерваванняў была злой, прынцыповай і катэгарычнай. Рэвалюцыя працавала самаахвярна і верыла, што можа змяніць свет на сваім працоўным месцы. Яна вучыла будучых настаўнікаў чарціць на дошцы і на паперы. Яе слухалі, яе слухаліся, яе паважалі... Толькі Ларыса не магла чарціць. Ёсць і такія дзяўчаты, што маляваць малююць, а чарціць у іх зусім не атрымліваецца. Так-сяк за Лору Данілевіч заданні мы павычэрчвалі. Адзін крышку, другі крышку, яшчэ нехта трошкі. Ларыса скончыла вучэльню, прыйшла ў школу і адмовілася выкладаць чарчэнне. У тлумачальнай запісцы на імя міністра адукацыі Данілевіч казала, што Рэвалюцыя Янаўна не змагла навучыць яе чарціць. Кажуць, што Рэвалюцыя плакала. Не веру! Такія Рэвалюцыі Янаўны не плачуць: у іх проста няма і ніколі не было слёз.

## Паланэз Агінскага

Пасля заканчэння інстытута Алесь Лось узяў батлейку і з’ехаў са сталіцы ў Залессе, дзе некалі Міхалам Клеафасам Агінскім напісаўся найвядомейшы ў свеце паланэз — «Развітанне з Радзімай». Там Лось і прыдумаў назву новай музычнай формы — беланэз. Прыдумаць прыдумаў, а стварыць змястоўную форму пад красамоўную назву не стварыў. Пэўна, у беларускім Залессі задуманы Ласём беланэз усё яшчэ чакае стваральніка.

## Рунец і пыласмок

Рунец вучыўся на другім курсе, калі хвароба апанавала ягоную маладую мастакоўскую душу. Ён вярнуўся з летняй практыкі, дзе нарабіў выдатных эцюдаў і малюнкаў. Ягоныя працы маглі б аздобіць любое метадычнае выданне, такія яны атрымаліся ўзорныя і правільныя. Трава на эцюдах была зялёнай-раззялёнай, аблокі ў сінім небе — белымі-разбелымі, як і гусакі на траве. Толькі правільныя малюнкі і жывапісныя эцюды мелі вялікі подпіс у правым кутку «Леанарда». Рунец лекаваўся, доўга, цяжка, пакутліва. Ён вылекаваўся. Цяпер працуе ў дзіцячым парку прыбіральшчы-

кам. Ходзіць з заплечным пыласмокам і змятае апалую лістоту ў вялікія гурбы. Такім я сустрэў яго надоечы. Здараецца: Рунец піша артыкулы пра мастацкія выставы, піша сухаватыя просценькія пазітыўныя тэксты, газеты іх нават друкуюць, зрэдку.

**Ярэська і майстэрня**

У час размовы з былым аднакурснікам па вучэльні Віктарам Ярэськам даведаўся, што ён збудаваў прасторную майстэрню. «Не для сябе, для дзяцей пабудаваў. Сам сяджу, як і сядзеў, у маленечкім пакойчыку пад страхою. Мне хапае. Дзеці прыязджалі ўлетку з Будапешта, прабылі ў нас амаль два месяца. Працавалі ў новай майстэрні. Я парадаваўся…»

**Валодзя і Валодзя**

Схадзіў на святкаванне шасцідзесяцігоддзя вучэльні і засмуціўся. Мае таварышы пасівелі і састарэлі. Большасць з іх нічога вартаснага так і не зрабілі за жыццё. Іх не шкада. У аднаго з іх я надоечы спытаў: «Як ты, Алесік?» — «Целяпаюся, як лайно ў пельцы!» Такіх цельпукоў ад літаратуры і мастацтва мне ні кропелькі не шкада. Шкадую іншых... Мне шкада Валодзю-скульптара, які ўпрыгожвае нашую сталіцу свамі вясёлымі бронзавымі чаландрэкамі. Шкада, бо ад п’янства ягоны твар так раздзьмула, што мочкі вушэй тырчаць з галавы перпендыкулярна. Шкада Валодзю-рэстаўратара, які ахвяраваў жыццё на аднаўленне сабораў, а цяпер трапіў у шпіталь з дыягназам — анемія. Шкада заікастую Алуху і глухаватага Андрэйку. Іх шкада, і крыху шкада сябе.

**Віткоўская і кераміка**

На святкаванні юбілею мастацкай вучэльні я сядзеў у вялікай тэатральнай зале ды разглядаў публіку. Калі маё вока спынілася на акулярах керамісткі Віткоўскай, святло пачало павольна згасаць. Чаму ніхто не здагадаўся сумясціць два прыстасаванні: прыладу для павольнага згасання святла і машынку для мяккага апускання труны ў крэматорыі? Падумалася. Вядома, я выбачаюся перад Віткоўскай, але самае манументальнае, што можа зрабіць кераміст — урну для чалавечага праху.

**Сярмяжка і драпіроўкі**

Студэнт Сярмяжка захапіўся маляваннем драпіровак. Ён маляваў і маляваў драпіроўкі, маляваў складкі ружовых і белых анучак. Усе свае аркушы і палотны ён замалёўваў драпіроўкамі. Нават натуршчыкі і натуршчыцы ў яго складаліся са скураных паўдрапіровачных складак. Нават зямля і аблокі над зямлёю ў Сярмяжкі былі складчатыя і драпіровачныя. Выдатны быў мастак Сярмяжка, пакуль не звар’яцеў. Сам я не бачыў, як ён звар’яцеў. Мне сказалі: «Сярмяжка не малюе, бо хварэе, бо звар’яцеў…» Я не стаў распытваць, бо не мог слова сказаць, так слёзы душылі.

## Юра і амерыканец

У кнігарні сустрэў даўняга суседа па доме на вуліцы Чарнышэўскага. Ён — Юра Яўменаў — жыў у кватэры шэсцьдзясят, а я — у пяцьдзясят дзевяць. Мы з Юрам сутыкнуліся каля паліц з лірыкаю. Я выбраў сабе танюткі томік Верлена, а Юра ўзяў яшчэ танчэйшы томік Віёна. З паэтычнымі зборнікамі ў кішэнях мы прайшліся па праспекце ад пляца Якуба Коласа да пляца Перамогі. Калі мы развіталіся, Юра сказаў: «Ты стаў падобны да амерыканца! Гляджу на цябе і бачу пажылога амерыканца з выразным мужным тварам…» Вечарам я досыць доўга разглядаў люстэрка, але амерыканца там не пабачыў. Трэба будзе намаляваць аўтапартрэт, які мне пакажа мяне больш выразна за люстэрка.

## Фаніпаль і Дзяніс

Фаніпаль стаіць на паўдорозе з дзедавага Койданава ў бацькаў Мінск. Едучы з Койданава, я радаваўся ў Фаніпалі, што хутка буду ў сталіцы. Кіруючыся з Мінска на Койданава, радаваўся ў Фаніпалі, што малая радзіма не за гарамі. Каб напісаць пра Фаніпаль, я чакаў здарэння. Яно і адбылося... Раніцай я паехаў фатаграфаваць будынкі, у якіх вучыўся ў маладосці на мастака. У адным з іх некалі мясцілася мастацкая вучэльня, а ў другім — тэатральна-мастацкі інстытут. Цяпер у абодвух будынінах ідзе грунтоўны рамонт. Выглядаюць будыніны хваравіта, але яны не адмовіліся ад фотасесіі. Наздымаў я розных архітэктурных абломаў і фрагментаў, а потым дзень працаваў у майстэрні над палотнамі для калекцыі Андрэя Плісанава. Вечарам спусціўся ў метро, стаў пад калонай, дзе некалі адбыўся жудасны выбух і пачуў пытанне: «Валодзя, ты мяне пазнаеш?» Ні голас, ні знешнасць па-правінцыйнаму загарэлага мужчыны нічога не нагадвалі і не падказвалі. «Не пазнаю». — «А я цябе адразу пазнаў. Мы з табой разам паступалі ў мастацкую вучэльню. Ты амаль не змяніўся. Я — Дзяніс, Іван Дзяніс! Успомніў?» — «Не». — «А ты ў вучэльню мастацкую паступіў?» — «Паступіў, я пазней і ў інстытут паступіў». — «А я не паступіў. Вярнуўся ў свой Фаніпаль, дзе ўсё жыццё працую мастаком. Цяпер займаюся камп’ютарнай графікай. Глядзі…» Іван дастаў з сумкі папку з раздрукоўкамі. З паперы глядзеў той жа Іван Дзяніс, падобны да чорна-белага могілкавага партрэта. Мне нават падалося, што фаніпальскі Дзяніс і не чалавек зусім, а прывід, таму я перавёў размову на выбух… «Тут я ледзь не загінуў, спускаўся ў метро, але спусціцца не паспеў. Пашанцавала…» — «А я спусціўся. Ступіў на платформу, калі тут выбухнула. Мяне кантузіла, моцна кантузіла, але ж, бачыш — выжыў! Валодзя, а я захоўваю пэндзлік, які ты мне на ўступных экзаменах падараваў. Слухай, а тваё прозвішча Александровіч?» — «Не. Маё прозвішча Адамчык». — «Брат у цябе Александровіч?» — «Угу, і ён, як і я, з Койданава, што за тваім Фаніпалем». — «Слухай, а як ты сам? Як жыццё склалася?» — «Пішу карціны. У маладосці вершы пісаў. Ёсць жонка і дзеці». — «А ў мяне першая жонка памерла. Рак. Другая… Буду разводзіцца. Ёсць рэчы, якія дараваць не магу. Трое ўнукаў. Хлопчыкі і адна дзяўчынка. Я іх люблю. А з жонкай развядуся. Валодзя, ты мяне знайдзі на сайце «Аднакласнікі», Іван Дзяніс 55 гадоў…» Я сышоў на чыгуначным вакзале, а Іван паехаў далей, паехаў у свой Фаніпаль. Апошняе, пра што ён мне паспеў крыкнуць, калі вагонныя дзверы зачыняліся, гэта тое, што ў Фаніпалі ён можа арганізаваць для мяне выдатную рыбалку.

Тут я і згадаў фаніпальскага хлопчыка, які ў двары мастацкай вучэльні расказваў сюжэт сваёй экзаменацыйнай кампазіцыі. Ён хацеў намаляваць сябе на дрэве. «Намалюю, як я залез на дрэва, на вялікі дуб. Там я засунуў руку ў дупло, каб дастаць арэхаў. У дупле вавёрка назапасіла арэхаў. Мае аднакласнікі стаяць пад дубам і чакаюць, калі я ім кіну арэхаў…»

**Савіцкі і прапанова**

З Андрэем Савіцкім мы напіліся гарэлкі. Мы шмат разоў напіваліся, але тым разам напіліся страшна. Пачыналі піць у майстэрні, а канчалі ў ягонай хатняй бібліятэцы. Пілі да глыбокай ночы. Разважалі пра кнігі ды мастацтва, пра культуралагічныя праекты ды модныя павевы ў геапалітыцы. Згадвалі вучэльню. Гучала старажытнаяўрэйская музыка. Я напіўся да той кропкі, за якой пачынае знікаць свядомасць, і пачаў збірацца дамоў. У хвіліны развітання Андрэй сказаў, што ён заўжды сядзіць у сваёй бібліятэцы, і я магу зайсці да яго ў любы дзень і ў любы час. Пасля той п’янкі я ніводнага разу не зайшоў да Андрэя.

**Кожух і Леанарда**

У метро краем вока бачыў мастака Кожуха. Сівая барада, высокі лоб, правільны нос, светлыя вочы... І ўся гэта веліч, уся леанардаўская манументальнасць была правільна пасаджана на шырока разгорнутыя плечы. Партрэт! Бяры і малюй, не памылішся. З узростам усе мастакі робяцца падобнымі да... Не на карціны вялікіх майстроў, і не на малюнкі геніяў… Яны робяцца падобнымі да натуршчыкаў з мастацкай вучэльні.





Алена ГІНЬКО

# ЛЯЦЕЦЬ ВЫСОКА

* * *

Прыгажуняю,
чараўніцаю
і аздобай чыйгосьці жытла,
яркай зоркаю Мілавіцаю
называлі…
А ці была?
Пекнай ягадкай,
гожай краскаю,
звонкай песняю ручая,
незвычайнай
каляднай казкаю
называлі…
Была ж — не я…
За асокамі,
за аблокамі
птушка шчасця галёкае: дзе?..
Можа, цешыцца, адзінокая,
мо купаецца ў слёз вадзе?

* * *

Ах, як доўга чакала я Вас!..
Ледзь агеньчык надзеі не згас.
Аддаляліся берагі,
і глыбелі азёры тугі.

---

*__Гінько Алена Іванаўна__ нарадзілася 22 жніўня 1965 года ў вёсцы Тузбіца Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1987). Жыве ў Віцебску. Працуе выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Самотная птушка» (1999), «Пяшчота пры Журбе» (2003), «Я думала душой» (2015).*

Нахілялася неба ніжэй,
да зямлі прыціскала бліжэй.
А да сіняе птушкі — Сусвет.
…І змрачнеў, і чарнеў белы свет.
Дый малітва гучала не раз,
каб агеньчык надзеі не згас.
…На якой жа з жыццёвых дарог
той адзіны, што веру збярог?

* * *

Замільгаў светлячком за парогам
і патух, як з лучыны агонь.
Дармавога бывае замнога,
а каштоўнага — на далонь.

Цераз бераг круты пераскочыў,
а пад стромай вада вірыць.
Хтосьці зачаста мазоліць вочы,
ну, а нехта — і не глядзіць.

Затрымаўся на міг на паўстанку —
і спазніўся… на цэлы лёс.
…Накувае зязюля-падманка,
каб мне шчасцейка ты прынёс.

* * *

Зялёны ліст кранае пазалота,
калі ляцяць у вырай журавы.
Халодныя дажджы, туман і слота…
На скронях снег — гарчэй палын-травы.

Шляхі і ростані… Святло і цемень…
Бясконца хваляй б’юся ў берагі.
А чалавек — пясчыначка ці крэмень?
Дзе мой прыстанак і прытулак ад тугі?

Дзе промень мой вясновы і гарэзны?
Дзе лецейка жаданае? Дзе май?
Трымціць душа мая струной надрэзанай.
…Трымай мяне, саломінка, трымай.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ПАСЛЯ ВАЙНЫ

*Раман**

## Частка чацвёртая

### I

Пачаўся 1953 год. Доўжылася чарговая сцюдзёная зіма. Завіруха галёкала ўжо каторы дзень, намёўшы высокія гурбы снегу. Пруска стаяла акрытая снегавою пярынай. З дрэў густа звісала шэрань, а раніцай на ўсходзе ад зыркіх сонечных промняў ірдзела неба. Прускаўская зіма не доўгая і не кароткая. Маразы змяняюцца снегам з дажджом, пераходзяць у адлігу. Потым ізноў прымарожвае. Так і чаргуецца адно з другім, мароз з адлігай.

Валодзя ўжо ў дзявятым класе — старшакласнік. Вучыцца ў другую змену і вяртаецца са школы позна. У вокнах гарацаь агні. Дома звычайна чакала бабуля. Фёкла на гэты раз круціла жорны. Жорны малолі слаба, іх даўно ніхто не насякаў, але засталася яшчэ з дакалгасных часоў жменя жыта, і трэба было змалоць. Закопчаны ліхтар ледзь асвятляў сені.

— А дзе стары?

— Які стары? — перапытала Фёкла.

— Ну, дзед Лявон...

— Так называць нельга! — асадзіла яна ўнука. — Гэта абразліва — казаць «стары». Ён для цябе дзядуля. Трэба быць пачцівым.

— Цяпер гэтак на бацькоў усе кажуць: стары, старая...

— Хай кажуць, а ты не гавары. Гавары, як я сказала.

Валодзя прамаўчаў, прымаючы, аднак, да ведама бабуліну параду.

— Дырэктар сказаў, каб я грошы прынёс.

— Раман Дарафеевіч?

— Ён. Мы яго ўсе Рытатуем называем.

— Якія грошы?

— А за вучобу.

— На бацькоўскім сходзе пра гэта нічога не казалі.

На бацькоўскія сходы хадзілі Лявон або Фёкла або разам. За вучобу ў школе ў старэйшых класах трэба было плаціць, і Раман Дарафеевіч звычайна нагадваў пра гэта на бацькоўскіх сходах, а гэтым разам, магчыма, забыў. Клопатаў у Рамана Дарафеевіча, трэба сказаць, нямала. Апроч дырэктарскіх абавязкаў, урокаў фізкультуры, ён вёў, як ўпаміналася, яшчэ і ваенную

---

Заканчэнне. Пачатак у № 4—6, 2015 г.

падрыхтоўку: вучыў паваротам «налева-направа», хадзіць строем і як абыходзіцца са зброяй. Арсенал месціўся ў школе, у адным з пакояў з закратаваным акном: некалькі дробнакаліберных вінтовак ТОЗ-8, абясшкоджаная граната і процівагаз. Былі і драўляныя вінтоўкі, назапашаныя яшчэ вучнямі старэйшых класаў. Але якая гэта зброя? Хлам. Яны былі і складзеныя, як хлам, у кутку. Вайсковая думка між тым не стаяла на месцы. Замест драўляных вінтовак, якімі абыходзіліся да гэтага, з раённага ваенкамата прыслалі дзве сапраўдныя, мосінскія, узору 1891/30 года. Яны, праўда, не стралялі — у кожнай у патронніку прасвідравана дзірка і сточаны баёк, але выгляд мелі салідны.

Надта нераўнадушны быў Раман Дарафеевіч да пытанняў штодзённага побыту, хацеў узгадніць яго з тэхнічнымі дасягненнямі і меў, трэба сказаць, у сваіх стараннях пэўныя поспехі. У яго кватэры гарэла — адна на ўсю Пруску — падвешаная да столі электрычная лямпачка. Ток падавала ветраная электрастанцыя — вятрак з крыламі, падключаны да дынамамашыны. Не ўсё давалася проста. Слуп з дынамамашынай пад націскам моцнага ветру колькі разоў валіўся, аднак дырэктар са сваімі памочнікамі вучнямі-старшакласнікамі паднімаў яго, ставіў на месца, укопваў глыбей. Усе дзівіліся такой яго настойлівасці.

І яшчэ адно захапленне Рамана Дарафеевіча: фатаграфія. Меў трафейны фотаапарат «Кодак», рабіў «фоткі» тых, хто да яго прыходзіў і меў у гэтым патрэбу, ну, і, адпаведна, плаціў. Аднойчы ён зрабіў групавы здымак: Валодзя Платонаў, Іван Каленік, Веня Мельнічук (сын Натолія) і Алёша Гальяш (малалетні сынок Ляксандра Гальяша) стаяць радком у класе на фоне белай сцяны. Кожнаму «фотка» каштавала тры рублі — не танна, але затое засталася на ўспамін.

Прыйшлі доўгачаканыя зімовыя канікулы, і Раману Дарафеевічу стукнула ў галаву новая ідэя — выйсці са старшакласнікамі на паляванне, на зайцоў. Дзеля гэтага можна было скарыстаць дробнакаліберкі ТОЗ-8, што стаялі ў школьным арсенале. Так і зрабілі. Раман Дарафеевіч раздаў зброю. Вінтоўкі атрымалі найбольш меткія стралкі, у тым ліку і Валодзя Платонаў. Калі дома ён расказаў пра нечаканую ідэю Рамана Дарафеевіча выйсці на паляванне са зброяй, бабуля запярэчыла: «Ты яшчэ малы, каб цягацца са стрэльбай па лесе». Ён не адразу знайшоў, што адказаць. Аднак падумаўшы, адказаў: «Я не малы, я ўжо дарослы».

А зайцоў, трэба сказаць, развялося. Начамі прыбягалі нават да сядзіб, абглодвалі, псавалі маладыя дрэўцы. Не лішнім было б, на думку Рытатуя, іх прыжучыць. Так і дамовіліся. Была якраз нядзеля. Дзень абяцаў быць пахмурным, сонца не аб’яўлялася. Стаяў цэпкі мароз. Валодзя раніцай бачыў, як з куратніка выскачыў певень, пакруціўся, драпянуў колькі разоў кіпцюрамі снег, крутнуў галавой і, відаць, баючыся адмарозіць грэбень, зноў праз дзірку схаваўся ў куратніку.

Паляўнічыя сабраліся ў школе, усе цёпла апранутыя. Рытатуй, апроч усяго, уздзябурыў на плечы, відаць, дзеля маскіроўкі (хаця кругом снег) яшчэ і абароннага колеру стары афіцэрскі плашч, які быў яму, мяркуючы па ўсім, малаваты.

— Гэта, таварышы, наразная зброя, з ёю трэба асцярожна, — папярэдзіў ён паляўнічых, паставіўшы іх у шарэнгу на інструктаж.

— Ведаем! — запэўніў Іван Каленік, і ўсе заківалі галовамі.

— А было і такое! — Рытатуй строга падняў уверх палец. — Цэліў у варону, а папаў у карову.

Паляўнічыя зарагаталі.

— Каровы цяпер па хлявах стаяць, — сказаў Валодзя Галёнка.

Кожны атрымаў ТОЗ-8, і яны цугам выйшлі за школьны стадыён у поле. Поле ўхутана глыбокім, у калена, снегам, пад якім драмала азіміна. Ішлі шырокім, разложыстым прасцягам, правальваючыся ў снег. Краявід выглядаў няпэўным і меланхалічным. Пералятала з месца на месца вялікая, як хмара, гурма варон. Мароз шчыпле за вушы, улазіць у пальцы, асабліва калі трымаеш у руках вінтоўку.

Дайшоўшы амаль да самай Бярэзіны, павярнулі ўправа, перайшлі гасцінец і за Маркавым хутарам спусціліся да рачной поймы. Лосьну не пераходзілі, засталіся на гэтым беразе, рушылі паралельна рэчышчу ў напрамку Лазы. Тут снег быў асабліва глыбокі — у калена і вышэй. Адолелі падмерзлыя равы і забалочаную нізіну. З-пад снегу вытыркаліся купіны з жорсткімі грывамі сіўцу і парудзелай асакі, шпажніку і сітнягу. У двух месцах выгналі зайцоў, што затаіліся ў снезе. Пачуўшы паляўнічых, яны тут жа кінуліся наўцёкі. Валодзя страляў — і ў першым выпадку, і ў другім, але абодва разы схібіў, прамахнуўся. Чуючы кулю, зайцы толькі падскоквалі, кідаліся ўбок і ўцякалі яшчэ жвавей.

Прайшлі Лазу. Дрэвы стаялі пад снежнай навіссю, якая тоўстымі бухматымі шапкамі ляжала на іх галінах і на вершалінах. Паляўнічыя стукалі па старых чорных вольхах палкамі, галёкалі. Адолелі шырокую, пустую лонку і каля Панскага лесу спыніліся. Раман Дарафеевіч здалёк адгукнуўся працяглым паляўнічым посвістам. Сабраліся разам. Стаялі на ўзлессі, жартавалі, смяяліся. Пад канец палявання ўсе надта змагліся, брыдучы па глыбокім снезе. Валодзя страшэнна стаміўся. Дадому вярталіся без паляўнічых трафеяў, нікому нічога не ўдалося ўпаляваць.

Вяскоўцы пра гэтае паляванне ведалі, і хтосьці напісаў ананімны данос у райана. Хто — невядома. Пэўна, хтосьці з настаўнікаў, хто меціў на дырэктарскае месца. Аўтар даносу дзелавіта адзначаў, што, па-першае, паляванне было недазволенае, палявалі без ліцэнзіі, па-другое, — з наразной зброяй. Па-трэцяе, зброю выдалі фактычна дзецям, падлеткам. Выходзіла, што даносчык нічога не выдумаў, напісаў, як было. Рытатуй запанікаваў. Падставы для панікі, як бачым, былі, і дырэктарскае крэсла пад ім захісталася. Зваліўся з яго Раман Дарафеевіч ужо вясною, калі прыслалі яму замену — Мікалая Пятровіча Рудкоўскага...

Добра яшчэ, што ўсё гэтым і абмежавалася.

* * *

Захацелася Валодзю ў Брэст, адведаць бацькоў, братоў, сястрычку Ліліянку. Як яны там? Што ў іх, чым займаюцца? Канікулы такую магчымасць дазвалялі. Бабуля паклала ў рэчмяшок гасцінец — кавалак сала. Нічога іншага, каб перадаць, не знайшлося. Было нават страшнавата, бо адзін ён у Брэст яшчэ не ездзіў, не спрабаваў адолець гэту няблізкую дарогу, але ж трэба калі-небудзь адважыцца і аднаму. Пяшком, з рэчмяшком за плячыма, ішоў да Відамля. Дарогу памятаў. Калісьці разам з Рытатуем хадзілі ў Відамлянскую дзесяцігодку на таварыскі матч па валейболе. Гульцы тут добрыя, умеюць зрэзаць мяч...

Гэта было мінулай вясною, а цяпер зіма. Па-іншаму выглядае наваколле, але не меней прыгожа, чым летам. Пасля Альбэрціна (да дзядзькі Амброжыя не заходзіў) дарога вяла праз лес. З абодвух бакоў яе абступалі выносныя меднастволыя сосны, якія, прыкінуў хлопец, упаўне гадзіліся на карабельныя матчы — гонкія, моцныя, нязломныя. Можа, такія і валіў «хрышчоны» Якаў Арыстархавіч, пакуль не перайшоў на працу на пчальнік.

Стаяла цішыня, толькі рыпеў пад нагамі снег. Пасля лесу ішоў палявым прасцягам, абкладзеным снегам, які іскрыўся на сонцы. Прайшоў вёскі з крыху дзіўнаватымі назвамі: Вяліка Малая і Вяліка Вялікая. Як бы хто пажартаваў над пасяленцамі.

У Відамлі, на прыпынку, давялося доўга стаяць у чаканні спадарожнага транспарту. Зняўшы рэчмяшок, перамінаўся з нагі на нагу, каб не змерзнуць, хлопаў наапашкі рукамі. Нейкі дзядок клікаў у хату пагрэцца, але Валодзя адмовіўся, каб не прапусціць які-небудзь прыдатны транспарт. Спыніўся нарэшце армейскі грузавік з адкрытым верхам, і прускавец, як і іншыя, каму трэба было ў горад, сеў, не забыўшы і рэчмяшок, у кузаў. «Пашанцавала, — падумаў ён, — а то б зусім акалеў». Ехалі не так і хутка, не больш за шэсцьдзясят кіламетраў у гадзіну, але прасіфоніла грунтоўна. Пасля гадзіны, а можа і больш, такой язды (доўга стаялі на чыгуначным пераездзе перад уездам у горад), грузавік спыніўся на Граеўцы, каля вакзала. З кабіны вылез шафёр, сабраў заробак. Валодзя таксама даў рубель і саскочыў з кузава на брук. Стаў перапытваць у прахожых, як прайсці «на Мянжынскага». Горад збольшага ён ведаў, але зімовы Брэст быў непазнавальны. Хата стаяла па вуліцы Мянжынскага, 1. Нейкі зычлівы берасцеец растлумачыў, што трэба перайсці чыгуначны мост, дайсці да бульвара Міцкевіча і павярнуць налева.

— Гэта ў самы канец, пры Польшчы называлася вуліца 11 лістапада, а цяпер Мянжынскага. Усё мяняецца! — па-філасофску дадаў берасцеец.

Пасля таго, як гадзіну прасядзеў у траскім кузаве, каб размяцца, ішоў хутка, трымаючыся маршруту, які падказаў тутэйшы чалавек. Мінуў адзін квартал, другі, трэці, паварочваў то направа, то налева, пакуль дабраўся. Да знаёмай хаты, якая стаяла ў самым канцы вуліцы, наблізіўся ў вячэрнім паўзмроку. У вокнах ужо свяціліся зыркія агні. Сямейнікі ўсе былі ўжо дома і надзвычай узрадаваліся яму.

— Праведаць прыехаў, — сказаў Валодзя, пераступіўшы парог і падзівіўшыся, як зырка свяціла электрычная лямпачка, падвешаная да столі. — Добры вечар!

У пакоі быў Лёнік.

— А мы без цябе так сумуем! — прызнаўся ён.

Збегліся ўсе — Прося з Васілём і Віталік. З-пад стала выглядала малая Ліліянка, якая ўжо навучылася хадзіць. Пасля абдымкаў ды пацалункаў госць скінуў з плячэй рэчмяшок, распрануўся, зняў кажушок, дастаў з рэчмяшка сала, аддаў маці. Матуля ўвесь час з усмешкай, але пільна, не адводзячы вачэй, глядзела на яго. У куточках яе вуснаў, заўважыў Валодзя, пралеглі тонкія маршчынкі. Страцілі былы бляск валасы, па-ранейшаму скручаныя ў тугі вузел на патыліцы.

Ён азірнуўся навокал, на вокнах заўважыў герань і ружовыя фіранкі з новага паркалю. Агледзеў мэблю: стол, табурэткі, шафа, ложкі ўздоўж сцен. Прося на кухні распаліла печ, кінула яшчэ адно палена. «Прывыкла ўжо да горада, — назіраючы на яе праз адчыненыя дзверы, думаў Валодзя, — паспакайнела, ураўнаважылася». Ён быў рады за маці.

— Ну, што там у вас, у Прусцы, новага? — спытаў бацька.

— Калгас, — пасміхнуўся Валодзя. — Нават авечак абагульнілі. Клуні разабралі і ў адно месца пасцягвалі, за школу, туды, дзе калгасны двор, стайню для коней пабудавалі. Межы трактар зараў. Зніклі межы, і грушкі на ўзмежках зніклі.

— Грушак шкада.

— Калгаснікаў соткамі надзялілі, па трыццаць сотак. Сад наш Хвядзюшку дастаўся.

Пра тое, што ён па настаўленні бабулі звяртаўся ў райвыканком, каб на яго запісалі «бацькаўшчыну», гэта значыць абсаду разам з садам, казаць не стаў. Непрыемна было ўспамінаць той грозны адказ на яго просьбу.

На кухні сквірчэла патэльня, смажылася сала. Селі вячэраць. Прося падала бульбу, палітую тлушчам са скваркамі і падсмажанай цыбуляй, паставіла міску з квашанай капустай, гуркі. Васіль нарэзаў хлеба. Хлеб аказаўся глёўкі, салодкі на смак, са закальцам і адтапыранай верхняй скарынкай.

— Нашага хлеба пакаштуй! — прапанаваў Віталік. — Не такі, як у Прусцы.

— У бабулі хлеб смачны, — успомніў Лёнік.

— А што на працадні даюць? — спытала Прося.

— Сто грамаў жыта.

— Мала.

— Цягам часу ўсё наладзіцца, — сказаў бацька. — На пачатку заўсёды цяжка.

Яшчэ пра тое-сёе пагаманілі.

— А тое, што Гамон папом стаў, ведаеце? — запытаў Валодзя.

— Ведаем.

Да размовы прыслухоўваліся Віталік з Лёнікам.

— А ці памятаеце, як па ёлку хадзілі? — нагадала Прося.

Тут хлопцы дыпламатычна прамаўчалі.

— Калі тое было! — сказаў Валодзя.

Перад тым, як класціся спаць, пілі кампот і слухалі радыё. У другім пакоі стаяў на стале прыгожы радыёпрыёмнік «Балтика». Масква перадавала канцэрт — оперныя арыі.

Назаўтра каля хаты ўтрох ляпілі снегавіка. Суседскі хлопчык Колька — відаць па ўсім Валодзеў равеснік — прынёс моркву, якую ўткнулі снегавіку замест носа. Каўнер у Колькі шырока расшпілены, як бы чалавеку надта горача. Відаць было паласатую марскую цяльняшку. Колька часта падносіў да рота рукі, хукаў на іх. Потым Валодзя пазнаёміўся з ім бліжэй.

Сям'я Колькі жыла ў аднапакаёвай камунальнай кватэры, напоўненай разнастайнымі цікавосткамі: на стале, што стаяў пасярод пакоя, красаваўся патэфон, каля якога ляжаў стос кружэлак, у праёме паміж акон прадстаўніча ўзвышаўся напольны гадзіннік з маятнікам. Валодзя агледзеўся: цеснавата. Два ложкі па кутках. На адным, відаць, спалі бацькі, на другім, вузейшым, Колька. Каля яго ложка прытулілася этажэрка з кнігамі. Колька адкрыў патэфон, паставіў пласцінку-кружэлку і даадказу накруціў ручку. Закружылася, плаўна пагойдваючыся, пласцінка, і палілася песня.

Лейся, песня, на просторе,
Не грусти, не плачь, жена —
Штурмовать в далёко море
Посылает нас страна-а...

Валодзя спыніў пагляд на этажэрцы, выцягнуў адну з кніг з багатым, у пазалоце пераплётам. «Раджа йога» — прачытаў на вокладцы. У школьнай бібліятэцы такіх кніг не было: старая, дарэвалюцыйнага года выдання. Кніга вельмі зацікавіла, уразіўшы сваёй таямнічасцю. Яму здалося, што ў ёй ён знойдзе адказы на ўсе пытанні, якія могуць узнікнуць у дапытлівага чалавека.

— Калі хочаш, дык бяры, пачытай, — дазволіў новы сябар, нібы ўгадаўшы Валодзевы думкі. — Я спрабаваў, але нічога не зразумеў.

Колька здзівіў гасціннасцю. Маці Колькі, поўная чарнабровая жанчына, частавала салодкім чаем.

— Смачны! — ацаніў прускавец.

— Гэта па-варонежску, — патлумачыла гаспадыня. Звалі яе Алена Ніканораўна. — Мы з Варонежа.

Назаўтра разам з братамі, учатырох, схадзілі ў кіно. Шалёны поспех меў кінафільм «Тарзан», які ішоў у кінатэатры «Беларусь». Фільм ва ўсіх адносінах незвычайны. Не наш, не савецкі, а ўзяты ў Германіі «ў якасці трафея». З экрана паўставаў дзівосны свет афрыканскіх джунгляў, некранутай цывілізацыяй дзікай прыроды. У гэтых джунглях герой, Тарзан, адчуваў сябе як рыба ў вадзе, пералётваў з месца на месца, з дрэва на дрэва, з незвычайнай хуткасцю, учапіўшыся, як за вяроўку, за ліяну. Гэта быў вобраз нейкай бязмежнай свабоды — свабоды для ўсіх: для чалавека, жывёл, густых джунгляў. Валодзя, як і ўсе гледачы, быў у захапленні: «У Прусцы не паверацць, калі раскажу». У Пруску такія фільмы не прывозілі. Паказвалі іншае. Нядаўна дэманстраваўся «Поезд идет на восток». Кінамеханік Радзівон, забыўшы старую крыўду — як пацэлілі яму ў вуха прабойчыкам, папрасіў яго напісаць аб’яву. На вялікім аркушы зялёнай паперы, які разаслаў перад ім Сапега, Валодзя намаляваў цягнік і рэйкі, а знізу плакатным пяром прыгожа вывеў: «ПОЕЗД ИДЕТ НА ВОСТОК». Аб’яву вывесілі на Салівэсевым магазіне, але кінафільм, па праўдзе сказаць, аказаўся нецікавы. На экране мітусілася маладая пара — то адстануць ад поезда, то ізноў дагоняць, каб праз нейкі час адстаць.

Вечарам Прося паслала сыноў па хлеб. За чыгуначным пераездам быў прадуктовы магазін, у якім прадаваўся і хлеб. Але трэба было дачакацца, калі яго прывязуць. Стаяць даводзілася ў чарзе і звычайна доўга. Намерзліся. Потым іх змяніла сама Прося і прастаяла амаль да раніцы, пакуль прывезлі той хлеб. Прынесла дзве буханкі, болей на аднаго чалавека не давалі. З’елі па невялічкім кавалачку. Хлеб хоць і непрапечаны, але ўсё роўна смачны. Поўбуханкі Валодзя паклаў у рэчмяшок, каб пачаставаць дзеда з бабуляй.

У нядзелю Васіль з Просяй былі ў гасцях, у Міцькі Балабайкі. Вярнуўшыся, расказалі пра нейкіх урачоў, што хацелі звесці са свету кіраўнікоў дзяржавы «на чале са Сталіным». І што, галоўнае: выкрыла гэтых урачоў медсястра з Брэста — нейкая Сідарук. Незвычайную пільнасць паказала! Адразу ж узнагародзілі.

Нагасцяваўся Валодзя напоўніцу. Хацеў наведаць колішніх знаёмых Літвінавых, Моню, але неяк не выпала, ды і падумалася: «Пэўна, мяне яны ўжо забылі». Ды і часу не было.

Перад ад’ездам сфатаграфаваліся, з братамі і з Колькам, на памяць.

Назад вяртаўся тым жа шляхам — на спадарожнай машыне да Відамля, а там пяшком дадому.

— Ну, як там, у Брэсце? — сустрэла бабуля, засумаваўшы па ўнуку.

— Бабуля, іх жыццё зусім не падобнае на наша. Свайго ў іх нічога няма. Усё трэба купіць. Мы пячом хлеб, а яны гатовы купляюць, у магазіне. Праўда, доўга даводзіцца стаяць у чарзе. Даюць дзве буханкі на чалавека. Вось! — ён дастаў з рэчмяшка буханку, паклаў на стол. Лявон узяў, панюхаў, неяк двухсэнсоўна пахваліў:

— Хлебам пахне!

— Ну, а чым жа! — заступілася за гарадскі хлеб бабуля.

— Кожны дзень можна хадзіць у кіно, — расказваў унук. — І фільм паказваюць пра Тарзана, нам такіх не прывозяць.

— Ну, а як бацька з маці? — спытала Фёкла.

— Тата з мамай у госці ходзяць да знаёмых, у нядзелю хадзілі да Міцькі Балабайкі.

— Гарадское жыццё — зусім інакшае, чым у вёсцы, — згадзілася Фёкла.

— Нашмат лягчэйшае, чым наша, — дадаў Лявон. — Ну, нагасцяваўся ты добра!..

## II

Прайшлі чарговыя выбары. На гэты раз у мясцовыя саветы. Па Прускаўскай акрузе — два кандыдаты: Сталін і каваль райпрамкамбіната, але не Цішка Пахолак, таму што Лявон адразу падумаў пра старога сябра, які час ад часу наведваўся ў Пруску, спыняючыся каля Салівэсевага магазіна. Частаваўся гарэлкай.

У дзень выбараў надвор'е, як звычайна, сапсавалася, выглядала раззлаваным і асабліва сярдзітым. Пачало круціць, ашмоццямі паваліў снег. «Чорт павесіўся», — жартавалі прускаўцы. Такія завірухі здараліся толькі на выбары. Павырасталі высокія сумёты, але людзі ішлі, каб прагаласаваць, адзначыцца, а то, чаго добрага, не атрымаеш каня, каб прывезці дроў. Пасля снегу пайшоў дождж, слата.

Выбары адбыліся, абралі, каго трэба, — Сталіна, вядома, і перадавікакаваля з райпрамкамбіната.

Пасля выбараў памёр Фэдар-японец. Здаецца і не хварэў, адышоў на той свет раптоўна. У царкве, як звычайна, пазванілі, сумны звон працяжна разнёсся па ваколіцы. Фэдара ведалі як чалавека старога «закалу», удзельніка японскай вайны, той, што адбылася на пачатку стагоддзя, яшчэ за цара. Любіў пра яе расказваць, нешта, відаць, і прыдумляў. Японцы паранілі ў нагу — кульгаў. Не быў пазбаўлены Фэдар і праяў дзівацтва, прымхлівасці, верыў у існаванне нячыстай сілы, усюдыіснай і зацікаўленай у тым, каб нашкодзіць чалавеку, напалохаць. Пры ўваходзе ў хату, над дзвярыма, прыбіў конскую падкову — на шчасце, каб не мінала яно хаты. Толькі ці быў шчаслівы — на гэтае пытанне адразу не адкажаш, бо паспытаў у сваім жыцці ўсяго, але верыў у добрых людзей.

Ажаніўся Фэдар, вярнуўшыся з японскай вайны, на маладой дзеўцы Паліксене. Прыстойная была жанчына, але пакінула гэты свет раней за мужа, колькі гадоў таму. Паліксену ён кахаў, успамінаў, нават на схіле дзён сваіх турбаваўся, як пра жывую:

— Там ужо столькі часу жонка чакае.

Пры Польшчы, у 30-я гады, атрымліваў неблагую пенсію. Грошы, вядома, былі не польскія, а савецкія: царскім ветэранам-інвалідам, па дамоўленасці з Польшчай, плаціў савецкі ўрад. Фэдар з братам Міхалём аб'ядналі гаспадарку, купілі парку коней і малатарню з прывадам. За гэта і ўчапіліся былі актывісты — Хвядзюшка з сябрамі. Хацелі іх з Міхалём зрабіць кулакамі, але дзякуй Мачалаву — Міхалёваму зяцю — заступіўся, адстаяў.

Неяк, зайшоўшы да Кужалёў, Фэдар успамінаў мінулае, пражытае, параўноўваў з цяперашнім, разводзіў рукамі:

— Дзіўная рэч: колькі чую, дык Саветы людзей не людзьмі завуць, а кадрамі. Кадраў, кажуць, не хапае.

Размаўляў ён, як старажытны літвін: спаважна, не спяшаючыся. Выказаўшыся, чакаў, што скажуць іншыя. А болей маўчаў. Сядзеў ля хаты, на прызбе, курыў і маўчаў.

Валодзя ўспомніў, як калісьці Фэдар выратаваў яго, выцягнуў з заплыўшага талай вадой нямецкага акопа, у які ён уваліўся. Пастарэў Фэдар апошнім часам, сагнуўся, стукаў кавенькай аб дол, быццам штосьці намацваў, шукаў. А потым наогул сагнула ў абаранак. І вось сканаў, скончыў нарэшце свой век, адпакутаваў, у невараць выправіўся. Каля дзвярэй, як звычайна ў такіх выпадках, паставілі пахавальную пратэсу. Прыходзілі развітацца аднапасельцы.

На трэці дзень нябожчыка адпелі і пахавалі. Труну ўсклалі на падводу, адвезлі ў царкву, а адтуль на могліцы. Спраўджваў свае абавязкі, як звычайна, айцец Клаўдзій. Фэдар ляжаў у труне спакойны і, па выглядзе, задаволены, што ўсё адбылося так, як адбылося. Ніхто па ім не галасіў. Як бы для прыліку пусціла слязіну братава жонка Вера, якой Фэдар даводзіўся дзеверам. Кожны кінуў жменю жвірыстага, перамяшанага са снегам пяску. Бубнам азвалася дамавіна, як бы падаваў голас сам Фэдар.

Наладзілі памінкі. Самагонку па шклянках ашчадна разліваў брат Міхаль, сам ён гарэлкі не ўжываў. Было чым і закусіць. Прысутныя адно толькі сумна ўздыхалі. Амаль не размаўлялі, не гаварылі, бо ўсё і так было зразумела без слоў. Нешта хацеў сказаць Оргій Ламака, але асекся, змаўчаў. Прыйшла на памінкі, апнуўшыся коцам, Амелія.

— Царства нябеснае! — пажадала яна.

— Харошы быў чалавек, — сказала Жуфея.

— Прыстойны, — дадаў Лявон.

Вяртаючыся з памінак, падхмелены Мікіта Галёнка сказаў:

— А сумна было б, калі б ніхто не паміраў, калі б усё заставалася так, як ёсць, нерухома, без змен.

— Можа, і сумна, але спяшацца на той свет ніхто не хоча, — зазначыў Апанас Хомка.

Ледзь не назаўтра з’явіліся пагарэльцы з Зінькоў купіць Фэдараву хату.

А праз колькі дзён у царкве званілі зноў. Аказалася, што на гэты раз па Сталіну. Памёр і ён. Ведалі, што хварэў (у газетах пісалася, і школьныя настаўнікі паведамлялі, якія слухалі радыё). Некаторыя казалі: «Вось, прастудзіўся, не ўберaглі, не дагледзелі, у адным шыняльку на мароз выходзіў, на маўзалеі стаяў!», але спадзяваліся: «Паправіцца, вычухаецца!» Не вычухаўся. Фёкла, стоячы за плітой, плакала, і ад яе сумны настрой перадаўся ўнуку. Сцішаны Валодзя моўчкі слухаў, як бабуля, усхліпваючы, паўтарала: «Ой, як жа цяпер будзем жыць? Як жа будзем жыць?..»

У Прускаўскай школе таксама панаваў сумны, разгублены настрой. У вялікай, насцеж расчыненай зале на ніжнім паверсе паставілі на стале вялікі партрэт Сталіна з падвязанай да яго чырвона-чорнай жалобнай стужкай. Па абодвух баках у ганаровай варце стаялі вучні з узнятымі ў салюце рукамі. Піянеры, камсамольцы. Праз кожныя пяць мінут варта мянялася. Дачакаўся сваёй чаргі і Валодзя, стаў і ён. У галаве раіліся розныя думкі. Успомнілася тое, што казаў пра Сталіна Кузёмка. Кузёмка Сталіна не хваліў, распавядаў пра яго заганы. Выходзіла, што гэта ён сагнаў людзей у калгасы, асудзіў на беднасць. А нашто?

Праз колькі гадзін пачаўся траурны мітынг. Сабраліся школьнікі і настаўнікі. З прамовай выступіў Раман Дарафеевіч, які ўсё яшчэ заставаўся дырэктарам.

— Сёння, таварышы, па ўсёй нашай краіне гудкі гудзяць, народ плача, — сказаў ён і заплакаў сам. Не знайшоўшы хусцінкі, выцер вочы рукавом. — Пралетарыят, народы ўсяго свету страцілі свайго геніяльнага правадыра, на якога дужа спадзяваліся, любілі і шанавалі, які вёў ад перамогі да перамогі. Не

стала таварыша Сталіна, пайшоў ад нас наш дарагі правадыр і вучыцель, які кожнага з нас трымаў у полі зроку, усё бачыў, абараняў, дапамагаў, падказваў, а калі што, дык ушчуваў і па-бацькоўску караў. Асабліва тых, у кім бачыў ворага. А ворагаў у яго было шмат, з якімі ён вёў жорсткую бязлітасную класавую барацьбу. Таварыш Сталін — вялікі прадаўжальнік справы Леніна. Геніяльны з геніяльных нашых правадыроў! Арганізатар і натхніцель усіх перамог. Таварыш Сталін, падкрэсліваю, не ведаў спакою, працаваў дзеля нас не шкадуючы сіл, удзень і ўночы. Далёка скрозь цемру свяцілася крамлёўскае акенца, асвятляючы шлях у будучыню. Мы з вамі былі сведкамі, як пастаянна, з году у год, зніжаліся цэны, рос дабрабыт, наладжвалася жыццё. А ўсё — дзякуючы яму. Бацька, ацец радной, спі спакойна! Мы не выпусцім з рук сцяг барацьбы, сцяг камунізму. Хай пухам будзе табе родная зямля! Навука твая не памрэ! Твая справа будзе прадоўжана ў наступных пакаленнях!

— Добра вы сказалі, — адгукнуўся на прамову Рамана Дарафеевіча Шпронька.

Плакалі, галасілі настаўніцы. Аляўціна Дзіядотаўна спыніла была галашэнне, але калі ўгледзела, што Лабачова і Мацюшонак працягваюць ліць слёзы, заплакала, загаласіла зноў. За настаўнікамі наглядаў дырэктар. Потым, калі пачалі разыходзіцца, Гога папрасіў Рамана Дарафеевіча, каб дазволіў яму яшчэ раз пастаяць каля партрэта з жалобнай стужкай.

Газеты, не перастаючы, друкавалі матэрыялы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці «бацькі народаў». Паэты аплаквалі смерць правадыра ў вершах. Пісьменнік Міхаіл Шолахаў, які жыў у станіцы Вёшанскай, у газеце «Правда» пісаў:

«Отец, прощай! Прощай, родной и до последнего нашего вздоха любимый отец!..»

Асабліва запомніліся трагічна ўзвінчаныя радкі з верша Вольгі Бергольц. Яны гучалі настолькі не па-казённаму, шчыра, што ім нельга было не верыць:

Обливается сердце кровью...
Наш родимый, наш дорогой!
Обхватив твоё изголовье
Плачет Родина над Тобой.

Плачет Родина, не стирая
Слез, струящихся по лицу,
Всею жизнью своей присягая
Полководцу,
Вождю,
Отцу...

У нядзелю да Кужалёў, наведаўшы царкву, завітаў Зміцер Зуб. Ішоў, як звычайна, абапіраючыся на кавеньку і заграбаючы левай нагою снежныя сумёты. Нават у сакавіку яшчэ ляжаў глыбокі снег і ціснуў мароз, часта кружыла, кідалася снегам мяцеліца. Такім часам і з’явіўся на парозе Зміцер. Ступіў у хату, абмёў венікам валёнкі і, стомлены, прысеў на ўслон каля сцяны. Загаманіў пра незвычайную мяцеліцу.

— Такая мяцеліца паднялася, быццам дзесьці хтосьці засіліўся. Гэты год зіма халодная, пад дваццаць градусаў, а ў 1920-м, як сёння помню, зімы зусім не было, у сакавіку з плугамі на поле выйшлі, араць пачалі. Гарачая пара з баразны паднімалася.

— Яшчэ зіма! — сустрэў сябра Лявон. — Мядзведзь толькі на другі бок павярнуўся.

— Ігеман памёр, — сказаў Зміцер.

— Памёр, — азваўся Лявон, не ўздыхнуўшы і не спытаўшы сябра, пра што гаворка. Аднадумцы, яны добра, з паўслова, адзін аднаго разумелі. — А яшчэ нядаўна сямідзесяцігоддзе спраўляў. Генералісімус.

— Некаторыя плачуць, шкадуюць.

— Шкадуюць.

— Рабы любяць сваіх тыранаў. Заўсёды гэтак было.

Адзін і другі прымоўклі, задумаліся. Фёкла таксама маўчала. Ёй было пажаночы шкада Сталіна, але яна, чуючы размову мужчын, не прызнавалася.

— Ну і што, — працягнуў сваю думку Зміцер, — думаеш, на тым і скончыцца? Хо-хо! Так не бывае. Знайдзецца новы. Нас не спытаюць. Жадаючых на яго месца шмат.

— Але, але! Нехта ў тое крэсла сядзе, — згадзіўся Кужаль.

Прыбегла нешта пазычыць Дзякрэта. Пачула, што гаворка пра Сталіна.

— Кіслае малако трэба піць, яно робіць чалавека здаровым, — сказала Дзякрэта. — Мне яшчэ маці пра гэта казала.

— А то яму якраз кіслага малака бракавала, — пасміхнуўся Зміцер. — У яго і птушынае было.

— Яму, пэўна, не бракавала, а наша Роза ад сілы тры літры ўдзень дае. А едакоў вунь колькі! Па кубачку толькі, а Апанасу часам і не дастаецца.

Пашушукаўшыся пра нешта на кухні з гаспадыняй, Дзякрэта пайшла.

— Нага баліць, ные, — паскардзіўся Зміцер. — Мне Коля ўколы робіць, рукасты ён у мяне, усё ўмее. Вясною на раку пойдзем, рыбу лавіць...

## III

Прабіў-такі шчупак хвастом лёд. Пачаўся веснаход з уласціваю яму чарадою светлых, радасных з'яў. У момант пацямнеў снег, пацяклі ва ўсе бакі ручаіны, агаліўся прасцяг поля. Няспынна дзьмуў ветрык-вяшняк, сушыў прускаўцам складзеныя каля хат дровы. На ўзгорках, вітаючы вясну, зацвілі блакітныя пралескі. Пяшчотнай, невыразнага колеру лістотай абсыпаліся дрэвы. Лёгкім зеленаватым пылам ахутаўся алешнік. Зазелянела і тая старая груша-дзічка, што знаходзілася паміж былым Шведавым полем і Пахолкавым шнурком, што ацалела на калгаснай ніве. Зазелянела, а потым і зацвіла. Стаяла, нагадваючы аб былой мяжы, непадуладная калгаснаму пагляду на рэчы, на свет, ахінуўшыся густой белай квеценню. Ажылі палі, цяпер ужо, вядома, калгасныя. Кіруючыся на поўнач, сеў адпачыць на іржышча клін дзікіх гусей. Далёкая ім яшчэ дарога!

Па падворках ужо хадзілі кураводкі з куранятамі.

Вызваліўся ад снегу калгасны двор, уражваючы сваёй захламленасцю: разбітыя вазы, струхлелыя сані, рассохлыя калёсы без абадоў. Нярадасным выглядала жыццё. Людзі хадзілі на работу, але за сваю працу амаль нічога не атрымлівалі.

Яшчэ горш пакутавала жывёла. Кармоў не было. Забіралі сена і салому ў калгаснікаў, але ўжо і ў калгаснікаў нічога не засталося. Каб хоць як выйсці са становішча, здзіралі старыя саламяныя стрэхі і тым кармілі коней. Салома са стрэх і ратавала. Прохар Грудка, які ўсё мог перайначыць на жарт, казаў:

— Галёнкаў конь страху на вачах з'еў!

— Чыю?

— Маю!

Меркаванні, паказкі калгаснікаў даходзілі і да старшыні.

— Ну, што зробіш — не ўлічылі крыху кармавую базу, — апраўдваўся Прыбылоў.

У красавіку аралі пад ярыну. Прускаўская зямля не сказаць, каб добрая, — бедная солямі глеба шэравата-белага колеру, падзол. Гаспадарыць на ёй трэба ўмець.

— Ну, хлопцы, зямля ўжо гатова, сеяць трэба, — прыспешваў Хвядзюшка, ужываючы свае брыгадзірскія паўнамоцтвы і ўладу. — Грачыху трэба пасеяць, грачыху! — настойліва паўтараў ён. Апошнім часам Хвядзюшка пры выпадку стараўся мясцовае слова замяніць іншамоўным, рускім: грэчку называў грачыхай.

У ставах на Крухмальні заквакалі жабы.

— Жабы заквакалі, — як бы пракаменціраваў Оргій Ламака, — дык авёс будзе добры.

— Халадрыга! — скардзіўся на холад і хаваўся ў каўнер Апанас Хомка.

— Рана сеяць — зямля яшчэ халодная, — запярэчыў Пятрук Андраюк з выгнанкі. Пятрук — гаспадар аўтарытэтны, яго паважалі.

— Не пачынай араць, пакуль баразна блішчыць, а то яе не разбарануеш, — дадаў Лявон, успомніўшы земляробчыя сакрэты дзеда Гірылы.

Калгаснікаў падтрымаў старшыня Прыбылоў, але з іншай прычыны:

— Адсеяцца паспеем. На іншае трэба мабілізавацца.

— На што? — не мог стрымаць цікаўнасці Прохар, шкрабучы за вухам.

— Таварышы! Сёння нам вельмі важна своечасова выканаць пастанову райвыканкома аб зборы попелу і нарыхтоўцы торфафекаліяў, — патлумачыў ён. — Без гэтага мы нішто.

Райком — усяму галава, з ім не паспрачаешся. Там сядзеў таварыш Архараў — сачыняў загады, якія называліся пастановамі. Архараў не адзін, у яго апарат, які падбірае кадры, рыхтуе пастановы і сочыць за іх выкананнем. І столькі пастаноў, распараджэнняў, інструкцый выдаецца нагара, што яны фактычна ахоплівалі ўсе выпадкі жыцця. Здавалася б, рабі, што трэба, і толькі паспявай у тэрмін. Аднак не — якраз гэта і не дазвалялася. Дзе і што сеяць, трэба было ўзгадняць з райкомам. Райком усім даваў наганяй, асабліва даставалася старшыням калгасаў. Тыя, у сваю чаргу, не шкадавалі тумакоў падначаленым. Людзі ўваходзілі ў новы стан, рабіліся паслухмянымі, выконвалі ўсё, што загадаюць.

План па зборы попелу і нарыхтоўцы торфафекаліяў у калгасе імя Сталіна быў выкананы. Не паспелі прыступіць да сяўбы, як пазванілі з райкома:

— Канчай сеў! У Кругелі даўно адсеяліся, а вам што — асобная дырэктыва трэба?

— Тэхнікі не хапае! — апраўдваўся Прыбылоў.

— А ў Кругелі хапае? — гучаў у трубцы райкомаўскі голас.

Кругель — вёска па другі бок раёна. Не так і далёка, але адрозненні ў прыродных умовах ёсць, і гэта варта было б улічваць. Аднак пад увагу гэта не прымалася. З райкома прыехаў інструктар. Націснуў. Адсеяліся. Крыху не хапіланазапашага пасяўнога матэрыялу, дык давялося пазычыць у суседзяў у Астрамечове. Там справы ішлі лепш, урадлівейшая была зямля.

— Таварышы! — звяртаўся старшыня да падначаленых. — Паднаціснем яшчэ і будзем у перадавіках. Патрэбны ўпарты рытм працы! Кроў з носа, а выйдзем уперад!

Днём працавалі на калгасным полі, вечарам і ў выходныя дні абраблялі свае соткі. Пасля Вялікадня прускаўскі люд збіраўся сеяць на сваіх сотках бульбу. Праўда, у Прусцы казалі не «сеяць», а «садзіць». Картоплі «садзілі».

Але ж, каб абрабіць хай сабе і невялікі ўчастак, патрэбен конь, плуг, яшчэ які інвентар. Тут ужо ўсё залежала ад таго, як паставіцца да цябе брыгадзір, ад яго ласкі. Некаторыя — колькі там тых сотак! — ускопвалі лапатамі. Зямлі не хапала. Ускопвалі і засаджвалі бульбай нават утравелыя падворкі і прыгуменні, дзе спрадвеку ляжаў дзірван...

* * *

У Прускаўскай школе заканчваўся навучальны год, калі з'явіўся новы дырэктар Мікалай Пятровіч Рудкоўскі. Зняты з пасады Рытатуй да гэтага часу паспеў з'ехаць, пакінуўшы пераемніку школьную кватэру. Мікалай Пятровіч прыехаў не адзін, а з жонкай Антанінай Фердзінандаўнай. Інвалід, але сваё інваліднасць пераносіць стойка. Спраўна піша левай рукой, замест правай у яго — пратэз. Апроч таго, відаць, што кантужаны. Галава часам нервова ўздрыгвае, хіліцца на бок. Ветэран вайны, можна сказаць, герой.

Антаніну Фердзінандаўну ў гэтым сэнсе лёс убярог, паставіўся, дзякуй богу, больш ашчадна. Яна здаровая, прыгожая, вясёлая. Чарнявая, з тонкімі лініямі вышчыпаных броваў. Насіла бэзавага колеру світэр, які зваблівa аблягаў яе стройную постаць, гнуткую талію, рукі з тонкімі запясцямі. У абаіх на грудзях новенькія сінія ромбікі — сведчанне таго, што і Мікалай Пятровіч і Антаніна Фердзінандаўна скончылі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Ён — геолага-геаграфічны, яна — біялагічны факультэты. Адпаведныя прадметы вялі ў школе. Пры гэтым Мікалай Пятровіч нярэдка замяшчаў жонку, прыходзіў на ўрокі па анатоміі або па асновах дарвінізму замест Антаніны Фердзінандаўны, якая, нягледзячы на здаровы выгляд, часта хварэла ці проста недамагала.

Іх паважалі як людзей адукаваных. Так яно і было. Мікалай Пятровіч звычайна прыносіў з сабой на ўрок і ставіў на стол вялікі зялёна-блакітны глобус. На ўроках па сваім прадмеце — геаграфіі — ён надзвычай цікава расказваў пра розныя экзатычныя краіны і міжнародныя стасункі і сітуацыі. Распавядаючы пра якую-небудзь краіну, ён паведамляў пра месцазнаходжанне ў ёй амерыканскіх ваенных баз, калі такія былі ў наяўнасці, прыкідваў па глобусе адлегласць яе ад СССР і рабіў выснову:

— З гэтай краіны можна даляцець да нас на самалёце і скінуць атамную бомбу.

Вучні змаўкалі, ад страху заціхалі, вельмі баяліся атамнай бомбы. Баяліся ўсе. Гэты страх насіўся ў паветры, чуўся ў размовах, струменіўся з газетных старонак.

— Ворагаў у нас шмат, — развіваў свае думкі Мікалай Пятровіч. — Увесь Захад. Нічога не зробіш — капіталісты. Асабліва не падабаемся мы Амерыцы. Амерыканцы страшаць нас атамнай бомбай, процьму баз пабудавалі вакол Савецкага Саюза: Еўропа, Бліжні Усход, Японія, Карэя... Жалезабетон, жалезабетон, жалезабетон!

Як бы дапаўняючы тое, што гаварыў, ён узбуджана жэстыкуляваў, энергічна махаў здаровай праваю рукою, тыкаў указкай у глобус, круціў яго справа налева і наадварот. Выйсця з гэтага становішча, з гэтага замкнёнага кола, здавалася, ужо і не было, заставалася толькі чакаць канца. Але не! Мікалай Пятровіч умеў рэзка павярнуць сюжэт аповеду, зрабіць нечаканы вывад і палепшыць настрой.

— Ну, што ж, — іх справа будаваць, наша справа — ламаць! Паламаем і жалезабетон! — казаў ён, адышоўшы ад стала з глобусам.

Пачуўшы гэта, вучні з палёгкай уздыхалі.

Захапленне Мікалая Пятровіча — шахматы. Адразу ж арганізаваў шахматны гурток, пачаў вучыць ходам — як ходзяць пешкі, коні, афіцэры ды іншыя фігуры. Валодзя ўжо меў такі-сякі першапачатковы вопыт — Моня Літвінаў навучыў, але шахматы — гульня дужа складаная.

— Ну, давай з табой! — ацаніўшы шахматныя навыкі падлетка, запрашаў згуляць Мікалай Пятровіч.

— Дык я слаба гуляю.

— Чаму? Мінулы раз ты надта ўдала зрабіў ракіроўку! А так быў бы мат.

Валодзя згаджаўся. Мікалай Пятровіч ішоў на ўступкі:

— Я буду без каралевы.

— Не, гэта зашмат. Можа, без афіцэра?

— Без афіцэра нельга, я сам афіцэр, капітан. Давай — без каня.

— Добра.

Выйграваў Мікалай Пятровіч і без каня.

Спадабаўся вучням новы дырэктар — просты, даступны, дасведчаны, нікога не крыўдзіў. Шчыра палюбілі яго і падлеткі, і юнакі.

— А як вас, Мікалай Пятровіч, параніла? — спытаў аднойчы Жоржык Хомка.

Былы франтавік адказаў сціпла:

— Я танкіст, нас гінула многа. У танках гарэлі. Мае, вадзіцель і стралок, у машыне знаходзіліся. — Мікалай Пятровіч змоўк, прыткнуў здаровую руку да лба і доўга стрымліваў сябе, каб суцішыць успаміны. Нарэшце працягнуў: — Карціна, я вам скажу, адчайная. Мне ўдалося адкрыць люк і выскачыць. Я ў целагрэйцы, у люк пралазіў свабодна. Вылез. Усё навокал гарэла, чуліся енкі параненых. Крыкі, стогны. А санітараў нешта не відаць. Патом выскачылі Лёшка з Ванюшкам. А «цігр» з кулямёта ўдарыў. Мы за «трыццацьчацвёрку» запаўзлі. А тут снарад зямлю ўзбурыў. Асколак трапіў у руку. Але мне яшчэ пашанцавала, Лёшка з Ванюшкам былі ўжо нежывыя. Абгарэлыя, адзенне яшчэ тлела, ляжалі каля машыны. Шкада, вельмі шкада! Цудоўныя былі рабяты! Смелыя...

Мяркуючы па тым, як ён пра ўсё расказваў, гэта быў валявы, энергічны камандзір.

— Падабралі мяне. Доўга па шпіталях валяўся. У Кіеве, у Сочы... Паправіўся і мірную спецыяльнасць вырашыў атрымаць. Быў набор у Беларускі ўніверсітэт, паехаў паступаць. Паступіў... Я ў Мінску ўніверсітэт скончыў. Геаграфічнае аддзяленне. Студэнцкія часы надта галоднымі былі, па картачках...

Свой аповед Мікалай Пятровіч ніколі не даводзіў да канца, мяняў гаворку, казаў пра што іншае. Усе аднак ведалі, што Антаніна Фердзінандаўна вучылася ў тым жа ўніверсітэце на біяфаку. Пажаніліся адразу як толькі пазнаёміліся, на чацвёртым курсе. А пасля пятага было размеркаванне, накіравалі ў Заходнюю Беларусь, у Брэсцкую вобласць. Гэтак і трапілі ў Пласкаўскую школу.

Мікалай Пятровіч і Антаніна Фердзінандаўна, усе бачылі, жылі ў згодзе, асабліва на першых парах. Здараліся, вядома, і нелады, але каханне брала верх, прыводзіла да згоды, да ўзаемапаразумення. Справа пагоршылася, калі Мікалай Пятровіч стаў лішні раз прыкладацца да чаркі. Што яго вымагала да гэтага — невядома. Магчыма, калецтва? Раніца, і Мікалай Пятровіч пакуль што цвярозы, трымаецца школы, ходзіць на ўрокі, у тым ліку дае ўрокі замест жонкі, але пад абед не вытрымлівае і рухаецца ў бок Салівэсевай лаўкі, як называлі пляскаўцы свой магазін. У лаўцы і каля яе звычайна таўкуцца людзі, каля іх ацiраюцца падлеткі, якія, як вядома, надта цікавяцца жыццём дарослых. Часам можа пашанцаваць і на цукерчыну, бо ў Салівэся ёсць і цукеркі.

Мікалай Пятровіч праходзіць з незалежным выглядам, ні на каго не звяртаючы ўвагі. Бярэ, а калі няма грошай, дык «напавер», пляшку віна. Аддаваў перавагу «Вішнёваму». Пры адсутнасці «Вішнёвага» абыходзіўся «Яблычным». Абавязкам Салівэся было адкаркаваць бутэльку, паколькі Мікалаю Пятровічу з адной рукой цяжка гэта зрабіць. Лавачнік, адбіўшы сургуч, спраўна, з другога ўдару, выбіваў корак далонню і перадаваў паўлітэрку пакупніку. Мікалай Пятровіч выходзіў на паветра і, спусціўшыся з ганка, рабіў першы, самы працяглы і смачны, глыток. Затым ён пускаўся ў падарожжа вакол магазіна, абапіраючыся плячом аб сцяну, спыняючыся, адпачываючы, і час ад часу, з пэўным рытмам, прыкладваючыся да рыльца бутэлькі. Падлеткі ўважліва сачылі, калі бутэлька апусцее, і дырэктар па сцяне, абапіраючыся на здаровую руку, апусціцца на дол. Тады яны падыходзілі, асцярожна бралі знямоглага Мікалая Пятровіча за плечы і за ногі, падтрымліваючы галаву, і неслі дадому — у школу, дзе знаходзілася дырэктарская кватэра. Пасля таго, як міналі Дзванарыкаву лужыну, Мікалай Пятровіч звычайна ачуньваў, прыходзіў у сябе і патрабаваў паставіць яго на ногі. Дазваляў, праўда, весці сябе пад рукі.

Віно выцягвае з чалавека яго нутро, яго падсвядомасць, разнявольвае, дазваляе рабіць нават такое, чаго ад яго не чакалі. Параўняўшыся з хатай Кужалёў, Мікалай Пятровіч рэзка спыняўся, рабіў размашысты жэст рукой, адганяючы ад сябе хлапечую світу. Так было і гэтым разам. Хістаючыся, ён павярнуў да веснічак, ухапіўся і адчыніў іх, крыху паўзіраўся перад сабой, як бы кагосьці шукаючы вачыма. Бразнуў ланцуг і з-за хаты, пакінуўшы сваю будку, выскачыла Нэрка. Пазнаўшы знаёмага, колькі разоў прыветліва гаўкнула, радасна завіляла хвастом і высалапіла язык. Мікалай Пятровіч праз зарослы траўкай-мураўкай і дробнымі пахучымі рамонкамі двор подбегам пайшоў ёй насустрач. Відаць было, што сустрэча прыемная для абодвух бакоў. Нэрка, не чакаючы дазволу, скочыла пярэднімі лапамі госцю на грудзі, яшчэ больш завіляла хвастом, пачала лашчыцца і паваліла п’янаватага Мікалая Пятровіча на дол. З ім ёй добра, яна шырока адкрывае бялюткія зубы, высоўвае язык, быццам бы смяецца, аблізвае, тармошыць лапамі. Мікалай Пятровіч таксама ў захапленні.

— Эх! — лежачы, гладзіць яе за вухам. — Якая ў цябе разумная морда!

Побач на падворку расце разгалісты каштан. За плотам мрэе на цёплым сонцы стары сад. Усё, здаецца, з прыемнасцю пазірае на гэтую ідылію. Мікалай Пятровіч і Нэрка працягваюць валтузіцца на траве. Выглянула з сяней Фёкла, яна парыла свінням бульбу ў вялікімі сагане. Ёй такая дружба школьнага дырэктара з Нэркай не падабалася.

— Мікалай Пятровіч, Мікалай Пятровіч! Міленькі! Нядобра гэта, не трэба так! — паўшчувала яна, сарамліва паправіўшы хустку. Падышла, узяла Нэрку за ланцуг, адцягнула ў будку.

Бедны Мікалай Пятровіч спрабаваў супрацьстаяць:

— Ну, нашто вы, Фёкла Цімафееўна? Нашто вы гэтак? Чаму? Гэта вельмі сурова!

Але Фёкла была няўмольнай, і ён нарэшце адступіў ад сабакі, прысунуўся бліжэй да плота, у цянёк, аціх і заснуў. Ён спаў, каля носа раіліся мухі, якіх ён адганяў сваім шумным дыханнем. Антаніна Фердзінандаўна па яго не прыходзіла.

Валодзя разам з усімі быў здзіўлены такімі паводзінамі дырэктара. Аднак дзіўная рэч: пасля таго, як адкрылася гэткае ў жыцці Мікалая Пятровіча, ён не ўпаў у яго вачах і не страціў павагі. Не ўпаў ён і ў вачах настаўнікаў. Вечарам Мікалай Пятровіч гуляў у шахматы з вучнямі. Асабліва ўдала гэта ў яго атрымлівалася, калі быў на падпітку.

— Чалавек ён пры ўсім пры тым цалкам правАздольны, — казаў пра яго Васіль Іванавіч Клюка.

— Правараздольны і правадзейны, — падтрымліваў калегу Мікалай Фаміч.

## IV

Калгасныя справы ішлі сваім парадкам, сваім рэчышчам. Той жа вясною пабудавалі плаціну на Плісе. Прыбылову дужа не цярпелася завесці рыбную гаспадарку і, абавязкова, каб былі карпы. Яго ўразілі памеры таго карпа, якога Макацёр бачыў у Брэсце, у рыбным магазіне. Рыбай можна было б і гандляваць, вазіць на продаж у Брэст.

Перш за ўсё ён узгадніў гэтае пытанне з райкомам партыі, без дазволу якога нічога не рабілася, старшыня калгаса самастойна мала што меў права вырашаць. Райком — сам Харахорын — дазволіў. «Пад вашу адказнасць!» — сказаў ён. Прыбылоў адчуваў сябе на ўздыме. Сам лёс даваў шанс. Перад пачаткам будаўніцтва правялі кароткі мітынг. Прыбылоў успомніў, як праводзілі мітынгі на тым заводзе, на якім ён працаваў у ваенны час.

— Усё для будаўніцтва, усё для перамогі! — абвясціў ён у сваёй прамове перад калгаснікамі. — Зробім нашу сацыялістычную калгасную гаспадарку ўзорнай, каб на нас ехалі паглядзець...

— На нас і так ездзяць, — азваўся перасмешнік Прохар Грудка, выкарыстаўшы старшынёву агаворку.

Усе засмяяліся, але старшыня не надаў гэтаму значэння, ён скончыў з уласцівай яму высакапарнасцю:

— Каб у першых радах ісці па шляху да камунізму! Цяпер плаціны будуюць паўсюль — на Волзе, на Дану, на Енісеі. Будуюць электрастанцыі! Канешна, амерыканскія імперыялісты гатовыя гэтаму перашкодзіць, аднак гэта ім не ўдасца. На нашым баку працоўныя ўсяго свету!

Ён кіраваў гэтым будаўніцтвам. Для рэалізацыі старшынёвага праекта сабралася брыгада будаўнікоў з Ратайчыц: землякопы, муляры, цеслі. Ачысцілі тэрыторыю будучага рыбгаса ад хмызняку і дрэў, пакінуўшы толькі пянькі. Перш чым перакрываць Плісу і будаваць запруду, зрабілі праз Крухмальню, праз сістэму ставоў, абходны сток, каб аслабіць імклівы напор рачной вады. Плынь спала, тады прыступілі да будаўніцтва самой плаціны. Узводзілі яе з камянёў, жалеззя і цэментнага раствору, глыбока асадзіўшы фундамент у рачных берагах, абсаджаных вербамі.

Аднак знайшліся ў гэтага праекта і праціўнікі, галоўны з іх — загадчык сельскагаспадарчага аддзела райвыканкома Лазуцін, які прыехаў на фурманцы і заявіў літаральна наступнае:

— Таварышы! Мы не тое робім. Замест таго, каб паднімаць ураджайнасць зернавых, каб дбаць пра бульбу, скараціўся скот, мы захапіліся будаўніцтвам плаціны. Гэта — утопія. Пражакцёрства. З вадою шуткі плохі! Гэта — утопія, — зноў паўтарыў Лазуцін. Над нізкім ілбом у яго па-ранейшаму тапырыліся кароткія рудыя валасы.

— Не бойся, не ўтопімся! — спрабаваў жартаваць Прыбылоў, але Лазуцін застаўся, па ўсім відаць, пры сваёй думцы.

— Гэта — грубейшая памылка, таварышы! — стамляючыся палемізаваў ён на пасяджэнні калгаснага праўлення, адводзячы ўбок свае касавурыя вочы. На носе ў яго густа пачырванела цёмная драпіна, якую пакінула калісьці пры зборы падаткаў Тупчыкава Гапа.

— Не вучыце рыбу плаваць, — бараніўся Прыбылоў. Урэшце ён спаслаўся на райком: — Нас падтрымаў райком! Сам таварыш Харахорын на нашым баку. Гэта пра нешта гаворыць?

Адвіслая ніжняя губа ў Лазуціна адтапырылася яшчэ больш, ён нічога не сказаў, загадаў фурману ехаць у суседні калгас імя Мічурына.

Плаціна атрымалася на славу: магутная, закаваная ў бетон, крыху выгнутая, каб супрацьстаяць напору рачной плыні. Такую, здавалася, нішто не зрушыць.

У ставах рэзка падняўся ўзровень вады. Цяпер трэба было тыя ставы «зарыбіць», што таксама выклікала дыскусію.

— Дык, можа, лінёў завесці? — падаў сваю прапанову рыбак Оргій Відэрка.

— Лінькі, мянькі — гэта не тое, іх і ў рацэ можна злавіць, — запярэчыў Хвядзюшка, які меў голас як брыгадзір.

— І пару шчупакоў трэба ўпусціць.

— Ну, гэта ўжо шкодніцтва, — насупіўся Багатэль.

— Каб карась не драмаў! — напомніў Відэрка, і ўсе засмяяліся.

Малькоў везлі аднекуль ажно з-пад Пінска. Разам з імі ў другой вялікай бочцы даставілі пару карпаў-семяннікоў. Вялікія, белабрухія, люстраныя, амаль такія, якіх Цішка Макацёр бачыў у Брэсце, у рыбным магазіне каля базара. Пусцілі ў ставы і малькоў, і гэтую пару дарослых.

— Карп не абы-які, а зяркальны! — хваліўся, паціраў рукі Прыбылоў. — Ну, таварышы, гэта гістарычная падзея.

Вартаваць ставы, «рыбаводам», паставілі старога рыбака Оргія Відэрку. Яго высокую, сухарлявую постаць часта можна было бачыць каля плаціны і да краёў перапоўненых вадою ставоў. Раніцай і ўвечары ён рабіў рыбе падкормку, кідаў у ваду камбікорм.

Справа была, як кажуць, на мазі, засталося толькі дачакацца першага ўлову.

* * *

Набылі для старшыні, са згоды праўленцаў, каня — данскога рысака. На легкавушку яшчэ не ставала грошай, а рысак Прыбылову прыдаўся. Бойкі і быстраходны, здольны на жвавы алюр, ён атрымаў ад калгаснікаў мянушку Пісталет. Яго гэтак і называлі. Гэта быў данскі рысак светла-шэрай масці з белымі «шкарпэткамі». Абышоўся калгасу не танна — у сто тысяч.

— Старшыня павінен мець прывілеі — на тое ён і старшыня, — гаварылі праўленцы. — Ён усюды павінен паспець, пасада такая.

Прыбылоў раз'язджаў на сваім Пісталеце па калгасе, па брыгадах, даваў указанні, правяраў выкананне. Некаторыя пацішу смяяліся.

— На кані сядзіць, як сабака на плоце, — не надта прыхільна, нават здзекліва, убачыўшы старшыню на кані, казаў Арцік Каленік.

— Праўду кажаш! — засмяяўся Прохар Грудка.

Але Прыбылоў на размовы не звяртаў увагі. Ён імкнуўся ўперад, імкнуўся да славы.

* * *

Вечарамі да застаўні любілі хадзіць пruскаўскія дзяўчаты, купаліся, плёскаліся ў рэчцы, гаманілі, спявалі песні. У нядзелю іх галасы чуліся ўвесь дзень. Дзе дзяўчаты, там і хлопцы. Пад вечар даносілася песня:

Клён зеленый,
Лист резной.
Я влюбленный
И смущенный пред тобой...

Гэта была пара юнацтва, узрост рамантычных планаў і спадзяванняў. Адмянілі нарэшце плату за вучобу. Лягчэй стала бацькам ды і самім вучням. Таму, ці з узроставым пасталеннем, пашырэннем жыццёвых даляглядаў, вучыцца стала цікавей, з'явілася нават прага ведаў. Вабілі — і прыродазнаўства, і гісторыя, і мова, і літаратура. Школьная насценная газета мела назву «За учёбу», а зверху, намаляваны меншымі літарамі, стаяў заклік «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!», які ўстанавілі калісьці па загадзе Міколы Фаміча Шпронькі, калі ён быў дырэктарам. Цяпер заклік змянілі, па прапанове Мікалая Пятровіча, на новы: «Учиться, учиться и учиться!» (В. И. Ленин)» Апошнім часам у школе загаварылі пра беларусізацыю, гэта значыць, каб усе прадметы выкладаліся па-беларуску, аднак не ўсе настаўнікі былі на гэта згодныя. Васіль Іванавіч Клюка сцвярджаў, што школьніку для набыцця ведаў дастаткова рускай мовы. Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Надзея Дзмітрыеўна Мацюшонак не пускалася з ім у спрэчкі, бо яшчэ з інстытуцкіх гадоў асцерагалася, як яна сама прызналася, трапіць у «нацдэмы». Тады бяды не абярэшся.

Школьная бібліятэка была не вялікая, але досыць прадстаўнічая: кнігі пісьменнікаў, паэтаў, навукоўцаў, падарожнікаў, успаміны франтавікоў і партызан, даведачная літаратура. Валодзя прачытаў амаль усё. Асабліва зрабіла ўражанне і зацікавіла кніга «Зямля Саннікава» пісьменніка-геолага Уладзіміра Обручава. Зямля, аказваецца, яшчэ далёка не вывучаная, не асвоеная, не даследаваная, ёсць яшчэ мясціны, куды ні разу не ступала нага чалавека, і там могуць быць іншыя людзі і іншыя ўмовы жыцця, іншы лад і звычаі. Гэта вабіла і прыцягвала.

І яшчэ адно яго захапленне — ёга. Гэта пасля таго, як прачытаў тую кнігу, што ўзяў у Колькі Кажадуба ў Брэсце. Гаворка ў ёй ішла пра шлях духоўнага і фізічнага вызвалення чалавека, пра складаныя фізічныя практыкаванні, з дапамогай якіх ён можа дасягнуць незвычайнай сілы, вынослівасці, вытрымкі. Ёга гаварыла пра вялікія магчымасці чалавека, яго патаемныя, скрытыя сілы. Эпіграфам да кнігі, на першай старонцы, стаялі дзіўныя словы: «Каждая душа потенциально божественна». Валодзя не адразу дадумаўся, не адразу ўцяміў сэнс гэтых слоў. Аднак кніга — яе аўтарам быў нейкі Свамі Вівекананда — падбадзёрыла юнака, духоўна яго падвысіла, надала сіл і дужасці. Пачаў уставаць на золку, рабіў зарадку. Затым босы бег на раку, збіваючы з травы пышную расу. Лосьна цякла, плыла, не спяшаючыся, прыгожая і раўнадушная да ўсяго, што адбывалася навокал. Яе не цікавіла, як жывуць людзі, які час. Ранішняе паветра прыемна халадзіла разгарачаны твар, грудзі. У затоцы і ўздоўж берагоў ціха перашэптваліся паміж сабою трыснягі, адлюстроўваючыся ў рачной гладзі.

Распранаўся, лез у ваду, плаваў, а потым вучыўся, як гэта рэкамендаваў Вівекананда, піць ваду носам, ноздрамі. Ніяк не мог асвоіць позу лотаса, але нарэшце, як яму здавалася, асвоіў.

Воддаль, па левы бок, упарта займаўся ранішняй гімнастыкай, фізічнымі практыкаваннямі настаўнік Васіль Іванавіч Клюка. Яны стараліся адзін другога не заўважаць. Васіль Іванавіч быў поўнасцю заняты сабой, выкананнем сваёй адмысловай гімнастычнай праграмы: бегаў, падскокваў, размахваў рукамі, пляскаў у далоні. Блішчэла, ззяла на сонцы яго лысіна. Адчувалася, што

чалавек імкнецца падтрымліваць сябе ў добрай фізічнай форме, як бы рыхтуецца да чагосьці адказнага ў сваім жыцці. «Па гадах Васіль Іванавіч равеснік дзядулі Лявона, які ўжо, як ён кажа, сёмы дзясятак размяняў, аднак не скача і не размахвае рукамі гэтак, як Васіль Іванавіч», — падумаў Валодзя, здалёк зірнуўшы на фізкультурніка.

Скончыўшы ўсе працэдуры, Валодзя выціраўся ручніком, апранаўся і ішоў дадому. Раса к таму часу ўжо ўзнімалася над лонкаю лёгкім туманком. Настрой выдатны. Валодзю здавалася, што гэтыя яго ранішнія практыкаванні рабілі цела здаровым і вынослівым, а душу чыстай і строгай.

Але што цікава — тое, што ён вычытваў з кніг, ніяк не гарманіравала з тым, што адбывалася навокал...

## V

Памёр дарожны майстар Восіп Дзванарык. Памёр нечакана. Зрэшты, такія рэчы, як смерць і не могуць быць інакшымі, як толькі нечаканымі, бо не ведае чалавек, калі памрэ, калі пакіне гэты свет. Яшчэ нядаўна Восіп «ва-ўсю» вытылінгваў на скрыпцы. Музыку чуваць было і ў хаце, і каля хаты. Іграў надта вытанчана, можна сказаць, не іграў, а выцінаў. Скрыпка ў яго руках спявала. Рэпертуар пастаянны: полька, кракавяк, падэспань, абэрак. Зімой поўная клуня снегу, салома мокрая, сячкарня не цягне, а Восіпу няма ні да чаго справы, вецер пасе, іграе. Не было таго дня, каб ён не ўзяў у рукі скрыпку ды не ўцяў якога-небудзь іскрыстага абэрака. Шкада толькі, што ніхто не танцаваў. Перад гэтым звычайна ехаў у суседнюю Выгнанку да Галені па самагонку. Да Салівэся звяртаўся рэдка, аддаючы перавагу праверанаму і крыху таннейшаму Галенінаму напою. Сядаў на ровар і ехаў. Людзі бачылі, як ён не мог ехаць на тым ровары супраць ветру. Не хапала сілы круціць педалі. Тады злазіў з ровара, вёў яго за руль, — гэтак было прасцей змагацца з ветрам.

Па выглядзе рабіў ураджанне прыгнобленага жыццём чалавека, зламанага і стомленага, але калі паўшклянкі выпіваў і браўся за скрыпку, стомленасць быццам рукой здымала. Любіла паслухаць скрыпку жонка Софа — асоба гэтаксама досыць інтэлігентная. Яна шмат чытала, асабліва любіла Дастаеўскага. Сялянскай працы — сярпа і калаўрота — Софа не ведала. Для хатніх спраў Дзванарыкі трымалі пакаёўку, а Софа галоўным чынам палівала кактусы, што стаялі, болей за дзясятак, у керамічных гаршчочках на падаконніках. Іграючы, Восіп няўцямна пазіраў на кактусы і на тую вялізную лужыну, што разлеглася перад самымі вокнамі і не перасыхала цэлы год, і якую даводзілася абыходзіць усім, хто ішоў прускаўскай вуліцай. Некаторыя, хто лічыўся найбольш дасведчаным, казалі, што ў лужыне жыве балотнік, які ахоўвае Дзванарыкаў і іх абсады, але не ўсе ў гэта верылі.

Дзванарык працаваў дарожным майстрам, і ў Прусцы не раз казалі: «Хай бы Восіп хоць трохі паклапаціўся, засыпаў гэтую калюжу, а то не прайсці. Не прайсці і не аб'ехаць, асабліва пасля дажджу». Але Восіп глядзеў на прапанову досыць скептычна, хутчэй па-філасофску сузіральна, чым зацікаўлена. Магчыма нават, што відовішча паўнаводнай лужыны ў нечым і цешыла. У яе роўнай гладзі адлюстроўваўся навакольны свет, куст бэзу каля хаты Оргія Відэркі і сама хата з зарослым зялёным мохам саламяным дахам, воблакі, неба. Восіп доўга і моўчкі пазіраў на ўсё гэта...

Памёр ён неяк нечакана — каўтнуў паўшклянкі, сыграў абэрак, паклаў на канапу скрыпку, прылёг побач і памёр. Лёгкая смерць. Хаваў айцец Клаўдзій,

цесць. Хоць нялёгка гэта яму было, але адпеў зяця, як трэба, па ўсіх правілах. Восіп быў жанаты на яго дачцэ — Софе. Існавала прымаўка: не купляй у цыгана каня, не бяры замуж папоўскую дачку. Але, відаць, і ў прымаўках ёсць выключэнні. Восіп і Софа жылі дружна, без канфліктаў, у згодзе.

Пасля смерці Восіпа пакаёўка сышла, і Софа засталася на гаспадарцы адна. Але якая гэта была гаспадарка? Адна карова. Ну, яшчэ пара курыц. Цяпер, калі яна засталася ўдавою, ёй нібыта нанова давялося пачынаць жыццё, па-новаму адкрываць для сябе яго сэнс, і пайшла Софа ў калгас. Зласліўцы абгаворвалі, смяяліся:

— Улезла, як сучка ў збан! Калгас ёй трэба...

— Паглядзіце, — ківала на Софу Ганна Бочка, — пры Восіпе, калі ён жыў, дома сядзела, пазногці тачыла, да работы не дакраналася, а цяпер?..

— Мілая, жыццё ўсяму навучыць, — уздахала Куліна Каленік.

І пачала бедная Софа адбываць падзёншчыну, растала, растварылася ў калгаснай масе. Не ныла, не скардзілася на долю, стала цярплівай, падтрымлівала іншых, трымалася жаночага гурту.

Прывязаўся быў прускаўскі брыгадзір Хвядзюшка, якому яго прыяцель Багатэль убіў у галаву, што быццам бы ў Софы пасля смерці Восіпа засталася «тэчка», гэта значыць партфель, — з жоўтай скуры, на два замкі, з залатой манаграмай. Засталася аднак не «тэчка», а скрыпка, якая Хвядзюшку, вядома, не спатрэбілася. На працу Софа выходзіла штодня.

— Ой, людкове, каб не калгас, што б я рабіла? — часта здзіўлена казала яна сваім новым сяброўкам — вясковым кабетам, каб патлумачыць сваё становішча, свой настрой і маральны стан.

— На жаль, нічога не маем з таго калгаса, апроч таго, што Хвядзюшка палачкі ў сшытак запісвае, — скардзіліся жанчыны, але Софу ў яе працоўных зацікаўленнях паважалі.

Сярод людзей Софе было ўтульней, чым адной. Назаляла часам Амелія, якая жыла побач, праз сцяну. Сястра нябожчыка-мужа. Сустракаліся, вядома, часта.

— А я бачыла чорта, — не то жахалася, не то хвалілася яна, глыбей хутаючыся ў свой коц. — Нячысцік. Надта шпарка бег. За канём чорт, вядома, не ўгоніцца, а чалавека ў два шчэнты дагнаць можа. Калі я прыгледзелася, ды пазнала. Гляджу, а гэта старшыня Прыбылоў!

Софа добра ведала сваячку і на яе фантазіі і прыдумкі старалася не зважаць.

Скончылі будаваць застаўню, і праз тыдзень-другі выйшла калгасная Пруска на луг — пачаўся сенакос. Вясна перайшла ў лета. У гэты год трава ўрадзіла па пояс. Нейкае травяное буйства, у якім нястомна стракацелі конікі. Нерухома стаялі, вытыркаючыся з густога мурагу, рудаватыя мяцёлкі конскага шчаўя. У паветры разносіўся мядовы водар салодкай канюшыны. Як заўсёды ў гэты час, высока ў небным блакіце танцаваў жаўранак.

Касцы — у саколках, трыкатажных па модзе майках без рукавоў і каўняра — пайшлі ў наступ на гэты высокі, сакавіты травастой. Крута ўставалі за імі зялёныя пракосы. З граблямі пайшлі ўвішныя жанчыны, пачалі падварушваць сена. На сенажаці звычайныя для гэтага часу рух, уздым і звонкая людская гамонка. Праца — ад цямна да цямна. Летняя ноч кароткая, але і за такую кароткую ноч дзень паспявае выспець, набрацца новых сіл і свежасці. Гэта адчувалася літаральна ва ўсім. Апроч таго, талака стварае яшчэ і добры настрой. Сена грэблі, сушылі, складалі ў копы. Яно хутка сохла, і яго пачалі стагаваць. Стаяла гарачыня, ператвараючыся ў нямую спёку.

Сена — у калгас, але кожны не забываў і пра ўласную гаспадарку. Для сябе касілі пры дарогах, у карчах, лясных закутках, — усюды, дзе расла трава. Касілі, жалі сярпамі і, сырую, насілі рэзгінамі, а найбольш посцілкамі. Сушылі недзе за хлявамі, далей ад людскога вока, бо мог прычапіцца хто-небудзь з калгаснага начальства — як-ніяк — крадзенае.

Фёкла таксама насіла, назапашвала сена сваёй Ланьцы. Сырая трава важкая. Закінуць посцілку за спіну і несці — цяжка. Адлегласць няблізкая. Моцна балелі здранцвелыя рукі, спіна. Але гэта яшчэ паўбяды, можна было цярпець. Галоўнае, насіць было небяспечна, адольваў страх, што ўбачыць старшыня. Так здаралася неаднойчы. Прыбылоў звычайна з'яўляўся вярхом на сваім Пісталеце, гайсаў на ім па палях і сенажацях.

На гэты раз ён з'явіўся ў канцы рабочага дня. Старшынёвай ахвярай стала Дзванарыкава Софа, якая ў жаночым гурце, на спіне, несла посцілку з травой. Прыбылоў прышпорыў свайго рысака, дагнаў жанчын і самую апошнюю — гэта і была Софа — ударыў плёткай. Сцебануў па посцілцы, але дасталося і спіне. Сцебануў і гукнуў на ўсё горла:

— Глядзі, загрыміш! Я два разы не паўтараю!

Крута, на хаду, развярнуў каня.

— Як не сорамна! — сказала нейкая з жанчын, здаецца, Ганна Бочка.

— У мяне паблажкі нікому не будзе!

Софа гэта сцярпела, сцярпела моўчкі, нікому не скардзілася. «Хам, вядома, грубіян, — разважала яна, — ударыў, але як бы не яе, бо пад'ехаў ззаду, са спіны, твару не бачыў... Ды і я ўступіла ў калгас добраахвотна, ніхто мяне сілай не цягнуў...»

— Ой, не дае жыць! — не выцерпела Жуфея. — Вахлак прыдуркаваты!

— Каб цябе пярун ляснуў! Каб ты спруцянеў! — пачуліся жаночыя галасы.

Адно, што прабачала старшыню Прыбылова ў вачах вяскоўцаў, — гнеў яго пагасаў гэтак жа хутка, як і ўспыхваў.

* * *

Даўно скончыла кукаваць зязюля. У Прусцы казалі: «Зязюля змоўкла — жытнім коласам падавілася». Пара была пачынаць жніво. Калгаснае жыта стаяла ўжо даспелае, пабялелае, чакала гэтай пары. Колас, праўда, быў драбнаваты, сціплы, затое моцнае сцябло. Прывезлі лабагрэйку — жняярку з ручным скідваннем. На жалезнае сядзенне ўзабраўся Оргій Ламака. Каб пайшла лабагрэйка, жытняе поле абкасілі косамі, працерабілі для яе дарогу. Ззаду, за кіроўцам, уладкаваўся, узброіўшыся граблямі, Цярэшка Макацёр. Оргій торгнуў лейцы, прыцмокнуў, коні пайшлі, лабагрэйка застракатала. Шамацела, нагіналася перад тэхнікай парудзелае жыта з нярэдкімі ў ім бялявымі рамонкамі і цёмна-сінімі валошкамі. Безупынна круціліся крылы лабагрэйкі. Цярэшка працаваў доўгімі граблямі, скідаў скошанае жыта на дол. Снапы вязалі жанкі. У паветры стаяў водар свежай пожні.

Сцірты складалі мужчыны тут жа ў полі. Завяршылі адну, распачалі другую. Ляксандар з Апанасам віламі з доўгімі тронкамі закідвалі снапы на самую вяршыню. У сухой пожні нястомна цвіркочуць, скачуць мітуслівыя конікі, марудна поўзаюць божыя кароўкі. Ужо некалькі дзён не спадала незвычайная гарачыня. Горача было, як у печы. Зырка, прамяніста ззяла сонца. Паразбягаліся за далягляд аблокі, саступіўшы яму ўсю небную прастору.

Маладзейшыя мужчыны хадзілі голыя да пояса, загарэлыя. Жанчынам цяжэй — не распранешся.

— Ой, духата-а!.. — скардзілася з непрывычкі Софа Дзванарык. — Няма маіх сіл...

— Набірайся, Софачка, цяпла! — пасміхнулася Ляксандарава жонка Арыся. — Узімку спатрэбіцца!

— Будзе дождж! — спрагназавала Жуфея, таксама, як і Софа, удава.

Збіралася на навальніцу. Недзе за Бэрэзінай, нібы ў доказ Жуфеіных слоў, ціха, але з пагрозаю прагрукатаў далёкі гром.

Пад'ехаў, як звычайна, вярхом, на сваім Пісталеце, Прыбылоў. Рысак зрабіўся шыраказадым, дародным, як і сам гаспадар. Калгаснікі называлі яго ўжо не Пісталетам, а Танкам. «Развашэціўся, зафанабэрыўся!» — казалі пра старшыню.

— Але ж і мардаты стаў! — гаварыў Мікіта Галёнка. — Як Малянкоў! — партрэт Малянкова Мікіта бачыў у газеце.

Конь — істота цямкая — адчуваў, што не спіне ў яго сядзіць чалавек не толькі грузны, але дужы і ўладны, і таму паводзіў сябе слухмяна і падпарадкавальна. Старшыня туга нацягваў аброць. Выглядаў разапрэлым ад гарачыні. Апрануты па-летняму, але шчыльна. На старшыні хромавыя боты, сіняе дыяганалевае галіфэ і белы палатняны, расшпілены на жываце, пінжак. Расстаўся з цеснай «сталінкай» пасля смерці правадыра. Не модна стала.

Спачатку старшыня агледзеў рыбную гаспадарку, ставы, затым узяў накірунак у поле, на жніво. Не злазячы з Пісталета, засланіў вочы рукой і паглядзеў на Арціка, які складваў наверсе снапы.

— Не так кладзеш! — гукнуў яму знізу.

— Мы заўсёды гэтак кладзём, — пачаў апраўдвацца Арцік. — У нас так кладуць...

— Бесхазяйственнасць! — паказваў сваю незадаволенасць, а разам з тым і ўладу старшыня. — Кладзі шырэй!

Зрабіўшы заўвагу, злез з каня, прымацаваў аброць да сядла, агледзеўся. Пісталет непахвальна пакасіўся на гаспадара, і Прыбылоў, нібы зразумеўшы яго, памяняў гнеў на міласць, дастаў з кішэні пачку папярос, працягнуў прускаўскім мужчынам.

— Курыце!

Тыя пацягнуліся па старшынёўскі Беламорканал. Сам сунуў папяросу ў зубы і, шукаючы запалак, паляпаў сябе па кішэнях, знайшоў і прыпаліў папяросу, даў прыкурыць іншым. Яны закурылі, зрабілі некалькі глыбокіх зацяжак. Злез са сціррты і Арцік.

— Добры конь! — пахваліў старшынёвага рысака Ляксандар Гальяш.

— Добры! — далучыліся астатнія.

— Легкавушку трэба было б мець! — як бы самому сабе нагадаў Прыбылоў. — Ёй авёс не трэба.

— Можа «Масквіча»? — ліслівa падказаў Хвядзюшка.

— Не, «Волгу», — закруціў галавой Прыбылоў, — у «Масквіч» я не ўлезу.

Прысутныя заўсміхаліся.

— «Волга» бензіну шмат жарэ, — паказаў сваю дасведчанасць Апанас.

— Дык бензіну ў нас хоць заліся! — далучыўся да размовы Цярэшка. — А вось з аўсом — напружанасць...

— Хацелася б аўсянага кісялю пакаштаваць, — азваўся Арцік, які стаяў ззаду.

— Вы на мяне не крыўдуйце, — зноў загаманіў старшыня.

— Ды мы не крыўдуем, — прамовіў, нібы просячы прабачэння, Ламака.

— Я адзінаначальнік, я за ўсё адказваю.

— Дык гэта зразумела, — згадзіўся Ляксандар Гальяш, зацягваючыся папяросай.

— Без вашых указанняў мы — нішто, — развёў рукамі Хвядзюшка.

У голасе старшыні з’явілася выразная начальніцкая інтанацыя:

— Уборка, таварышы, павінна быць закончана ў тэрмін, бо адстаючых, таварышы, б’юць.

— Якія ж гэта таварышы, калі яны б’юць? — не зразумеў старшыню Ляксандар. — Таварыш таварыша не б’е.

Прысутныя жартоўна заўсміхаліся.

— Ну, гэта як сказаць, — падумаўшы, адказаў Прыбылоў, але тлумачыць не стаў, баючыся, што яго тлумачэнне могуць няправільна зразумець.

— Верхні лупіць па ніжнім, — глыбакадумна заключыў Апанас Хомка.

Старшыня перайшоў на іншую тэму:

— Першы хлеб, само сабой зразумела, як і паложана, дзяржаве! — настаўляў старшыня. — Гэта прадрашано, таварышы. Спачатку хлебапастаўкі выканаем, а потым з натураплатай разбяромся. Атрымаеце і вы, але першая ваша запаведзь, таварышы калгаснікі, — здай хлеб дзяржаве! І з МТС трэба разлічыцца. Хто трактар даваў? А лабагрэйка адкуль? МТС! За семяна далжок нада аддаць...

Пасля гэтага Прыбылоў з указаннямі звярнуўся да Хвядзюшкі:

— Разбазарваць зярно я не дазволю!

— Зразумела! — хітнуў галавой брыгадзір.

— Трэба неадкладна прыступаць да абмалоту! І абоз рыхтаваць, у Камянец на здатачны пункт.

— Зразумела.

— Дзяўчат галасістых пашукай ды на мяшкі пасадзі! Гарманіста з імі! Каб на ўсё наваколле спявалі! Хай ведаюць хазяйства Прыбылова! У нас, вы ж ведаеце, не толькі хлеб, у нас і да хлеба будзе. У нас яшчэ ж і рыба. Не забывайце!

Па пожні прайшоўся віхор, і адразу пачалі падаць буйныя кроплі дажджу, рэдкія і важкія, спраўджваючы Жуфеін прагноз. Старшыня ўставіў нагу ў стрэмя, Ляксандара і Хвядзюшка дапамаглі яму сесці на каня. Развітваючыся, Прыбылоў крануў рукою казырок фуражкі, прышпорыў Пісталета і накіраваўся ў бок гасцінца.

Калгаснікі палезлі хавацца ад дажджу пад сцірту.

Недзе адразу за жытам паспела пшаніца, якую пасеялі на былым панскім полі.

Ураджаю, які сабралі, хапіла толькі каб разлічыцца з дзяржавай і пакінуць нешта на насенны фонд. На працадні, натураплатай, атрымалі ўсяго толькі па дзвесце грамаў. Калі стваралі калгас, абяцалі ўсяго і шмат, але так, як абяцалі, не атрымлівалася. Пра рыбу гаворкі не было, чакалі пакуль падгадуецца.

## VI

І Васілёва сядзіба, і сад дасталіся брыгадзіру Хвядзюшку Шпунту, сталі яго «соткамі». Некалькі маладых грушак Васіль тады выкапаў і разам з хатай перавёз у Брэст, астатнія дрэвы засталіся. Гадоў пяць саду было, уваходзіў у сілу. Хвядзюшка не звяртаў на яго ўвагі, не ставіў пад плодныя

галіны падпорак. Фёкла, калі ішла міма сынавай абсады, заўсёды любавалася садам, квеценню, а потым і яблыкамі. У другой палавіне жніўня ад цяжкіх пладоў ажно ламаліся галіны, яблыкі даспявалі і ўжо абсыпаліся, падалі на дол. Аднойчы Фёкла не вытрымала, адчыніла веснічкі і зайшла, падняла з зямлі яблык, які толькі што ўпаў з дрэва — гэта была пепінка, выцерла фартухом, панюхала, адкусіла, захрумстала. Яблык, як і ўяўляла сабе, аказаўся духмяным і смачным, яна адчула асалоду. За гэтым заняткам яе і застаў Хвядзюшка.

— Гэта ўжо не ваша! — пасміхаючыся, заматляў ён галавой.

— А чыё? — не разгубілася жанчына.

— Наша! Было ваша, не адмаўляю. Але стала наша!

— Ты прысвоіў!

— Я ўзяў у сваё карыстанне. Гэта — маё!

— Тваё? Ты яго садзіў? Ты яго паліваў? Ты аберагаў ад зайцоў? — У Фёклы ад крыўды навярнулася на вочы слёзы.

Кажуць, што руская жанчына ціхая, але гэта сказана, мусіць, не пра Фёклу. Хвядзюшку з яго несамавітасцю і начальніцкімі прэтэнзіямі, прыўладнасцю яна не цярпела. Гэтае яго «маё!» выклікала ў ёй абурэнне.

— Цяпер гэта маё як члена калгаса. Ды не проста члена, а брыгадзіра! — ганарыста цвердзіў Хвядзюшка.

Недзе, седзячы на яблыні, трашчала сарока, нібы падказвала Фёкле: «І ты не маўчы!»

— Бачыш, важнасць на сябе напусціў!

— А што? Што ты сабе дазваляеш?

— Дазваляю тое, што дазволена.

На Хвядзюшкавым твары зайграла зласлівая ўсмешка.

— Як не сорамна!

— Што — не сорамна? — не ўцяміў, перапытаў Хвядзюшка.

— Браць чужое, прысвойваць!

— Мне ўласць дала. Я ж не сілай захапіў, мне савецкая ўласць дала. Ты ж панімаеш, нашлася тут... — Хвядзюшкаў твар зрабіўся злы і непрыемны.

— Зямлю, можа, і дала, так. А сад? Яблыні? Не ты ж садзіў!

Хвядзюшка змоўк, не ведаў, што сказаць, апусціў галаву і наском чаравіка пачаў капаць пясок.

— Заіржавела ў табе сумленне! Глядзі, кончыш на чортавай жывадзёрні!

Потым ціха, не хацела, каб пачуў Хвядзюшка, дадала:

— Шкура барабанная...

Хвядзюшка нічога не адказаў, рэзка павярнуўся і пайшоў да веснічак, пакінуўшы Фёклу ў садзе адну. «А можа, я занадта рэзка з ім? — падумала яна. — Усё ж такі аднапасельцы». Дома пра гэтае здарэнне ў Васілёвым садзе расказала Лявону.

— «Бацькава», «бацькаўшчына» — гэта старыя словы, іх трэба забываць, а ты яшчэ помніш, — усміхаючыся, патлумачыў ён.

— А як жа інакш?

— Май цярпенне, — супакойваў, угаворваў жонку Лявон, — з людзьмі трэба ладзіць.

Фёкла і без угавораў старалася заставацца спакойнай, але гэта не заўсёды ў яе атрымлівалася.

Неяк паштарка прынесла ліст ад Якава Арыстархавіча. Чытаў Лявон, надзеўшы на нос акуляры:

«Добры дзень, даражэнькія Лявон і Фёкла!

З прывітаннем да Вас Якаў Пац. Я знаходжуся на тым самым месцы, што і раней. Спадзяюся ўсё ж такі на лепшае, бо што-што, а зменлівасць лёсу мне добра вядома. Чакаю, калі нарэшце выпусцяць і паеду дадому. Я па-ранейшаму апякуюся пчэльнікам, вуллёў пабольшала. Пад вечар, калі спрыяе надвор’е, пчолкі паднімаюцца ўгору і як пачнуць граць, дык граюць і граюць, ну, проста танцуюць. І трутні за імі, гэтак тоўста гудуць «гу-гу-гу». А калі трутні ўжо непатрэбнымі становяцца, дык пчолы выкідаюць іх з вулля ды яшчэ і крылы паадкусваюць. Такое вось жыццё ў прыродзе. Тайга шуміць, ужо прывык. У гэтым сезоне я ўжо бочку мёду назапасіў. Начальства давольнае. Часам прыязджаюць з інспекцыяй. Гэта значыць — хочуць выпіць. Нядаўна Эдуарду Бернардавічу даў з сабою дзве вялікія плястры мёду. Цяпер мой непасрэдны начальнік. Мёд добра з тварагом.

Як там у Альбэрціне? Як Хвядося? Нічога не маю ад Мірыка. У горадзе жыць не тое, што на хутары. Усё трэба купіць. А Паўліна як? Часам чую, як шапоча ў Перавозе трава, як журацца чараты, бачу нашы заліўныя сенажаці. Туга адольвае, скруха, але стараюся не паддавацца, трымаюся. Пасадзіў колькі цыбулін, у маіх умовах гэта дэфіцыт. Так цяпер кажуць, калі чаго не хапае.

Як вы ведаеце, няма ўжо Сталіна, дык а што далей, нікому нічога не вядома. Я ўжо і ў начальства пытаўся, але ніхто нічога не кажа, не тлумачыць, адварочваюцца. Народ напалоханы.

Мушу сказаць, што седзячы тут, на самоце, добра думаецца і ўспамінаецца. Вядома, не так, як дома, прысеўшы на беразе, ля вады, і зняўшы з галавы капялюш, але думкі прыходзяць і тут. Веру, што будзе лепш, чым было. Вы ж ведаеце, што я ніякі не шкоднік і не вораг народу. Гэтак лічаць і тутэйшыя мае сябры па няшчасці. Словам, не трачу надзеі, што яшчэ ўбачымся. Прывітанне Васілю і жонцы яго Просі, а таксама хрэсніку майму Уладзіміру. Відаць, ужо вырас ды жаніцца думае. Прывітанне Зміцеру Зубу ў Бабічы. Спадзяюся на Бога. Застаюся ваш Якаў Пац. 4.04.1953 г.»

Ліст заканчваўся паклонамі і прывітаннямі. У канцы стаяла прыпіска:

«P. S. Ці захоўваюцца абразы, якія я купляў?»

— Пра нейкія іконы піша? — здзівілася Фёкла.

— Гэта ён іх збіраў, — патлумачыў Лявон. — Цэлы іканастас. У хаце яго ў покуце віселі ды на сценах. А калі Мірык перавозіў хату ў Брэст, дык абразы Амброжыю перадаў, Амброжый забраў. Зараз яны ў яго, відаць.

— І пра Паўліну не забывае...

Лявон пасміхнуўся, пашкроб патыліцу.

— Відаць, упадабаў.

— Штосьці з прадуктаў паслаць трэба, — уголас падумала Фёкла.

— Дык ён цяпер не галодны, на пасецы працуе, мёду яму хапае, — у тон жонцы азваўся Лявон. — Ды яшчэ і пра Паўліну пытае.

— Мужыкі — вы ўсе такія.

* * *

Да Кужалёў наведаўся Зміцер Зуб. На гэты раз не ў нядзелю, а буднім днём. Ішоў, кульгаючы, прыпадаючы на левую нагу да зямлі і адштурхоўваючыся ад яе арэхавай кульбай, як вяслом.

Іх — Лявона і Зміцера — неяк цягнула адно да аднаго. Са Зміцерам заўсёды цікава пагаварыць, параіцца, асабліва ў такі смутны час. Яны шчыра абняліся. У пакой зайшла Фёкла, таксама павіталася.

— Фяклуша, пастаў нешта на стол, у нас госць.

— А вось што на стол! — Зміцер падаў ёй кошык, верх якога быў шчыльна акрыты лістамі хрэна. На гэты раз ён прынёс рыбы: шчупакі, акунькі, плоткі...

Гаспадары былі ў захапленні ад такога багатага падарунка. Фёкла ўзяла кошык і выйшла на кухню.

— Ну, як здароўе?

— Байкі.

— Можа, у калхозе меней будзем працаваць? — памеркаваў Зміцер.

— Думаеш, здароўе захаваецца?

— А што? Можа, яшчэ, Бог дасць, пажывём. Нарэшце ўсё ж такі падаткі адмянілі, нават нядоімку, у каго якая была.

— У нас не было, — прыгадаў Лявон і паглядзеў у акно. Па вуліцы праскрыпеў нязмазанымі коламі на старым, але ўласным возе Еўдакім Хахол з Зінькоў.

Затрымаўся Еўдакім у аднаасобніках, ні за што не хацеў развітвацца з асабістай гаспадаркай. «На белыя мядзведзі паедзеш!» — палохалі, але чалавек не збаяўся, не адступіў. Абклалі падаткам са стопрацэнтнай надбаўкай, але і гэта не падзейнічала. Жыў ён небагата і баяўся, што ў калгасе наогул давядзецца жабрачыць. Меў каня, плуг, барану. Ездзіў па бліжэйшых вёсках, абрабляў сялянам соткі. У самога сотак не было.

— Аднаасобнік, — сказаў Лявон.

— Нехацімец, — дадаў сябар. — Знайшоў чалавек у сабе сілы супрацьстаяць непазбежнасці.

— Характар.

— Дзіва што, — зноў азваўся Зміцер, — дрэвы жывыя, і кожнае само па сабе, а людзі тым болей. Прырода такая.

Аднаасобнікам, якія заставаліся па-за калгасам, пакінулі прысядзібныя ўчасткі яшчэ меншыя, чым калгаснікам, — усяго якіх-небудзь дваццаць сотак. Што тычыць Еўдакіма, то яго сядзібу абрэзалі па вуглы. Так вырашылі зверху: «Раз хоча быць свабодным, — як цынічна сказала на гэты конт раённая дзяячка Дзмітрык, — і ні ад каго не залежаць».

— У нас Прыбылоў кіруе, — сказаў Лявон.

— Я чуў.

— Але ці атрымаецца ў яго што, цяжка сказаць. Шалапут.

— Дык добры кіраўнік — рэдкасць!

Лявон успомніў Пятра Мачалава.

— Шкада яго, дабрэнны быў чалавек.

— Гэты, што партызан?

— Ну, так.

— І ў нас яго шкадуюць. Па каморах не хадзіў, як Свісціян.

— А мы пісьмо ад Якава атрымалі. Цябе не забыў, прывітанне табе перадае.

— Дзякуй. Як ён там?

— Каля пчэльніка ходзіць, у тайзе.

— То яшчэ можна трываць.

— Сумуе, нудзіцца надта.

— Прыйдзе.

— Будзем чакаць.

Фёкла прынесла скавараду са смажанай рыбай, паставіла на стол, падклаўшы падстаўку. Адшукала паўбутэлькі мятнай настойкі, паставіла талерку з гуркамі, соль. Лявон накроіў хлеба, а потым, выцягнуўшы з бутэлькі корак, наліў у кілішкі.

— Ну, будзьма! — сказаў ён. Чокнуліся кілішкамі, выпілі, пачалі закусваць.

Зміцер узяў на відэлец кавалак шчупака, зазначыўшы пры гэтым:

— Шчупак даўжэй за ўсіх жыве, амаль трыста гадоў!

— Нам столькі не пражыць! — засмяялася Фёкла.

— Калі б піў такую смачную настойку, як твая, дык можа б і працягнуў, гадоў са сто і пражыў бы! — у тон ёй адказаў Зміцер.

— Наўрад ці, — не згадзіўся Лявон, — не той свет стаў, не спачувае чалавеку, не спагадае.

— Яно і праўда. Нейкімі чужымі людзі сталі, — прамовіла і Фёкла. — Раней неяк дружней жылі, хоць і калгасаў не было, а цяпер усе ў адным калгасе, а паміж сабой не ладзяць. І начальнікаў шмат.

Зарыпелі весніцы, пачуўся брэх Нэркі. Зміцер зірнуў у акно:

— Амброжый ідзе! — пазнаў ён старога сябра.

Так, гэта быў Амброжый. Пратупаў пад вокнамі, няспешна ўзняўся на ганак і нарэшце паказаўся ў створы дзвярэй. Убачыў сяброў, абняліся. Фёкла запрасіла Амброжыя за стол, а сама пакіравала на кухню. Фальварковец пахудзеў, танчэй стала шыя, пакінуўшы свабоднае месца ў каўняры, які выглядаў мешкавата. Але сам Амброжый, як заўсёды, мяккі, спакойны, разважлівы. Сеў за стол, паправіў пад сабой крэсельца.

— Як жыццё? — спытаў Зміцер.

— Якое там жыццё! Хату раскідалі, у Алешкавічы перавезлі, там клуб будуюць дык і мая хата спатрэбілася. Скарысталі і зруб, і кроквы з латамі! Мы з Паўлінай у хлевушок перабраліся, я падлогу паклаў, яна сцены пабяліла.

Лявон са Зміцерам паспачувалі.

— А я ж ужо і заяву ім напісаў, — працягваў былы фальварковец. — У калгас. Дык дзякуй, што хоць дваццаць сотак зямлі пакінулі. У кулакі былі запісалі. «У цябе, — бранавіцкія казалі, — дах на хаце жалезны, і ў брата твайго Якава таксама — з цынкавай бляхі, дык вы абодва кулакі!» Ледзь вывернуўся. Бяда. Абадралі як ліпку. — Амброжый пачухаў патыліцу. — Набывалі, набывалі... І сад ужо не наш. Макей Гізун з Углянаў сад вартуе — алешкаўцы нанялі. Нават мяне яблык сарваць не пускае. А яшчэ родзічам лічыцца, праўда, далёкім.

«Гэтаксама, — падумала Фёкла, — як Хвядзюшка Васілёвым садам завалодаў».

— Звалілі і помнік, той, што ў фальварку на беразе стаяў, што яшчэ бацька наш Арыстарх ставіў, — сказаў і сумна прыцмокнуў сухімі вуснамі Амброжый.

— Гэты, што з надпісам супроць граду? — перапытаў Зміцер.

— Гэты.

Пахіталі засмучана галовамі.

— А хто?

— Бранаўцы. Тыя, што хату забіралі.

Яны прымоўклі, ні ў кога не знаходзілася ні што сказаць, ні як паспачуваць. Чуваць было, як за акном жаласна цінькала нейкая птушка.

— Я ўжо і ў райкоме ў Харахорына быў. У вайну ён да мяне заходзіў. Я нават Якаву пра гэта не казаў. Заходзіў, чарку браў, адпачываў. Даўно гэта было, дык не адразу і пазнаў, але пазнаў. Пазнаў, выслухаў і кажа: «Гэта, ведаеце, ход гісторыі, гістарычнае дзела, тут гісторыя вяршыць, яна ўсім круціць. Нічога не зробіш — класавая барба».

Сказаўшы гэта, Амброжый са скрухай вымавіў:

— Добра, што хоць Стэпа гэтага не бачыць, на той свет павандравала, а то другі раз памерла б.

Фёкла ўздыхнула.

— У паняволенне трапілі, пад прыгнёт, — зноў, толькі больш глуха, загаманіў Амброжый, — а жыць усё адно хочацца.

— Гэта добра, што хочацца, — адгукнуўся Зміцер. — Апошняе дзела, калі ўжо і жыць не хочацца. Тады — кранты.

Клапатлівая Фёкла прынесла чыстую талерку і кілішак, у які налілі Амброжыю. Ён выпіў, як сказаў Зміцер, «штрафную». Узяў кавалак рыбы, пачаў закусваць і загаманіў зноў:

— Паўлінка паслала да Салівэся солі ўзяць і запалак, дык я ўзяў ды, думаю, дай да Лявона наведаюся, пра здароўе спытаю.

— А мы з Фяклушай, — загаварыў Лявон, — ад Якава зноў ліст атрымалі. Цяпер ён у тайзе на пчэльніку, пчол даглядае. Спадзяецца, што хутка вернецца.

— Якаў — чалавек кемкі, — адзначыў Зміцер. — Мы яго яшчэ з той пары ведаем, з дзяцінства, калі ў Камянецкім вучылішчы вучыліся. Не прападзе. Будзеце пісаць, дык і ад мяне прывітанне перадавайце.

— Ён і мне напісаў, — прызнаўся Амброжый, смакуючы рыбу, — адпісаць збіраюся ды ўсё не адпішу. Паўліне шмат дапамагаць даводзіцца, паказваць, што і як. Яна ж не мясцовая, але ўсё разумее і спраўная. На тым тыдні бровы вышчыпала, тонкія сталі, як шнурочкі.

Пра тое, што пра Паўліну пытаўся Якаў Арыстархавіч у сваім лісце, Лявон не згадаў. Амброжый не курыў, а Лявон са Зміцерам закурылі.

«Волас сівее, а галава шалее, — падумала Фёкла. Амброжыеў голас чуцён быў і на кухні: — І гэта нягледзячы на жыццёвыя нягоды...»

— Абразы патроху прадаю, — распавядаў Амброжый. — Мірык, калі хату перавозіў да Берасця, абразы на мяне пакінуў. Гэта тыя, што Якаў скупляў. Дык я іх, хто пытаецца, прадаю. Людзям трэба: наваселле спраўляюць, жэняцца, замуж выходзяць...

Выпілі рэшту, якую Лявон разліў па кілішках. За Якава Арыстархавіча, каб хутчэй вярнуўся жывы і здаровы.

— Начвэндзілі! — увайшоўшы, з дакорам сказала гаспадыня, разганяючы воблака дыму рукой.

Пагаманіўшы яшчэ пра тое-сёе, развіталіся, кожны пайшоў сваім кірункам.

— Пайду, — падняўся Амброжый, — Паўлінка зачакалася.

— І мне пара, — азваўся Зміцер. — Лапік атавы нагледзеў, скасіць трэба.

Лявон праводзіў сяброў да Салівэсевай лаўкі, там яны разышліся ў розныя бакі.

Назаўтра разам з Фёклай склалі ліст Якаву Арыстархавічу. Пад Лявонаву дыктоўку пісаў Валодзя, часта макаючы пяро ў чарніліцу:

«Шаноўны Якаў Арыстархавіч! Дзякуй табе за пісьмо. Заўсёды радыя атрымаць ад цябе вестачку. Радыя за цябе, што варункі твайго жыцця палепшыліся, што справы на пчэльніку ідуць няблага. Хвалім, што не падаеш духам, трымаешся. Мы таксама трымаемся. Пра нашыя навіны ты, відаць, збольшага ўжо ведаеш. Хату Мірык перавёз у Брэст і маці забраў з сабою. Мы пра гэта табе ўжо прапісвалі. Абразы забраў Амброжый. З ім засталася і Паўліна, якую ён, здаецца, не крыўдзіць. Быў у нас нядаўна, дык распавядаў.

Пытаўся пра цябе Васіль. Васіль, як табе вядома, таксама, як і Мірык, перабраўся ў Брэст. Таксама атрымаў там пляц і перавёз хату. Каля хаты яго, у горадзе, як ні дзіўна, добра падрос сад, яблыні галінастыя і здаровыя. Відаць,

добрая глеба. Ваш сад забраў алешкавіцкі і браневіцкі калгас «Свободный труд». Нанялі вартаваць Макея Гізуна з Углянаў. Калгасы паўсюль, працуем на працадні. Зарабляем працадні.

А яшчэ паведамляю, што памёр родны мой дзядзька Хведар. Жыў на хутары каля Свішчова. Ты, мабыць, яго ведаў. Рэдкай працаздольнасці чалавек. Нелітасцівы лёс напаткаў таксама, на вялікі жаль, і яго дачку Груньку. Падняла на пожні некалькі, ужо амаль спарахнелых каласкоў, дык засудзілі, атрымала тэрмін пяць гадоў...»

Ліст заканчваўся пажаданнем хутчэйшага вяртання і сустрэчы. Потым Лявон успомніў пра прывітанне, якое прасіў перадаць Зміцер. Валодзя дапісаў.

— Нешта яму паслаць трэба, падтрымаць, каб ведаў, што не забылі, — рупіўся пра сябра Лявон.

Зноў паслалі буханку спечанага Фёклай хлеба, кавалак сала і некалькі цыбулін. Тварагу не пашлеш, бо сапсуецца дарогаю. Тварог і яйкі за невялікія грошы бралі Антаніна Фердзінандаўна і Мікалай Пятровіч, якія сваёй гаспадаркі не трымалі.

Чарговы ліст быў атрыманы з Запалоннага ад Домны. Домна не пераставала пісаць, не забывала. Чытаў атрыманы ліст унук:

— «Дарагая сястрыца!»

Пры гэтых першых словах Фёкла, пачуўшы родны голас, заплакала. Валодзя працягваў:

«А также вы, Леонтий Михайлович, Вася и Володька! Простите, что давно не писала, не было как в горестных переживаниях. Нету уже моево Флегонта. Тосковал по старшему сыну Емельяну, которого забрали в армию и попал в Семипалатинск. С тоски заболел и помер. Флегонт даже это как бы и предчувствовал, жалел меня очень, но ушёл. А я, живучая русская баба, тяну и тяну. Сделаешь одно, берёшься за другое. Вот пишу вам и обливаюсь слезами. Флегонта жалко. Очень хороший был человек, меня жалел, особенно в последнее время. Здоровье моё тоже неважное, болею. Но привычное дело. Не одна я страдалица, все страдают. Словом, хлопот хватает.

Помер, ушол от нас отец наш родной Иосиф Висарионыч. Прослезились мы все, узнав об этом. Что-то будет? На кого оставил нас? Ей-ей, пропадём без нево. Плохо дело. Но главное, чтобы не было войны.

У нас опять засуха. Солнце пекёт столь горячо, что потрескалась земля. Уж не знаем чего и делать. Трещины такие, что не только человеку, но и коню впору провалиться. А где суш, там и пожар. Сгорел тот конец Заполонного, что от Шарапкиных, и дом Еропкиных сгорел.

Дорогая сестрица, у нас здесь очень неважно с продуктами. Хлеб бывает ретко. В Неприке очередь на хлеб занимают в двенадцать ночи. Самим печь — не выпадает, не хватает муки. Картошка, слава богу, есть, а вот с мукой плохо. Несмотря однако ни на что, от всего сердца приглашаем вас с Леонтием и внучком к нам, на родину. Знамо дело, родина тянет. Надумаетесь, приезжайте. Будем очень рады. Вспомним всё былое. И по селу пройдёмся. С родней, со знакомыми повстречаемся. Бражку хорошую заквасим! Такова-то наша жизнь.

На этом заканчиваю своё письмецо. Сохрани вас Бог. Ваша Домна.

Писано 11 июня 1953 года».

Не вытрымала Фёкла, заплакала, надта шкада зрабілася сястру ў яе цяжкім лёсе. Лявон стаў супакойваць.

Валодзю азадачыла адна мясціна з Домніным лісце:

— Бабуля, няўжо шчыліны ў зямлі такія шырокія, што праваліцца конь?

— Капыта конскае праваліцца, — патлумачыла Фёкла, выціраючы слёзы.

— Летняе сонца там надта гарачае, — успомніў Лявон, — пячэ так, што без шапкі з хаты не выходзь.

Унук ад здзіўлення ажно галавою пахітаў.

— Трэба такую-сякую пасылку, — як бы самой сабе сказала Фёкла. Ёй вельмі захацелася пабачыць сястру. Відаць было, што надта яна засумавала.

Лявон гэта адчуваў.

— Добрая ў яе душа — у Домны, — сказаў ён, — але, Фяклуша, у нас жа пашпартоў няма.

Фёкла на гэта толькі ўздыхнула, уздыхнула і апусціла галаву.

— Іх, пашпарты нашы, і адабралі, каб на месцы, у калгасе, нас трымаць, а то разбягуцца калгаснікі, — дадаў Лявон.

— Я б і адна паехала, але ж не прачытаю, што дзе напісана...

— Дык Валодзя побач будзе.

— Хіба што ён.

Унук быў не супраць.

Перш, чым паслаць Домне прадуктовую пасылку, накіравалі кароткі ліст:

«Дарагая сястрыца Домнушка! Пісямцо тваё мы палучылі, за што табе вельмі ўдзячныя. Скарбім разам з прычыны смерці мужа твайго незабвеннага Флягонта. Пухам яму зямля і вечная памяць. Падумалі, парассуждалі з маім Лявонціем. Жыццё — яно, панятнае дзела, не прастое і ў вас, і ў нас. Работаем у калхозе. З намі знаходзіцца і ўнучок наш Валодзя, вучыцца ў школе, у дзявятым класе. Сын Васілій пражывает з сям'ёй у Брэсце.

Дарагая сястрыца, ты запрашаеш нас у госці, але ў нас няма пашпартоў. За намі, канечна, віна, патаму как мы былі на акупіраванай тэрыторыі. Цяпер жывём без пашпартоў. Прыедзем хіба пазней калі. Не перадаць, як хочацца. Былі б крылы, дык прыляцела б к табе птушкай, на крылах. Мы, вядома, пастарэлі, але сумаваць няма калі. У нас красівая прырода: многа зелені, вады. Ты пішаш пра засуху, а нас Гасподзь мілавал, ідуць дажджы. Шмат працуем. За працаю нос выцерці часу няма. І ў калгас трэба, і сабе таксама трэба. Часам хоць ты разарвіся. Але Бог не без міласці. Слава богу, што не хварэем. Старэем, але не хварэем. Тут мае, відаць, значэнне жыццёвая загартоўка. Гэтай загартоўкі і холадам, і голадам мы прынялі шмат.

На сустрэчу аднак спадзяёмся. Таго-сяго збіраемся табе паслаць з прадуктаў. Астаюся любяшчая сястрыца твая Фёкла, а таксама муж Лявон і ўнучак Валодзя.

20.VI.1953 г.»

## VII

Прыбылоўскі праект з рыбнай гаспадаркай закончыўся «пшыкам». На пачатку застаўня стаяла, усё было добра, як трэба. Аднастайна шумела, пераліваючыся праз плаціну, жаўтлявая ад торфу вада. У ставах, у цёмных глыбінях, жыравалі на Відэркавай крупяной падкормцы карпы. Але прырода заўсёды дасць якую-небудзь нечаканасць. Пакарыць яе цяжка. Улічылі, здаецца, усё — і ўзровень вады, і трываласць плаціны. Прайшоў моцны дождж. «Як з цэбра», — казалі прускаўцы, здзіўляючыся незвычайнаму напору прыроднай стыхіі, якая ў тую ноч разбушавалася не на жарт. Грымеў гром, лілася вада. Оргій Відэрка адчыніў усе шлюзы, але выратаваць становішча не змог.

Не здолела плаціна стрымаць раптоўны напор вады, застаўню прарвала, паваліла каркас і цэментныя блокі.

На раніцу прускаўцы ўбачылі ранейшыя сажалкі, з якіх тырчалі падгнілыя пні, старыя карчы, а вады не было, уся пайшла ў Лосьну. Быццам адбыўся землятрус. Ад застаўні засталіся руіны.

— Ой, людкове! — жахаліся прускаўскія жанчыны. — Што здарылася!

— Вада, — тлумачыў Відэрка, — ёй не загадаеш.

З вадою заадно сплылі і карпы.

Прыбылоў даведаўся пра ўсё адным з апошніх, праз два дні. Яму баяліся казаць. Апошнім часам зрабіўся надта гнеўным,ператасоўваў кадры. І толькі праязджаючы па дарозе паміж ставоў, ён убачыў гэтае разбурэнне, якое кантраставала з навакольным спакоем. Прырода аціхла. Дыхаў лёгкі ветрык. Аднекуль даносіўся густы, неўтаймоўны водар багуну. Па зямлі плаўна плылі празрыстыя цені ад аблокаў. Дзіўна было пры такой лагоднасці і ўстойлівасці надвор'я назіраць гэткую карціну. Старшыня схапіўся за галаву: «Столькі працы ўклалі, і ўсё — кату пад хвост!» Доўга аглядаў тое, што засталося. Падзівіўся, што аднаго карпа ўсё ж такі не забрала з сабой вада, пакінула, і відаць было, як ён бядотна плюхаўся ў мутнай лужыне пасярод сажалкі...

Розгаласу — на ўсю ваколіцу. Абмяркоўвалі на праўленні, шукалі вінаватых. Спыніліся былі на кандыдатуры Оргія Відэркі, які быў прыстаўлены да карпаў, аднак адумаліся.

— Цяжка сказаць... — шкроб патыліцу Мікіта Галёнка.

Сышліся пасля доўгіх спрэчак на тым, што вінаваты дождж.

— Што ж цяпер? — разгублена пытаўся Макацёр.

— Хто яго ведае, — сярдзіта адказваў брыгадзір Хвядзюшка.

— От табе і маеш!

Пра аварыю на застаўні даведаліся ў райкоме партыі. Таварыш Архараў, які заняў месца Харахорына, назваў яе ЧП раённага маштабу, на якое трэба рэагаваць. Прыбылова выклікалі ў райком, на «кавёр». Першы сакратар знаходзіўся ў сваім кабінеце, калі пасля даклада начальніка, што сядзеў у прыёмнай, прасунуўся туды старшыня. Прыбылоў колькі ні наведваўся ў гэты кабінет да Архарава, той заўсёды сядзеў за сваім шырокім двухтумбовым сталом і ніколі з-за яго не вылазіў. Не дзіўна: надта шмат спраў, стол завалены паперамі, гара папак і чатыры тэлефоны: чорны, белы, чырвоны ды яшчэ адзін няпэўнага колеру. У адзенні таварыш Архараў трымаўся яшчэ старой моды, насіў зашпіленую на ўсе гузікі «сталінку» і рабіў гэта хутчэй за ўсё прынцыпова, выглядаў салідна і паважна, як бы на ім, на яго спіне, усё трымаецца: і парадак, і ўлада, і ўвесь свет. Убачыўшы прускаўскага старшыню, сурова нахмурыў бровы, літаральна звёў іх на пераноссі і доўга ўглядаўся, быццам бачыў Прыбылова ўпершыню. Прыбылоў павітаўся і спыніўся, застыў каля дзвярэй. Відаць было, што вінаваты і віну сваю прызнае. Архараў паглядзеў у акно, потым на яго:

— Як гэта магло здарыцца, Арбітр Аўдзеевіч?

Прыбылоў апусціў вочы, утаропіўся ў паркетную, засланую дыванам падлогу, і няўцямна паварушыў тоўстымі плячыма.

— Дык што гэта ў вас, ядры яго ў корань, урадзіцелі завяліся? За такое нада аддаваць пад суд нямедленна. Дзе ваша адказнасць? Ты не апраўдаў давер райкома, наш давер!

— Дождж...

— Што — дождж?! — грымеў Архараў. — Вы мне ярунду не гаварыце! Вы мне зубы не загаварвайце! Я ўсё бачу...

Ён раптам асекся, змоўк, нібы спалохаўшыся ўласнага голасу, а можа, што ўспомніў.

— Мне казалі, што ты ў свой час і вапрос па кок-сагызу засушыў?

— Не прыжылася гэтая культура.

— Э-э, не, зваліць усё на стыхію не ўдасца, як бы вы ні хацелі.

Прыбылоў дастаў з кішэні хусцінку, выцер успацелы твар. Не думаў, што справа набудзе раптам такі абарот, а Архараў грымеў ужо зноў:

— Што, мне атвячаць за вас? Ярунда атрымліваецца, ядры яго ў корань! Бесхазяйственнасць! Адсутнасць пільнасці! А ты мне пра дождж! Гэта не той падыход, не партыйны!

— Не разлічылі, не было інжынерскіх разлікаў, — дадаў Прыбылоў.

— А вось гэта бліжэй да ісціны.

— Сваімі сіламі рашалі.

— Галавацяпства! Столькі матэрыялаў угробілі! Клуб можна было пабудаваць, палітадукацыю праводзіць! Узровень самасвядомасці нізкі!

— Вінаватых знойдзем, — паабяцаў Прыбылоў, — знойдзем і пакараем.

— Шукай, Арбітр Аўдзеевіч! Шукай! Нехта павінен адказаць!

З райкома накіравалі праверачную камісію. Старшынёю — Лазуцін, з ім Байбаковіч. Каля іх аціраўся работнік раённай пракуратуры Бублікаў у нязменным сваім дыяганалевым плашчы і з партфелем. Потым да іх далучыўся яшчэ і ўчастковы малодшы лейтэнант Сценгарыеў у сінім галіфэ з чырвоным кантам. Камісія апытвала і членаў праўлення, і радавых калгаснікаў. Людзі спасылаліся галоўным чынам на дождж.

— А вы што скажаце? — спытаў Лазуцін у Лявона, маючы, відаць, на ўвазе, што калісьці гэтыя сажалкі былі яго ўласнасцю. Лазуцін пра гэта ведаў.

— Нічога, як бачыце, з гэтай зацеі не атрымалася, — памяркоўна адказаў прускавец. — Гэтыя ставы Падгурскі калісьці будаваў. Ведаў нейкі сакрэт. Паны здалёк інжынераў выпісвалі.

На носе ў Лазуціна густа чырванела цёмная драпіна, лоб наморшчыўся. Ён па-свойму перакручваў словы Лявона:

— У свой час я ўказваў. Класавае пачуццё падказвала, што не на тую дарогу мы ўсталі. Рыбкі ім захацелася! Для мяне ўсё ясна. Так нельга.

Байбаковіч з Бублікавым больш маўчалі, як і Сценгарыеў, які ні з кім нават не вітаўся, а толькі адорваў цяжкім паглядам раскосых вачэй. Нічога добрага ад яго чакаць не даводзілася.

Скончыўшы праверку, камісія паехала дакладваць вынікі сваіх намаганняў таварышу Архараву. Рашэнне Архарава было адназначным:

— Прыбылова, я лічу, трэба гнаць! У нас незамянімых няма. Ды і, скажу я вам, камуністу нельга на адным месцы. Інакш — застой. Застой нашай партыяй асуждаецца.

Прыбылову закацілі «страгача» і знялі з пасады. У калгасе імя Сталіна склікалі сход, каб давесці да калгаснікаў пастанову райкома. Прыехала тая ж праверачная камісія на чале з Лазуціным і яшчэ нейкі незнаёмы чалавек. З выгляду — звычайны. Апрануты ў нешта накшталт ваеннага шыняля, перашытага з цывільнага палітона. У хромавых ботах. Халявы з тоўстых ікраў ссунуліся ўніз. На галаве насунутая на вочы кубанка.

Першым выступіў Лазуцін, напачатку спытаў:

— Усе тут?

— Усе, як ёсць, — адказаў Прохар Грудка.

Выступоўца, упэўнена залажыўшы рукі за спіну і агледзеўшы залу, сказаў:

— Таварышы, калгаснікі! Мы з вамі жывём у пераломны перыяд, адольваем не малыя, на жаль, цяжкасці пасляваеннай абстаноўкі, будуем новую фазу, фазу пераходу ў камунізм. Не ўсё адразу палучаецца. Памёр таварыш Сталін, без яго цiжало, ёсць прамашкі. Дасадны промах дапусціў ваш прадсядацель Прыбылоў. Замест таго, каб усур'ёз заняцца паляводствам, буйной рагатай жывёлагадоўляй, ён, бачыце, зрабіў стаўку на рыбалку...

Усе зарагаталі. Лазуцін пачакаў, калі сціхне смех, і працягваў:

— Я да гэтага часу не перастаю здзіўляцца! Ваш прадсядацель стаў высакамерны, а я папярэджваў! Я яму гаварыў! І па-сяброўску гаварыў, і па-партыйнаму! Сігналізіраваў! А ён мне кажа: «Не вучы рыбу плаваць!» Высакамерны стаў. Але ж я не магу дазволіць скрыўляць партыйную лінію. Партыйная лінія — прамая. Рашэнне райкома аб вызваленні таварыша Прыбылова ад займаемай пасады прадсядацеля — адназначнае. Гэта, безумоўна, важны мамент. Усё пытанне, таварышы, у падборы, выхаванні і расстаноўцы кадраў. Кіраўнік павінен быць гнуткім і прынцыповым адразу, адчуваць патрабаванні нашай партыі і запросы нашай эпохі. Трэба — гэта я з усёй настойлівасцю падкрэсліваю — узмацніць палітыка-выхаваўчую работу. К чаму я гэта кланю? К замене. Усё ясна, як дважды два. Кто не понял, я не вінават. Рускім языком вам гавару, — скончыў Лазуцін і сеў.

Твар Прыбылова, які сядзеў у першым радзе, пачырванеў.

— Есць пастанаўленіе! — падаў голас Байбаковіч, які сядзеў з Лазуціным у прэзідыуме.

— Дзякуй яшчэ, што ніхто не ўтапіўся, — азваўся Мікіта Галёнка, і зноў усе засмяяліся.

Падняўся Прыбылоў:

— Дайце я скажу.

— Валяй! — дазволіў Лазуцін, лыпнуўшы вачыма.

Прыбылоў да трыбуны не пайшоу, пачаў гаварыць з месца, павярнуўшыся да залы:

— Таварышы, я прашу, каб вы мяне пакрытыкавалі на гэтым сходзе, таму што ўсякае здараецца. Я ўжо не раз вам гаварыў, што я па жыцці іспытую новае, правяраю, што гадзіцца, што не гадзіцца. Гэта не проста, а між тым мяне выстаўляюць у няправільным святле, і ніхто не думае, што я магу пакрыўдзіцца.

Колер твару Прыбылова з чырвонага памяняўся на яшчэ больш чырвоны, амаль бурачковы. Калі ён гаварыў, пульхныя, азызлыя шчокі яго то надзімаліся, то ападалі.

— Што я хацеў сказаць, собственна гавара? — Прыбылоў спыніўся, пацёр пераноссе, насупіўся. — Усякае задараецца. Я адзін на ўсё не разарвуся! Я або ў кабінеце сяджу, або на кані, але за ўсім усачыць не магу. А вы хочаце так нізка апусціць мяне. Застаецца толькі здзіўляцца. Я бачу: вы гатовы сапхнуць мяне... — Прыбылоў прыгадаў чутае ад некага: «Натоўп сёння цябе кумірам зробіць, а назаўтра павесіць».

Вешаць, вядома, ніхто не збіраўся, але гэты свет заставаўся для яго чужым і варожым.

Нехта гукнуў:

— Гладкі, як бычок!

Гэта адносілася да Прыбылова, і зала адказала лёгкім, не злым смяшком. Ён яшчэ нешта хацеў сказаць, але спыніўся, усяго не скажаш. Лявон успомніў Гамона, які ў падобных выпадках раіў: «Не гавары шмат, бо траціш сілы». Як бы пачуўшы Лявона, Прыбылоў сеў.

Каб неяк падняць панылы настрой Арбітра Аўдзеевіча, Байбаковіч паведаміў:

— Райком прадугледзеў забяспечыць таварыша Прыбылова адпаведна новай пасадай.

— Гэта — каштоўны кадр, — згадзіўся Лазуцін. — Партыя такімі не разбрасываецца.

Сход маўчаў, адзін толькі Прохар Грудка пракаменціраваў тое, што адбылося:

— З прадсядацеля скінулі, ай-яй, пэўна, Камянецкі стоўп зваліўся!

— Зваліўся! — падхапіў Хвядзюшка. Быў у Прыбылова падхалімам, «шасцёркай», але, як відаць, не збіраўся смуткаваць з прычыны таго, што гаспадара пазбавілі пасады. «Усім некалі даваў «наганяй» Прыбылоў, ды яшчэ які «наганяй»! А цяпер вось і сам атрымаў.

— Людзей не хапае! — дадаў Сценгарыеў.

— Вечна нам чаго-небудзь не хапае, — уздыхнула нейкая калгасніца, што сядзела побач з Софай Дзванарык. Софа ўспамінала, як Прыбылоў перыў яе плёткай.

— Тэхнікі не хапае! — удакладніў Цярэшка Макацёр.

Яшчэ хтосьці дакінуў:

— Каб толькі тэхнікі.

— Не ладзяцца нешта нашы справы... — зазначыў Міхаль Тупчык.

— Мясцовага трэба, — уголас падумаў Павал Гальяш, — тутэйшага.

— Давайце мясцовага, мясцовага! — загаманілі мужчыны, адчуваючы, што зараз гаворка пойдзе пра выбары новага старшыні.

Прыбылоў падняўся і пакінуў сход.

— Таварышы! — пачаў Лазуцін, некалькі разоў кашлянуўшы, каб прачысціць голас. — Райком прадбачыў такую логіку развіцця падзей і прадугледзеў магчымую кандыдатуру старшыні ў калгас імя Сталіна. Гэта — таварыш Качан Савелій Савельевіч. Малады, энергічны, мясцовы. Яго кандыдатура зацверджана на бюро райкома. Прадставіць даручана мне. Савелій Савельевіч, падніміцеся, пакажыце сябе народу!

Савелій Савельевіч, позіркі ў зале скіраваліся да яго, як бы нехаця, з цяжкасцю, падняўся (ён сядзеў у першым радзе з краю), устаў, ссунуў на патыліцу кубанку. Ростам не высокі, не шырокі ў плячах, паўнаваты, але рухавы, хуткі. Да гэтага ён працаваў дырэктарам базы «Заготскот» у Камянцы. Пружаўцы яго ведалі. Жывую вагу жывёліны вызначаў на вока, не ставячы на вагі, і пры гэтым на шмат не памыляўся.

Прускаўцы, відаць было, згадзіліся. Прагучалі апладысменты, спачатку слабыя, а потым больш дружныя. Лазуцін акінуў залу позіркам, пераканаўшыся, што такіх, хто б забыў пляснуць у далоні, няма.

— Дазвольце, — ён лыпнуў вачыма, — дазвольце ў такім выпадку вашы апладысменты лічыць за згоду з выказанай кадравай прапановай.

Абраны старшыня падняў руку ў прывітанні і працяглы час ёю махаў, як бы просячы спыніць апладысменты. Зняў з галавы кубанку, прыгладзіў чорны чуб. Пачаў гаварыць, падзякаваў за аказаны давер.

— Я ўжо, таварышы, раіўся з райкомам партыі, з таварышам Харахорыным, і ўважліва слухаў, што казалі выступоўцы. Я не буду пра рыбгас, я скажу пра калгас.

Усе заўсміхаліся.

— Зараз, пры мне, усё будзе інакш. Я навяду парадак, без перабольшання кажу.

Зала пажвавела, сцішана загула, загаманіла.

— Так, таварышы, менш слоў, больш спраў!

— Гэта — правільна! — азваўся Сценгарыеў, які да гэтага маўчаў, як бы па чымсьці сумаваў.

— Слаба, к прымеру, угнойваем мы, таварышы, зямлю! Не збіраем попел. Правільнае прымяненне ўгнаенняў у земляробстве — справа вялікай важнасці. На маёй базе, вядомай вам, «Заготскот», горы гною. Не ведалі, што з ім рабіць! А цяпер мяне асяніла: забраць яго адтуль і перавезці ў калгас імя Сталіна! Раскідаць па полі!

— Вот гэта дзела! — рэхам адгукнуўся брыгадзір Хвядзюшка.

— Гэта — выхад! — ухваліў Байбаковіч, які прыцэліўся на месца дырэктара базы «Заготскот», якое вызвалялася пасля Качана.

— Вось, таварышы, — паабяцаў новы старшыня, — складзем перспектыўны план развіцця калгаса і пачнём! На такі план арыентуе нас і райком, асабіста таварыш Харахорын. Дазвольце заверыць вас, што агульнымі намаганнямі мы паднімем сельскую гаспадарку ў вашым калгасе.

На гэтым сход скончыўся, і пачаўся новы этап у жыцці і гісторыі калгаса імя Сталіна.

* * *

Ну, а Прыбылоў?

Прыбылова без работы не пакінулі, зацвердзілі дырэктарам лазні ў Камянцы. Адчуў сябе абражаным. З-за гэтага залішне часта стаў заглядаць у чарку. Скончыў дрэнна. Аднойчы, будучы на добрым падпітку, выгнаў з лазні ўсіх сваіх кліентаў, якія там мыліся і парыліся, і, не распранаючыся, зачыніўся ў парылцы. Прыхапіў з сабой і паўбутэлькі недапітай гарэлкі, вырашыў дапіць у парылцы. Выцягнулі яго адтуль ужо нежывым. Ніхто гэтаму не здзівіўся: у Прыбылова апошнім часам быў павышаны ціск.

Пра гэтую бяду расказаў Мікалай Пятровіч, які, як дырэктар, ездзіў у Камянец, у райана, каб атрымаць зарплату на ўвесь настаўніцкі калектыў. Гэта ён рабіў раз на месяц. Атрымаўшы зарплату на ўсіх, ён адлічыў свае грошы, зайшоў у прадмаг, на Брэсцкай вуліцы, купіў буханку белага хлеба, дзве бляшанкі далёкаўсходніх крабаў ды яшчэ пакецік цукерак — «падушачак» — Антаніне Фердзінандаўне, якая любіла салодкае. Усё паклаў у партфель. Выходзячы з прадмага, сустрэў знаёмага інспектара райана, ад якога і даведаўся пра тое, што здарылася з Прыбыловым. Прыбылова ён ведаў, нават блізка зналіся.

— Піў, — сказаў інспектар.

Мікалай Пятровіч пасля рашучага патрабавання Антаніны Фердзінандаўны прыпыніў сваё захапленне віном і мужна стаў на шлях выпраўлення. І цяпер яму стала прыемна, што ён гэтак зрабіў, парваўшы адносіны з «зялёным зміем», як называла віно жонка. Развітаўшыся з інспектарам, ён павярнуў свой веласіпед — «дамку» — у адваротны шлях, дадому. Адлегласць невялікая — якіх-небудзь дзесяць кіламетраў. Праехаў масты і ў Замастах каля магазіна спыніўся. Смерць Прыбылова, у лазні, у самой парылцы, уразіла настолькі, што ён не ўтрымаўся і, каб памянуць нябожчыка, узяў бутэльку свайго калісьці любімага «Вішнёвага», засунуў у партфель. Ехаў, спорна круцячы педалі, дапамагаў ветрык, які дзьмуў у спіну. Насустрач адзін за адным заставаліся ззаду тэлеграфныя слупы. На дроце сядзелі нейкія дробныя птушкі. Не забываў пра бутэльку ў партфелі. Выпіў не адразу, а ўжо калі падняўся на Бабіцкую гару, праехаў большую палавіну дарогі. Уз’ехаць на Бабіцкую

гару на веласіпедзе немагчыма, бо надта круты схіл, можна і ланцуг парваць. Мікалай Пятровіч лез, як альпініст. Штурхаў за руль веласіпед. Узабраўшыся на гару, Мікалай Пятровіч з палёгкай уздыхнуў, агледзеўся. Навокал разлёгся прастор: Бярэзіна, узгоркі, пералескі, пойма Лосьны.

Бабіцкая гара — самая высокая ў наваколлі. Адсюль відзён, у далечыні, Камянецкі стоўп, і царква Сімяона Столпніка, і школа — высокі будынак пад чырвоным чарапічным дахам. Мікалай Пятровіч прыставіў веласіпед да ядлаўцовага карча, побач прысеў сам. Затым дастаў з партфеля бутэльку, знайшоў каменьчык, адбіў сургуч, адкаркаваў. Абцёршы рыльца, паднёс да вуснаў, адпіў. Адчуў знаёмы водар і смак «Вішнёвага». Адпіўшы, заткнуў бутэльку, паставіў побач. Стаў пазіраць у бок Камянца, загледзеўся на Камянецкі стоўп, але ніякіх пачуццяў ён у ім не выклікаў. Па праўдзе сказаць, мінулае засланіла вайна, якая ўсё яшчэ стаяла і ў вачах, і ў вушах як ён ні хацеў гэтага пазбыцца. А ён вельмі хацеў...

Пасля выпітых двух-трох глыткоў адчуў задавальненне, апусціў галаву, загледзеўся на дол. Там адбывалася сваё жыццё. Ён стаў глядзець. Па травінках заклапочана бегалі дробненькія павучкі, жучкі, мурашы. Розныя істоты, а паміж сабой ладзяць, не тое, што людзі. Смірна сядзяць маларухомыя багоўкі — чырвоныя з чорнымі крапінкамі. Успомніў чамусьці, што калісьці ва ўніверсітэце яму прапанавалі аспірантуру, знайшоўся ўжо нават навуковы кіраўнік, але нічога з гэтага не атрымалася, захацелася большай самастойнасці. Зрабіў выбар ехаць у вясковую школу, мэтанакіравана ў Заходнюю Беларусь, угаварыў жонку Антаніну Фердзінандаўну, якая не адразу згадзілася, але ўламаў. Паехалі і вось настаўнічаюць.

Зноў прыклаўся да рыльца і зрабіў працяглы глыток, віно ажно забулькала ў глотцы. У роце прыемны саладжавы прысмак. Бляшанку з крабамі не адкрываў, віно добрае і без закускі. Дапіў, апаражніў бутэльку, адставіў убок і з нейкай радасцю і задавальненнем падумаў пра тое, што вось п’е, смакуе віно не ў нейкай душнай лазні, як няшчасны Прыбылоў, а на ўлонні прыроды, на выгодзе, што фактычна агледзеўся, своечасова адумаўся, «завязаў».

Пасля гэтага веласіпед роўна ўжо не паехаў, але дадому Мікалай Пятровіч дабраўся без прыгод. Настаўнікам прывёз зарплату, жонцы, апроч таго, прадукты — хлеб, крабавыя кансервы, цукеркі. У калектыве расказаў сумную навіну пра Прыбылова.

## VIII

Вярнулася с турмы Грунька, якая сядзела «за каласкі». Наведалася да дзядзькі. Лявон з Фёклай сустрэлі як родную дачку. Адседзела Грунька два з паловай гады, вызвалілася па амністыі, якая была абвешчана 27 сакавіка 1953 года. Паводле яе вызваляліся асобы, асуджаныя на тэрмін да пяці гадоў уключна. Апынулася на свабодзе і Грунька. Маладая, але засерабрылася ніткамі сівізны пасмачка чорных валасоў над ілбом.

— Гэта жыццё выбеліла, — апраўдвалася маладзіца.

Лявон сардэчна абняў пляменніцу.

— А дзядзюхна! — захлыналася ад пачуццяў Грунька.

Шчыра абняліся і пацалаваліся з Фёклай.

— А цётухна! — шчыравалася госця.

— Ой, дарагая ты наша! Мы так за цябе перажывалі!

— Пасадзілі, а я Богу душой не вінаватая! Тры каласкі падняла...

Фёкла пачаставала госцю сваёй настоечкай на ягадах шыпшыны. Грунька кінулася распавядаць:

— Ой, хлябнула гора! У лёхах трымалі, пад будынкам раённай міліцыі. Сядзела ў закутку, дзе нельга было нават сагнуцца і прысесці. Ноччу выводзяць на допыт і пытаюцца, колькі ж я тых каласкоў сабрала і хто яшчэ збіраў. Следчы кажа: «Ты свою жизнь ставишь выше советской власти!» А кармілі! Суп такі, што крупіна крупіну даганяе. Днём у камеры забаранялася спаць. Сядзець было можна, але калі падапрэш галаву рукой, пачыналі крычаць праз акенца ў дзвярах. Тады я імкнулася паказаць, быццам папраўляю валасы. Але калі задоўга патрымаеш руку, таксама крычалі. Калі не паслухаў і пачаў спаць, то садзілі ў карцар. А там толькі сцены і цэментная падлога. У карцары даймаў холад. На дзень толькі кубак вады і сто грам хлеба.

— Сядзелі, пяць гадоў прыпаялі. Суд не памятаю, бо ў шокавым стане была, памяць страціла. Потым завезлі ў Берасць. Зноў камера, зноў пакуты. Тараканаў — працьма! Таракан падобны да прусака, але чорны. Ну і скочак шмат — хмары! Скачуць, як конікі ў сенакос. Людзей агарнуў страх, а я, прызнаюся вам, чамусьці не баялася. Не баялася ды і ўсё. Потым прызначылі мяне адбываць тэрмін у Гомелі, у швейным цэху. Шылі ніжнюю бялізну і куфайкі, ну, целагрэйкі па-іхняму, для зэкаў. Харчаванне было вельмі благое, крапівой нават кармілі.Ператрус заператрусам. Усё чагосьці шукаюць. А потым у Іркуцкую вобласць завезлі, на будаўніцтва чыгункі Тачку далі, ды я зямлю вазіла на насып пад дарогу. Жвір пад шпалы падсыпалі, чыгуначнае палатно падвышалі. Было там нас болей як пяць тысяч. Ад начальнікаў, вертухаяў розных, — здзек. Неаднойчы казалі нам: «Мы научим вас работать!»

Зімою снегу — вышэй за чалавека. Агонь палілі. Касцёр. Надта па доме нудзілася. А потым ажно за Ташкентам апынулася, у закратаваным вагоне везлі. За Ташкентам бавоўну збіралі.

— Гэта ж так далёка! — жахнулася Фёкла.

— Далёка! — азваўся Лявон. — Далёка і цяжка.

— Жанчынам было цяжэй за ўсіх. Бачыла я гэта на зборы бавоўны. З брыгадзірам павінна пераспаць кожная, а не, дык умовы яшчэ больш невыносныя...

Аповеду пакутніцы не было канца.

— Выпі, — ласкава запрашала Фёкла, наліваючы ў кілішак настойку, што жывая вярнулася. — Запрашала і ўспамінала Домну. Час такі, што ўсім цяжка.

— Як вы жывяце?

— Жывём, не наракаем...

* * *

А неўзабаве, следам за Грунькай, выйшаў на волю Якаў Арыстархавіч. Адпусцілі па амністыі, па той жа, што і Груньку. Скончыліся нарэшце зэкаўскія нягоды, вырашыў ехаць у Брэст, дзе стаяла цяпер перавезеная Мірыкам хата. Там жыла і Хвядося. Хата знаходзілася на Граеўцы — так называўся гэты раён горада, на вуліцы Чырвонагвардзейскай. Хату пазнаў: тая самая. Не адразу аднак пераступіў парог, а пастаяў перад ім, углядаючыся ў паўзмрок памяшкання, абмацаў вачыма мэблю, зірнуў на пафарбаваную падлогу. У хаце была Хвядося і якраз вярнуўся з работы Мірык. Сустрэлі, пасадзілі за

стол, наладзілі частаванне. Хвядося не спускала з мужа звільгатнелых вачэй. Пастарэў. Рот Якава Арыстархавіча, які раней упрыгожвала, ззяючы вясёлкавым бляскам, безліч жалезных і залатых каронак, цяпер быў сумны і амаль што пусты — дзірка і ўсё. Галава — голая, як більярдны шар, але такой яна была заўсёды.

— Расказаць, хоба на яго, што перацярпеў, — не паверыце! — уздыхнуў госць. — Нарэшце, пад амністыю трапіў. Дачакаўся. Камісія дапамагла, я іх мэдам ды самагонкай пачаставаў. Дык яны мне кажуць: «Жалка такога адпускаць». А я там, у тайзе, памочніка сабе падгадаваў.

Паказаў даведку:

*Справка № 0581021*

*Выдана гражданину Пац Якову Аристарховичу, год рождения 1895, национальность.., урожéнцу д. Жданки Каменецкого района Бресткой области в том, что он содержался в местах заключения МВД с 2 февраля 1948 г. по 20 июля 1953 г., откуда освобожден на основании Указа пред. Верх. Совета СССР от 24.4.53 г. за нецелесообразностью дальнейшего содержания в ИТЛ со снятием судимости и поражения прав.*

*Следует к месту жительства Брестская обл., дер. Альбертин Каменецкого района.*

*Начальник подразделения ИТЛ-н .....(Муравьев)*

*Начальник части .... (Соболев)*

— Дакумант! — адзначыў, як бы пахваліў, Мірык.

— Спачатку тут, у Берасці, сядзеў, потым на ўсход павезлі.

— Хай бы тут быў, — азвалася Хвядося, — усё ж такі дома...

Якаў Арыстархавіч не звярнуў увагі на яе рэпліку.

— У Смаленску, хоба на яго, упершыню раздалі турэмны паёк, картовыя штаны далі, целагрэйку. Абшукваюць, трасуць, варушаць, шманаюць. Увесь час. А колькі, хоба на яе, гэтае шпаны! На руках, на спіне, на грудзях — усюды малюнкі: сэрцы, крыжыкі, пальцы, перавітыя чорнымі змейкамі. У аднаго на грудзях былі партрэты Сталіна і Леніна.

— Татуіроўкі, — патлумачыў Мірык.

— Але, але, — згадзіўся расказчык. — Крымінальнікі, халера на іх, жыць не давалі. Адбіралі ўсё, што маеш. Але яны, бытавікі, сваімі лічацца, а мы — ворагі народа. Нас няма каму абараніць. Зона — месца суровае, там ніхто не паспагадае...

Расказваў Якаў Арыстархавіч і расказваў. Хвядося не раз роспачна пляскала далоньмі і хітала галавой.

Сустрэча з роднымі выдалася і радаснай, і сумнай, калі ўспомнілі мінулае, страчанае, Альбэрцін. Сувязь, аднак, засталася: там жыў Амброжый.

— Дзядзька Амброжый у калгасе цяпер, — сказаў Мірык. Якаў Арыстархавіч падумаў і адказаў:

— Не ўсім жа ў гарады перабірацца.

— Але, але, — пацвердзіла Хвядося.

Праз колькі дзён Якаў Арыстархавіч не вытрымаў, вырашыў наведацца ў Альбэрцін, пабачыцца з братам, з Паўлінай. Калісьці, калі на пачатку вайны вызваліўся з Брэсцкай турмы, дабіраўся ў Альбэрцін пяшком, у турэмнай робе. Цяпер узяў выпадковы шафёр, пасадзіў у кузаў і вёз да Відамля, дзе Якаў Арыстархавіч з ім, як трэба, расплаціўся і далей падаўся сваім ходам. Спыніўся, праходзячы каля помніка Сталіну, што стаяў на развілцы дарог і паказваў кудысьці рукой. Зірнуўшы на помнік, уздыхнуў і падаўся далей. Дарога знаёмая, знаёмыя вёскі, поле, лес, а за лесам і роднае гняздо — Аль-

бэрцін. Фальварак патанаў у купчастых прысадах, а паміж ім і лесам, на высокім узгорку стаяў той самы раскідзісты дуб, стары, непадуладны ні часу, ні вятрам. Былы гаспадар падышоў бліжэй. Дуб быў абсыпаны жалудамі. Ціха шалясцела яго прыгожае лісце, збольшага пазалочанае восенню, каструбавата тырчэла кара. Калісьці меўся паставіць тут, на ўзвышшы, вятрак. Не паспеў, змяніліся абставіны.

— Маё шанаванне! — прывітаўся Якаў Арыстархавіч, і яму падалося, што дуб пазнаў яго, прыняў прывітанне і грамчэй і радасней зашалясцеў лістотай.

Ад дуба, берагам, пайшоў да абсады. Ціха плыла рака. Ні ўсплёску, ні шолаху. Адпачывала пасля дзённай утомы рыба. Восень. Вада стала чарнейшай і празрысцейшай. У пойме, па забалочанай нізіне, як і калісьці, раслі ў асноўным асака ды хвошч.

Заклекатаў, шумна замахаў крыламі цыбаты бусел, стоячы ў гняздзе на самым версе старой ліпы, што расла ў фальваркавых прысадах. «Ці не мяне ён пазнаў? Можа, са мной вітаецца?» — усцешна падумаў Якаў Арыстархавіч.

У тым, што бачыў і што чуў, ён пазнаваў, прыгадваў колішняе, сваё. Хваляваўся. Узнікалі ўспаміны. Восень, зіма, вясна, лета... Не заўважыў, як падышоў да сядзібы, да таго месца, дзе знаходзілася хата. Ад хаты застаўся толькі нізенькі, зарослы дзябёлымі лапухамі падмурак. Спахапіўся, што няма помніка, які калісьці паставіў бацька. Ад помніка з крыжамі і надпісам засталася яшчэ нават не затравелая яміна.

Бразнуўшы ланцугом, забрахаў сабака. «Не той, незнаёмы, той, мусіць, не дачакаўся...» З хаты-хлевушка выйшаў Амброжый. Якаў Арыстархавіч моцна абняўся з братам. Амброжый запрасіў у хату.

— А помнік — што?

— Бранаўцы на фундамент забралі, у Алешкавічах клуб будуюць. І хата мая туды пайшла.

Якаў Арыстархавіч нічога не сказаў, толькі шумна ўздыхнуў, нават засоп. Зайшлі ў хату. Калісьці тут стаялі дзве каровы-галандкі, цяпер усяліўся Амброжый, прарэзаў вокны, наслаў падлогу.

— Вызвалілі, аслабанілі, хоба на іх, па амністыі, — паведаміў Якаў Арыстархавіч, распранаючыся. Скінуў світку, якую знайшла ў прыхаваным гардэробе Хвядося, капялюш павесіў на цвік. Застаўся ў палатняным пінжаку, што захаваўся ад даўніх часоў, і пры гальштуку. «Без гальштука не можа», — адвярнуўшыся, пасміхнуўся Амброжый.

Якаў Арыстархавіч апусціўся на ўслон каля сцяны, скрыжаваўшы ногі і паклаўшы адну на другую, рукою абапёрся на падаконнік. Агледзеўся. Брат, адзначыў ён у думках, пахудзеў, але не выглядае надта сумным, мае нейкі занятак. У вачах спакой і ціхамірнасць.

У кутку на покуце, заўважыў, сіратліва вісеў невялічкі абразок, аздоблены пабляклым ад часу ручнічком. Пазіраючы на гэты абразок, Якаў Арыстархавіч занепакоіўся, але гаворкі з братам не пачынаў.

З'явілася Паўліна, усхваляваная, відаць, ужо заўважыла прыход госця. Павіталася, павіншавала з вяртаннем. Якаў Арыстархавіч падняўся, яны абняліся, дакрануліся шчакамі. Выглядала Паўліна не з горшага, усё ў ёй было на месцы: і грудзі, і стан, і пастава, і чысты твар, крыху прыпухлыя, прыгожа акрэсленыя вусны.

— Ты мне, Паўліна, падушку мяккую зрабі, бо я на жываце люблю спаць, а тварам на мяккай падушцы, — сказаў Амброжый. Не то папрасіў, не то загадаў. Як бы жадаючы паказаць брату, што ў яго з пакаёўкай блізкія адносіны.

— Зраблю, — паабяцала Паўліна, сабрала на стол перакусіць. Амброжый прынёс аднекуль прыхаваную пляшку, разліў у тры кілішкі, і яны выпілі за сустрэчу.

— Дома добра, — сказаў Якаў Арыстархавіч, ставячы пусты кілішак на стол. — Не тое, што там, дзе я быў. — Ён настраміў на відэлец кавалачак нарэзанага Паўлінай сала. — Адгарадзілі мяне камуністы, хоба на іх, ад свету. Трыццаць дзевяць гарадоў для мяне закрытыя, але ў Берасці дазволілі.

— Дзякуй, што хоць у Берасці, — зазначыў Амброжый, не адводзячы спачувальнага погляду ад брата.

Якаў Арыстархавіч пажвавеў:

— Відамля мне яшчэ прыпісалі.

— Як гэта — Відамля?

— Ну, памятаеш, у Відамлі, на развілцы дарог (адна на Высокае, другая — на Камянец) помнік Сталіну стаіць?

— Стаіць.

— З працягнутай рукой. Калісьці нехта яму на руку пустую торбу павесіў...

— Было такое, як жа, помню смяяліся людзі.

— Дык вось, прыпісалі гэта мне — быццам я павесіў...

— Няўжо гэтак зрабілі?!

— Каб я так жыў!

— Ну і злыдні!

Паўліна слухала размову, а потым выйшла.

— А ніштo яна ў цябе, — сказаў Якаў Арыстархавіч пра Паўліну. — Прылюдная.

— А я ўжо мала пазіраю ў той бок...

— Патрэбніца...

Наступіла паўза, якую госць парушыў пытаннем:

— Хату Мірык забраў, а абразы?

— Абразы я да сябе перанёс. Тут яны ў покуце віселі. — Амброжый паказаў у куток, дзе вісеў невялічкі абразок. — Маладажонам прадаваў, каторыя вяселле ладзілі. Вянчацца — ікона трэба. Не толькі маладажоны, усе, каму трэба было, прыходзілі. Гаўрыла з Лешні ў трэці раз прыходзіў, купляў, іншыя куплялі. Ды я і не шмат браў, не пабагацеў.

Якаў Арыстархавіч скрушна замахаў галавой:

— Амброжый, братка дарагі, я ж, хоба на яго, у тых абразах залатоўкі хаваў! Таму той Гаўрыла і прыходзіў тры разы.

У Амброжыя раскрыўся рот і здзіўленню не было канца. Ён развёў рукамі і толькі ахнуў, вяла апусціўшы рукі. Пасля гэтага браты, адзін і другі, змоўклі, не ведаючы, што і рабіць. Ніхто ж цяпер пра тыя залатоўкі не прызнаецца, не верне.

— Застаецца, хоба на яго, толькі здзіўляцца, — прамовіў нарэшце Якаў Арыстархавіч і пацінуў сваімі ўсохлымі плячыма. — Кожны хоча жыць за кошт іншага, на гэтым свет стаіць.

Назаўтра браты дамовіліся праведаць Кужалёў — Лявона з Фёклай. Лосьну перайшлі па кладцы. Далей дарога вяла берагам. Злева раскінулася сенажаць, так званы Перавоз.

— Цяпер гэта ўсё калгаснае, — Амброжый паказаў на сенажаць. — Хутка атаву будуць касіць.

Якаў Арыстархавіч шумна засапеў.

На былой панскай зямлі, якая калісьці належыла Падгурскаму і адводзі-

лася звычайна пад агарод, араў трактар, адвальваючы глебу разам з бадыллем бульбоўніку і бур'яну. Чуўся пах свежаадваленых скібаў агароднай зямлі. З неба звешваліся бруднаватыя і рыхлыя, як вата, воблакі.

Далей на шляху была Крухмальня, дзе яшчэ нядаўна месціўся прускаўскі «рыбгас». Тут панавала запусценне: замест сажалак — балотныя завадзі, па берагавых схілах якіх тырчэла ўчарнелае кустоўе і пні.

— А гэта што? — не зразумеў Якаў Арыстархавіч.

— Гэта тут рэчку былі запрудзілі, застаўню пабудавалі, як бы плаціну.

— Плаціну?!

— Столькі цэменту ўхайдохалі! Хацелі рыбу разводзіць, але не задалося. Пайшоў дождж і размыла, усе карпы ў Лосьну сплылі.

Якаў Арыстархавіч не мог схаваць свайго абурэння:

— Гэта, хоба на яго, старшыня вінаваты, з воднай стыхіяй не справіўся. Тут добрага інжынера варта было наняць. Гідратэхніка! Каб у грунтах разбіраўся і ў будаўнічых матэрыялах. Разлік патрэбен!

— Ну так, разлік, — як звычайна, падтрымаў братаву думку Амброжый.

Лявонава хата пасярэдзіне Прускі, і хутка яны ўжо адчынялі веснічкі. Забрахала Нэрка, напяўшы ланцуг, але пазнаўшы старых знаёмых, змоўкла і нават завіляла хвастом. Лявон пазнаў Якава Арыстархавіча па насунутым на лоб капелюшы. Пахваліў у думках Хвядосю, якая зберагла гэтую патрэбную рэч яшчэ з тых часоў. Выйшаў з хаты, сустрэў гасцей.

— Маё шанаванне! — сказаў Якаў Арыстархавіч і, шырока разняўшы рукі, наблізіўся да Лявона. Як старыя прыяцелі, яны моцна абняліся і пацалаваліся.

— Глядзішся, хоба на яго, не блага! — Якаў Арыстархавіч прыўзняў вялікі палец. — Малайчына!

— Добры дзень! — прывітаўся Амброжый.

— Сад у цябе разросся! — дадаў Якаў Арыстархавіч, зірнуўшы ў бок саду, што знаходзіўся за хатай.

Зайшлі ў хату, павіталіся з гаспадыняй, пачалі распранацца. Лявон кінуўся ў Салівэсеву лаўку, узяў віна, кансерву ў масле, сыркоў.

— Спярша трэба за сустрэчу чаго-небудзь выпіць ды пажаваць! — сказаў ён.

Фёкла заспяшалася ў камору. Братоў адразу пасадзілі за стол.

— Як жывяце? — пацікавіўся Амброжый.

— Жывём патроху, — адказала Фёкла, ставячы на стол талерку з маслам.

— Я масла не люблю, я сала люблю, — як бы пахваліўся Якаў Арыстархавіч.

Разліўшы віно па шклянках, Лявон прапанаваў тост:

— Ну, давайце за сустрэчу, якую мы так доўга чакалі.

— За канец мучэнняў, — дабавіла Фёкла.

— Каб толькі на спажытак, — сціпла азваўся Якаў Арыстархавіч.

— Але, але, — далучыўся да яго брат.

Выпілі, пачалі закусваць.

— А дзе ваш гадованік? Крэснік мой?

— У школе, — адказала Фёкла.

— Раскажы ўсё ж такі, Якаў, як табе там давялося, — папрасіў Амброжый.

— Раскажыце, раскажыце! — падхапілі Лявон з Фёклай. — Паслухаць хочацца.

Якаў Арыстархавіч глыбока ўздыхнуў.

— Надта па дому нудзіўся! — прызнаўся ён, правёўшы далонню па галаве ад ілба да патыліцы, як бы прыгладжваючы валасы, якіх у яго не было. — У Камянцы яшчэ не блага было. У Камянцы толькі гузікі адрэзалі, шнуркі з чаравікаў выцягнулі і рэмень забралі. А вось у Берасці! Адзін ля аднаго стаялі, хоба на яго, у камеры. Як селядцы. Толькі тыя ляжаць, а мы стаялі. Заключоныя. Дапытвалі толькі ноччу, на раніцу вярталі ў камеру. Зноў стаім, як селядцы. Такое замарачэнне, што і не перадаць, не было як і да парашы дабрацца. Адусюль сабралі, з усёй Берасцейшчыны. Ніхто не спачуваў. Хіба што адны пацукі. Сяджу ў падвале, а яны павыбягаюць аднекуль і гэтак жаласліва на мяне пазіраюць. У турме цераз адну камеру — камера смяротнікаў з жалезнымі дзвярыма. Ноччу па калідоры часта былі чуваць крыкі: «Бывайце, таварышы!»

Фёкла маўчала, слухала, успамінала тое, пра што расказвала Грунька.

— Потым неяк размеркавалі нас па камерах, на нары апрадзялілі. Наглядчык, хоба на яго, надта злы папаўся, увесь час падганяў. Прымаўка ў яго была: «Хто не паспеў, той спазніўся». А ўжо мацюкацца ўмеў — артыст! Заслухацца можна: мацюкаўся не спяшаючыся, з пераборам, усіх успомніць і ў рыфму.

Лявон зноў наліў. Якаў Арыстархавіч прапанаваў выпіць за здароўе гаспадароў, асушыў сваю шклянку першы і, ставячы яе на стол, прыцмокнуў:

— А смачнае віно Саветы навучыліся рабіць, хоба на іх.

— Смачнае, — згадзіўся Амброжый. — Смачнае і п’янкое.

Якаў Арыстархавіч прадоўжыў свой аповед:

— У Брэсце прабыў не так і доўга, пагрузілі ў таварняк і павезлі на ўсход. Везлі з закратаванымі вокнамі, рыхтык як бандытаў. У кішэні знайшоў кавалачак паперы, маленькі памяты лісток. У некага быў аловак, даў мне. На тым лістку напісаў колькі слоў і адрас — Амброжыю. Злаўчыўся, каб ніхто не бачыў, выкінуў з вагона з прыпіскай: «Хто знойдзе — пашліце ў канверце». Дайшоў!

— Дайшоў! — пацвердзіў Амброжый.

Апавядальнік апусціў галаву. Зрабіў перадышку. Відаць, цяжка было ўспамінаць.

— Далёка быў, ведаю, што такое маразяны Сібір. Зімой холад, летам гарачыня. Да крымінальнікаў адносіліся лепш. Мне адзін вертухай[1] казаў: «З крымінальнікамі мы сацыяльна блізкія, а ты вораг, з табой размова кароткая!» І я яму нават не пярэчыў, бо баяўся. Палітычных збавіць са свету хацелі. Змайстравалі, хоба на яго, плыт з бярвенняў, сагналі туды палітычных, прычапілі да катэра ды зацягнулі на сярэдзіну возера.

— І што? — ахнула Фёкла.

— Патапілі. Выпадкі былі цяжкія. Пра нейкія ўмовы ці правілы бяспекі ніхто не дбаў. Аднаго на маіх вачах вершалінай па галаве як сцебанула, дык і не страпянуўся бедны. Вадзілі на работу ў страі. Вертухай камандуе: «Крок улева, крок управа — страляю! Дзёрзкі пагляд у бок канваіра расцэньваецца як напад на яго! Страляю без папярэджання!»

Амброжый скрушна пахітаў галавой. Усе пазіралі на Якава Арыстархавіча спачувальна.

— Ой, голадам марылі, есці не было чаго. Некаторым расейскім зэкам бульбяныя лупіны прысылалі, у дарозе яны прысушваліся. Дык гэта як далікатэс. Часам, хоба на яго, сырыя картоплі даводзілася есці. Каб была магчымасць, то, здаецца, краў бы. Голад, як вядома, не цётка. Галодны і архімандрыт украдзе, але дзе ты ўкрадзеш! Няма дзе і няма ў каго. Гэткія былі варункі.

---

[1] Наглядчык.

Нават, не помню ўжо на якім пункце, лыжак не было, — Якаў Арыстархавіч памацаў лоб, — казыркамі баланду чэрпалі.

Слухачы былі ў задуменні, разгубленыя, не ведалі, што і казаць. «Добра, што хоць Валодзя ўсяго гэтага не чуе, у школе, а то захварэць можна, пачуўшы, розум пашкодзіць», — падумала Фёкла.

— Такія, як я, былі для Сталіна як пасадачны матэрыял. Яму патрэбна была бясплатная рабочая сіла. Вінаваты ці не — справа дзясятая. Рабсіла — як кажуць у Расіі. Рабсілу давай! Нават дзеці былі.

— Дзеці? — здзівілася Фёкла.

— Падлеткі.

— За што ж іх?

— Каго за што. Са мною сядзеў хлапчына, дык казаў, што на работу спазніўся. За гэта і пасадзілі.

— Хочуць, каб чалавек ператварыўся ў жалеззе, — пракаменціраваў пачутае Лявон.

— Надаела, хоба на яго, але нічога не зробіш, мусіш. Там свае парадкі, свае законы. Гэта я кажу ўжо пра саміх зняволеных. Помню выпадак на лесапавале. Аднойчы прывезлі да нас новенькага. Чалавек як чалавек. Але аднойчы ноччу ён раптам у сне пачаў крычаць: «Ты будзеш прызнавацца, сволач?! Прызнавайся, гад! Прызнавайся!..» Эге-е. Дык вось хто да нас трапіў — сам «грамадзянін следчы»! І што вы думаеце? Прайшло колькі дзён і прыбралі яго: бервяно ўпала і проста на галаву гэтаму следчаму. Няшчасны выпадак! Так усе на гэтым і пагадзіліся.

— Тут усё зразумела, — павёў галавою Амброжый.

— З адным уніятам пазнаёміўся. Прозвішча — Сліпы, але чалавек відушчы! Усё разумее. Гэта з Заходняй Украіны, львоўскі. Такога з дарогі не саб'еш.

— Уніяцтва забаронена, — азваўся Лявон. — А каліcьці ўсе былі ўніятамі.

Гэту тэму, зрэшты, не абмяркоўвалі, Якаў Арыстархавіч распавядаў пра сябе.

— Потым, ужо на пасяленні, пчальнік даглядаў. У тайзе. Мэдам займаўся. Часам лыжку-другую паспытаеш, але ж вы ведаеце, свежага мэду шмат не з'ясі. Тут ужо лягчэй стала, на пасяленні. Гэта ўжо ў апошні час. Але ж і радаваліся, як памёр Сталін. Крычалі, плакалі, танцавалі! І я сеў каля каменя і заплакаў.

— Ад яго нікому спакою не было, — прамовіў Амброжый, — ні спакою, ні літасці.

Затым Якаў Арыстархавіч перавёў размову на іншае.

— Там у нас, у лагеры, хоба на яго, і на пазыку таксама даводзілася падпісвацца.

— На пазыку? — здзівіўся Лявон.

— На пазыку.

— Ніколі б не падумаў, што і там на пазыку падпісваюць.

— Што ў вас, тое і там, на зоне. Калючы дрот раздзяляе, але адно і тое ж па абодва бакі. Гэта я даўно зразумеў. Толькі тут, па гэты бок, крыху лягчэй...

Прыбег Валодзя, вярнуўся са школы. Хроснага свайго пазнаў адразу, узрадаваўся, падышоў, і яны абняліся. Паклаў сумку з кніжкамі на лаўку, распрануўся.

— Ну, як вучышся? Гэта ж ты лісты мне пісаў?

— Я.

— Вучыцца ён добра, — адказала за ўнука бабуля, пазіраючы, як ён распранаецца.

— Маладзец! — пахваліў хросны. — Навука спатрэбіцца, жыць дапаможа. Але свайго розуму навука не заменіць. Сваім розумам жыві! — Якаў Арыстархавіч дастаў з кішэні пакецік з цукеркамі і працягнуў хрэсніку. — Гэта табе.

Хлопец узяў, падзякаваў. Ад радаснай сустрэчы твар яго ззяў, як сонца ў ясны дзень.

— Ідзі, абед на кухні стыне, — кіўнула ўнуку Фёкла, ведаючы, што той прагаладаўся.

Валодзя пайшоў.

Разлілі і выпілі рэшту.

— Будзем жыць як набяжыць, — прапанаваў Амброжый у якасці тоста.

— А дуб каля нашай абсады стаіць! І яшчэ больш разгалісты, вілаваты, — сказаў Якаў Арыстархавіч. — Я да яго падыходзіў, паздароўкаўся, павітаўся.

— Яшчэ бацька садзіў! — дакінуў Амброжый. — Арыстарх! Вятрак хацелі паставіць, але так і не паставілі, а цяпер ужо і не паставіш...

Пагасцяваўшы, браты зазбіраліся дахаты. Усталі, пачалі апранацца.

— А бранаўцы ўжо думалі, што не вернецца, — сказаў Амброжый. Усе зразумелі, што ён казаў пра Якава Арыстархавіча.

— Не дачакаюцца! — адказаў той.

## IX

Падзеі рухаліся сваім ходам, у сваёй паслядоўнасці. Прыйшла яшчэ адна зіма, зіма 1954 года. Абклала Пруску высокімі сумётамі сыпучага снегу. Раніцамі і вечарамі над комінамі хат стаялі густыя белыя дымы.

Жыццё ацiхла, але людзі варушыліся. Аднаго дня ў зімовай мутнасці паўз вокны Кужалёвай хаты каўзанулася чыясьці сухарлявая, хліпкая постаць. Чалавек узышоў на ганак, прасунуўся ў сені, намацаў клямку. З-пад паветкі, відаць, пазнаўшы госця, ласкава заскавытала, бразнуўшы ланцугом, Нэрка. Дзверы адчыніліся, і гаспадары ўбачылі Кузёмку.

— О-о-о! Хто прыйшоў!

Дуйка замяла дарогі, але для Кузёмкі бездарожжа не перашкода.

— Добры дзень!

— Добры дзень! — дружна адгукнуліся гаспадары.

Госць паставіў у куток каля дзвярэй свой ядлаўцовы кіёк і, стоячы на ходніку каля парога, стаў прытупваць і абстукваць сябе, бакі і плечы, наапашкі рукамі. Як бы хацеў сябе падбадзёрыць. Зачарпнуў з вядра вады і са смакам сербануў. Затым павітаўся, распрануўся, зняў з сябе світку, шапку-магерку, старанна павесіў на цвік. Зірнуў на ачышчаныя снегам боты, што ззялі сціплым, але непадманным бляскам.

— Абутак павінен быць у парадку, у чыстасці, бо я дарожны чалавек, — патлумачыў Кузёмка, скончыўшы агляд. — Ну, як ваша жыццё?

— У нас жыццё калгаснае, — адказала Фёкла. — Працуем, але жылы ўжо не рвём. Але працуем шмат.

— Ну і дзе ты быў? — спытаў Лявон.

— Дзе быў, там цяпер няма.

— Ты ў руху.

— Я ненадоўга, — папярэдзіў вандроўнік, сядаючы, не спытаўшы дазволу, на лаўцы каля сцяны. — Я хутка пайду.

Кузёмка не ўсміхнуўся, як звычайна наіўна, па-блазенску, ён гэта рабіў, а наадварот, шчыльна сцяў вусны, напружыўся.

— Немцы зноў бушуюць, — паведаміў ён. — У мінулым годзе ў Берліне паўстанне пачалі! У Заходні Берлін усе бягуць. Дык хочуць вакол гэтага Берліна сцяну будаваць. З бетону! Такога яшчэ не было...

— Быў Сталін, дык усе баяліся. Невядома, што пасля Сталіна будзе. Можа, яшчэ горш, — азваўся на гэтае Кузёмкава паведамленне Лявон.

— Я яшчэ тады прадракаў.

— Цяжка такім часам, — сказала Фёкла, папраўляючы на галаве хусціну. — У калхозы ўсіх загналі.

Лявон прымоўк, задумаўся, успомніў пляменніцу Груньку, а Кузёмка пачаў пра сваё:

— Кікімару сустрэў, на вярбе сядзела. На такой, што пярун ударыў, з чорным дуплом. Яна, відаць, з дупла вылезла, брудная, у сажу вымазаная. Валасы раскудлачаныя, і вочы гнаяцца. На чалавека падобная. Страх! А навокал твань, гразь, ціна. Багністае месца! Я ўцякаць кінуўся. За канём яна не ўгоніцца, а чалавека можа дагнаць. Чую як даганяе. Тупае цяжка, і ўсё бліжэй і бліжэй. Пах яе нядобры — смярдзіць. І тут яна вілаводзіць пачала, наперад забегла. Яна наперад, а я назад ды ўбок ад прамога шляху. Гляджу — стог. Зарыўся ў сена і заснуў. Хадзіла яна, хадзіла вакол стога, па балоце, але не знайшла. Прачнуўся пад раніцу, чую сабакі брэшуць, адкрываю вочы — месяц свеціць. Ціха. Узрадаваўся я. Кікімара — што? Яна душу з чалавека дастаць імкнецца. І зрабіць гэта хоча нечакана, каб чалавек не паспеў пакаяннем сябе ачысціць.

— Пашанцавала табе! — адзначыў Лявон.

У доказ ці ад страху Кузёмка мітуслівым рухам перахрысціў лоб і прамовіў:

— Лічы, што пашанцавала, а то ў балоце ўтапіцца б мог! — жахнуўся і дадаў: — Не было б Кузёмкі! Гэта ж такое замарачэнне на мяне найшло!

— Сапраўды! — здзівілася Фёкла.

— Цяпер вось я думаю.

— Пра што?

— А можа, гэта Сталін быў?

Лявон ажно засмяяўся з гэтых слоў вандроўніка. «Усё ж дзівак застаецца дзіваком, — падумаў ён пра Кузёмку. — Дзіваком і блазнам...»

— Свет цёмны і страшны, — як бы падсумоўваючы сказанае, прамовіў Кузёмка. — Дапамогу толькі ад Бога можна чакаць. Але нічога, Бог не без міласці.

— Есці будзеш? — спытала Фёкла.

— Буду! — пажвавеў Кузёмка. — А што ў цябе?

— Аўсяны кісель.

— Добра! — узрадаваўся госць, падсунуўся да стала.

— Ёсць малако.

— Гэта няблага. На наступным тыдні сырапосная нядзеля пачынаецца, а там і Вялікі пост, але пакуль што можна і малака, а то я ўсухамятку прывык.

— Калі так, дык налью табе малака.

Кузёмка памаліўся на покут, адчытаў «Ойча наш» і, калі гаспадыня прынесла абед, накроіла хлеба, пачаў есці:

— А дзе ваш унучок?

— У школе.

— Я так і падумаў. Ужо ж, відаць, хутка і заканчвае.

— Хутка, — з сумам у голасе адказала Фёкла.

— Паступаць кудысьці будзе?

— Пэўна, будзе! — хітнуў галавою Лявон, пацёршы далонню лоб і прыгладзіўшы парадзелы чубчык.

— Але ж пашпарта ў яго няма, а як без пашпарта? Без пашпарта нідзе не прымуць. У вяскоўцаў пашпартоў няма.

Лявон з Фёклай змоўклі, не ведаючы, што і сказаць. Кузёмка паглядзеў на іх і вырашыў падбадзёрыць:

— А можа, зможа неяк вырабіць пашпарт той?

— Ён жа не адзін! — азваўся Лявон. — У школе іх цэлы клас, усе вырабляць будуць, — неяк яно будзе.

Падмацаваўшыся, Кузёмка зноў перахрысціўся.

— Дзякуй богу і вам дзякуй, — звярнуўся да гаспадароў. — Ну, мне пара! — Ён устаў, зірнуў у люстэрка, што вісела на сцяне, паправіў астаткі валасоў, што заставаліся яшчэ за вушамі і пачаў апранацца.

— Некалі, людзі кажуць, дзень быў даўжэйшы! — сказаў як бы самому сабе вандроўнік. — Да паўдня, бывала, столькі пройдзеш...

Любіў чалавек вольнае жыццё, нішто яго нідзе не трымала. Узяў кіёк, яшчэ раз падзякаваў, развітаўся і паважна, з выглядам незалежнасці, выйшаў з хаты, рыпнуў весніцамі і падаўся ў бок камянецкага гасцінца.

— Пайшоў, — прамовіў Лявон, праводзячы дзівака паглядам.

* * *

К вясне вецер прыгнаў адлігу з дажджом. Капала са стрэх. Хутка раставаў снег, ахалоджваючы паветра, у павевах якога было нешта мяккае, адліжнае. Трываў мароз і раптам ды ўсё мацней пачало прыграваць сонца. Забулькалі ручаіны, з пагоркаў па праталінах сцякала талая вада.

Сапрэў бурт з бульбай. Пах такі, што на край свету ўцячэш, але спахапіліся не адразу. Бурт знаходзіўся за вёскай, у полі, на ўзгорку, шчыльна акрыты за зіму снегавой падушкай. Таму не адразу і агледзеліся. Дыхнуў, аднак, адліжны вецер і намякнуў на нядобрае.

— Адкуль такі пах? — пацікавіўся брыгадзір Хвядзюшка. — Хоць ты нос затыкай. Ажно нядобра робіцца.

— Бульба ў сярэднім бурце згніла. Папрэла зусім! — далажыў Цярэшка Макацёр, які быў прыстаўлены да буртоў у якасці вартаўніка. — Застаецца толькі закапаць.

— Як жа ты не ўнюхаў?

— Не ўнюхаў, бо нос прастуджаны быў. Апроч таго, я ж на хутары жыву, ліса ўсіх курэй перапатрашыла. І бурты, вартуй, і курэй даглядай! Я ж не разарвуся!

Калгаснікі абураліся.

— Дзіва што! — злаваў Міхаль Тупчык. — Вартаўнік празяваў. Праспаў! — Вядома было, што Цярэшка любіў паспаць, умеў спаць нават стоячы.

— Балбес! — бурчэў Апанас Хомка.

— Нашто такога паставілі! — абураліся жанчыны.

Даведаліся ў праўленні. Прыехаў у вазку (у аглоблі быў запрэжаны Пісталет) Савелій Качан. Старшыня наведваўся ў Пруску даволі часта і кожны раз казаў: «Цяпер, таварышы, справы ў нас павінны пайсці!» Савелій Качан — чалавек мясцовы, з Ратайчыц. Раней яго інакш, як Саўка, і не называлі і,

вядома, не баяліся, як Прыбылова. Звычайна дабрадушны, гэтым разам ён быў дужа сярдзіты:

— Гэта — шкодніцтва! — выпаліў ён, нервова перасмыкнуўшы вуснамі.

Нечакана пасыпалася снежная крупка, яшчэ болей абпальваючы разагрэты старшынёўскі твар. Апрануты старшыня па сезоне: на ім доўгі брызентавы плашч з капюшонам.

— Памылка выйшла, — пашкроб патыліцу Хвядзюшка. — Але што зробіш, кожны раз розуму не настарешся.

Побач з Хвядзюшкам маячыла мешкаватая постаць Багатэля. Цярэшка знік, недзе схаваўся, а Хвядзюшка з Багатэлем — дружбаны.

— Як жа гэта, — старшыня моцна мацюкнуўся, — здарылася? Не дагледзелі?

— Выходзіць, што так. Згніла, — панікнуў брыгадзір. Прыўзняў плячо і прыхінуўся каўняром да вуха, потым да другога, пагрэў. Твар зрабіўся шэрым.

— Згніла, — бездапаможна паўтарыў Багатэль.

— Гэта — злачынства! — яшчэ болей ускіпеў старшыня. — Няўцямы! Ну, я вам пакажу!

Што і каму ён збіраўся паказваць, ніхто не ведаў. Старшыня роў, як апантаны.

— Напартачылі! Вы ж восенню правяралі бурты, павінны былі ведаць! Ну, вы ў мяне атрымаеце!

Пісталет, які дрэнна рэагаваў на чалавечую лаянку, закруціў галавой, няўдала павярнуўся і наступіў на ляйчыну.

— Нагу! — закамандаваў старшыня каню, каб той сатупіў з ляйчыны.

Жывёліна сатупіла.

— Вось нават конь разумее, што да чаго, а вы?

Брыгадзір пачаў агрызацца:

— Рукі не дайшлі.

— Рукі не дайшлі, — следам за Хвядзюшкам паўтарыў і Багатэль.

— Рукі не дайшлі, а ногі?

— Пры чым тут ногі? — не здаваўся брыгадзір.

— Такія маразы былі, а вы зямлі не падсыпалі! Хіба ж гэта па-гаспадарску?

Брыгадзір зноў пачаў апраўдвацца.

— Хопіць ахінею гарадзіць! — напудзіўся на яго Качан. — Хай разбіраецца міліцыя!

Выклікалі на разбор справы ўчастковага Сценгарыева. Той правёў дазнанне. Высветлілася, што Хвядзюшка з Багатэлем зімою раскрывалі бурт, даставалі дзеля нейкіх патрэб бульбу і неахайна зачынілі. Атрымалася разгерметызацыя. Грэбень не быў, як трэба, прысыпаны зямлёй.

— З савецкай уласцю шуткі плохі! Крайняга знойдзем! — цвёрда паабяцаў Сценгарыеў.

Справа дайшла да райкома партыі. Выклікаў сам Архараў. Качан далажыў, як усё было. Лічыў сваім абавязкам інфармаваць раённае начальства пра тое, што робіцца ў калгасе, які носіць выключна адказнае і абавязваючае найменне: імя Сталіна.

— Звычайнае шкодніцтва! — вырашыў Архараў. — Вораг толькі гэтага і жджэ! Амерыканцы, панімаеш, вунь колькі баз набудавалі! З усіх бакоў! А ў нас такія рэчы адбываюцца! Бурт, панімаеш, згнаілі.

— Гэта не шкодніцтва, а звычайная абыякавасць, — паспрабаваў удакладніць Лазуцін.

— Што? — бразнуў кулаком па стале першы сакратар. — Аддаць пад суд!

Паўстала, аднак, пытанне, хто павінен адказваць, каго аддаваць пад суд: пасля Сталіна грамадская атмасфера крыху памякчэла і ў гэтым пытанні пачала назірацца пэўная абачлівасць.

— Знайсці вінаватага! — распарадзіўся Архараў.

— Вінаваты — Качан, — прапанаваў Бублікаў, які к гэтаму часу пайшоў на павышэнне і з'яўляўся ўжо членам бюро райкома.

— Не сакрэт, што нават у самым красівым яблыку можа аказацца чарвяк, — дадаў Лазуцін. — Ведаю са свайго жыццёвага вопыту.

Старшыні Савелію Качану закацілі строгую вымову за нераспарадчасць і нядбайнасць, але на пасадзе пакінулі. Цярэшку аддалі пад суд, ён атрымаў тэрмін — пяць гадоў зняволення.

Вясною не атрымалася выдаць на працадні бульбу, як планавалася на праўленні. Заставалася толькі, каб як пасадзіць. Калгаснікі ўжо звыкліся з такім сваім становішчам, што працадні не аплачваліся або аплачваліся па мінімуму, і былі, вядома, незадаволеныя, наракалі на старшыню, на Хвядзюшку, але цярпелі і рэгулярна выходзілі на працу. У канцы рабочага дня брыгадзір Хвядзюшка, якому пашанцавала ўнікнуць кары за сапрэлы бурт, нешта прастаўляў у сваёй ведамасці, памячаў. Ніхто з калгаснікаў, праўда, не цікавіўся тым, што пастаўлена насупраць яго прозвішча, — адна палачка ці дзве. Ведалі, што гэта не мае ніякага значэння.

— Лепш рабі ці горш — адна падзяка! — крыўдавала Дзякрэта. — Усё роўна нічога не атрымаеш.

— Задарам ішачым, — у тон ёй казалі іншыя. — Пры Падгурскім такога не было! Той плаціў. Кожнага разу, вечарам, пасля працы.

— Што зробіш — па нас спрадвеку поўзаюць... — сумна жартавала Ганна Бочка, схільная часам да гумару.

Хвядзюшка бараніўся, як мог. Сустрэўшы Дзякрэту, выгаворваў ёй:

— Ты што пра недахопы гаварыць не перастаеш. На працадні не даюць? Бачыш! Раней ты маўчала, а цяпер ворагаў парадаваць хочаш! Паўсюль так! На ногі становімся...

Пра гэткія размовы хутка дачуўся Саўка, як сталі называць старшыню прускаўцы. Не адкладваючы, з'явіўся ў Пруску ў сваім вазку, запрэжаным Пісталетам. Людзі сабраліся на брыгадным двары. Старшыня пачаў ушчуваць:

— Пачалі мне тут рассусольваць. Ажно Падгурскага ўспомнілі. Гэта ж памешчык! А ў нас цяпер савецкая ўлада! Розніца ёсць? Ёсць! Гэта ж трэба разумець, на тое ж вы і савецкія людзі. Не забывайце, што ў нас не абы-які калгас, а імя Сталіна.

Калгаснікі маўчалі. Старшыня няўцямна сцепануў тоўстымі плячыма, выцягнуў з кішэні хусцінку, выцер вільготны ад поту твар, затым перавёў дых, збавіў тон, зайшоў з другога боку:

— Таварышы дарагія, вы пайміця! Я хачу, каб усім было добра, аднак пакуль што не палучаецца. Пакуль што няма магчымасці, таварышы.

— Няма, — разводзіў рукамі Хвядзюшка. — Я вам казаў, а вы мне не верылі.

Саўка працягваў, для пераканаўчасці махаючы рукой:

— Пачакайце год-два, разбагацеем! Быць таго не можа! Мы сваё дакажам. А пакуль што, таварышы, зацiскайма дзягай жывот...

Азваўся схільны да досціпу Прохар Грудка:

— Бедняка нічым не напалохаеш — як казаў калісьці Гамон.

Пры ўпамінанні Гамона ўсе засмяяліся. Дзякуй, што чалавека ўсё ж не пакідаў гумар.

— Першы клопат — пра ўраджайнасць, — дзяліўся сваімі думкамі старшыня. — Я цяпер пра ўгнаенні думаю, асабліва пра фосфар. Фосфар добра ідзе пад жыта, пад пшаніцу, пад ячмень. Трэба пачакаць, таварышы. Пабагацеем! Тады кожнаму хопіць. Дайце час!

Развітаўшыся, старшыня сеў у вазок, тузануў лейцамі, разварушыўшы застаялага Пісталета, і паехаў.

* * *

Зміцер Зуб не забываў у нядзелю, адстаяўшы ў царкве абедню, заходзіць да Лявона, а той час ад часу наведваў у Зміцера ў Бабічах.

— Што яны ўсё ходзяць адзін да аднаго, — дзівіліся прускаўцы, — то Лявон да Зміцера, то Зміцер да Лявона?

— Сябруюць... — тлумачыла Фёкла.

У нядзелю Зміцер наведаўся чарговы раз, зайшоў, як звычайна, крыху накульгваючы. Павітаўся з гаспадаром і гаспадыняй, прысеў на лаўку каля сцяны. На яго чыста паголеным маршчыністым твары зайграла ўсмешка, але хутка знікла, калі ён уважліва паглядзеў на сябра. Уразіў сумны Лявонаў выгляд.

— Ачмурэў ты нешта, невясёлым стаў, — пажартаваў Зміцер.

— Дык, дружа, няма надта чаму радавацца, жыццё такое...

Лявон дастаў з кішэні пачак цыгарэт «Памір», прапанаваў сябру.

— Дзякуй, я ж не куру.

Зміцер кінуў курыць, перайшоў на цукеркі. «Ляндрынкі смакчу, — казаў ён, пасміхаючыся, калі нехта прапаноўваў закурыць. — Сто грам на чатыры дні хапае».

Лявон закурыў, выдыхнуў дым.

— Да нас Кузёмка часам заходзіць. Ён, калі расказвае што, дык кажа: «Такога яшчэ не было». Мне часта ўспамінаюцца яго словы, асабліва сёння, у сувязі з нашым сённяшнім бытаваннем. Працуем у калгасе, працуем, а з працы нашай нічога не маем.

— Што праўда, то праўда, — пагадзіўся Зміцер.

Лявон маўчаў, а потым дакінуў:

— І нікуды не рыпнешся. Пашпарты адабралі, без пашпартоў сядзім.

З кухні пачуўся голас Фёклы:

— Лявонка, нешта ты не збіраешся пачаставаць госця?

— Я на хвіліну, — замахаў рукамі Зміцер. — Я ж дадому накіраваўся.

— А можа, даўжэй пасядзім? — спытаў гаспадар.

— Не.

— Я з табой, Зміцер, гавару, як з братам.

— Я, дарагі, ведаю.

— Бо з кім яшчэ пагаворыш...

— Няма з кім.

— З Саўкам Качаном не пагаворыш, цяпер ён такі, што крукам носа не дастанеш. Парцейным стаў, у партыю запісаўся. Раней мяккі быў, дабрадушны, гаварыць даваўся, а цяпер надта сярдзіты. Да ўлады дапаў...

— Відаць, святых сярод людзей няма, — па-філасофску зазначыў госць.

Гаспадары маўчалі.

— Трэба мірыцца з нашым становішчам, з тым, што ёсць, — сказаў Зміцер і пачаў развітвацца. — Нічога не зробіш. Пра дрэннае старайцеся не думаць.

Зміцер — мудры, з ім цяжка не пагадзіцца...

## X

Застаўня, хоць і разбураная, па-ранейшаму вабіла моладзь. Па вечарах і па выхадных днях тут збіраліся юнакі і дзяўчаты, і не толькі прускаўскія, гаманілі, спявалі, радаваліся жыццю, што так уласціва маладосці.

Валодзя вучыўся ўжо ў дзясятым класе, заканчваў школу. Раніцай, як і летась, бегаў на Лосьну, плаваў, рабіў фізічныя практыкаванні, займаўся ёгай. Лосьна няспешна плыла, ільснілася ў сваім старадаўнім, звыклым руху, як бы радавалася ўласнаму існаванню, адлюстроўваючы гладкай паверхняю сваёй і неба, і берагі, і ўвесь навакольны свет з яго спакоем і хараствам. Хутка з гэтым хараством давядзецца расстацца. І з гэтым хараством, і з Шураю Дронь.

Шура Дронь — аднакласніца. Дзіўная метамарфоза адбылася з ёю за зіму. «Было такое качанё, але вось вылюднела», — казалі пра яе. І можа, першым заўважыў гэта ён, Валодзя. Яшчэ з таго, усім класам, лыжнага культпахода ў Свішчова, а адтуль у Ратайчыцы, дзе яны, дзесяцікласнікі, выступалі з канцэртам. Шура спявала ў хоры, а ён чытаў верш Твардоўскага «Соперники».

Он рядом сидит,
он беседует с нею,
Свисает гармонь
на широком ремне.
А я на гармони
играть не умею.
Завидно, обидно,
невесело мне...

Гэта быў верш пра каханне, і, чытаючы яго, Валодзя пазіраў на Шуру, але ёй было няўцям, пра яго пачуцці яна і не здагадвалася. Яна яму вельмі падабалася, але ён не здолеў быць такім смелым, пракідкім, як калісьці Вальдэмар Кухта. У Прусцы помнілі пра яго раман з настаўніцай Сняжанай Валер’еўнай, якая была, дарэчы, старэйшай за яго. Больш дасведчаныя сцвярджалі, што ў Вальдэмары абудзілася прырода, прачнулася, няйначай, цяга полу, цяга, якая нікога не мінае. Не мінула гэта і Валодзі. Адбылося ўсё згодна з прымаўкай: «Кніжка ў сумцы, а дзеўка ў думцы». Яна пачала сніцца яму кожную ноч, вельмі падабалася, але ён быў надта сарамлівы, не ў прыклад Вальдэмару, каб падысці да яе, загаварыць. Ад перажыванняў трымцела душа.

Першай гэта заўважыла Фёкла.

— Я чула, што ты ўжо за дзяўчатамі ўпадаеш? Можа, ужо і нарачоная[1] ёсць?

— Не-е.

— І я так думаю, бо рана яшчэ.

Унук нічога не адказаў.

Вярнуўся з работы Лявон. Якраз упраўляліся з сяўбой. Валодзя падрыхтаваў урокі, сядзеў задумаўшыся.

---

[1] Нарачоная — нявеста, суджаная (*польск.*).

— Што гэта ты павесіў нос на квінту? Чаго замаркоціўся?

— Не, гэта я думаю, куды пасля школы паступаць...

— Тут і параіць што-небудзь няпроста, — паспачуваў Лявон, прыгладзіўшы на лбе чубчык. — Сам вызначайся, куды цябе цягне, куды нахіл маеш.

— Усе паступаюць, — уздыхнула Фёкла.

У прускаўскай грамадзе цвёрда ўсталявалася меркаванне, што кожны, хто скончыў сярэднюю школу, абавязкова павінен мець яшчэ і вышэйшую адукацыю — паступіць у інстытут, займець надзейную спецыяльнасць. Да гэтай думкі прывучылі і бацькі, і настаўнікі, і сам дырэктар Мікалай Пятровіч.

— А куды паступаць усё ж такі думаеш? — спытаў Лявон, які быў у курсе настрояў моладзі.

— Яшчэ не вырашыў, — адказаў унук. — У інстытут ці ў вайсковае вучылішча могуць і не прыняць.

— Чаму?

— Мы ж у акупацыі былі.

— Ну дык і што?

— Могуць і не прыняць. Летась з-за гэтага некаторым адмовілі. Нават Гога Пахолкаў не паступіў. У Ленінград ездзіў, у Акадэмію імя Кірава паступаць. Мандатную камісію не прайшоў. Вярнуўся і ў Брэсцкі педінстытут паступіў. У педінстытут узялі. Каб паступаць, пашпарт трэба, а ў мяне яго няма.

— Няўжо не здолеем вырабіць? — здзівіўся Лявон, зірнуўшы на ўнука.

Валодзя нічога не адказаў.

— Калі чагосьці хочаш, і вельмі моцна, дык яно збываецца. Калісьці я ў Амэрыку захацеў паехаць. Шыф-карту трэба было вырабіць. Па цяперашнім гэта — пашпарт. Не адпускалі мяне ўлады. Ураднік быў супраць, не спрыяў, але я настояў і атрымаў дакумент, шыф-карту. І паехаў!

— Я б геолагам хацеў быць, невядомыя землі разведваць. У Мінску, ва ўніверсітэце, ёсць такі факультэт — геолага-геаграфічны. Пра яго Мікалай Пятровіч расказваў.

— Калі ёсць жаданне, трэба паспрабаваць, — падбадзёрваў дзядуля.

Жаданне было. Дадала жадання фатаграфія ў газеце «Звязда». Карэспандэнт сфатаграфаваў дзвюх прыгажунь-студэнтак з выбарчымі бюлетэнямі ў руках, каля урны. Былі якраз выбары ў Вярхоўны Савет і абедзве студэнткі, мяркуючы па ўсім, галасавалі. І самі прыгожыя, і апрануты прыгожа — у фасоністых куртачках з серабрыстымі пагончыкамі. Подпіс тлумачыў, што гэта студэнткі геолага-геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Валодзя хацеў напісаць адной з іх ліст, але не мог вырашыць — каторай. Так і не напісаў. Хіба што, можа, яшчэ пашчасціць калі сустрэцца. Можа, у Мінску? Аднакласнік Пеця Сілюк з Пакупчыкаў прачытаў у газеце, якім на дзіва прыгожым становіцца Мінск, узняты з руінаў, адбудаваны па сутнасці нанова. З канца ў канец цягнецца шырокі праспект імя Сталіна, абсаджаны маладымі ліпамі. Растуць дамы, будуюцца палацы культуры, кінатэатры.

Пецю слухаў увесь клас. Многія марылі прадоўжыць вучобу ў Мінску. Адно толькі каб паступіць. А ў Мінску інстытутаў шмат, тэхнікумаў, ёсць і ўніверсітэт.

Усе яны, выпускнікі, жылі смутнымі, няпэўнымі надзеямі, спадзеючыся, што пашанцуе, што будучыня будзе цікавая, захапляючая, вартая спадзяванняў.

* * *

Наперадзе, зусім ужо блізка, маячылі выпускныя экзамены. Усё рухалася сваім парадкам, роўна, але і на роўнай дарозе здараюцца, як вядома, калдобіны і нечаканасці. Нечаканасць даў паважаны Мікалай Пятровіч. Не дабыў дырэктар да канца навучальнага года, пакінуў школу, пакінуў Пруску, з'ехаў. Перад гэтым зноў стаў прыкладацца да чаркі. Захапляўся «Вішнёвым». Тым, хто гэтага не ведаў, тлумачыў, наіўна апраўдваючыся, што гэта не якая-небудзь «хімія», а натуральнае ягаднае віно, але не ўсе яго разумелі, а менш за ўсіх разумела жонка. Не вытрымала бедная Антаніна Фердзінандаўна, з'ехала, пакінуўшы Мікалая Пятровіча аднаго. Не здолела адвадзіць ад дрэннай звычкі. Валодзя ўспомніў, як Мікалай Пятровіч казаў яму і такім, як ён, хто слабей за яго гуляў у шахматы: «Я буду без каралевы!» Выходзіць, што напрарочыў. Надта ў незайздросным становішчы апынуўся бедны Мікалай Пятровіч. Мацаваўся, але спакою не меў. «А што далей? А што далей?» — гэтая думка цяпер пастаянна нагадвала аб сабе, свідравала галаву. Каб аблегчыць становішча, набыў радыёпрыёмнік «Рекорд» на батарэйках, слухаў навіны, а часам і песні. Нейкі час спрабаваў даваць сабе рады сам. Сумна хваліўся, што стаў аскетам. Гатаваў на прымусе фруктовую каву, якую браў у Салівэся разам з глазіраванымі пернікамі, купляў у прускаўскіх гаспадынь малако і тварог. Не нейкі час адвярнуўся быў нават і ад «Вішнёвага», але доўга ўстрымацца не здолеў.

Вяртаўся з Камянца. Вёз зарплату. Партфель з грашыма пачапіў на руль. Бутэльку віна, якую купіў у прадмагу ў Замастах, не выцерпеў, выпіў яшчэ каля Ліпны, не даехаўшы да Бабіцкай гары. Падняўся на Бабіцкую гару ўжо сп'янеўшы, падняўся сам і ўзвалок веласіпед. Адсюль паехаў зноў. З Бабіцкай гары да Прускі веласіпед, можна сказаць, каціўся сам, не трэба было націскаць і на педалі. Мікалай Пятровіч не націскаў, але і не стрымліваў. Левай, здаровай, рукой моцна сціскаў руль, правай, пратэзам — падтрымліваў полы пінжака, якія матляліся ад хуткай язды. Упаў, параўняўшыся ўжо з прускаўскімі магілкамі. Як апынуўся на зямлі, у кювеце, не заўважыў і сам. Ці то страціў раўнавагу, ці нешта падвярнулася пад калясо. Здарылася ўсё вокамгненна. Здарылася гэта, дарэчы, як раз на тым самым месцы, пра што Мікалай Пятровіч, зразумела, аніяк не мог ведаць, дзе калісьці, у вайну, каўпакаўцы паставілі міны, на якіх падарвалася нямецкая аўтамашына, а потым па загадзе Хрысана прускаўцы Лаўр Яўсеевіч ды Мікіта Галёнка баранавалі гэты ўчастак дарогі, шукаючы тыя міны.

Мікалай Пятровіч нейкі час ляжаў, не мог ачомацца. Нарэшце ўсё ж такі вярнуўся да рэальнасці. Агледзеўся. Ад рукі адваліўся пажаўцелы пратэз з жоўтага цэлулоіда, ляжаў за веласіпедам. Побач з ім капялюш, што не ўтрымаўся на галаве. У цэласці вісеў пачэплены за руль партфель з грашыма. «Хоць у гэтым пашанцавала!» — адзначыў у думках дырэктар. Пакруціў шыяй, сцепануў плячыма, падняў здаровую руку. Нідзе, здаецца, не балела, але настрой пагоршыўся, стаў нейкі прыгнечаны, нават упадніцкі. Даймала рэфлексія. Мікалай Пятровіч лічыў сябе здольным на многае, на добрае, настаўніцкае, што можа прынесці карысць чалавеку. Па істоце сваёй ён такім і быў — асобай высакароднай і гераічнай. Хоць і адной рукой, шчодра сеяў зерні асветы ў гэтую надзвычай успрымальную вясковую глебу. Гняло, вядома, і тое, што вайна адабрала здароўе, зрабіла калекам. Нагнуўся, падняў пратэз, прымацаваў да локця.

Мікалай Пятровіч падняўся, сеў. Успомніў, як ён, камандзір увішнай «трыццацьчацвёркі», падбіў няўклюднага «Тыгра». З засады, прытаіўшыся

ў бярозавым пералеску, патрапіў яму ў зад, у карму. «Немец» загарэўся, танкісты кідаліся на траву, а Асланбек пасек іх з кулямёта. Дасталося аднак і яму, малодшаму лейтэнанту Мікалаю Рудкоўскаму. Але гэта было потым, у іншай сітуацыі. Ужо да Берліна падыходзілі, калі ўдарыў снарад і танк загарэўся. Паранены быў, руку аднялі, ампутавалі. Яшчэ добра не падлячыўся, як у асобы аддзел выклікалі, на допыт. «Чаму кінуў танк? Гэта ваенная маёмасць», — дапытваўся смершавец. — «Танк гарэў, — тлумачыў малодшы лейтэнант, — я з экіпажа апошнім выскачыў, ужо праз полымя». — «Не відаць, каб абгарэў. Кінуў, значыць, тэхніку?» Атрымалася, як у той жартоўна-страхотлівай песні:

Почему тогда ты
В танке не сгорел?..

У штрафбат перадаць хацелі. Дзякуй, што камбат адстаяў. Бачыў, як было. Хлопцы з экіпажа загінулі ўсе.

Успаміны, успаміны... Мікалай Пятровіч глыбока ўздыхнуў, атрос штаны, падняў веласіпед і, цяпер ужо не сядаючы на яго, пяшком накіраваўся да школы, што стаяла на пагорку. Да яе было ўжо блізка. Тут, у школе, знаходзілася і дырэктарская кватэра.

У той жа дзень раздаў настаўнікам зарплату. Назаўтра сваім роўным, востранахіленым почыркам (пісаў левай рукой) напісаў заяву на звальненне. Райана не пярэчыў. У Мінску жыла сястра, меў намер ехаць да яе. Пачаў збіраць пажыткі, якія выглядалі вельмі сціпла і якіх па сутнасці і не было. Адно, што загарнуў у посцілку радыёпрымнік «Рекорд» і перакінуў ношку цераз плячо, прытрымліваючы здаровай левай. Праводзіў яго ў Брэст, да цягніка, Мікалай Фаміч. Той самы Мікалай Фаміч Шпронька — старэйшы член настаўніцкага калектыву, у мінулым і сам дырэктар школы. Вялікай кар’еры пры савецкай уладзе Мікалай Фаміч, аднак, не зрабіў. Не было належнага дыплома, а ў партыю, куды ён так імкнуўся, не прынялі па прычыне яго «буржуазнага мінулага», як тлумачыў у свой час Рытатуй. Калісьці, пры паляках, Шпронька гандляваў, трымаў уласную лаўку. Гэтага яму аніяк не маглі дараваць.

«Але ж і шчуплы ты, чалавеча, — падзівіўся ён, паглядзеўшы на былога дырэктара, — худы, скура да косці...» Сам Мікалай Фаміч мажны, з добрым юклом. Да Брэста ехалі аўтобусам з Камянца, куды іх падвёз школьны вартаўнік Ляксандар Гальяш, узяўшы ў калгасе каня з возам. Ляксандар на развітанне, пазіраючы на Мікалая Пятровіча, нават заплакаў. У Камянцы, у райана, Мікалай Пятровіч атрымаў канчатковы разлік, сума аказалася даволі прыстойнай.

Брэст сустрэў гарадскім гулам і тлумам. Да чыгуначнага вакзала дабіраліся «на сваіх дваіх», як расказваў потым Шпронька. Мікалай Пятровіч нёс у мяшку свой радыёпрыёмнік. Ларкі з півам і гарэлкай на разліў, так званыя «галубыя дунаі», на кожным кроку, і Мікалай Пятровіч увесь час спрабаваў спыніцца, але Шпронька быў пільны, стрымліваў, адчуваў адказнасць. Праз пешаходны мост дайшлі да вакзала, купілі білет. Ларкі з гарэлкай стаялі і тут. Найбольш карысталіся імі ваенныя, што ехалі з Германіі, дзе служылі ў савецкай групе войск. Наталялі жаданне крыху расслабіцца на роднай зямлі. Прыблізна такое ж жаданне адчуваў і наш Мікалай Пятровіч, у мінулым таксама ваенны, калі справы з білетам былі ўтрэсеныя.

— Ну, што ж, Мікалай Фаміч, давай вып’ем на расстанне.

Шпроньку ўжо не было куды адступаць, справа была амаль зробленая, і ён згадзіўся:

— Па сто грамаў, я думаю, можна.

Яны падышлі да ларка, што знаходзіўся тут жа, на пероне, і Мікалай Пятровіч, паставіўшы на дол мяшок з радыёпрыёмнікам, перамовіўшыся з дзябёлай прадаўшчыцай, якая выглянула з акенца заказаў:

— Два па сто!

— І хвост сялёдкі! — дасціпна дакінуў Шпронька.

— І дзве кружкі піва, — дадаў Мікалай Пятровіч.

У Камянцы яны падсілкаваліся ў «Чайной», але прайшоў час, прагаладаліся.

Дзябёлая прадаўшчыца, зачарпнуўшы чарпаком з жалезнай бочкі, наліла ў шклянкі гарэлкі, нацадзіла два куфлі піва, зрабіла бутэрброд, паклаўшы на скібіны хлеба па кавалку селядца. Мікалай Пятровіч расплаціўся, крыху адсунуўся ад акенца, выліў гарэлку ў куфаль з півам, чым выклікаў здзіўленне ў Шпронькі, і зрабіў першы ёмісты глыток.

— Цяпер так п'юць, гэта называецца «ёрш», — патлумачыў ён. — Смачна!

Шпронька выпіў гарэлку, закусіў бутэрбродам і ўжо тады звярнуўся да піва.

— Закусвайце! — напомніў ён свайму эксдырэктару.

Мікалай Пятровіч дапіў «ёрш», спажыў бутэрброд. Некаторы час яны стаялі моўчкі, назіраючы, як навокал снуе па пероне народ...

— Ну, што, будзем вяртаць посуд? — уздыхнуў Шпронька, адчуваючы набліжэнне моманту расстання. Твар яго прыкметна зачырванеўся.

— Мікалай Фаміч, а можа, паўторым? Убачымся калі ці не — невядома.

Шпронька надта прачула сустрэў гэтыя словы, прымоўк і замаркоціўся, але толькі на нейкі момант.

— А давайце! — згадзіўся ён раптам.

Яны паўтарылі, адышліся ад ларка, прыселі на лавачку, расслабіліся. Натоўп на пероне то радзеў, то зноўку згушчаўся; некаторыя стаялі каля ларка, пазіралі на акенца, але нічога не бралі. «Хочуць выпіць, а грошай няма», — спачувальна памеркаваў Мікалай Пятровіч і адвярнуўся. І тут яму раптам прыйшла ў галаву думка пачаставаць жадаючых. Грошы ў яго былі. Дык чаму ж не наталіць смагу «страждущего», не апахмяліць, калі той гэтага прагне, пакутуе.

— Таварышы! — гукнуў ён як грамчэй. — Хто хоча астаграміцца, прашу!

Шырокім жэстам здаровай левай рукі ён паказаў на акенца ларка.

— Падыходзьце! Не саромцеся!

Шпронька ажно здрыгануўся, не без жаху ўцяміўшы раптам гэты жэст і тое, што збіраецца рабіць шчодры Мікалай Пятровіч: «Што ж гэта будзе?» Тыя, што стаялі каля ларка з півам і гарэлкаю, прапанову Мікалая Пятровіча пачулі адразу, не трэба было і ўпрошваць. Жадаючых выпіць, тым больш за чужы кошт, назбіралася нямала, цэлы натоўп. Утварылася чарга, якая ўвесь час прыбывала. Мікалай Пятровіч быў на падпітку, але распараджаўся, імкнуўся рэгуляваць:

— Грамадзяне! Не напірайце, давайце па парадку, усім хопіць!

— Калі ласка, па чарзе, — дапамагаў яму Пронька.

Колькасць жадаючых не менела, адны выпівалі свае «сто грамаў» і адыходзілі, падыходзілі іншыя. Шпронька затрывожыўся: «Ці хопіць у яго грошай?» Фундатар пра гэта як бы і забыў. Частаванне, магчыма, працягвалася б і далей, калі б не апаражнілася бочка. Прадаўшчыца ўжо шкрабла чарпаком дно.

— Усё! — гукнула яна нарэшце, папраўляючы нарукаўнікі. — Асушылі!

Мікалай Пятровіч спрабаваў з ёю нават спрачацца, але вымушаны быў згадзіцца, развёў рукамі — здаровай і рукой-пратэзам і папрасіў прабачэння ў тых, каму не дасталося, хто яшчэ стаяў у чарзе, у чаканні.

— Грамадзянін, давайце разлічвацца! — прадаўшчыца вызірнула ў акенца, вызверыла вочы і стукнула кулаком аб падаконнік. Назвала кошт выпітага. Аказалася каля тысячы рублёў.

Мікалай Пятровіч стаў падлічваць свае «актывы», налічыў шэсцьсот з нечым. Тады прызваў на дапамогу Мікалая Фаміча. Той абмацаў кішэні і прызнаўся, што такіх грошай у яго няма, але падаў ідэю:

— Давайце прапануем ёй ваш «Рекорд», думаю, яна будзе задаволена і супакоіцца.

Пасля хвіліннай развагі Мікалай Пятровіч згадзіўся.

— Дарагая, — звярнуўся ён да прадаўшчыцы, — возьміце мой радыёпрыёмнік, ён яшчэ новы. Цудоўная марка — «Рекорд»! На батарэйках!

Дзябёлая прадаўшчыца, напусціўшы на сябе грозны і патрабавальны выгляд, выйшла з ларка і стала аглядаць радыёпрыёмнік, які Шпронька выклаў, развязаўшы мяшок.

— Ён зусім новы, — засведчыў ён, — яго яшчэ мала слухалі, адзін ці два разы ўключалі. Да яго навушнікі не трэба.

Жанчына, агледзеўшы рэч, узважыўшы «за» і «супраць», згадзілася, хоць і паказвала сваю незадаволенасць тым, што адбылося і што прыёмнік працуе на батарэйках. Забраўшы радыёпрыёмнік, разам з мяшком аднесла ў ларок і зачыніла акенца.

Нашы героі, спаражніўшыся ў туалеце ад выпітага піва, дачакаліся цягніка, прачула развіталіся, пацалаваліся, і праваднік, праверыўшы білет, прапусціў Мікалая Пятровіча ў вагон, які моўчкі праглынуў яго ў сваё чэрава. Калі цягнік крануўся, Мікалай Пятровіч усё ж такі высунуў руку і доўга ёю махаў, развітваючыся, відаць, не толькі з былым калегам, але і з цэлым этапам свайго нялёгкага жыцця.

— Харошы чалавек быў, — разважаў Шпронька, вяртаючыся з Брэста, — але лёс сляпы, прыхільны толькі да тых, хто гэтай прыхільнасці не варты.

Гэтак ён разважаў, згадваючы не толькі беднага Мікалая Пятровіча, але зыходзячы і са свайго жыццёвага досведу.

* * *

Выпускныя экзамены прайшлі ўжо без Мікалая Пятровіча. Нягледзячы ні на што, яго любілі, паважалі, асабліва вучні старшых класаў, выпускнікі-дзесяцікласнікі, шкадавалі, што гэтак усё здарылася.

Выпускныя экзамены — гэта, вядома, урачыстасць, і не малая, але зубрылі адказы на білеты з усіх сіл. Стараліся і настаўнікі, патрабавалі і падказвалі, дапамагалі. Аднак у такой справе, як і наогул у жыцці, болей за ўсё залежыць ад цябе самога. Тут можна было паспадзявацца толькі на самога сябе, на свае сілы і магчымасці, на свой уласны характар.

Усё выглядала па-святочнаму. Падрыхтавалі, аздобілі вышытымі ручнікамі памяшканне — клас на другім паверсе. Наламалі язміну — яго ўсюды поўна, зрабілі букеты і паставілі на ссунутыя сталы, за якімі сядзелі члены дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі. Сталы заслалі льнянымі матчынымі абрусамі.

Пачатак чэрвеня. Раніца. На дварэ раскашавала вясна, пераходзячы ў лета. Навакольны свет увесь у бурштынавым бляску сонца. Шчабечуць з пералівістым посвістам (гэта — шпакі) птушкі. У ставах на выгане пра сваё крумкаюць жабы. Буяе зеляніна дрэў.

На букетах, што густа стаялі на стале ў шкляных слоіках, на пялёстках язміну, іскрылася раса. Ад гэтага ці ад чаго іншага свежымі і прыветлівымі выглядалі абліччы членаў экзаменацыйнай камісіі.

У першы дзень пісалі сачыненне па рускай літаратуры. Валодзя выбраў з прысланых з райана тэму «Образ Ленина в поэме В. Маяковского «Владимир Ильич Ленин». Паэт услаўляў Леніна як правадыра і ў той жа час як звычайнага і даступнага чалавека. Гэта імпанавала, і Валодзя менавіта такім чынам імкнуўся раскрыць сэнс гэтага вобраза ў сваім сачыненні. Напісаў, скончыў і некалькі разоў перачытаў, праверыў, каб не закралася якая-небудзь памылка. І ўсё ж такі адной памылкі не ўпільнаваў. Знайшоў яе Васіль Іванавіч Клюка. Выкладчыца рускай літаратуры Валерыя Міхайлаўна Іванова не заўважыла, не знайшла, папрасіла пераправерыць старога, вопытнага Васіля Іванавіча, і той угледзеў, што слова «помогать» напісана праз «а». Угледзеў і ўзрадаваўся свайму востраму воку. Адзнака была зніжана на адзін бал, і Валодзя атрымаў заслужанае «добра». Астатнія экзамены — усе на «выдатна».

Такія ж высокія адзнакі ў большасці выпускнікоў, у тым ліку і ў Шуры. Старанная. Валодзя часта пазіраў у яе бок, перамаўляліся, але ў астатнім дзяўчына была непрыступнай, і хлопец ад гэтага пакутаваў.

Час, ад экзамена да экзамена, бег хутка, як бы нават паскараўся, як хто яго прыспешваў. Агульныя клопаты, а яшчэ больш набліжэнне расставання, будучае развітанне зблізілі выпускнікоў, з'ядналі ў адну сям'ю. Але было і новае адчуванне: да сэрца незаўважна падступаў нейкі незразумелы смутак.

## XI

Выпускны баль адбыўся ў нядзелю. Да яго, выдома, рыхтаваліся і вучні, і бацькі. Хадзілі ўсім класам у Бярэзіну ў грыбы. З'явіліся пасля дажджу лісічкі. Па-мясцоваму, «пліскі». Смажаныя пліскі з цыбуляю — далікатэс, смачнейшага нічога і не прыдумаеш.

— А можа, раннія баравікі ўжо пракінуліся? — запытальна паглядзеў на сябрукоў Іван Каленік, які лічыўся зацятым грыбніком.

Ранні баравік ці «плывунец», як яго тут называлі, з'яўляўся тады, калі каласавала, выплывала ў трубку, жыта.

— Паглядзім — адгукнулася грамада.

Пабралі кошыкі і пайшлі. Узялі з сабою на ўсялякі выпадак нескладаную аптэчку: ёд, зялёнка, пластыры, вата, бінты, — а раптам каму ў дарозе ці ў самім лесе зробіцца блага!

Дарога, як нацягнутая трохкіламетровая нітка, з дзвюма зараслымі каляінамі ад сялянскіх вазоў, якую чамусьці не зааралі калгасныя трактары, пралягала ад школы да самай Бярэзіны. Ішлі, збіваючы нагамі дзьмухаўцы, якія там-сям раслі на гэтай утравелай палявой дарозе. Ружавелі агеньчыкі валяр'яну, месцамі траплялiся белыя рамонкі і дзяцеліна. Палі паабапал дарогі забівала бязлітасная свірэпа, на вялізных плошчах жаўцела яна, даказваючы сваю не абы-якую прыродную сілу. Збіралася красавацъ жыта, якому, відаць, было цяжка ў гэткім суседстве.

У твар дыхаў густы і пругкі вясенні вецер. Пахла жытнёвым полем. Пах — спрадвечны, добра знаёмы вясковаму чалавеку.

Валодзя, задумаўшыся, крыху адстаў ад аднакласнікаў, на падыходзе да Бярэзіны і зусім прыпыніўся, загледзеўшыся на сінюю валошку, што дачасна расцвіла і, гайдаючыся, вытыркалася з жыта. Расцвіла адна з першых, ды такая буйная, гожая. Сіняя, але было ў ёй, сінявокай, нешта агністае, прыцягальнае. Яму здалося, што кветка пазірае на яго, пазірае ўважліва і нават з нейкай зычлівасцю і спачуваннем.

У гурце сярод дзяўчат была і Шура Дронь. На ёй белая сукенка са штапелю, туфлі на нізкіх абцасіках. Вецер агаляў стройныя лыткі ног. Невысокая, зграбная, прыгожая. Валодзю падабаліся яе вялікія цёмныя вочы, а больш за ўсё пушыстыя вейкі, якія, калі ўзнімаліся, як бы нагадвалі пра яе наіўнасць і цнатлівасць. Адчуваў, што яму ў дачыненні да яе шкодзіць сціпласць, скаванасць нейкая, сарамяжлівасць. Але не сказаць, каб яму моцна хацелася яе абняць, пацалаваць, прыціснуць да сябе, памацаць. Да яе цягнула іншае: яна выклікала ў яго думкі аб жыцці. Што было б, разважаў ён, каб яны жылі разам? Як бы ўсё ішло? Каб разам куды-небудзь паступалі?

Дарога прывяла ў лес. Гэта і была Бярэзіна, куды яны кіраваліся. Лясны свет звінеў салаўінымі песнямі. У ім было парна. Духата настоена на вострых лясных пахах. Бярозы, сосны, асіны, ядловец, лаза і крушына, алешнік, — усё мае свой, своеасаблівы пах. Галіны і лісце дрэў густа перапляліся ў непаўторным карункавым візэрунку.

Перайшлі лясны роў. Пачалі шукаць грыбное месца.

— Пройдзем крыху далей дарогай на Крымянку, — прапанаваў Жоржык Хомка, — там, я ведаю мясціну, шмат грыбоў.

Пайшлі. Праз паўкіламетра трапілі на бор. Валодзю прыгадалася, як ён колькі гадоў таму назад, зімою, хадзіў па гэтых мясцінах з братамі, шукалі навагоднюю ёлку. Стаміліся, паспрачаліся з Віталікам і разышліся ў розныя бакі. Добра, што ўсё не горшым чынам скончылася. «Урок на ўсё жыццё», — падумаў ён. Цяпер бор выглядаў светлым і вясёлым, нібы радаваўся з’яўленню выпускнікоў. Шмат было сонца і святла. Выносныя сосны, што раслі воддаль адна ад адной, варушылі верхавінамі неба. Пад нагамі рассцілаўся дыван квітнеючага верасу. Дзе-нідзе раслі бярозы і карчы ядлоўцу. Дыхалася на поўныя грудзі.

Пачалі шукаць грыбы. З-пад ног вылецела маленькая вёрткая птушачка. Усе затрымаліся і сталі спрачацца, як гэта птушачка называецца.

— Лясны шчыглік, — вырашыў Коля Раманюк з Млыноў. Яму ніхто не пярэчыў. Коля добра ведаў птушынае царства, а па прыродазнаўстве заўсёды атрымліваў «выдатна».

Пайшлі далей. Ажно аднекуль вылецела сойка і так закрычала-заверашчала, што можна было пералякацца. Сойку ведалі ўсе, яе ні з якой іншай птушкай не зблытаеш: спінка карычневая, на крылах дзве чорна-белыя палоскі.

— Сойка — птушка карысная, — напомніў Коля. — Яна разносіць насенне дуба, жалуды. Калі бачыш дзе дуб расце, гэта значыць сойка пасадзіла.

Аднакласнікі разышліся па лесе, і тут Валодзя сустрэў вавёрку. Пад сасною, на зямлі, яна лушчыла мінулагоднія шышкі. Убачыўшы хлопца, вавёрка кінулася наўцёк уверх па дрэве, але высока падняцца не магла, спадала ўніз, зноў чаплялася пазуркамі за кару, але лушпайкі адпадалі і разам з імі асоўвалася і яна. Нарэшце ўскочыла на сучок, накрылася хвосцікам і палахліва пазірала на хлопца. У яго ж не было ніякіх намераў зрабіць ёй нешта дрэннае. Ён агледзеўся на сяброў, хлопцаў і дзяўчат. Відаць было, як яны нагіналіся,

збіралі грыбы. Тут раслі сыраежкі, казлякі і жаўцела шмат лісічак. Валодзя пашукаў вачыма Шуру, убачыў яе крыху ў баку ад дзявочага гурта, падышоў. Яна ўважліва, нібы ў першы раз, паглядзела на яго і прыветліва ўсміхнулася.

— Валодзя?

— Шмат ужо назбірала?

— Трохі.

На імгненне ён задзівіўся на тое, як пад сукенкай стаялі востранькія дзявочыя грудзі. «Вось яна, побач, навокал нікога, усё адно як пахаваліся», — падумаў ён, адчуваючы як ад хвалявання па твары пайшла чырвань.

— Як настрой? — спытаў ён.

— Настрой? Выпускныя экзамены здалі, паступаць кудысьці трэба, усе паступаюць.

— Ну, так.

— А куды?

— Давай на геолагаў будзем вучыцца, цікавая прафесія.

— На геолагаў? Ніколі пра гэта не думала. Па гарах хадзіць?

— Па гарах і па далінах. На зямлі шмат месцаў, дзе чалавек нават не ступаў нагой!

Шура пасміхнулася.

— Не, гэта не для мяне.

— Чаму? Ты ў нас спартсменка.

— Гэта табе толькі здаецца.

— А я думаў...

Размова неяк не клеілася. Ён набраўся смеласці і спытаў:

— Шура, а што ты пра мяне думаеш?

— Нічога. Ты — як усе, нармальны хлопец.

— Дык гэта ж нямала.

— Нямала.

Недзе ён прачытаў, што жанчына — самая вялікая загадка свету: гаворыць адно, думае — другое, хоча — трэцяга. Дзівіўся: як гэта так можа быць? Нехта, відаць, прыдумаў.

— Ці прымуць? — як бы сабе самой задумліва прамовіла яна. — Гэта ж уступныя экзамены трэба вытрымаць!

— Шура! Шура! — пачулася з дзявочага гурта.

Яна раптам цмокнула яго ў шчаку. Скроні іх сутыкнуліся.

— Пайшлі! — тузанула яго за руку, не даючы апомніцца, і пабегла першай.

Гэтае знаходжанне ў Бярэзіне прайшло для яго як дзіўны сон. Ён хацеў, каб сон доўжыўся болей. Але назбіраўшы грыбоў, аднакласнікі і самі зазбіраліся дадому. Пашанцавала Толіку Хомку: знайшоў такі вялікі грыб, якога яшчэ ніхто з іх не бачыў: галава, як шапка, а корань высокі, здаровы. Надта цешыўся ім Толік.

Найбольш белых грыбоў, праўдзівых, як казалі ў Прусцы, знайшла Шура. У яе кошыку яны, вялікія і меншанькія, выглядалі такімі прывабнымі, што ажно брала зайздрасць.

І вось нарэшце выпускны баль, якога гэтак доўга чакалі юнакі і дзяўчаты, да якога так доўга ішлі. Апранутыя выпускнікі з шыкам, некаторыя юнакі завязалі нават гальштукі, наваксавалі абутак. Дзяўчаты ў разнакаляровых сукенках, на нагах беленькія шкарпэткі, туфлі. У некаторых — распушчаныя валасы, нафарбаваныя вейкі. Чуўся пах адэкалону «Ландыш», якім заўмаг Салівэсь шчодра забяспечваў мясцовае насельніцтва, пераважна моладзь.

Госці сыходзіліся пад музыку. Іграў Коля Цыцка. Пастарэў стары халасцяк, калека, але з акардэонам упраўляўся спраўна. Далікатна, прачула гучалі «Амурскія хвалі».

— Добра грае! — захапляліся дзяўчаты.

Калісьці Цыцка, выбраўшы сабе пару, пускаўся танцаваць (на адной назе, бо другая была значна карацейшай), абхапіўшы левай рукой талію партнёршы, а правай, абапіраючыся на кульбу, і ў яго гэта атрымлівалася, нават не блага выходзіла, цяпер, аднак, абмяжоўваўся ігрой на акардэоне.

Натхненне да танцаў яшчэ не прыспела, але некаторыя з хлопцаў, перахапіўшы дзяўчат за стройныя постаці, плылі, як лебедзі, на рамантычных хвалях вальса. Дзяўчаты перарывіста дыхалі, млелі ад нейкіх нязведаных адчуванняў. Шура — у дзявочым гурце, Валодзя хацеў запрасіць яе на танец, але не хапіла смеласці, пасаромеўся. Перашкаджала адчуванне трывогі, якая невядома адкуль узялася, чаканне чагосьці неспадзяванага і незразумелага.

Госці пачалі рассаджвацца, займаць месцы за сталамі. Каля Аляўціны Дзіядотаўны моўчкі сеў Васіль Іванавіч Клюка, урачысты і крыху насцярожаны. З лысай, пляшывай галавой, ахутанай пухам, падобны быў на дзьмухаўца. У галаве стала, як бы ў прэзідыуме, не блага пачуваў сябе Шпронька, чыста паголены і дагледжаны, у адпрасаваным гарнітуры. Валерыя Міхайлаўна Іванова, з густа намаляванымі вуснамі, сядзела побач з Акцябрынай Панфілаўнай, закаханай у сваю астраномію, якую яна выкладала ў дзясятым класе.

Асобна, як бы незалежна ад астатніх, выглядала за сталом «матэматычка» Маслакова.

Настаўнікаў за сталамі шмат, запрошаны ўсе. Не было Мікалая Пятровіча і Антаніны Фердзінандаўны, аб чым усе шкадавалі.

На ганаровым месцы знаходзіўся Ляксандар Гальяш, школьны вартаўнік і гаспадарнік у адной асобе. Назіраў, як «вальсуюць» маладыя пары. Ляксандар, апроч усяго, наведваў яшчэ і царкву, спяваў у царкоўным хоры.

Запрасілі старшыню калгаса Саўку Качана, чакалі, што будзе. Паставіўшы на падаконнік акардэон, прычыкільгікаў да стала Коля Цыцка, сеў каля Ляксандара.

З’явілася Амелія, хоць яе, здаецца, ніхто не запрашаў. Палічыла патрэбным прыйсці, упэўненая ў сваім праве прымаць уласныя рашэнні. Прыйшла, прымасцілася з краю. На галаве ў яе ўсё той жа капялюшык з папяровымі кветкамі, плечы акрыты коцам, на руках пальчаткі з голымі пальцамі. У побыце Амеліі нічога не змянілася, траскучы голас яе па-ранейшаму разносіўся па ўсёй Прусцы, калі яна з кім-небудзь высвятляла адносіны, спрачалася ці сварылася, выганяючы няцямкіх кароў з джунгляў, што падступалі да самага яе ганка.

— Ой, парасон забыла! — спахапілася Амелія, пацепваючы плячыма, — хоць вярніся па яго назад!

— Не, калі ўжо прыйшла, то вяртацца няварта, — параіў Ляксандар. — Дрэнная прыкмета.

— Ну, можа, і так, — згадзілася прускаўская варожка.

На сталах усяго шмат: у місках раскладзена закуска — сала, вэнджанае мяса (шынка), каўбаса-вантрабянка, смажаная рыба, сыр, квашаная капуста, мёд. Па талерках размеркаваны залацістыя кружкі смажанай яечні. Гэта ўсё пастараліся выпускнікі, прынеслі з дому, усялякіх прысмакаў наставілі: радыска са смятанай, зялёнае пер’е цыбулі, укроп, нацёрты і запраўлены бурачковым сокам хрэн. Для аматараў гарадскіх салатаў — модны вінегрэт з буракоў, бульбы, морквы, квашаных гуркоў і капусты, запраўленых алеем.

Гародніна — свая, не куплёная. Селядцамі забяспечыў Салівэсь, парэзаныя на кавалкі, яны ляжалі на сподачках у перамежку з колцамі цыбулі.

На ганаровым месцы, у цэнтры, на вялікай блясе, смажаныя грыбы, у асноўным, лісічкі.

— Грыбы праходзяць праз чалавека транзітам. Страўнік не ў сілах іх пераварыць, — сказаў Шпронька, паляпаўшы сябе па жываце, — але гуску з грыбамі і перчыкам я люблю. Першагатунковая рэч!

— Дык гэта калі было! — удакладніла Амелія, успомніўшы старыя часы. — Цяпер пра такое забылі! У горадзе па хлеб чэргі, — дадала яна, але варожку як бы ніхто не пачуў.

— Мама ўмела варыць гуску з грыбамі, — настальгічна прыгадала Акцябрына Панфілаўна.

— Гуску з грыбамі не вараць, а смажаць! — папраўіла яе Аляўціна Дзіядотаўна.

Сталы выглядалі багата. «Віноўнікі» мерапрыемства пастараліся. Стаялі — а як жа без гэтага? — бутэлькі з гарэлкай: там, дзе «прэзідыум», — «Маскоўская», на іншых сталах — самагонка, прыфарбаваная вішнёвым сокам. На Шпроньку пазірала бутэлька «тафалёўкі» — настойкі на тапалёвых пупышках. Побач з ёю — пляшка журавінавага квасу, запіваць.

Прыехаў старшыня. Яго сустрэлі апладысментамамі. Удзячныя былі за тое, што не перашкодзіў атрымаць пашпарты. На пашпарце стаяў штамп: «Был на оккупированной территории», але дакумент усё ж даваў выпускніку магчымасць паспытаць шчасця ў паступленні ў ВНУ.

На пасадзе старшыні ў Саўкі Качана былі пэўныя поспехі. Сваё «простае» жыта памяняў на «заводское». Пасеялі, жыта дружна зарунела, пайшло ў рост, закрасавала. З абласной газеты «ЗАРА» прыязджаў фотакарэспандэнт. Саўку сфатаграфаваў непасрэдна ў жыце. Каб відаць было, якое высокае вымахала жыта, старшыню паставіў на калені. З надрукаванай у газеце фатаграфіі ўсе дзівіліся. Якое, маўляў, жыта ў «імя Сталіна» зарадзіла! Саўка любіў паўтараць перад калгаснікамі: «Не будзе мяне — прападзеце!» Сеў старшыня побач са Шпронькам, той для яго і крэсла падрыхтаваў, сцёр пыл.

Налілі для першага тоста. Посуд быў самы розны: шклянкі, кілішкі, фужэры, кубкі — што каму дасталося. Узяў слова Шпронька.

— Таварышы! — пачаў Мікалай Фаміч, зрабіўшы прызыўны жэст рукой. — Мы выпускаем сёння маладое пакаленне будаўнікоў будучага камунізму. Ставім вас, так сказаць, на крыло. Ваша задача цяпер, таварышы былыя вучні, — служыць, служыць народу. Мы на вас вельмі разлічваем. Сілы ў вас маладыя, непатрачаныя...

— Маладосць даражэйшая за золата! — уставіў сваю рэпліку Васіль Іванавіч.

— Ну, вядома, жыццё на тое і жыццё, каб ставіць мэты і задачы. Будуць і выпрабаванні, якія трэба пераадольваць з савецкім напорам! — працягваў Шпронька. — Словам, жыццё — гэта дарога, і трэба ўмець упісацца ў яе павароты. Вось за гэта я і прапаную падняць тост!

Пачалі чокацца налітай гарэлкай. Чокацца і выпіваць, хто колькі мог. Застукалі лыжкі і відэльцы. Елі са смакам.

— Смачна! — азваўся Коля Цыцка.

— Апетыт прыходзіць у час яды, — успомніў народную мудрасць Ляксандар.

Аляўціна Дзіядотаўна жартам, але пільна пазірала, як, у якой руцэ трымаюць яе былыя выхаванцы сталовыя прыборы — відэльцы і нож.

Устаў, каб гаварыць, з чаркай у руцэ, старшыня.

— Таварышы! Пад кіраўніцтвам партыі мы рэалізуем нашы планы, пераўтвараем іх у жыццё. Бягучая пяцігодка будзе яшчэ болей выніковая, чым папярэдняя. Кантрольныя лічбы вельмі значныя. — Старшыня зрабіў паўзу, нібы хацеў перадыхнуць, перавесці дых і асушыць чарку. — Я ведаю ваш намер. Паступіць у інстытут! Ну, дапусцім. Кар'ера, слава, грошы... Гэта часам спакушае чалавека. Усе ў інстытуты, а хто ж на зямлі працаваць будзе? Чыстай працы хочаце, каб рук не забрудзіць?

Старшыня абвёў вачыма прысутных.

— А я чакаў, што ў калгасе застанецеся. Праблемы ў нас ёсць, я не хаваю, не ўтойваю. Скараціўся скот! Не хапае ўгнаенняў!.. — Саўка нахмурыў бровы, як бы аб нечым задумаўся і вагаўся: казаць ці не.

— Цяпер моладзь не так, як калісьці, — сваім розумам жыве, — заўважыў Коля Цыцка, слухаючы старшыню. Ён мог выказаць нязгоду, бо жыў у Бучамлі, дзе быў свой калгас — імя Мічурына, непадуладны Качану.

Качан сурова зірнуў на Цыцку і сказаў:

— У нас, таварышы, павінен быць свой рэзерв кадраў, свая рабсіла. Нам чалавек патрэбны.

«Навучыўся гаварыць, — здзівіўся Валодзя, — нібы газету чытае, кажа, як начальнік. Зрэшты, начальнік і ёсць...»

— Цяпер, таварышы, — прадоўжыў свой выступ старшыня, — уводзім грашовую аплату на працадні. Будзе лепш!

— Гэта выдатна! — пажвавеў Шпронька. — Такога яшчэ не было.

— Цяпер, таварышы, справы ў нас павінны пайсці! — пераконваў старшыня. — Усё для народа, для вас, таварышы!

Ён нават перайшоў на мясцовую гаворку:

— Ой, людкове! — сказаў ён. — Не ўсё так проста. Кіраваць трэба ўмець. Не будзе мяне — прападзеце.

Усе ўважліва слухалі, асабліва выпускнікі, зацікаўленыя прамовай старшыні. Качан здаваўся сваім, блізкім чалавекам. Іван Каленік, асмялеўшы пасля выпітага кілішка, задаў пытанне:

— Ці будзе так, што трактар сам будзе араць, без трактарыста?

Усе засмяяліся.

— Хіба такое можа быць? — азваўся хтосьці з дзяўчат у канцы стала.

Старшыня яшчэ вышэй падняў чарку і ўрачыста сказаў:

— Гэта, таварышы, будзе толькі пры камунізме.

Выбухнуў смех, усе зарагаталі ад дасціпу старшыні, які ўпэўнена паднёс да рота і хвацка перакуліў чарку.

— Раней не будзе! — дапоўніў старшыню Шпронька, асушыўшы, як усе, чарку.

Зноў, ужо добра асмялеўшы, пачалі закусваць. Коля Раманюк з Млыноў рукою дастаў з талеркі смажанага шчупачка і стаў спажываць.

— Рыбу ядуць відэльцамі! — не ўтрымалася, зрабіла яму заўвагу Аляўціна Дзіядотаўна.

— Ён рыбу любіць, — пасміхнуўся Галёнкаў Валодзька, — у марское вучылішча ідзе.

Прысутныя зноў зарагаталі.

— У моры рыбы шмат! — сказаў захмялелы Коля Цыцка.

— Вінегрэту мала нагатавалі, — бурчэў Шпронька, — толькі зайцу на закуску.

— Усяго шмат, — наліваючы чарку, не згадзіўся з ім старшыня. — «Еш — не хачу», як кажуць. Гэта — прымаўка такая.

— Падрыхтаваліся добра, — уставіў сваё слова Коля Цыцка.

Выступалі настаўнікі, гаварылі тосты, нарэшце старшыня пажадаў зрабіць перапынак.

## XII

Пачаліся танцы. Коля зайграў вальс. Гэта былі «Дунайскія хвалі». Знаёмыя, здавалася б, гукі, але сёння ў музыцы было нешта такое, што асабліва брала за душу, хвалявала, прымушала ўспамінаць. Тут адкрываўся свет, адкрываўся надзвычай хутка, дзесяць гадоў прайшлі ў гэтых сценах, як адзін дзень. Усе былі ў добрым настроі. Захмялелы Ляксандар шырока і паблажліва ўсміхнуўся:

— Танцуй, кавалерка! Пара! Вакол носа ўжо хацімкі з’явіліся.

Пасмялеўшыя хлопцы пачалі запрашаць дзяўчат. Дзяўчаты кружыліся, як павы, высока ўздымаючы падалы квяцістых сукенак, паказваючы белыя стройныя лыткі. Адчувалася, што адны і другія перажываюць пакутлівае тамленне даспяваючай плоці. Стала шумна, зала напоўнілася галасамі і смехам.

Сярод дзяўчат вылучалася Шура з Трасцяніцы. Прыгажуня чаравала сваёй постаццю, белым убраннем, бліскучымі пацеркамі на шыі. Але найбольшае захапленне прысутных, асабліва жанчын, выклікалі модныя басаножкі, надзвычай прыгожыя, падэшва ў іх патаўшчалася ад наска да пяты.

— Дзеўка, як вішня, — сказала пра яе Аляўціна Дзіядотаўна.

Валодзя нарэшце набраўся смеласці, запрасіў Шуру на танец, хацелася пабыць з ёю побач. Яна згадзілася, пайшла. Поўныя, пяшчотныя вусны прамянілі лёгкую ўсмешку.

— Добра танцуеш! — пахваліла яна, калі яны спакваля, павольна пачалі кружыцца. Ён аднак адчуваў, што танцуе не надта спрытна, увесь час шоргае па падлозе новымі, нядаўна купленымі бацькам, туфлямі. Але стараўся, захацелася шчыльней да яе прыціснуцца. Гэта трэба зрабіць так, каб ніхто не бачыў. Напомніў сабе ў думках, што сябе недаацэньваць не трэба: «Усё тое, што робяць іншыя, можаш рабіць і ты». Асцярожна крануў яе грудзі, што так панадна тапырылі сукенку, і адчуў раптам густую сліну пад языком і збянтэжанасць. Зноў крануў, больш смела.

— О, які цваны! — удавана не згаджалася з яго паводзінамі дзяўчына. Шура кружылася порстка, лёгкая сукенка на паваротах прыгожа агаляла круглыя калені, давала магчымасць убачыць карункі на кужэльнай сарочцы.

Угледзеўшы, што на іхняю пару пазіраюць, ён засаромеўся свайго легкадумства, перастаў прыціскацца і барджэй закружыў партнёршу. Пад канец ажно засопся, чакаў, калі Цыцка спыніць іграць, і, калі танец скончыўся, адвёў Шуру да сяброўак.

Танцы доўжыліся, змяняючы адзін аднаго: вальс, полька, кракавяк...

Настаўнікі і іншыя госці, у тым ліку і старшыня, працягвалі баль за сталом, налівалі, гаварылі тосты, пілі, закусвалі, гаманілі. Склаў свой акардэон і Коля, запатрабаваўшы перадышкі і далучыўшыся да застольнікаў. Ляксандар Гальяш падрэзаў хлеба, абцёршы буханку ад вугельчыкаў. Хлеб пяклі самі, дома.

Моладзі чарговы раз сядаць за стол не хацелася, і нехта прапанаваў пайсці на застаўню. Выйшлі на свежае паветра. Загаварылі ўсе разам, адначасова. Думкі збягаюцца да аднаго, да адной тэмы: «Куды і на каго пайсці вучыцца?» Шмат юнакоў кіруюцца паступаць у вайсковыя вучылішчы. Там добра, што на ўсім гатовым.

Кагосьці званітавала. Відаць, не на карысць пайшла гарэлка.

Прайшліся вёскай. Хаты, у якіх яны нарадзіліся. Квакалі, перамаўляліся ў карчах, у балоце, жабы — гэта, усе ведалі, да добрага надвор'я. Сцямнела зусім. На небе высыпалі зоркі, на захадзе ўсплыў тонкі серп маладзіка, ад якога бруілася на зямлю сціплае святло, пазначаючы сваім ціхім бляскам увесь навакольны свет: хаты, дрэвы, вуліцу. Мітуслівa праляцеў кажан, імгненна мяняючы напрамак.

Наўзбоч абышлі славутую лужыну, у якой адлюстроўвалася зорнае неба з месяцам-маладзіком. Выйшлі за ваколіцу. Параўняўшыся з царквой, у цьмяным месячным святле ўбачылі на дарозе маленькага вожыка, які настабурыўшы іголкі, згарнуўся ў камячок, бараніўся, відаць, ад небяспекі.

— Што такое?

— Вожык!

— Добра яму, — пажартавала Вера Грудка, — яму не трэба думаць пра інстытут.

— Ён ўжо ўсё ўмее, — засмяяўся Алег Жалнярук з Сухаволля. — Яму прырода ўсё дала.

— Усяму навучыла, — дакінуў Пеця Сілюк.

Берагам Плісы, вярбовымі прысадамі падышлі да застаўні. Падышлі і прыпыніліся. Па той бок Плісы, за разбуранай застаўняй, уся ў густых зарасніках вырысоўвалася Крухмальня. Чуцён быў тонкі камарыны звон, што пранізваў цёплую цішыню летняй ночы. У карчах гукала сава. Выпускнікі сышліся ў цесны гурт. Гучалі маладыя галасы, гаворка працягвалася. Густым сінім купалам вісела над імі неба. Сінечу гэтую не маглі рассеяць шматлікія зоркі, якімі ўтыканая была бясхмарная нябная столь.

— А прыгожы наш край! — сказаў Валодзя, сказаў голасна, каб пачула і Шура. Сябры не азваліся, як бы моўчкі згадзіліся, што і сапраўды так. Затое на ўсю моц азваліся салаўі. Усё мацней і мацней. Салаўі, як вядома, любяць вільгаць, любяць спяваць у кустах, у перавітых хмелем алешніках каля рэчак ды сажалак. Тут якраз такое месца, тут яны раскашавалі.

— А давайце мы іх пераспяваем! — прапанаваў Пеця Сілюк, які меў неблагі голас.

Пачалі песню. Зрэшты, яна б узнікла і без Пецевай прапановы, сама сабой, з пачуццяў, якія перапаўнялі грудзі.

Нясе Галя воду,
Карамысла гнецца,
А за ёй Іванка,
Як барвінак, ўецца.

— Галя ж мая, Галя,
Дай вады напіцца.
Ты ж така хароша,
Дай хоць падзівіцца.

— Вада у ставочку,
Прыйдзі ды й напіся.
Як буду ў садочку,
Прыйдзі падзівіся...

Дзяўчаты паселі на бярвенні, якія тут, каля застаўні, ляжалі, а хлопцы проста на траву. Чуўся гаркаваты пах лазы, змешаны з пахамі аеру і мацярдушкі, што раслі на поплаве.

— Давайце світанне тут сустрэнем! — прапанавала Шура.

— Да раніцы яшчэ трэба чакаць, — сказаў Галёнкаў Валодзька.

— Пачакаем.

Праз неба пралёг Млечны Шлях. Пацягнула халадком. Мігцелі і дрыжалі зоркі, быццам ім таксама было золка гэтай позняй начной парою. Крыху ўбаку вісеў месяц. Святло яго мігцела скрозь крону вербаў. Здавалася, што месяц рассыпае на зямлю залатыя манеты. Валодзя падняў галаву, паўзіраўся на маладзік. «А можа, там і сапраўды ёсць жыццё, ёсць такія, як мы сёння, выпускнікі. Можа, і яны збіраюцца, выбіраюць, куды, на каго пайсці вучыцца. Не лёгкая гэта рэч — выбраць дарогу, якой ісці...» І яшчэ ён успомніў пра той пацалунак у Бярэзіне, успомніў і падумаў, што ён быў хутчэй за ўсё чыста выпадковы. Шура пра яго, напэўна, і забыла.

— А можа, і праўду Качан казаў, каб заставаліся ў калгасе? — як бы самому сабе сказаў Валодзька Галёнкаў.

— Хто як хоча, — пасля працяглай паўзы прамовіў Іван Каленік.

Раптам гучна закукавала зязюля.

— Ноч, а зязюля кукуе! — здзівілася Вера.

— Каб як даўжэй! — пажадаў Іван Каленік. — Гэта ж яна гады лічыць.

— Нам гэта яшчэ рана.

З шумам праляцела, свідруючы начное сутонне, нейкая птушка. Разыходзіліся позна, калі ўзышло сонца і ўздыхнула на дрэвах лісце. Займалася ранне, і яны пачалі развітвацца. Пераклікаліся паміж сабой птушкі, прыемна саладзіў пах іх гучны, шматгалосы перасвіст.

У гэты дзень над поймай Лосьны доўга стаяў туман і толькі бліжэй да поўдня нехаця адарваўся ад зямлі і растаў у нябачнай вышыні.

Выпускнікі, юнакі і дзяўчаты, разыходзіліся, каб болей у такім складзе ўжо ніколі не сустрэцца. Кожны быў поўны надзей.





Алесь КАРАНЕЎСКІ

# А ЛЁС МЯНЕ, НАПЭЎНА, ЛЮБІЦЬ...

## Я ПРЫЙДУ ДА ЦЯБЕ СОННЫМ ЗМАНАМ

Я прыйду да цябе сонным зманам,
Летуценнем у знаёмы палон,
Калыханкаю позніх туманаў,
Дзе палае з бярозаю клён.

Уварвуся я светлым з'яўленнем
У мітусню, у спалоханы лад,
Хараством фіялетавай цені
У разводы, што лье вадаспад.

Адгарэла. Не варта пытанні
У начы з цішынёю злучаць.
У палёце лагоды спаткання
Нам былое ўжо не гартаць.

Толькі зараз, бо сёння не маю
Досыць часу — імгненні лаві!
Усё ў мінулае разам знікае,
Як дрыготкія нашы агні.

---

***Каранеўскі Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч)*** *нарадзіўся 23 чэрвеня 1960 года ў горадзе Мінску. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава (1979). Служыў у войску. Працаваў настаўнікам у школе, кіраўніком дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва.*

*Аўтар двухмоўнай кнігі паэзіі і мастацкай фатаграфіі «Минские волны = Мінскія хвалі» (2014).*

* * *

Калісьці, злятаючы з лесвіцы,
Прамень мог злавіць у далонь.
А зараз мне сонейка свеціцца
Ўздагон у збялелую скронь.

Не пнуся хутчэй за парэнчы я,
Жаданне лаўлю неўзнарок.
Жыццё праляціць праз ступеньчаты,
Свабодны паверхавы блок…

* * *

Млявы свет ахінуў далягляд,
І ў палоне адчуў сумны вецер
Густ туману… А срэбраны сад
Калыхнуўся з тугою па леце.

Ты таго не ўбачыш… І дзень
Каламутай сплыве за аконцам,
Бо табе льецца золатам цень
У бліскучую пацiну сонца.

* * *

А лёс мяне, напэўна, любіць:
Перакуліўшы ўверх нагамі,
Нясе, як бусел, жабкай у дзюбе
З глыбінь, з адкрытымі вачамі.



**Віктар ШНІП**

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА-2*

*

*1.12.2014.* Нафта чорная і яе эксплуатуюць, як негра ў часы рабства…

*

*1.12.2014.* Бойцеся гражданаў, «дары приносящие»...

*

*2.12.2014.* Удзельнічаў у прэзентацыі трэцяй кнігі «Авантуры Пранціша Вырвіча» Людмілы Рублеўскай. Дзякуючы Ярашу Малішэўскаму і ягоным музычным інструментам у «Кніжным салоне» быў створаны антураж XVIII стагоддзя, і я праз некалькі хвілін забыўся, што на вуліцы мароз і вечар. У імпрэзе ўдзельнічалі Адам Мальдзіс, Алесь Карлюкевіч, Ганна Запартыка, Ганна Кісліцына, Ганна Бутырчык, Дзяніс Марціновіч, Андрэй Жвалеўскі, Алег Грушэцкі, Наста Грышчук, Ксенія Шталянкова, дырэктар «Кніжнага салона» Ала Зміёва. Падчас прэзентацыі адбыўся віртуальны кастынг на ролі галоўных герояў «Авантур». Большасць прысутных выказалася за тое, каб у цыкла пра прыгоды Вырвіча быў працяг. Прапаноўвалі пазбавіцца ад жонак і нявест галоўных герояў рознымі садысцкімі спосабамі. Адаслаць герояў у Рым, Амерыку, Афрыку. Зрабіць сенатарамі, піратамі, вандроўнікамі. На працягу ўсёй прэзентацыі я адчуваў няёмкасць з-за таго, што некаторым Людмініным чытачам давялося стаяць больш за дзве гадзіны, бо, на жаль, у кнігарні ім не хапіла крэслаў…

*

*3.12.2014.* Баліць сэрца. Дрэнна, што баліць, але і добра, бо яшчэ баліць…

*

*4.12.2014.* Па выдавецкіх справах хадзіў у мастацкі ліцэй, які ў свой час закончылі мае дачка і сын. Апошні раз там быў тры гады таму. Паўгадзіны размаўляў з дырэктарам Ліліяй Аляксееўнай. Потым паглядзеў дзіцячыя малюнкі, што вісяць на калідорах. Праходзячы каля класа, у якім першы клас заканчвалі Вераніка і Максім, сустрэў іх першую настаўніцу Зінаіду Кірылаўну. Абняліся, пацалаваліся. Зінаіда Кірылаўна заплакала. Паўспаміналі, паўздыхалі. Я заплакаў на вуліцы…

*

*4.12.2014.* Сёння праходзіў першы дзень паўфінальнага адбору на «Еўрабачанне-2015». У ім удзельнічаў дзявочы гурт «F!B!», дзе на бас-гітары грае мая дачка Вераніка. Прайсці ў фінал ім, відаць, не свеціць, але дзяўчаты малайцы,

* Заканчэнне. Пачатак у № 5.

што не чакаюць, калі нехта прыйдзе да іх на рэпетыцыю і за рукі пацягне на вялікую сцэну. Сфатаграфаваліся з Аляксандрам Рыбаком. А можа, ён з імі…

*

*5.12.2014.* Бойцеся гражданаў, якія рукапісы ў вялікіх торбах прыносяць…

*

*5.12.2014.* Снілася родная хата, замеценая снегам. Воран сядзеў на коміне, як на чорнай поўні…

*

*6.12.2014.* Мароз. У заснежаным скверы ціха. На лаўцы ляжыць пустая пляшка. Яна, як тое, што толькі і засталося ад чалавека…

*

*7.12.2014.* Снілася вёска. Родная хата. Усе дома. Да нас прыйшла ў госці мая стрыечная сястра Ірына з малымі дзецьмі. Яе меншы сын украў у майго бацькі кашалёк з грашыма. Я заўважыў, але прамаўчаў, думаючы, а што будзе далей. Праводзячы гасцей дадому, я запытаўся ў хлопчыка: «Навошта ты дзедаў кашалёк узяў?» Малы апусціў галаву і дастаў з кішэні ўкрадзенае, каб аддаць. «Забірай сабе! Табе болей грошы патрэбны!» — сказаў бацька і пайшоў у бок Ракава. 25 снежня будзе два гады, як памёр мой бацька…

*

*10.12.2014.* З таго часу, як выпаў снег, амаль кожную раніцу па дарозе на працу каля кнігарні «Светач» сустракаю сініцу. Яна ходзіць па сцежцы і не ўцякае ад мяне. Можа, гэта нейкі паэт, які, памёршы, стаў сініцай?

*

*11.12.2014.* Кожнаму з нас даецца магчымасць быць шчаслівым, а не шчасце…

*

*11.12.2014.* На працы. Гляджу з акна, як па лёдзе з аднаго берага Свіслачы на другі пераходзяць хлапчукі. Адзін з іх — я...

*

*12.12.2014.* Быў у майстэрні скульптара Івана Міско. Пра яго Міхась Кенька і Зіновій Прыгодзіч ствараюць кнігу. Ужо шмат зроблена. Міхась Паўлавіч і Зіновій Кірылавіч абяцалі да канца студзеня здаць рукапіс. Сам Іван Акімавіч працуе над скульптурай Льва Сапегі. У час нашай размовы нячутна адчыніліся дзверы і перад намі з’явіўся невысокі з сівой вялікай барадой стары. Павітаўся і, адмовіўшыся ад запрашэння далучыцца да вячэры, пакінуў нас. «Гэта скульптар Коля Бельскі. Вучань Азгура. Яму ўжо пад дзевяноста. Ні кватэры, ні майстэрні. У яго яшчэ захоўваецца дыпломная работа ў пластыліне. Нядрэнная праца. Я колькі разоў казаў яму, каб давёў задуму да канца. Ён толькі ўсміхаецца. Ні разу не быў афіцыйна жанаты, а дзяцей цэлая куча. Бадзяецца. То ў адной каханкі пажыве, то ў другой, то пабудзе ў дзяцей. Яго мы завём Леў Талстой…» — Іван Акімавіч крыху расказаў пра нечаканага наведвальніка. Як пачало цямнець, да нашай кампаніі далучыліся егіпцяне — Самір і яго сябра, а Кенька і Прыгодзіч пакінулі нас. Праз паўгадзіны прыйшла кампазітар Ганна Казлова са сваім вучнем Уладам. Хлопец нам паспяваў і пабег на працу — па вечарах зарабляе грошы ў нейкім рэстаране. Гадзіны дзве гаварылі пра Егіпет, пра Бога і мастацтва. Дамоў вяртаўся з пытаннем: «Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

*

*13.12.2014.* Самае густанаселенае памяшканне ў Мінску — гэта майстэрня скульптара Івана Міско…

*

*18.12.2014.* Чайкі лётаюць над Свіслаччу, як снег, які не ведае куды яму ўпасці…

*

*20.12.2014.* Учора вечарам з Маладзечна патэлефанаваў Міхась Казлоўскі і паведаміў сумную навіну — на 73-м годзе жыцця памёр пісьменнік Янка Галубовіч, які пісаў для дзяцей. Яшчэ на аднаго шчырага беларуса стала меней у нашай краіне. Адразу ж узгадалася Ракуцёўшчына, дзе апошніх гадоў пятнаццаць кожную вясну на дзень памяці па Максіму Багдановічу збіраліся маладзечанскія пісьменнікі, краязнаўцы, мастакі, супрацоўнікі бібліятэк. З Мінска прыязджаў я з сябрамі, але часцей за ўсё адзін. Збіраліся на станцыі Уша і потым пяшком ішлі ў Ракуцёўшчыну. Ян Янавіч (так яго называў Міхась Казлоўскі, а за ім і ўсе астатнія) звычайна адставаў ад моладзі, бо балела сэрца, і нярэдка ў фальварак мы (Казлоўскі, Галубовіч і я) прыходзілі апошнімі. Па дарозе гаварылі пра нашу родную Віленшчыну, пра літаратуру, пра жыццё-быццё. Ян Янавіч на ўсё меў сваю думку і не баяўся яе сказаць. Часам і на мяне «наязджаў» па выдавецкіх справах. Гаварыў шчыра, але так, што на Яна Янавіча немагчыма было пакрыўдзіцца. Ён любіў Вязынку. Ён любіў Купалу і землякоў. Ён не лез на сцэну, каб выступіць, каб «засвяціцца», але ён ніколі не адмаўляўся ад сустрэч з чытачамі. Я з ім не сябраваў, але мы з ім былі землякамі. Незадоўга перад смерцю Ян Янавіч папрасіў жонку, каб, калі ён памрэ, пахавала ў Дубравах. З нядзелі сярод маіх прадзедаў, дзядоў і аднавяскоўцаў будзе спачываць пісьменнік Янка Галубовіч…

*

*20.12.2014.* Паддаўся агульнаму настрою — здабыць што-небудзь, пакуль не падняліся кошты. Заходзіў у «Гандлёвы дом «На Нямізе», каб купіць новы пінжак. Людзей шмат. Пінжакоў таксама поўна. Пачаў выбіраць. Праз хвілін пятнаццаць выбраў, але не купіў, бо напачатку года гэткі ж пінжак я ўжо набыў, і ён на мне…

*

*21.12.2014.* Снегу няма. Сонца няма. Настрою няма. Зіма…

*

*22.12.2014.* Сёння самая доўгая ноч. Доўгая, як спадніца ў манашкі…

*

*23.12.2014.* На Свіслачы каля берага пад дрэвамі качкі, як камякі апалай лістоты…

*

*25.12.2014.* З бояззю чакаю вечара. Мне павінны сёння патэлефанаваць і сказаць: «Гэта звоняць з Ракава. З бальніцы. Ваш бацька памёр. Заўтра прыязджайце і забірайце…» Мінула два гады…

*

*25.12.2014.* Знайшоў сярод чарнавікоў:

«Бібліятэка — гэта скарбніца, дзе захоўваюцца залатыя Словы нашай нацыі.

Бібліятэка — гэта наш Рым, у які ў кожнага з нас павінна быць свая дарога.

Бібліятэка — гэта адзін з вялікіх кітоў, на якім трымаецца наша адукацыя.

Бібліятэка — гэта мара кожнага дзіцяці, якое навучылася чытаць.

Бібліятэка — гэта цэнтр сусвету беларускага Слова.

Бібліятэка — гэта сонца ў нашых кватэрах, якое ніколі не заходзіць.

Бібліятэка — гэта жывытворная крыніца святла, якая напаўняе нашы душы Верай, Надзеяй і Любоўю.

Бібліятэка — гэта наша мінулае, наш сённяшні дзень і наша будучыня.

Бібліятэка — гэта школа, дзе ты сам вучань і сам настаўнік.

Бібліятэка — гэта дарога да Беларусі, пра якую мы марым.

Бібліятэка — гэта наша вечнасць.

І прыходзім мы ў бібліятэку з любоўю і павагай, і бібліятэка прыходзіць у нашы сэрцы з любоўю і павагай».

Гэты тэкст напісаны мною па просьбе чалавека, які рыхтаваўся да выступлення перад бібліятэкарамі на іх прафесійнае свята. Спадзяюся, што нешта скарыстаў…

*

*26.12.2014.* З Людай, сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі на Ракаўскія могілкі адведаць бацькоў…

За кіламетры два перад Ракавам нечакана ўбачылі нядаўна выразаны лес і развернутую экскаватарамі зямлю — будуецца новая кальцавая дарога вакол Мінска. Уражанне такое, нібыта не ў той бок паехалі. Далей праз 20 кіламетраў мае Пугачы…

Дарога да Пугачоў (там, дзе пры саветах не паклалі асфальт — кіламетры тры) уся ў каўдобінах. Усё наваколле прысыпана снегам, нібыта спецыяльна зіма пастаралася, каб людзям было ехаць весялей…

Сажалкі замерзлыя. Нікога на іх няма, але мне бачацца мае школьныя сябры, з якімі я гуляю ў хакей…

За новым плотам наша старая хата стаіць сярод яблынь, нібыта хаваючыся…

На зямлі мерзлыя яблыкі, як з каляровага шкла…

Завёў насценны гадзіннік. І ў хаце пацяплела…

У Ракаве на могілках светла і калядна…

Увесь час, які мы былі ў дарозе да бацькоў і ад іх, свяціла сонца. Час ад часу нам дарогу пераляталі птушкі. Шчаслівыя, як мы…

*

*26.12.2014.* Сніліся Пугачы. Навокал сонечна. Дома бацькі. Толькі што пасадзілі бульбу. Я збіраюся ў Мінск. Бацька пытаецца, калі прыеду выбіраць. Кажу, што буду ў пятніцу. Субота і нядзеля выхадныя, а панядзелак, аўторак і сераду вазьму на працы за свой кошт. Кажу і думаю, што выбраць бульбу паспеем і за тры дні, калі пачаць у пятніцу, а тады ў аўторак і сераду проста пабуду з бацькамі. Сёння вось і адведалі бацькоў на Ракаўскіх могілках…

*

*28.12.2014.* Неба за ноч замерзла, і птушкі ў нашым двары ходзяць па зямлі, а калі ўзлятаюць, то не вышэй шматпавярховікаў…

*

*28.12.2014.* Вечарам у «Цэнтральнай» кнігарні разам з Людмілай Рублеўскай і Алесем Камоцкім прэзентаваў кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура». На нашы галасы да нас падыходзіў Адам Глобус. Маці Валярыны Куставай, якая была арганізатарам прэзентацыі, пачаставала Глобуса мандарынкамі. Ён

хацеў узяць адну, але яна настойвала частавацца, і Валодзю давялося ўзяць дзве. З «Фэйсбука» я даведаўся, што потым адну мандарынку Глобус падарыў (усё ж спатрэбілася другая!) на тралейбусным прыпынку Кірылу Дубоўскаму. З прапанаваных ён выбраў меншую. Сціплы. У кнігарні не было мнагалюдна, але нейкі час да Людмілы стаяла чарга па аўтографы. Адна дзяўчына прыехала спецыяльна з Маладзечна, каб купіць трэцюю кнігу «Авантуры Пранціша Вырвіча». Пасля выступлення я з Людмілай паехаў у Белдзяржфілармонію на фартэпіянны канцэрт сучаснага кампазітара. Над праспектам у чорным небе лёталі белыя чайкі. На канцэрт прыйшло шмат людзей. Не ведаю, хто застаўся пасля першай часткі, а мы з натоўпам моладзі ўцяклі. На вуліцы з чорнага неба сыпаўся белы снег…

## Кампазітар і залаты горад

*30.12.2014.* Гадоў дваццаць таму адзін кампазітар, які жыў каля Чырвонага касцёла, зімовым вечарам выйшаў на вуліцу. Навокал ні машын, ні людзей. І раптам малады чалавек убачыў, як з неба на пляц перад Храмам апускаецца залаты горад. «Што гэта такое?» — прашаптаў кампазітар і пабачыў за плотам, дзе ішло нейкае будаўніцтва, незнаёмых людзей. Сярод іх малады чалавек пазнаў пісьменніка Астроўскага. «Таварышч Астроўскі, што гэта такое?» — запытаўся кампазітар у драматурга. «Гэта залаты Мінск! Яго могуць бачыць толькі геніі! Калі вы бачыце гэты горад, то вы геній!» — адказаў Астроўскі і знік. З таго зімовага вечара мінула гадоў дваццаць. І сёння, выступаючы перад сваімі канцэртамі, кампазітар апавядае пра залаты горад, які сышоў з неба каля Чырвонага касцёла…

*

*31.12.2014.*

Святочным снегам зацярушаны двары,
Ты ўзяў рыдлёўку і праклаў сцяжыны
Да тых дамоў, дзе п’юць твае сябры,
Да тых дамоў, дзе не твае жанчыны.
І людзі заўсміхаліся з вакон,
Забыліся пра мяса і зацірку.
І ты шчаслівым стаў, нібыта слон,
Якога выгналі з дурнога цырку…

*

*1.01.2015.* З Людмілай Новы год сустрэлі на Кастрычніцкай плошчы сярод моладзі і замежнікаў. А пасля пайшлі да конікаў ля Ратушы, каб сфатаграфавацца. Вазок ужо быў заняты. У ім сядзелі бард Раман Абрамчук з сяброўкай і Каляднай зоркай. Спадзяюся, што Раман і ягоная сяброўка дачакаліся часу, калі конікі ля Ратушы ажылі, і яны на іх аб’ехалі ўвесь святочны горад…

*

*1.01.2015.* Там цёплае мора, дзе нас няма…

*

*2.01.2015.* Ноч яшчэ доўгая, як дарога дамоў, дзе няма бацькоў…

*

*3.01.2015.* Хадзілі на фартэпіянны канцэрт. Зала на чацвёртым паверсе філармоніі была амаль поўная. Слухачы — студэнты кампазітаркі (чалавек семдзесят), бабулькі і мужыкоў дзесяць майго ўзросту. Ледзьве выседзеў першую гадзінную частку. Музыка не кранула. Яшчэ да таго, як кампазітарка аб’явіла дзесяціхвілін-

ны перапынак, мы з Людай вырашылі пакінуць гэты музычны «Тытанік». Выйшлі з залы. І пабачылі, што моладзь, а следам і старэйшыя адзін за адным сыходзяць з канцэрта. Мы толькі паспелі па лесвіцы спусціцца на адзін паверх, як пачулі крык кампазіcаркі: «Стойце! Стойце!! Яшчэ я не закончыла іграць! Стойце!!!» Ад душараздзіральнага крыку ўсе, хто ішоў, пабеглі ўніз, нібыта пачулі: «Пажар! Ратуйцеся, хто можа!» На лесвіцы другога паверха натоўп ледзьве не збіў з ног народнага артыста СССР Эдуарда Ханка, які, як помнік самому сабе, спакойна ішоў на другую частку канцэрта. У гардэробе філармоніі было поўна людзей. Усе хапалі свае курткі, футры. Смеючыся і на хаду апранаючыся, разам з моладдзю мы пакінулі музычны «Тытанік»…

## Здарэнне на Дзяды

*4.01.2015.* Перад сном чытаў «Дзеяслоў» № 73. Спадабалася апавяданне Сяргея Абламейкі «Здарэнне на Дзяды». Праўда, на маю думку, твор трэба было закончыць радкамі: «Ад нечаканасці Сяргей прыжмурыўся, а калі расплюшчыў вочы, вакол нікога не было. Пісьменнікі зніклі…» Падобная гісторыя, якую апісаў Абламейка, здарылася са мной восем гадоў таму. Я тады яшчэ выпіваў. На Дзяды да мяне з Маладзечна прыехаў сябра Міхась Казлоўскі з маладым нашым земляком Сяргеем Лескецем. Набыўшы торбу гарэлкі, мы пайшлі на Вайсковыя могілкі да Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага і Паўлюка Труса, каб сказаць ім вялікі дзякуй за тое, што яны БЫЛІ. Пакуль хадзілі ад магілы да магілы, ап'янелі. Гарэлка не скончылася. У мяне ўзнікла прапанова паехаць на Усходнія могілкі, дзе пахаваныя Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў. Паехалі. Ужо было цёмна. Сцюдзёна. Пад нагамі парыпваў снег. Абход пачалі з Анатоля Сербантовіча. Праз паўгадзіны п'яныя ў дыміну дабраліся да Уладзіміра Караткевіча. Толькі налілі ў папяровыя келіхі гарэлкі, як сярод шуму дрэў я пачуў голас Уладзіміра Сямёнавіча: «Хлопцы, канчайце піць!» Пасля тых Дзядоў праз год я завязаў з выпіўкай, а пасля мяне і Міхась…

*

*4.01.2015.* Учора ўвечары з сябрамі суполкі «Літаратурнае прадмесце» ў нас дома адзначылі Новы год. За святочным сталом было дванаццаць пісьменнікаў і адна маладзенькая чытачка, якую прывёў Віктар Лупасін. Ён з Ганнай пазнаёміўся на вечарыне Адама Глобуса. Першай у госці завітала Алёна Беланожка, якая прыехала з Магілёва. Потым адзін за адным прыйшлі Усевалад Гарачка, Таццяна Пратасевіч, Георгій Барташ, Таццяна Барысюк, Юрась Нераток, Наталка Кучмель, Наталля Мітраховіч, Ігар Клепікаў. Як заўсёды, чыталі вершы, спявалі, варажылі, жартавалі. Шкада, што большасць сяброў суполкі не змагла быць разам з намі…

*

*5.01.2015.* Месяц таму ў майстэрні скульптара Івана Міско пазнаёміўся з кампазітарам Ганнай Казловай. Іду праспектам. Насустрач Ганна. «Добры дзень!» — кажу, і чую: «Прывітанне, Шпак!»

*

*6.01.2015.* Месяц таму, калі пачаліся першыя сур'ёзныя маразы, у мяне з'явіўся пачатак верша:

Мінскае мора замерзла і снег,
Нібы на полі бязмежным ляжыць.
Заяц па моры, як прывід, прабег,
Быццам шукаючы ў поля мяжы…

Далей натхнення не хапіла. Твор замарозіўся…

*

*7.01.2015.* Незнаёмы горад. Бязлюдная вуліца. На тралейбусным прыпынку я паклаў на асфальт чорны парасон і пайшоў у царкву. Там шмат людзей. Ідзе служба. Пабыўшы ў Храме, я паехаў дахаты. Праз пару прыпынкаў успомніў пра парасон. Выйшаў з тралейбуса. Хацеў вяртацца да Храма пешшу, але вырашыў, што тралейбусам будзе хутчэй. Вярнуўся да царквы. На прыпынку майго парасона не было. «Што ты шукаеш?» — пачуў мамін голас і пабачыў на лавачцы каля царквы маму, бабулю Ганну і бабуліну сястру Маньку. Яны былі аднаго ўзросту, гадоў па шэсцьдзясят. Усе ў чорным, як манашкі. Мой паламаны парасон сярод смецця ляжаў каля сцяны будынка, што быў побач з царквой. Я падышоў да сваіх родных. Мама паказала мне чорна-белы фотаздымак, на якім яна была ў касцюме і з узнагародамі. Узнагарод шмат. Я папрасіў фотаздымак на памяць, каб паказаць сваякам. Мама дала, і я, сеўшы ў тралейбус, паехаў у вёску. Каля Ракава… я прачнуўся…

*

*7.01.2015.* Марозам пад 20 бацька паліў печку брыкетам. І мы, дзеці, падоўгу сядзелі каля цяпла моўчкі, слухаючы агонь. Не ведаю, што чулі мае сястра і брат, а я чуў музыку і вершы…

*

*7.01.2015.* Поўня, як адзіная цацка, што засталася на апошняй навагодняй ялінцы, якую мне ў маленстве ўпрыгожылі бацькі…

*

*8.01.2015.* Удзельнічаў у вечарыне страшных калядных гісторый, якую зладзіла суполка «Літаратурнае прадмесце» пад кіраўніцтвам Людмілы Рублеўскай. Дзея адбывалася ў Музеі Багдановіча ў зале, дзе экспануецца нашаніўскі перыяд жыцця і творчасці Максіма. Я раз-пораз паглядаў на дзверы, над якімі шыльда «Наша Ніва», з надзеяй, што з іх выйдзе Багдановіч і скажа: «А слабо са сваімі вершамі ў «Нашу Ніву» зайсці?»…

*

*9.01.2014.* У бібліятэцы імя Цёткі паэтычны тэатр «Арт.С» святкаваў «Год Беласнежнай Казы». У імпрэзе бралі ўдзел: Ірына Клімковіч, Альжбэта Малішэўская-Спрынчан, Зміцер Арцюх, Ігар Клепікаў, Максім Клімковіч, Юлія Новік, Людміла Рублеўская і гурт «Мерада». Рэй вялі Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан. У сваім выступленні я прачытаў верш «Каза»:

усе белыя козы
злеплены з першага снегу
усе чорныя козы
злеплены з вуголля
што засталося ад вогнішча
каля якога грэліся пастухі
а ты зрабіў казу з паперы
на якой пісаў вершы
і твая каза стала
казкай
у якой жыве казёл
якому трэба казаць
што нашы калядоўшчыкі
яго не будуць вадзіць бо ёсць каза
якую ўсе чакаюць

як чакаюць цудаў
што адбываюцца ў казках
дзе амаль заўсёды знаходзіцца казёл
які ўсё псуе
яшчэ раней сапсаваўшы казу
якая была злеплена з першага снегу
чыстага і лёгкага як аблокі ў небе
дзе маладзік як след ад казлінага капытка
з якога нельга піць
бо можна стаць казлішчам

*

*11.01.2015.* Увечары вяртаўся з цэнтра горада дадому праз вакзал. Стоячы на прыпынку тралейбуса, доўга глядзеў на электрычку на Маладзечна. У светлых вокнах вагонаў бачыліся пасажыры. Нехта з іх, відаць, едзе і да Дубраў, і да Аляхновіч, з якіх да маіх Пугачоў 10 кіламетраў. Мог бы і я паехаць, як некалі было, але цяпер там ніхто ўжо не чакае мяне…

*

*11.01.2015.* Іду праз вечар. Снег растае. У калюзе паўз ходнікі шавеляцца лапікі святла з акон, а ў брудным небе над горадам яшчэ датухаюць агні калядных дзён…

*

*12.01.2015.* Раніца. Іду на працу па абледзянелым асфальце, як па небе, якое за ноч прымерзла да зямлі…

*

*12.01.2015.* Што такое Ракаў да 1939 года? Гэта 134 магазіны, 96 рэстаранаў, казіно, бардэлі. Добрае месца для паэта…

*

*14.01.2015.* У бібліятэцы Цёткі ўдзельнічаў у адкрыцці выставы «Вечаровы звон» мастачкі Надзеі Барай. Яшчэ раз пераканаўся, што мы, супрацоўнікі выдавецтва, працуючы разам шмат гадоў, з-за працы, якую не ўсе цэняць так, як належыць, і якой аддаём амаль усе свае творчыя сілы і натхненне, мала ведаем адзін аднаго…

*

*15.01.2015.* У Музеі Янкі Купалы прайшоў фінальны вечар «Фэста аднаго каляднага верша» (ужо сёмы па ліку), які арганізаваў і правёў Георгій Барташ. Аб'яўляць фіналістаў і пераможцаў яму дапамагала Віка Трэнас. Сябрам журы (Андрэй Хадановіч, Людміла Рублеўская, Віктар Жыбуль, Вольга Базылёва-Клімко, Ціхан Чарнякевіч, Сяргей Пукст, Наталля Капа, Віктар Шніп) давялося прачытаць каля сотні твораў пад псеўданімамі і выбраць з іх 6—7 фіналістаў і свайго пераможцу фэсту. Маю лепшую сямёрку ўзначаліла Адэлаіда Грубка з вершам «Хлеб святога Антонія». Яна ж стала і наагул пераможцай усяго фэсту. Хто такая Адэлаіда Грубка? Гэта Марыйка Мартысевіч. На гэты раз вечарына не зацягнулася. Дамоў вярнуўся а дзявятай гадзіне. У памяці застаўся крык двухгадовай дзяўчынкі: «Я не паэтэса! Я не паэтэса! Я не паэтэса!» Так малая адказала нам, паэтам, калі мы, убачыўшы яе побач, адзін за адным сказалі: «Паэтэса!»

*

*17.01.2015.* Адносся да чалавека так, як хочаш, каб ён да цябе адносіўся. Гэтым правілам карыстаюся больш як трыццаць гадоў. І мне ў працоўных характарыстыках пішуць, што я вельмі добры з падначаленымі, і гэта мой асноўны недахоп…

*

*17.01.2015.* Гледзячы на галубоў на даху суседняга дома, узгадаў радкі рускага паэта Мікалая Старшынава (1924—1998):

Не спугните... Ради Бога, тише!
Голуби целуются на крыше.
Вот она, сама любовь, ликует, —
Голубок с голубкою воркует.
Он глаза от счастья закрывает,
Обо всём на свете забывает...

З Мікалаем Канстанцінавічам я быў знаёмы. А пазнаёміліся мы падчас вучобы ў Літінстытуце. Вясной 1986 года мой сябра Генадзь Суздалеў прапанаваў з’ездзіць у выдавецтва «Молодая гвардия» і разведаць наконт выдання кніжак. Генадзь захапіў з сабой рукапіс паэзіі, а я пару дзясяткаў вершаў у перакладзе на рускую мову. Адразу зайшлі ў рэдакцыю альманаха «Поэзия», дзе галоўным рэдактарам працаваў Мікалай Старшынаў. Праз хвілін пятнаццаць у кабінеце сабралася чалавек дзесяць паэтаў. Пілі каньяк. Чыталі вершы. Я чытаў па-беларуску — Старшынаў папрасіў. Ён вельмі любіў Беларусь і беларусаў. Пасля нашай сустрэчы мае вершы былі надрукаваны ў некалькіх зборніках. Мікалай Канстанцінавіч прапаноўваў прынесці рукапіс для «Молодой гвардии», а я, абяцаўшы, не зрабіў гэтага…

*

*18.01.2015.* У філармоніі 20 студзеня паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» у 19 гадзін пачне святкаваць 25-годдзе тэатральна-канцэртнай дзейнасці. Напачатку монаспектакль у выкананні Галіны Дзягілевай, а ў другім аддзяленні — рэтраспектыва монаспектакляў і выступы сяброў тэатра. Імпрэзу вядзём Людміла Рублеўская і я. Сёння вечарам у філармоніі з Галінай Аляксееўнай узгаднілі сцэнар. Да філармоніі я прыехаў на аўтобусе, каб сустрэцца з Людмілай, якая гуляла ў горадзе з дачкой. На прыпынку ў задуменні сядзеў пісьменнік Уладзімір Мехаў. Яму ў сакавіку будзе 87 гадоў. Гледзячы на Мехава, я сам сабе сказаў: «У цэнтры Мінска сядзіць «ЛіМ» ХХ стагоддзя і ніхто не здагадваецца пра гэта…» Людмілы яшчэ не было, і я падышоў да Уладзіміра Львовіча, павітаўся. Ён чакаў сяброўку, з якой сабраўся на канцэрт класічнай музыкі. Паўспаміналі, паўздыхалі, пажартавалі. Праз хвілін дзесяць да Мехава прыйшла сяброўка, а праз пятнаццаць з’явілася Людміла…

*

*19.01.2015.* На плошчы Перамогі сустрэў Міхаіла Фінберга. Сто гадоў не бачыліся. Думаў, што маэстра пройдзе міма і не пазнае мяне. Пазнаў. Заўсміхаўся. Адразу прадставіў свайму спадарожніку: «Найлепшы беларускі паэт нашага часу!» Я не застаўся ў даўгу: «Гэта прыемна чуць ад найлепшага дырыжора нашай краіны!» Пастаялі, пасмяяліся, паўспаміналі, як раней было добра і музыкам, і паэтам, і кампазітарам, і дырыжорам…

*

*20.01.2015.* У філармоніі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» паспяхова адсвяткаваў 25-годдзе тэатральна-канцэртнай дзейнасці. Напачатку прысутныя паглядзелі монаспектакль у выкананні Галіны Дзягілевай, а ў другім аддзяленні была рэтраспектыва монаспектакляў і выступы сяброў тэатра. Імпрэзу вялі Людміла Рублеўская і я. У сваім выступленні Анатоль Бутэвіч паведаміў, што, ідучы на свята да Дзягілевай, у яго некалькі чалавек на ганку філармоніі пыталіся пра лішні білет…

*

*22.01.2015.* Побач з выдавецтвам будуецца дом. Ужо завершаны чацвёрты паверх. Уначы яго зацерушыла снегам. Будаўнікі, перад тым як працаваць, зляпілі снегавіка. Надзелі на яго зялёную каску, у якіх ходзяць толькі начальнікі, і доўгі час фатаграфаваліся. Калі фотасесія была скончана, будаўнікі забралі ў снегавіка каску і пакінулі яго ў самоце…

*

*23.01.2015.* Слухаю Булата Акуджаву. Адчуванне, нібыта я на ягоным канцэрце ў ЦДЛе. Поўная зала. Праз дзве гадзіны амаль усе прысутныя кінуліся да сцэны, каб атрымаць аўтограф. А я з сябрамі з Літінстытута выйшаў з ЦДЛа і паехаў у інтэрнат…

*

*24.01.2015.* Тэлефанаваў Міхасю Казлоўскаму. Застаў яго па дарозе ў Вішнева. Сёння там у касцёле служба ў памяць ксяндза Уладзіслава Чарняўскага. Потым будзе невялікая імпрэза ў мясцовым Доме культуры.

## Балада Уладзіслава Чарняўскага

*(14.01.1916—22.12.2001)*

...І прыйшоў ён да нас, нібы слова жывое
Апусцілася з неба на нашу зямлю,
Дзе адвеку ў пашане сваё і чужое,
Дзе прад светам баімся сказаць мы «люблю»
Шчодрым нівам, якія паліты крывёю
Нашых продкаў, што верылі ў лепшы прасцяг,
Ветлым хатам, напоўненым век цеплынёю,
Сціплым людзям, што горбяцца
з ранку ў палях...

Ён прыйшоў, як прыходзяць вясна і світанне,
Хоць не кожны вясну і світанне чакаў,
Хоць не кожны пранікся ягоным літаннем
Толькі ён не адрокся таго, што абраў,
І ў мястэчку ў касцёле, гаворачы з Богам,
Верыў ён, што надыдзе той радасны час, —
Прывядзе нас у Храм беларускі дарога,
Ды шкада, што тады ўжо не будзе тут нас...

І пайшоў ён ад нас, нібы слова жывое,
І прайшоў ён праз нас, як святло з абразоў,
Каб мілей нам зрабілася наша, святое,
Каб мы ўспомнілі шлях да забытых крыжоў...

*12.03.2002*

*

*24.01.2015.* У дварах засыпаныя снегам легкавікі, як ложкі з казкі пра прынцэсу на гарошыне…

*

*25.01.2015.* Стог саломы ў заснежаным полі, як узыходзячае сонца. Мы з бацькам на санях едзем да яго і, чым бліжэй, тым мне цяплей…

*

*25.01.2015.* Патэлефанавала сястра Валя і паведаміла, што сёння на 92-м годзе жыцця ў гадзіну ночы памерла цётка Шурка…

Развіталіся з цёткай Шуркай. Назаўсёды…

*

*26.01.2015.* З сястрой Валяй, яе мужам і стрыечнай сястрой Аняй ездзіў у Татары на пахаванне цёткі Шуркі…

Абапал дарогі заснежаныя палі і шэра-белыя, месцамі зялёна-белыя лясы. Вясковыя хаты, як намаляваныя…

У Татарах жыве чалавек дзесяць. Вуліца прачышчаная ад снегу, а да большасці хат і сцежак няма…

З Лягез прыехалі дзядзька Віця, цётка Лёдзя і Валька з Крапіўнік. Іх прывёз Вова (сын дзядзькі Віці). З Ракава прыехала цётка Марыя. Яе прывёз Сяргей. Каля цёткі Шуркі былі цётка Аля з дзядзькам Толем і іх сыны Алег і Сяргей з жонкай Светай і сынам Максімам. І яшчэ чалавек пяць вяскоўцаў…

На крыжы напісана: «Раманчык Аляксандра Міхайлаўна. 18.09.1923—25.01.2015». Я прывык цётку называць Шуркай і для мяне Аляксандра, нібыта зусім другі чалавек…

З Сяргеем цёткі Алі з’ездзілі ў Гарадок па святара. Па дарозе глядзеў на родныя палеткі. Яны сумныя, як цётка Шурка ў труне…

Ад святара даведаліся, што ў Гарадку цяпер жыве 300 чалавек. Ёсць пачатковая школа, а потым дзеці ездзяць у Аляхновічы. У маіх Пугачах 500 чалавек, а раней у Гарадку было болей людзей…

Святар малады. Усю дарогу расказваў пра сваю паству: «У царкву мала ходзяць. Многія кажуць, што як пойдуць на пенсію, дык тады і ў царкву пойдуць. Не ўсе дажываюць да пенсіі…»

Пасля адпявання прысутныя правялі цётку Шурку да крыжа на канец вёскі, ад якога паехалі ў Пажарышчы на могілкі. Калі б не далакопы з Ракава, не было б каму і труну несці…

Могілкі вялікія. Магілы не густа. Дзе старыя пахаванні, там лес, а на новых толькі кусты і то сям-там…

Дол выкапаны глыбокі. Дзядзьку Віцю спадабаўся: «А Ніне выкапалі толькі на метр…»

Пахадзіў па могілках. І тут Шніпоў хапае…

Цётку Шурку пахавалі каля мужа (Раманчык Уладзімір Іосіфавіч. 1915—17.06.2008), з якім яна пражыла гадоў дзесяць. Першы муж пахаваны ў Маладзечне…

З цёткай Аляй схадзілі да магіл, дзе пахаваны яе свёкар са свякрухай. Шніп Грыгорый Іванавіч (1903—10.05.1989) і Шніп Праскоўя Канстанцінаўна (2.08.1906—11.09.1982)…

На могілках ціха, як у Бога за пазухай…

Вярнуліся ў хату цёткі Шуркі, дзе ўжо ніколі не будзе цёткі…

За памінальным сталом цётка Марыя зноў з пеўчымі з Ракава спявала і вяла ўсю жальбіну па цётцы. Аня папрасіла, каб я сказаў. Сказаў, не ведаю ці спадабалася цётцы Шурцы. Я даўно з ёй не гаварыў…

Пасля стала да мяне падышоў сусед цёткі Шуркі. «А я з вашым бацькам дваццаць гадоў кароў пасвіў! Харошы быў чалавек! Мне з ім добра было! А я вас у газетах чытаю!» — абдымаючы мяне, сказаў стары. «А як вас завуць?» — пацікавіўся я. «Міхаіл Аляксандравіч Брысь! Лёгка запомніць! На ката ўсе крычаць: «Брысь!», а ў мяне прозвішча такое», — усміхаючыся адказаў стары...

Развітаўшыся з усімі, паехалі да бацькоў на Ракаўскія могілкі. Перадалі ім паклон ад родных і знаёмых…

Вярнуўся дамоў. Сумна, як у заснежаным полі, дзе сям-там віднеюцца лапікі зямлі і стаяць дробныя адзінокія кусты…

*

*28.01.2015.* Збіраемся перавыдаць «Блокадную книгу» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна. Ранкам а дзясятай тэлефанаваў у Санкт-Пецярбург. Дачка Марына папрасілаператэлефанаваць праз пару гадзін. Данііл Аляксандравіч, якому пайшоў 97-мы год, сам падняў слухаўку і без затрымак адказаў на ўсе мае пытанні. Цікавячыся, на якой мове будзем перавыдаваць «Блокадную книгу», Данііл Аляксандравіч сказаў, што ён не супраць, калі з цягам часу мы выдадзім і беларускамоўны варыянт…

*

*29.01.2015.* Сёння раней звычайнага вярнуўся дахаты. Вячэраю. І раптам бачу: у нас яшчэ навагодняя ялінка стаіць…

*

*29.01.2015.* Прыязджаў Міхась Казлоўскі. Набраў у лік ганарару кніг «Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак», якую ён укладаў. Гартаючы фаліянт, Міхась узгадаў 1984 год, калі, жывучы ў Маладзечне ў інтэрнаце, ён стварыў мастацкую гасцёўню імя Язэпа Драздовіча. Тады ў Міхася была невялікая бародка, і ён быў падобны на мастака. Нярэдка, калі сустракаўся з некаторымі дзяўчатамі, чуў воклічы: «Прывітанне, Язэп Драздовіч!». Міхасю такое чуць незаўсёды падабалася і неяк адной знаёмай ён заявіў: «Зіна! Зіна! Каб Бог даў мне зрабіць для Беларусі палову таго, што зрабіў Язэп Драздовіч, я быў бы задаволены, а пакуль што мне да Драздовіча вельмі далёка!» Сёння, гледзячы з любоўю на кнігу, Міхась сказаў: «Не ведаю, што я зрабіў добрага ў гэтым жыцці, але вось кнігу пра Язэпа Драздовіча зрабіў!»

*

*31.01.2015.* Глядзелі скандынаўскі фільм «Анёлы сусвету». Дзея адбываецца ў Ісландыі, у бальніцы. Фільм дэпрэсіўны. Узгадалася Ракаўская бальніца і яе пацыенты. У палаце, дзе ляжаў бацька, стаяла тры ложкі. Бліжэй да бацькі ляжаў Вова, мужчына гадоў сарака пяці. З ім можна было пагаварыць. Далей каля акна, захутаўшыся ў коўдру, у час маіх прыездаў заўсёды спаў незнаёмы. Ён хутка памёр. Вова хадзіў па калідорах бальніцы, выходзіў на вуліцу. Неяк пайшоў у цэнтр Ракава, дзе так напіўся, што толькі ў Валожыне змаглі яго адратаваць. Пасля гэтага Вова сядзеў спакойна і нікуды не выходзіў з палаты. Размаўляў з маім бацькам. Каб хворым было весялей, я прывёз радыё, якое Люда даўно купіла ў Берліне падчас паездкі на Дні беларускай літаратуры. Калі бацька памёр, мы нічога бацькавага з бальніцы не забралі. Засталося і нямецкае радыё. Хто яго там цяпер слухае і наогул ці стаіць яно ў палаце?..

*

*1.02.2015.* Раптам засвяціла сонца. І зіма стала такой, як у дзяцінстве, светлай і роднай…

*

*2.02.2015.* Ужо амаль два месяцы перад сном чытаю Восіпа Мандэльштама. Па некалькі твораў для роздуму, для суцехі. Нядаўна пачаў верш, прысвечаны паэту:

Бяссонніца. Гамер. У ветразях пажар.
Ты спісак караблёў чытаеш, як малітву.
Не той герой, хто сёння выйграе бітву,
А той, хто прайграўшы, не зрачэцца мар…

*2.02.2015.* Заходзіў Вячаслаў Рагойша. Набыў кніжку Язэпа Драздовіча. Нагадаў мне, што сёлета ў нас на радзіме два юбілеі — Валожына і Ракава. Сёння ж я ў сваіх паперах знайшоў верш, які быў напісаны 4 кастрычніка 2002 года і прысвечаны землякам:

Што нам Парыж далёкі, што нам Кракаў
І Амстэрдам, і Лондан той сівы.
Мы маем гонар свой, мы маем Ракаў,
Дзе ўсе святлом касцёла і царквы
Асветлены і вечнасці слугуюць,
Ствараюць слову роднаму прасцяг,
І словы тут з анёламі сябруюць
І не губляюцца ў сівых вяках.
Мы маем гонар свой, мы Ракаў маем,
І новы дзень не кане ў небыццё,
Бо гэты дзень, нібыта Храм, ствараем,
І будзе ў ім, нібыта Бог, жыццё…

З гэтым вершам я выступаў на Ракаўскіх чытаннях, што праводзіў Вячаслаў Рагойша ў Ракаўскай школе. Тады сярод гасцей прысутнічала Вера Рыч з Лондана…

*

*3.02.2015.* На працы. Гляджу з дзявятага паверха, як па лёдзе на Свіслачы ходзяць дзве дзяўчынкі гадоў па дванаццаць. Ходзяць, узіраючыся праз лёд у цёмную зімовую ваду, нібы шукаюць мяне…

*

*4.02.2015.* Снегапад. Снегавік каля легкавушкі, нібы абсыпаны снегам гаспадар машыны, які чакае жонку, а яна ўсё не выходзіць з кватэры, бо збіраецца ў дальнюю дарогу…

*

*5.02.2015.* Па Свіслачы слізгае снег, як па небе аблокі белыя…

*

*11.02.2015.* Пачала працу XXII Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш. У новым месцы. Праспект Пераможцаў, 14. Прасторна, светла, кніжна, людна…

*

*13.02.2015.* На сёлетняй кніжнай выстаўцы-кірмашы галоўным госцем з’яўляецца Кітай. Два дні як удзельнічаю ў размовах з кітайскімі выдаўцамі і ў сумесных прэзентацыях. Сёння вярнуўся дадому з выставы, як з Кітая…

*

*14.02.2015.* Кнігі прыгожыя, як чытачы…

*

*15.02.2015.* Кніжная выстава прайшла, а Кнігі і чытачы засталіся…

*

*17.02.2015.* Да мяне па справах дахаты прыходзіў Алесь Кваткоўскі. Размову пачалі з карцін і паэзіі, а закончылі словамі: «Жонкі старэюць, а студэнткі трэцяга курса заўсёды маладыя…»

*

*17.02.2015.* Прыходзіў «новы і мудры гісторык». У паношаным спартыўным касцюме і ў валёнках. Яму за 80 гадоў. «Я напісаў вам для друку новую і сапраўдную гісторыю Беларусі!» — зняўшы шапку-аблавушку, заявіў стары. «Вы гісторык?» — пацікавіўся я. «Не! Я інжынер-канструктар. У мяне 50 вынаходніцтваў!» — адказаў наведвальнік. Пагартаўшы рукапіс, я запытаўся: «Міколу Ермаловіча чыталі?» — «Не. Ермаловіч для мяне не аўтарытэт!» — «А хто?» — «Я сам сабе аўтарытэт!» — «А што рабілі б вы, калі б я да вас пасля Літінстытута прыйшоў у канструктарскае бюро з чарцяжамі вечнага рухавіка?» — «Мы б зрабілі рухавік!» — адказаў «новы і мудры гісторык»…

*

*18.02.2015.* Спаліўшы рукапіс, выратуеш лес…

## Тыгрык

*23.02.2015.* Мінулай восенню, вяртаючыся з працы, сярод бруднага лісця я заўважыў цацку — маленькага тыгрыка. Відаць, нейчае дзіця згубіла. Тыгрык быў, як і я, самотны і прамоклы пад восеньскім дажджом. Я падабраў малечу. Прынёс дахаты, памыў у цёплай вадзе, абсушыў і пасадзіў на паліцу каля кніжак, што побач з камп'ютарам. І цяпер усё, што я пішу і што гляджу ў інтэрнэце, бачыць тыгрык, якога я падабраў на вуліцы ў час восеньскага дажджу…

*

*24.02.2015.* Сёння Рыгору Барадуліну было б 80. Многія ў «Фэйсбуку» выставілі свае фотаздымкі з Рыгорам Іванавічам. Я ж яшчэ раз прэзентую кнігу «Каўчэг», якую склаў з бла славеннем паэта ў 2013 годзе і якая выйшла напачатку мінулага лета…

*

*25.02.2015*. «Іосіф Бродскі памёр ад таго, што не авалодаў камп'ютарам. Відаць, і я ад гэтага памру…» — сказаў пісьменнік, просячы мяне дапамагчы знайсці наборшчыцу для новай аповесці.



# РАСЧЫНЕНЫЯ БРАМЫ СУСВЕТУ

*Сучасная сербская паэзія*

## Радаван КАРАДЖЫЧ

### ВЯРТАННЕ

Прыйшлі мы на край свету,
Да апошняга дома,
Які павольна старэе.

Каб абнавіць даўнішні ачаг,
Прынеслі сюды
Авечыя скуры кахання
І дзіцячыя гульні.

А дом не прымае нас.
У ім даўно ўжо
Занядбанне і пыл,
Змрокам завешаны вокны.

Мы, беспрытульныя, адны.
І нідзе не відаць агню.
Хіба што ў пекле
Пад небам, якое павольна старэе.

### НАДЗЕЯ

Раніцой, да ўзыходу сонца,
У акне з'яўляецца надзея.

Часцей за ўсё голуб,
Замяняючы думку пра цябе.

Так і будзе. Узыдзе сонца,
І праз краты асветліць тое самае —
Тыя ж пачатак і канец,
Тую ж сутнасць у незавершанай форме.

І надзея, пэўна ж, успырхне.
Цяжка было знесці

Яе крылатую прысутнасць.
Яна засланяла і цябе, і мяне.

Падмацаваны, засяроджваю погляд
На момантах змрочных.

## Србалюб МІЦІЧ

### ЖОЎТАЯ ПТУШКА

Ходзіць пан па кірмашы
Носіць птушку ў клетцы
Жоўтую птушку

Стаіць Папіша на кірмашы
Прадае карову дойную
Пярэстую дагледжаную

Прыпыніўся пан з клеткаю
Пачала спяваць птушка
Ай як нябесна нябесна

Аддаў Папіша добрую карову
Аддаў дойную за птушку
Аддаў усур'ёз

Смех узнялі цыганы-гандляры
Дурны ты Папіша як бот дурны
А быў жа раней нармальны

Не лезьце вы ў гэта і сціхніце
Дачушка мая так любіць птушак
А заўтра памрэ небарака

### ГАДАННЕ ПА РУЦЭ
**Лінія смерці**

Бачна неба
Бачны птушкі
Бачна вада
Бачны рыбы
Бачна зямля
Бачны лес
Бачна трава

Ты не бачны

## Раша ПЭРЫЧ

### ПАРНЫ ВЕРШ

| | |
|---:|---|
| **1** | **2** |
| Каб | Каб |
| нашы душы | нашы цені |
| назаўжды зрадніліся | над вадой павянчаліся |

| | |
|---:|---|
| **1** | **2** |
| Каб | Каб |
| зорныя кароны | сонцавы пярсцёнкі |
| над рачною хваляй | святлом вечным ззялі |

### СВЯТЫ ЛАДАН

(((((((((((((((((((((((((((
))))))))))))))))))))))))))))
((((((((((((((((((((((((((((
з ладана дымок

(((((((((((((((((((((((((((
))))))))))))))))))))))))))))
((((((((((((((((((((((((((((
узвіўся да цябе

((((((((((((((((((((((((((((
))))))))))))))))))))))))))))
ойча, будзь ты з ім

((((((((((((((((((((((((((((
))))))))))))))))))))))))))))
бо ў ім жа душа.

!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!

## Райка ПЕТРАЎ НОГА

### ГЭТА Ж СЕРБЫ

Бомбы
На варвараў усялякіх
Як ні было бы
Такі ж рашэнне

Узяць скажам сербаў
Як і розных недачалавекаў
Гэта ж русы балканскія
А то й перавернутыя кітайцы
Ці нейкія трыбалайцы

Дзяленнем яны размнажаюцца

Ёсць у іх правадыр нябачны
Чарнарызец
Якога калісьці
Туркі спалілі

Ад вогнішча таго
Яны здаля грэюцца

У цэрквах з выявамі яго
Быццам авечкі рахманыя
Ды часта збіраюцца
І ў корчмах за чаркаю

Трымаюцца пераканання
Што кветкі з крыві прарастаюць
Ад болю песні складаюць

Калі ў снах спатыкаюць
Блудніц вавілонскіх
То кажуць ім
Ты сваім ідзі шляхам
А я сваім

Змеі дамы ім ахоўваюць

Трэба варвараў вынішчыць
Пачысціць хрыбет балканскі
А то ж яны, сяляне-хрысціяне
Планету нашу загубяць

Бомбы
На варвараў усялякіх
Як ні было бы
Такі ж рашэнне

## Душан ЧОЛАВІЧ

### РАСЧЫНЕНЫЯ БРАМЫ СУСВЕТУ

Раздумваю, як
На працягу многіх
Мутных вякоў
Дратавалася Слова,
Якое сцвярджала,
Што змучанае чалавецтва
Неадменна жадае
Новага светлага пачатку
І карціны свету

З душой Белага Ангела —
Каб зіхатлівым святлом
Любоў абуджала
Ўсе клеткі людскіх сэрцаў,
Каб у благаславеннях
Слова распаўсюджвалася
Праз расчыненыя і асвечаныя
Брамы сусвету.

### СВЯТЫЯ РАТНІКІ

Пакуль астываюць коп'і,
Святыя ратнікі
Без даспехаў,
З абмытымі ранамі,
Прычашчаюцца
І рассаджваюцца
(Каля ног Распятага)
На трапезу нябесную.

## Радамір АНДРЫЧ

### ЭСЭ ПРА ПАЛЯВАННЕ

Паводле новай крытыкі
кніга ўпалёўвае чытача
вобразы герояў гэта
толькі частка яго вобраза
не Радзісаў насаджаны на кол
без крыку памірае
ў рамане «Мост на Дрыне»
гэта чытач павольна
сам сябе ў цішыні
бязлітасна забівае

Прабач Госпадзі
таго небараку
які дачытваючы кнігу
лічыць што ўсё ўпаляваў
хоць гэта на яго паляванне

Прабач Таямніца слова
за яго памылку
здабыча ўсё роўна
ў люстэрку паляўнічага

### ПЛЯМА

У касцюме святочным
Светлым я адчуваю
Дыскамфорт нейкі
І нешта чужое як быццам
Пасля маўчання
Працяглага словы
Ўбіраюцца ў лірыку
Чыстую занадта

А цяпер калі адзначаю
Паводле пашпарта
Шэсцьдзясят чацвёрты
Дзень нараджэння
З'яўленне цёмнай плямы
Прама над сэрцам
Неабвержна даказвае
Што мой касцюм новы

## Адам ПУСЛАІЧ

### НЕДЗЕ ПАМІЖ

Бачу, што душа мая
пакідае зямное тло і ўздымаецца
ў невядомасць і незваротнасць,
але так, што іншыя гэтага
не могуць бачыць
а ці бачаць толькі тады,
калі спыняць яе позна…
каб самім уключыцца
ў гэты чын узнясення
і адухаўлення душы,
які адбываецца недзе там,
паміж небам і паднябессем,
паміж мною і зямлёю.

### Я ПАМЯТАЮ ЯГО

Гэтыя цяпер нагамі
Адчыняюць
і зачыняюць
дзверы гісторыі

не ўмелі раней
так рабіць
ні Шэкспір

ні Гётэ ні Ўолт Уітмен
а ён шануе аднолькава
паветра зямлю неба
і ваду а таксама
траву і святых мурашоў

ён асобна цалаваў
кожную пчалу
і птушку ў палёце
ён забыў англійскую мову
а я памятаю яго яшчэ

## Прэдраг БАГДАНАВІЧ ЦІ

### СПАКОННАСЦЬ ЦІШЫНІ

Пасля паэтычнага вечара,
які тры гадзіны працягваўся
ў бібліятэцы,

з куточка ціхага
падышла да мяне
глуханямая дзяўчына,

якая па вуснах чытае,

каб выказаць,
як ёй падабаецца
слухаць вершы.

Усё пачыналася з аднаго слова:
люблю прыходзіць,
люблю чытаць,
люблю пісаць.

Счытвалі мы адно ў аднаго
душы з вуснаў.

Я адчуў спаконнасць
і бяздоннасць гэтай любові.
А ўсталяваная цішыня
зрабіла словы лішнімі, непатрэбнымі.

### МАТУЛІНЫ КАРАЛІ

Рассыпаліся ў мяне
белыя і чорныя пярліны,
калі даставаў іх з пыльнай шкатулкі.

Я ж не ведаў,
што гэтак сатлелі
ніткі абедзвюх нізак.

Белыя пярліны
лягчэй знаходжу ўначы,
а чорныя, зразумела, удзень.

У дні народзін, вяселляў і пахаванняў
насіла іх маці мая,
а таксама яе маці Марыя.

Не пазнаходзіў я ўсіх пярлін,
нібы ў ракавіны павярталіся яны,
адазваўшыся на кліч праакіяна.

І калі ўжо буду
пярліны знойдзеныя нанізваць,
не ведаю. Бог ведае.

## Драган ЛАКІЧАВІЧ

### ЗНІШЧЭННЕ

Абрываю тэлефонны дрот
Які яшчэ носіць думкі мае
Які мяне яшчэ з чымсьці звязвае

Знішчаю фатаграфіі
Разбіваю люстэркі

Вызваляюся ад гісторыі
Ад календароў
І гадзіннікаў

Вызваляюся ад свайго кута
Ад свайго падманнага нараджэння
І такога ж існавання

Трэба толькі душу сваю
Пакінуць у прабірцы
Зірнуць як лакмус мяняе колер
І заснуць спакойна

### ПРАВЕРКА ПАХОДЖАННЯ

Чакаю што прыйдзе камісія
Каб праверыць маё паходжанне
Месца нараджэння і смерці
Звычайныя і высакосныя гады

Трэба каб прыйшла нейкая камісія
Па праверцы паходжання маёмасці
Унутранага часу
І святочнага касцюма
Які я не купіў яшчэ

Прыйдзе камісія
Каб праверыць паходжанне думак
Грамадзян і ўсіх астатніх асоб
І мой погляд праз неіснуючае акно
І маю схільнасць да смерці

## Душка ПЕТРАВІЧ

### ЛІРЫК

Абхапіў галаву рукамі,
каб не ўцякла,
каб не пакінула
на міласць і няміласць
майго цела.

Трымаю галаву ў руках,
сілкуючы яе пакутамі
свайго
цела гаротнага.

### БЕЛЫ САНЕТ

Месяц па небасхіле
на белым кані праязджае,
сам адзін,
да паўночы.

Месяц па небе
зор на вайну склікае,
і тыя, у люстры вод гледзячы,
на бой рашучы збіраюцца.

Месяц небам
звязаных зор адводзіць,
каб выслужыцца перад сонцам.

Месяц на небе
зоры, як лямпы, гасіць,
а самому ад сонца трэба хавацца.

## Зоран Хр. РАДЗІСАЎЛЕВІЧ

### НА ЛЕКЦЫІ ПА ГІСТОРЫІ МОВЫ

Ці пайшла б ты
За мною
Адна
Са сваімі сшыткамі
І сваімі вёснамі
Са сваімі думкамі дзявочымі
І нязздзейсненымі надзеямі

Ці пайшла б ты
За мною
Адна
З гэтай нуднай лекцыі
Прэч ад гэтых вачэй
Ад гэтага голасу

Апоўначы ўчора
Шукала ты мудрасці ў кнігах
А раніцою цябе
Ледзь разбудзілі
Два будзільнікі
Што званілі
З інтэрвалам
У пяць хвілін

А калі ты нарэшце ўстала
На стале чакаў цябе
Цёплы сняданак
І запіска
Каб купіла пакет малака
І бохан хлеба

Колькі гадоў табе
Ці кахала ты
Яшчэ каго-небудзь
Апроч Ясеніна

Ці магла б
І мяне пакахаць
Скажы мне пра гэта
На перапынку
Між лекцыямі
Па гісторыі мовы

Падмані сваіх лялек
Прыйдзі ўвечары да мяне

Прыйдзі
Я хачу папытацца
Можна ці не
Дасягнуць недасяжнага
Пакахаць некаханага

Прыйдзі
Мне хочацца
З табою пакінуць
Маладосці часціну
На семафорах памяці

## Здраўка КРСТАНАВІЧ

### ЗАЛАТОЕ КОЛА

Пранізвае мяне цішыня
у якой салаўёў радзімы чую —
усіх бліжыняў бліжыня
жыццё маё кальцуе

### ЗАПІС

Было ўжо гэта. Кажуць, жахліва —
Сляпы вёў сляпога, калеку вёў калека.
Але ж і вятры былі, і росы
Хто бачыў — меў дом.

## Манойле ГАЎРЫЛАВІЧ

### ЯБЛЫНЯ Ў НЕБЕ

У небе я пасадзіў яблыню
на якую прылятае арол
і льецца святло месяца

пад яблыняй сядзіць дачка Сонца
і з квецені пляце лесвіцу
каб на зямлю злезці

кожную вясну
на яблыні маёй
па зорцы выспявае

## Зоран М. МАНДЗІЧ

### ЦІХІ ПАЭТ

Ціхі паэт без патрэбы людзям
Ён іх сваёй ціхмянасцю крыўдзіць
Як быццам на страх настройвае
Тады як сам старанна служыць
Рупліва носячы ваду камусьці
Ціхі паэт жыве ў адзіноце
Сам звычайна ў журбе
Ціхі паэт без патрэбы гісторыі

## Ана ДУДАШ

### ЖЫЦЦЁ НАД РАЗОРАМІ

Мае вяскоўцы будзяць пеўняў,
каб дасвецце было
для іх з песняй,
а пасеянае зерне
каб пад сонцам расло
высока і
глыбока.

Мае вяскоўцы на кавадле ночы
мудрасць куюць,
крадком — там, дзе хочуць,
і кроплі поту працоўнага
ў зоры ператвараюць.
Патаемна штосьці снуюць
высока
і глыбока.

Мае сяляне над разорамі сваімі
так жыць хочуць,
каб увесь дзень за сонцам
паварочвацца.
Скрухі і радасці іх
скрозь адыходзяць
высока і
глыбока.

Мае сяляне, сярпы склаўшы,
на няпэўных вагах
бяруцца ўраджай важыць.
Расчароўваюцца,

сварацца, праўды шукаюць.
Нябёсы разгортваюць
высока і
глыбока.

## Злата КОЦІЧ

* * *

Калі б мы, як полымя,
не праглыналі азначэнняў,
магчыма б, Гасподзь не выгнаў
безгаловую і бясхвостую.
Магчыма, і празмей бы прыпоўз
толькі дзеля таго, каб
атруту зрыгнуць у пасудзіну,
з якой,
языком прысёрбваючы,
(сляпое ды глухое шчаня),
мы прычашчаем пяро.

## Тамара ЯКАЎЛЕВІЧ

### СКРЫЖАВАННЕ

Скрыжаванне апіша тваю душу
Праходзім слоў кіламетры
Але сходзімся на маўчанні
Я б вочы твае ў змроку пазнала
Ты ж іншаземец
Які прыйшоў са сваёй душою
І рукі свае хаваеш
Бо на іх наліплі падманы
Сходзі да рэчкі
Умый свой твар
І ўбачыш хто ты
Калі што лёс падкажа

*Пераклад з сербскай*
*Івана ЧАРОТЫ.*



Алена КРЫКЛІВЕЦ

# ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМАТЫКА ПРОЗЫ АНАТОЛЯ КУДРАЎЦА І ВАЛЯНЦІНА РАСПУЦІНА

Разважанні пра быццё, пра Бога, пра сэнс існавання — найважнейшы складнік духоўнага станаўлення і фарміравання асобы, развіцця гуманітарнай свядомасці. Пошукам адказаў на вечныя пытанні займаюцца багаслоўе, філасофія, літаратура. У рускай і беларускай літаратурах экзістэнцыяльны накірунак пачынае фарміравацца ў XIX стагоддзі, калі ўплыў царквы на грамадскую свядомасць слабее і гуманітарная думка паўстае перад выбарам, «как человеку лучше жить: с Богом или без Бога?» [1, с. 89].

З пункту гледжання даследчыкаў, апазіцыя веры — бязвер'е на працягу двух апошніх стагоддзяў асэнсоўвалася па-рознаму. Філасофія і літаратура другой паловы XIX стагоддзя шукалі доказы права чалавека на адмаўленне ад Бога, ад абсалютных каштоўнасцей і маральных арыенціраў. У XX стагоддзі савецкая ідэалогія паслядоўна і гвалтоўна выкараняла са сферы культуры і літаратуры ўсё, што было звязана з рэлігіяй і нагадвала пра Бога [1; 2]. І толькі ў апошняй трэці XX стагоддзя адбываецца аднаўленне ў правах традыцыйных каштоўнасцей і тэацэнтрычнай карціны свету.

Вяртанне да страчаных духоўных арыенціраў намецілася ў творах «вясковай прозы». Разважаючы пра сутнасць нацыянальнага характару і пра маральнае аблічча сучасніка, пісьменнікі шукалі духоўныя асновы ў патрыярхальным укладзе сялянскага жыцця і ў народных уяўленнях пра духоўнасць. Пытанне веры і бязвер'я зноў вырашаецца на карысць веры. Жыццё без Бога ў душы пазбаўлена сэнсу. У гэтым ракурсе асаблівую вастрыню і актуальнасць набывае тэма вяртання да каранёў, аднаўлення страчаных сувязей з роднай глебай, бо толькі так можна здабыць духоўную апору.

Невыпадкова фабульная канва многіх твораў «вясковай прозы» ў той ці іншай ступені суадносіцца з евангельскай прыпавесцю пра блуднага сына. У артыкуле «Об экзистенциальном пространстве русской литературы» У. Бачынін сцвярджае, што «блудный сын — это универсальный экзистенциальный тип духовного скитальца, потерявшего не только Бога, но и самого себя вначале утратившего, а затем вновь обретшего собственную идентичность» [1, с. 95]. Відавочна, што развіццё гуманітарнай думкі ў XIX—XX стагоддзях карэлюе з логікай сюжэта пра адрачэнне ад бацькі (Бога) і наступнае раскаянне, спробу выратавання і вырашэнне вярнуцца.

У 1960—1980-я гады пісьменнікі-«вяскоўцы» дэкларуюць неабходнасць вяртання, прапануюць яго шляхі, папярэджваюць пра экзістэнцыяльную катастрофу ў тым выпадку, калі вяртанне блуднага сына не здарыцца. У беларускай літаратуры гэтага перыяду евангельская прыпавесць набывае новы вызначальны сэнс — здабыцця не толькі асабістай, але і нацыянальнай ідэнтычнасці.

Творы В. Распуціна і А. Кудраўца характарызуюцца глыбінёй маральнай праблематыкі, пастаноўкай найважнейшых экзістэнцыяльных пытанняў. Страта чалавекам духоўнасці асэнсоўваецца ў прозе пісьменнікаў як вынік маральнага адступніцтва, разрыву сувязей са сваім мінулым, з малой радзімай.

У аповесці А. Кудраўца «Раданіца» прасочваецца тыповая для «вясковай прозы» апазіцыя «горад — вёска». Ад'езд з вёскі ў горад — гэта першы крок да адступніцтва, бо ў горадзе раз'яднанасць паміж людзьмі становіцца нормай жыцця: «“Дзіўна… Усе з аднаго сяла, жывём у адным горадзе, а адзін пра аднаго нічога не ведаем”. — “А што тут такога, — пачаў тлумачыць Лёня. — Мінск — не Буднеў. Кожны бяжыць, кожны спяшыць… Бывае, што і пісьма дамоў некалі напісаць”» [3, с. 17]. Ёсць у аповесці героі, для якіх адрачэнне ад маральных каштоўнасцей аказалася незваротным. І іншыя персанажы, і сам аўтар адмаўляюць ім у магчымасці выратавання. Сярод іх — былы паліцай Байда, які супрацоўнічаў падчас вайны з немцамі, і Федзя Мікулічышын, для якога не існуе духоўнага вопыту продкаў і становяцца магчымымі цынічныя развагі пра маці: «Колькі там я таго малака выпіў? Можа, графін які ці два… То хай прыязджае ў Мінск — куплю ў магазіне ды аддам гэтыя два графіны ці колькі там» [3, с. 82]. Экзістэнцыяльны крызіс гэтым героям пераадолець немагчыма.

У аповесці В. Распуціна «Прощание с Матерой» ідэйным цэнтрам становіцца вобраз старой Дар'і. З гэтым вобразам звязаны цэлы комплекс экзістэнцыяльных пытанняў і ў першую чаргу — праблема захавання веры і духоўнасці. Менавіта ў вусны Дар'і ўкладвае В. Распуцін папярэджанне пра магчымыя наступствы духоўнага адступніцтва, адрасаванае малодшым пакаленням: «В ком душа, в том и Бог, парень. И хошь не верь — изневерься ты, а он в тебе же и есть. Не в небе. А боле того — человека в тебе держит. Чтоб человеком ты родился и человеком остался. Благость в себе имел. А кто душу вытравил, тот не человек, не-е-ет! На чё угодно такой пойдет, не оглянется» [4, с. 95]. Сімвалічна, што сын Дар'і, Павел, які пагружаны ў бытавыя клопаты, звязаныя з пераездам, ловіць сябе на адчуванні таго, пра што папярэджвала маці: «Павел со стыдом вспомнил, как стоял он возле догорающей своей избы и все тянул, тянул из себя, искал какое-то сильное, надрывное чувство — не пень ведь горит, родная изба — и ничего не мог вытянуть и отыскать, кроме горького и неловкого удивления, что он здесь жил. Вот до чего *вытравилась душа*!» [4, с. 147—148].

Духоўнае спусташэнне вядзе чалавека па шляху дэградацыі. Так, героі аповесці В. Распуціна «Последний срок» Міхаіл і Ілля «атручаную» душу «лечаць» п'янствам: «Я так считаю: пьем потому, что теперь такая необходимость появилась — пить… Мы сильно устаем, и не так, я скажу тебе, от работы, как черт знает от чего… А выпил и будто в бане помылся, сто пудов с себя сбросил» [4, с. 365]. Відавочна, што падобныя паводзіны не з'яўляюцца выхадам з экзістэнцыяльнага крызісу. І ў пісьменніка, і ў чытачоў вельмі мала надзеі на тое, што ў герояў атрымаецца пераадолець дэградацыю, адшукаць шлях маральнага адраджэння.

У той жа час В. Распуцін і А. Кудравец бачаць гэты шлях і выразна акрэсліваюць яго ў сваіх творах. Каб пазбегнуць духоўнага спусташэння, чалавек не павінен забываць дарогу да родных каранёў, да свайго мінулага і мінулага свайго народа, у шырокім сэнсе — дарогу дадому. Шлях героя дадому набывае ў аповесці А. Кудраўца «Раданіца» асаблівы сэнс, становіцца пачаткам сюжэтнага дзеяння і пачаткам шляху Івана Купцова да самога сябе: «Трэба было толькі выйсці з вагона, мінуць пуці і заглыбіцца ў лес, як усё тое, чым ён жыў у горадзе, заставалася недзе там, па-за ім, а сам ён рабіўся як быццам іншакшым чалавекам — мякчэў, дабрэў» [3, с. 13]. Іван адольвае гэты шлях тады, калі знаходзіць сябе, усведамляе, што ён — часцінка духоўна-маральнай сутнасці сваіх бацькі і маці, адчувае цесную ўзаемасувязь з зямлёй, на якой ён нарадзіўся і вырас: «Ён быў тут свой і ведаў, што навечна прывязаны да гэтых людзей, да ўсяго, што хвалюе і непакоіць іх, да гэтых старых могілак… Гэта была яго зямля, было яго жыццё, гэта быў ён сам…» [3, с. 68]. Спасціжэнне Іванам Купцовым сваёй сутнасці, свайго адзінства з зямлёй і традыцыямі бацькоў сведчыць аб тым, што выхад з духоўнага крызісу, вяртанне блуднага сына магчымыя, калі чалавек не забівае ў сабе памяць.

У аповесці В. Распуціна «Прощание с Матерой» паняцце «малой радзімы» абмежавана прасторай вострава. Але для чалавека, які нарадзіўся на гэтым востраве, Мацёра ўяўлялася свайго роду мікракосмам, змяшчала ўсе прыкметы гарманічнага сусвету: «И тихо, покойно лежал остров, тем паче родная, самой судьбой назначенная земля, что имела она четкие границы, сразу за которыми начиналась уже не твердь, а течь. Но от края до края, от берега до берега хватало в ней и раздолья, и богатства, и красоты, и дикости, и всякой твари по паре — всего, отделившись от материка, держала она в достатке — не потому ли и называлась громким именем Матера?» [4, с. 35]. У адрозненне ад аповесці А. Кудраўца, «Прощание с Матерой» распавядае пра страту людзьмі дома, зямлі, якая захоўвае памяць пра продкаў, а значыць, блудны сын асуджаны на вечнае блуканне, бо бацькоўскага дома, у які можна вярнуцца і атрымаць адпушчэнне грахоў, у яго не засталося.

Невыпадкова ў прозе і рускага, і беларускага пісьменнікаў топас дома надзелены сакральным, архетыпічным значэннем. Дом — гэта не проста жыллё, гэта цэнтр Сусвету, ёмішча душы. Вярнуцца ў дом — значыць знайсці супакой, абарону і ўнутраную гармонію: «Няма нічога лепшага за раніцу ў матчынай хаце… радасць, што ты зноў дома, як быццам і не з'язджаў адсюль ніколі, радасць вяртання ў самога сябе — ранейшага, малога, нейкага другога і разам з тым такога ж самага, як і цяпер, жыве ва ўсім целе, наводзіць на думку аб вялікім, нечалавечым шчасці» [3, с. 30]. Трагедыю страты чалавекам роднай зямлі В. Распуцін адлюстроўвае праз разбурэнне цэнтра гэтага абжытага свету — гібель хаты, якую таксама, як і Мацёру, выраклі на смерць: «Сидеть в пустой, разоренной избе было неудобно — виновно и горько было сидеть в избе, которую оставили на смерть. И пособить нельзя, нет такой помощи, чтобы пособить, и видеть невыносимо, как слепнут стены и в окна льется уже никому не нужный свет» [4, с. 51]. Глыбінны сэнс стаўлення да дома, як да жывой істоты, мае ўчынак Дар'і, якая рыхтуе хату, перш чым адправіць яе ў апошні шлях.

З катэгорыямі дома, радзімы, мінулага звязана праблема памяці пра продкаў. Павага да родных магіл у прозе пісьменнікаў — свайго роду «праверка» маральнай сутнасці герояў, іх духоўнай сталасці. Адным з самых эмацыянальна напружаных момантаў аповесці В. Распуціна «Прощание с Матерой», якія сведчаць аб маштабах экзістэнцыяльнай катастрофы, становіцца разбурэнне могілак. З пункту гледжання Дар'і і іншых насельнікаў Мацёры, здзек над «вечным домам» мёртвых канчаткова пазбаўляе чалавека права называцца чалавекам: «Могилы зорить… — Дарья взвыла. — А ты их тут хоронил? Отец, мать у тебя тут лежат? Ребяты лежат? Не было у тебя, у поганца, отца с матерью. Ты не человек. У какого человека духу хватит?!» [4, с. 21]. Карціна спустошаных могілак — прысуд тэхнакратычнаму грамадству, якое замяніла духоўныя каштоўнасці на матэрыяльныя.

Як мы ўжо адзначалі, аповесць А. Кудраўца мае іншы пафас, таму што пісьменнік не пазбаўляе героя магчымасці вярнуцца ў дом, аднавіць сувязь з традыцыямі продкаў. Само знаходжанне Івана Купцова ў бацькоўскай хаце супадае са святкаваннем Раданіцы, свята, звязанага з культам продкаў. Першапачаткова паганскі абрад прыжыўся і ў хрысціянстве. Ва ўжытку пэўнай мясцовасці гэтае свята мае і іншыя назвы — «Дзяды радасныя», «Вялікдзень мёртвых», якія паказваюць на сутнасць звычаю — радаснага, велікоднага памінання мёртвых, абумоўленага ідэяй усеагульнага ўваскрашэння. Шмат што ў гэтым калектыўным памінальным абрадзе здаецца Івану Купцову дзіўным і нават непрымальным, бянтэжыць героя святочнае застолле на магілах. Аднак нават у гэтым знаходзіць Іван вышэйшы сэнс — узаемасувязі пакаленняў — тых, хто пайшоў з жыцця, і тых, хто жыве цяпер, памяці жывых пра мёртвых, перамогі жыцця над смерцю: «Іван падумаў пра тое, што яму вельмі пашчаслівіла трапіць дамоў у такі дзень, калі ўсё разам — і слёзы, і радасць, і жывыя, і мёртвыя, калі да кожнага чалавека прыходзяць думкі пра тое, хто ён і што ён, куды ідзе і адкуль ідзе і ці ёсць

у яго на гэтым свеце яшчэ што-небудзь, акрамя яго самога» [3, с. 106]. Назва свята — «Раданіца» — становіцца назвай аповесці — твора пра вяртанне дадому, здабыццё памяці, веры, духоўнасці.

Характэрна, што ключавая экзістэнцыяльная апазіцыя веры — бязвер'я ў творах В. Распуціна і А. Кудраўца часта асэнсоўваецца праз іншую апазіцыю: памяць — забыццё. Верагодна, на думку пісьменнікаў, толькі чалавек, які захаваў памяць пра мінулае (свайго роду і сваёй радзімы) можа захаваць маральныя арыенціры і нацыянальную ідэнтычнасць. Таму разам з евангельскімі матывамі прыпавесці пра блуднага сына ў прозе рускага і беларускага пісьменнікаў гучыць матыў суда і, перш за ўсё, — суда памяці: «Память — гэта непадкупны і непадуладны суддзя, і ён час ад часу напамінае людзям пра тое, пра што не трэба забываць…» [3, с. 73]. Аповесці В. Распуціна — гэта адрасаванае сучаснікам і наступным пакаленням папярэджанне пра тое, што крызіс духоўнасці можа стаць незваротным. Таму матыў суда ў творах пісьменніка набывае асаблівае значэнне. Гэта суд мёртвых над жывымі за адступніцтва ад зямлі і веры продкаў: «Сёдни думаю: а ить оне с меня спросют. Спросют: как допустила такое хальство, куды смотрела? На тебя, скажут, понадеялись, а ты? А мне и ответ держать нечем… Они спрашивают о надежде, они говорят, что она, Дарья, оставила их без надежды и будущего…» [4, с. 29, 126]. Гэта суд асабістай памяці над чалавекам за адрачэнне ад сваіх каранёў, ад свайго мінулага: «…это странным образом связывалось с прошлым, с каким-то потерянным воспоминанием, за которое с нее теперь спросится… Забыла… Вот оно наконец-то, что, не открываясь, почти с самого начала сегодня изводило ее какой-то молчаливой давней виной, за которую придется держать ответ» [4, с. 383, 388]. Памяць пра мінулае з'яўляецца залогам пераемнасці пакаленняў, працягу жыцця.

Экзістэнцыяльная праблематыка канечнасці існавання, быцця-да-смерці атрымлівае ў «вясковай прозе» новую трактоўку. Жыццё селяніна падпарадкавана земляробчаму цыклу, кругазвароту прыроды. Такім чынам, паняцці жыцця і смерці, смерці і новага нараджэння трывала ўвайшлі ва ўжытак вясковага жыхара, набылі значэнне паўтаральнасці, цыклічнасці. Чалавек нараджаецца на свет, каб працягнуць справу жыцця, стаць чарговым звяном вечнага ланцуга. У гэтым ракурсе не здаецца парадаксальным, што Міхаіл, герой аповесці В. Распуціна «Последний срок», прыходзіць да ўсведамлення сваёй смяротнасці пасля нараджэння першынца: « — Смотри, мать: я от тебя, он от меня, а от него еще кто-нибудь. — И добавил с затаенностью и горечью провидца: — Вот так оно все и идет… И тогда же как следует, по-взрослому и наедине сам с собой он понял, что смертен, как смертно в мире все, кроме земли и неба» [4, с. 430].

Гэтая дыхатамія жыцця і смерці, якая так палохае малодшае пакаленне, дае старэйшаму, якое сыходзіць, заспакаенне, адчуванне таго, што яны выканалі сваё прызначэнне ў справе працягу жыцця: «Она находится сейчас на самом сгибе: одна половина есть и будет, другая была, но вот-вот продернется вниз, а на сгиб встанет новое кольцо. Где же их больше — впереди или позади?» [4, с. 127]. І Ганна, і Дар'я сыходзяць да «сваіх», пакідаючы пасля сябе новыя пакаленні.

Уяўленні пра жыццё і смерць чалавека, цыклічнасць прыроды цесна пераплятаюцца і ў аповесці А. Кудраўца «Раданіца». Вобраз засеянага поля, якое рыхтуецца па вясне даць новы ўраджай, карэлюе з сакральным сэнсам Раданіцы — надзеяй на ўсеагульнае ўваскрашэнне. І ў той жа час дарога праз поле нагадвае Івану бацькаў апошні шлях: «Поле было засеяна жытам. Яно добра бралася кучаравай, быццам вывернуты кажух, шэра-зялёнай воўнай. Усе ішлі напраcткі, пакідаючы сляды на мяккай, плыўкай зямлі… У яго памяці гэта дарога значылася нашмат даўжэйшай. У яго памяці яна засталася такой, як была тады, калі па ёй везлі хаваць бацьку» [3, с. 55]. Такім чынам, «вясковая проза» прапанавала сваё асэнсаванне экзістэнцыяльнай катэгорыі смерці, уласцівае, хутчэй, эсхаталагічнай, а не апакаліптычнай канцэпцыі.

Безумоўна, носьбітамі экзістэнцыяльнай свядомасці ў творах В. Распуціна і А. Кудраўца з'яўляюцца прадстаўнікі старэйшага пакалення. Гэта абумоўлена некалькімі прычынамі. Па-першае, менавіта старэйшае пакаленне, з пункту гледжання пісьменнікаў, застаецца захавальнікам народных традыцый, духоўнасці і маральнасці. Светапогляд старэйшых можна ахарактарызаваць як тэацэнтрычны, у той час як для маладога пакалення пытанні веры адыходзяць на іншы план. Па-другое, з мастацкімі вобразамі старых, якія знаходзяцца, па трапным выразе Дар'і, «на самом сгибе» [4, с. 127], звязана экзістэнцыяльная сітуацыя смерці, стаўленне да якой становіцца для іх не толькі ўсведамленнем канечнасці быцця, але і падвядзеннем вынікаў пражытага жыцця. Па-трэцяе, пройдзены жыццёвы шлях дазваляе старым з асаблівай глыбінёй асэнсаваць экзістэнцыяльныя катэгорыі Бога, лёсу, прыроды, часу.

Відавочна, што для чалавека, які азіраецца на пражытае жыццё і ацэньвае яго, асноватворнымі будуць паняцці лёсу і сэнсу жыцця. Проза В. Распуціна і А. Кудраўца прасякнута ідэяй цыклічнасці, пераемнасці, ўзаемасувязі пакаленняў, таму адным з галоўных аб'ектаў мастацкага даследавання ў іх творах становіцца вобраз і лёс жанчыны. Невыпадкова, самі гераіні бачаць сваё галоўнае прызначэнне ў працягу роду, у нараджэнні і выхаванні дзяцей: «Тебе господь жить дал, чтобы ты дело сделала, ребят оставила — и в землю… чтоб земля не убывала» [4, с. 70]; «Усё жыццё ёй не было калі думаць пра сябе: маці заўсёды думае пра дзяцей і толькі пасля, калі застанецца час, пра сябе» [3, с. 36].

Наогул, сэнс жыцця чалавека, як і ўсяго існага на зямлі, у разуменні пісьменнікаў, суадносіцца з хрысціянскім уяўленнем пра служэнне: «Все, что живет на свете, имеет один смысл — смысл службы… Без дела, без того, чтобы в нем нуждались, человек жить не может. Тут ему и конец. И не такие люди, как она, и не в таких годах, оставшись без надобности, без полезного служения, крест-накрест складывали на груди лапки» [4, с. 45, 116].

Старыя ўсведамляюць завершанасць свайго служэння, скончанасць шляху. За доўгае жыццё ўсё, што так ці інакш было звязана са смерцю, абрасло звыклымі бытавымі падрабязнасцямі. Сабраць у апошні шлях нябожчыка, прыглядзець за магіламі, памянуць памерлых — гэтыя дзеянні набылі значэнне справы, працы, якую час ад часу павінны выконваць жывыя: «Ні на адным твары Іван не бачыў слядоў жальбы ці гора. Быццам усе сабраліся на работу — сур'ёзную, сумнаватую, урачыстую, але звычайную, патрэбную работу» [3, с. 57—58]. Ад таго, мабыць, і да ўласнай смерці старыя ставяцца па-сялянску ўдумліва, як да апошняй справы, якую ім трэба будзе зрабіць. Чаканне смерці пазбаўлена страху. Гэта падрыхтоўка да ўз'яднання з продкамі, надзея на спасціжэнне вышэйшай, «полной правды» [4, с. 128] пра жыццё.

У творах В. Распуціна і А. Кудраўца ёсць таксама комплекс экзістэнцыяльных пытанняў, звязаных з вобразамі сярэдняга і малодшага пакаленняў. Несумненна, трывога пісьменнікаў пра духоўны стан грамадства звернутая, перш за ўсё, не да тых, хто сыходзіць, а да тых, хто працягвае (або толькі пачынае) свой шлях. У філасофіі экзістэнцыялізму існуе паняцце экзістэнцыяльнага «абуджэння». Кажуць пра яго ў тым выпадку, калі ў чалавека атрымліваецца вырвацца з аўтаматызму жыцця і здабыць самаідэнтычнасць. Можна меркаваць, што сітуацыя экзістэнцыяльнага «абуджэння» вызначае агульную танальнасць твораў В. Распуціна і А. Кудраўца. Так, у аповесці В. Распуціна «Последний срок» блізкая смерць старой Ганны, здавалася б, павінна была «вырваць» яе дзяцей са звыклага, мітуслівага, бытавога кругазвароту. Але, нават вырваныя з яго, яны не выкарыстоўваюць дадзены ім апошні тэрмін, запаўняюць час непатрэбнымі сваркамі, не прыходзяць да духоўнага ачышчэння і пакаяння напярэдадні гора, якое павінна аб'яднаць іх усіх, але не аб'ядноўвае: «Напоминание об умирающей матери не отпускало, но сильно и не мучило их: то, что надо было сделать, они сделали — один дал известие,

другой приехал, и вот водку вместе принесли — все остальное зависело от самой матери…» [4, с. 335]. Такім чынам, экзістэнцыяльнага «абуджэння» не адбываецца і модус мастацкасці твора можа быць ахарактарызаваны як драматычны.

У адрозненне ад герояў «Последнего срока» Іван Купцоў, знаходзячыся ў бацькоўскай хаце, наведваючы магілу бацькі, адчувае непарыўную сувязь са сваёй зямлёй і родам: «Ну вось, бацька, я зноў прыйшоў да цябе. Я не магу не прыходзіць, бо ты — гэта я, а я — гэта ты. Ты жывеш ва мне, быццам ніколі і не паміраў, і мне лягчэй з табой» [3, с. 22]. Іван, які захаваў памяць пра родныя карані, адчувае духоўны ўздым, жаданне «жыць чалавекам сярод людзей» [3, с. 103], а значыць, знаходзіць шлях маральнай эвалюцыі. Характэрна, што з вобразам Івана Купцова звязана ў аповесці не толькі ідэя вяртання, але і матыў узаемнай любові, асабістага шчасця. Каханне ў экзістэнцыялізме трактуецца як трансцэндэнтная сітуацыя, прарыў да «іншага», праз які чалавек спазнае Бога. Сімвалічна, што любімая жанчына Івана носіць імя Вера. Надзеяй і верай у будучыню завяршаецца аповесць: «У небе трапяталі крыльцамі, звінелі жаўранкі, і гэты звон выцягнуў шчымлівую тугу з сэрца. Побач з тугой жыла ў ім, сграючыся і шырачыся, радасць абнаўлення, а ў ёй — дарагім напамінам яна — Вера» [3, с. 106]. Аповесць «Раданіца» — твор пра духоўнае адраджэнне героя, здабыццё ім самога сябе, а значыць, яму ўласцівы ідылічны модус мастацкасці.

Аднак ёсць у творчай спадчыне А. Кудраўца твор, у якім герой аказваецца няздольным выбрацца з духоўнага крызісу. Апавяданне «Бацька і сын» па сваёй ідэйна-тэматычнай накіраванасці суадносіцца з прааналізаванымі аповесцямі В. Распуціна. Аўтар не знаходзіць апраўдання для Максіма, які не прыехаў на пахаванне маці, а таму пазбаўляе яго магчымасці затрымацца ў бацькоўскай хаце, знайсці разуменне з бацькам. У духоўным сэнсе вяртанне блуднага сына не адбылося. Сімвалам канчатковага разрыву героя-адрачэнца з маральнымі каштоўнасцямі выступае ў апавяданні вобраз спілаванага дуба, які для Максіма «быў адно непадзельнае з сялом, дзе нарадзіўся і рос, з дзяцінствам, з бацькавай хатай» [3, с. 168].

Такім чынам, выкарыстанне сюжэтных матываў евангельскай прыпавесці пра блуднага сына дапамагае пісьменнікам у пастаноўцы і вырашэнні найважнейшых экзістэнцыяльных пытанняў, у асэнсаванні катэгорый веры, бязвер'я, жыцця, смерці, лёсу, сэнсу чалавечага існавання. Зварот да гэтых катэгорый дазволіў лепшым прадстаўнікам «вясковай прозы» выйсці за межы сацыяльнай праблематыкі, выказаць трывогу пра маральнае аблічча сучасніка, пашырыць ідэйна-тэматычныя межы прозы апошняй трэці XX стагоддзя. Дзякуючы гэтаму «вясковая проза» сфармавалася як адна з ключавых плыняў у літаратуры гэтага перыяду, пераадолела каноны нарматыўнай эстэтыкі і паспрыяла вяртанню творчага працэсу ў рэчышча класічнай мастацкасці.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ:

1. Бачинин, В. А. Об экзистенциальном пространстве русской литературы / В. А. Бачинин // Свободная Мысль. — 2012. — № 9—10. — С. 89—102.

2. Заманская, В. В. Экзистенциальная традиция в русской литературе XX века. Диалоги на границах столетий / В. В. Заманская. — Москва : Флинта : Наука, 2002. — 304 с.

3. Кудравец, А. П. Выбраныя творы : У 2 т. / А. П. Кудравец. — Мінск : Маст. літ., 1987. — Т. 1. — 416 с.

4. Распутин, В. Г. Повести / В. Г. Распутин. — Минск : Беларусь, 1983. — 528 с.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 11 сакавіка 2015 года.

**Алена КРЫКЛІВЕЦ**

## Экзістэнцыяльная праблематыка прозы А. Кудраўца і В. Распуціна

### Рэзюмэ

Выкарыстанне матываў евангельскай прыпавесці пра блуднага сына дазволіла А. Кудраўцу і В. Распуціну раскрыць шэраг экзістэнцыяльных пытанняў, актуальных у апошняй трэці XX стагоддзя. Ідэйна-тэматычныя межы прозы пісьменнікаў пашыраюцца, дзякуючы асэнсаванню катэгорый веры, бязвер’я, жыцця, смерці, лёсу, сэнсу чалавечага існавання.

**Ключавыя словы:** руска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі, «вясковая проза», параўнальны аналіз, экзістэнцыяльная праблематыка.

**Alena KRYKLIVETS**

## Existential issues of A. Kudravets and V. Rasputin’s prose

### Summary

Using motives of Gospel parable about the prodigal son allowed A. Kudravets and V. Rasputin to reveal a number of existential questions relevant in the last third of the twentieth century. Ideological and thematic boundaries of prose of the writers are expanding by understanding the categories of faith, lack of faith, life, death, fate, the meaning of human being.

**Key words:** Russian-Belarusian interrelations, «village prose», comparative analysis, existential issues.



**Алена МАСЛА**

# ФІЛАСОФІЯ ЛЮБОВІ

## Складнікі поспеху

Сёння модна змагацца са стэрэатыпамі. Аднак, соты раз пасміхаючыся з «…Ганны, якая завіхалася ля печы», варта памятаць, што ёсць у нас надзвычай устойлівы стэрэатып, куды больш небяспечны за руплівую Ганну: не любіць сваё! Зробленае папярэднікамі руйнаваць з зямлёй, замест таго, каб рабіць кропкай адліку! Між тым, вельмі важна пераадолець найгоршы стэрэатып — перакананне ў другаснасці свайго, нязначнасці яго.

Гэта слушна і ў дачыненні да беларускай дзіцячай літаратуры. Хачу спыніцца толькі на некалькіх, але вельмі, на мой погляд, паказальных момантах, параўнаўшы традыцыі ў беларускай і шведскай дзіцячай літаратуры.

Чаму паралелі са Швецыяй? Патлумачу. Апошнія гады пераважная большасць перакладных кніг, якія выйшлі па-беларуску ў папяровым варыянце — шведскія. «Піпі Доўгаяпанчоха» і «Карласан, які жыве на даху» Астрыд Ліндгрэн, кнігі Юі Вісландэр «Малы і Мядзведзік» і «Малы і Білан», яе ж серыя пра Маму Му і Крумкача, «Снежны чалавек» Эвы Суса, «Найлепшы спявак у свеце» Ульфа Нільсана і інш. Гэтыя кнігі, несумненна, звяртаюць на сябе ўвагу беларускага чытача. Большасць з іх багата ілюстравана, у шыкоўным паліграфічным выкананні…

Цягам апошніх гадоў мне давялося некалькі разоў быць у Швецыі ў спецыялізаваных паездках. Гэта і выступ на канферэнцыі славістаў з дакладам па беларускай дзіцячай літаратуры, і ўдзел у мерапрыемствах па ўзнагароджанні прэміяй Астрыд Ліндгрэн, і шматразовыя ўдзелы ў беларуска-шведскіх семінарах па дзіцячай кнізе… Штораз гэта былі вельмі насычаныя, змястоўныя сустрэчы, якія далі магчымасць убачыць комплексны падыход да праблем кнігавыдання, працы з кнігай, папулярызацыі аўтараў і твораў. Давялося пабываць і ў мностве выдавецтваў, і ў разнастайных бібліятэках, і ў згаданых музеі «Юнібакен», і ў Інстытуце дзіцячай кнігі, пазнаёміцца са шведскімі дзіцячымі пісьменнікамі, крытыкамі, непасрэдна з членамі сям’і Астрыд Ліндгрэн — адным словам, з людзьмі і ўстановамі, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да кнігавыдавецкага працэсу ў Швецыі і ствараюць яго.

На сусветным кнігавыдавецкім рынку шведы даўно ўжо — сур’ёзныя гульцы, адны з заканадаўцаў модных тэндэнцый і напрамкаў як развіцця дзіцячай кнігі, так і працы з ёй. Пералічу толькі асноўныя факты. У 1965 годзе створаны і паспяхова працуе Інстытут дзіцячай кнігі, які фінансуецца Міністэрствам адукацыі Швецыі. Увагу наведвальнікаў з усяго свету прыцягвае «Юнібакен» — музей шведскай дзіцячай кнігі. У 2002 годзе заснавана найпрэстыжнейшая прэмія імя Астрыд Ліндгрэн, якую яшчэ называюць Нобелеўскай прэміяй па дзіцячай літаратуры; працуе Акадэмія дзіцячых пісьменнікаў. І кніг — толькі дзіцячых — выпускаецца да 1800 найменняў на год. З іх — 40 працэнтаў перакладных, 60 працэнтаў — шведскіх аўтараў…

Пра якія паралелі можна разважаць, калі ў нас такіх цудаў не адбываецца? Мне падаецца, не толькі можна, але і неабходна. Менавіта цяпер, калі на міжнародным кніжным рынку дзіцячай кнізе надаецца выключная ўвага, варта пераглядзець і пераасэнсаваць нашыя здабыткі. Бо штораз падчас гэтых сустрэч, якую б новую інфармацыю ні адкрываў для сябе, пераважала выснова: дарогу адольвае той, хто ідзе, і той, хто паважае сябе і любіць сваё. Гэта — неабходныя складнікі любога поспеху.

## Стэрэатып першы: маралізатарства — здабытак нашай літаратуры

Адзін з наймацнейшых стэрэатыпаў у ацэнках беларускай дзіцячай літаратуры ў тым, што маралізатарства — «наша» адмысловая традыцыя.

…Падчас аднаго з візітаў у Інстытут дзіцячай кнігі ў Стакгольме кінуўся ў вочы плакат, якім была аздоблена канферэнц-зала. Леў, прыўзняўшыся на задніх лапах, пяраднімі нібы абдымае сонечны дыск. І надпіс на плакаце: «400 гадоў шведскай дзіцячай літаратуры».

Не зацікавіцца было не магчыма: што ж пісалі для дзяцей шведы ў далёкую пару, калі яшчэ і дзіцячай літаратуры як такой не было? Дзе шукаць вытокі тых традыцый, якія дазваляюць сучасным пісьменнікам весці дыялог са сваім чытачом?

Высветлілася, што годам нараджэння шведскай дзіцячай кнігі навукоўцы прапануюць лічыць 1591, калі Конрадам Портам была апублікавана праца «Прыгожае і надзвычайнае для паненак» (аналаг у расійскай літаратуры — «Юности честное зерцало», надрукаванае на пачатку XVIII стагоддзя) — павучальная праца маральна-эстэтычнага накірунку!

Першае, што я зрабіла па вяртанні дамоў — узяла з кніжнай палічкі вучэбны дапаможнік «Беларуская дзіцячая літаратура» [1, с. 56] і ў раздзеле «Фарміраванне традыцый стварэння кніг навучальна-пазнавальнага зместу» спраўдзіла, што нашы даследчыкі вядуць адлік дзіцячай кнігі ад моманту выдання Францыскам Скарынам у 1517 годзе перакладнога «Псалтыра»! Пасля сузірання згаданага плаката сто разоў чытаная-перачытаная інфармацыя набыла асабіста для мяне новы сэнс і заззяла новымі фарбамі — вынікае, нашай дзіцячай літаратуры (перакладной, так, але абсалютна ў рэчышчы той пары!) праз два гады — палова тысячагоддзя! Толькі факт гэты, па-першае, вядомы вузкаму колу спецыялістаў. Па-другое, сучаснікамі наўрад ці ўспрымецца без дыскусій кшталту — што гэта за дзіцячая літаратура? Колькі можна на Скарыну раўняцца? Адным словам, гістарычны факт будуць ацэньваць з пазіцый сучаснага стаўлення да дзіцячай кнігі.

А што ж шведы? І там неспецыялісты пра факт летазлічэння дзіцячай літаратуры іх краіны ад 1591 года таксама ведаюць мала. У масавай свядомасці з'яўленне дзіцячай літаратуры атаясамляецца са з'яўленнем Піпі Доўгайпанчохі, і гэта не дзіўна. У 2015 годзе гераіні, вядомай ва ўсім свеце, спаўняецца 70 гадоў. Пасляваенныя гады, паводле шведскіх літаратуразнаўцаў, «…адметныя прыходам у літаратуру шэрагу аўтараў — у першую чаргу Астрыд Ліндгрэн, Тувэ Янсан (Тувэ Янсан пісала шведскай мовай, таму шведы нястомна падкрэсліваюць, што гэта аўтарка — фінка шведскага паходжання. — **А. М.**), Ленарда Хельсінга — якія стварылі пазітыўныя, радасныя, у мастацкім сэнсе якасныя творы для дзяцей. Яны не столькі павучаюць, але звяртаюць увагу на свабоду дзіцяці, яго індывідуальнасць, гуляюць з мовай» [2, с. 278]. Вось масавая свядомасць і фіксуе пасляваенныя тэндэнцыі, якія і замацаваліся ў сучасным літпрацэсе, як пачатак шведскай дзіцячай літаратуры!

Аднак, калі пачынаюцца прынцыповыя размовы ў галіне і адстойваюцца прыярытэты, вельмі важным аказваецца дасведчанасць і пазіцыя навукоўцаў, якія

выдатна разумеюць, што дрэва без глебы не расце, і ведаюць, куды сягаюць гістарычныя карані. І тут вельмі важным аспектам у пашырэнні навуковай інфармацыі становіцца візуалізацыя факта (у дадзеным выпадку маляўнічы плакат, прысвечаны 400-годдзю шведскай дзіцячай літаратуры), якая транслюе інфармацыю і дэкларуе яе публіцы дасведчанай (замацоўваючы факт), і недасведчанай — абуджаючы зацікаўленасць і распаўсюджваючы інфармацыю. Падчас згаданага візіту выключна ўсе ўдзельнікі паездкі звярнулі ўвагу на плакат — і на салідны ўзрост шведскай дзіцячай літаратуры! І толькі зрабіўшы наступны крок — праявіўшы зацікаўленасць — дазнаёмся, *што* менавіта пісалі для шведскіх дзяцей 400 гадоў таму і высвятляем: *тое ж, што* было і ў нас! Тое, *што было* ў еўрапейскай традыцыі! Дарэчы, літаратуразнаўца, крытык, прафесар Стакгольмскага ўніверсітэта Яніна Арлов у гутарцы падзялілася, што ў хуткім часе, магчыма, завершыць сваё новае даследаванне і будзе гатова абвясціць пра ранейшы, чым 1591 года, тэкст, адрасаваны дзецям — і шведская дзіцячая літаратура яшчэ пасталее. Будзем чакаць.

І самы час падагуліць — скарынаўскі «Псалтыр» акурат і належыць да катэгорыі «павучальных аповедаў…» — твораў, з якіх пачыналася кнігавыданне, і ў шведаў, і ў нас. Толькі ў нашых землях гэтыя «павучальныя аповеды» «<…> детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверъждение» [1, с. 56] былі надрукаваныя ажно на 74 гады раней!

Тут мы не толькі роўныя, але і вырываемся наперад.

## Стэрэатып другі: фальклорнае = «замшэлае»

Пасля ўсведамлення гэтага факта шмат якія рэчы асабіста мной сталі разглядацца не праз прызму «ў іх — лепшае», а менавіта праводзіцца паралелі, аналізавацца розныя перыяды ў развіцці літаратуры і ў гэтым кантэксце ацэньваць станаўленне дзіцячай літаратуры ў нас.

А падставы для роздумаў не вымагалі чакаць. Напрыклад — выходзяць у выдавецтве кнігі «Дзе Купала начавала» (беларускія народныя прыказкі, прымаўкі, калыханкі) з рэпрадукцыямі цудоўных карцін Ганны Сілівончык, альбо зборнік беларускіх народных казак пра асілкаў «Любоў здраду асіліць» — нязвыкла праілюстраваныя Тамарай Шэлест, і тут жа чуеш: «Ну вось, ледзь што беларускамоўнае — дык абавязкова фальклор!»

Праўда: і выдаўцы, і — што істотна — беларускія чытачы сапраўды любяць беларускія народныя казкі, калыханкі, пацешкі, загадкі… Уласна кажучы, як любяць еўрапейцы (і не толькі) казкі братоў Грым і Шарля Перо — апрацаваныя варыянты казак народаў Германіі і Францыі. І чамусьці гэта не чапляе так, як чапляе зварот да «замшэлага» беларускага фальклору!

А што ж у шведаў? Як яны ставяцца да фальклорнай спадчыны?

Размаўляю з Янінай Арлов:

**А. М.:** У нас па шэрагу прычын папулярная фальклорная літаратура — кнігі прыказак, прымавак, народных казак... А ў Швецыі?

**Яніна Арлоў:** Фальклорныя творы ў нас таксама выдаюцца, але каб яны былі папулярнымі — не скажу. Хаця зазначу: шкада, бо гэта найцікавейшы пласт культуры» [2, с. 283].

Таксама ў даследчыка скандынаўскай літаратуры Л. Ю. Браўдэ знаходжу словы шкадавання, што лёс зборніка «Шведскія народныя казкі і паданні» (выдадзены ў 1844 годзе, збіральнікі — шведскі вучоны Гунар Улаф Хюльтэн-Каваліус і англійскі фалькларыст Георг Стэфенс, буйнейшыя фалькларысты Швецыі) «…склаўся інакш, чым зборнікаў братоў Грым, а таксама Асьб’ёрсэна і Му (нарвежскіх фалькларыстаў.— **А. М.**). Казкі гэтыя не карысталіся папулярнасцю не толькі за межамі Швецыі, але і ў роднай краіне. Прычына цалкам зразумелая:

самі казачнікі прызначалі свае творы для даследчыкаў і надавалі ім у асноўным навуковае гучанне, хаця і ўскладалі нейкія надзеі на забаўляльнасць казак. Яны падкрэслівалі, што казкі гэтыя — шведскія па духу — здольныя выклікаць патрыятычныя пачуцці ў іх землякоў» [ 3, с. 43].

Згадаем: менавіта зварот да фальклорнай традыцыі жывіў творчасць Сэльмы Лагерлёф, шведскай пісьменніцы, першай сярод жанчын лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры — і гэта зусім не загана!

Дык што ж нам цурацца фальклору — мы надзвычай багатыя на яго. Тлумачэнне гэтага факта — у няпростай гісторыі беларускай культуры. Беларуская мова ў часы Расійскай імперыі, і яшчэ раней, у часы Рэчы Паспалітай, была выведзена са сферы афіцыйнага ўжытку. Людзі, не маючы іншых магчымасцей, з вуснаў у вусны перадавалі найлепшыя ўзоры ўласнай творчасці — у выніку мы маем найбагацейшую ў славянскім свеце фальклорную спадчыну. Дык увагу да гэтага пласту нашай культуры натуральна ўважаць менавіта як патрыятычны складнік, праяву шчырай любові да стваральных, творчых сіл уласнага народа. Пашана да фальклору (у прыватнасці, да народнай казкі) — традыцыя еўрапейская! І беларусы ў сваёй любові да гэтага жанру — зусім не «замшэлыя»: захавальнікі багацейшай спадчыны, якім пашчасціла яшчэ і на таленавітых, руплівых збіральнікаў, якія адужалі гэты скарб сабраць, занатаваць і таленавіта падаць. Дык ганарыцца варта, што папулярнасць свайго не саступае папулярнасці ані казкам братоў Грым, ані казкам Шарля Перо — калі яны здольныя зацікавіць сучаснага чытача, значыць, стае ў народных творах і фантазіі, і паэтыкі, і вобразнасці. Нам бы яшчэ са сваіх казак зрабіць брэнд сусветнай вядомасці — як маюць сусветную вядомасць згаданыя нямецкія і французскія народныя казкі. Імёны братоў Грым, збіральнікаў фальклорнай спадчыны Нямеччыны, сталіся сусветна вядомымі брэндамі… А што ведаюць, па вялікім рахунку, не ў свеце — у нас — пра Сержпутоўскага? Як часта згадваецца добрым словам Алесь Якімовіч — менавіта за працу з народнай казкай? На прыведзеным прыкладзе з гісторыі шведскага фальклору бачна, наколькі важна не толькі сабраць і занатаваць, але і апрацаваць, падаць творы вуснай народнай творчасці так, каб яны чыталіся і сталі папулярнымі! Як важна цаніць талент у шматграннасці яго праяўлення, разумець покліч творцы! А то неяк давялося чуць думку: «А што такога вялікага зрабіў Алесь Якімовіч у літаратуры? Збольшага казкі апрацоўваў…» Не аналізуючы іншыя аспекты творчасці і дзейнасці Алеся Якімовіча ў межах гэтай публікацыі, хочацца сказаць: нізкі паклон яму за тое, што змог, здолеў адаптаваць беларускую народную казку пад успрыяцце чытачоў-сучаснікаў!

Вяртаць імёны з небыцця, асэнсоўваць унёсак папярэднікаў як прыступку, а не таптацца на месцы, уважаючы сябе за пупоў зямлі, з якіх усё толькі і пачынаецца ў беларускай літаратуры — вось задача, вартая ўвагі і сіл — а не самапрыніжэння з нагоды «замшэласці».

## Паралель трэцяя: «ваенна-вясковая»

2015 год для Беларусі — гэта 70-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, а ў Швецыі — 70-гадовы юбілей Піпі Доўгайпанчохі. Так распарадзілася гісторыя: калі мы папросту мусілі адбудоўвацца і ўваходзіць у каляіну нармальнага пасляваеннага жыцця, то Швецыя, дзякуючы палітыцы нейтралітэту падчас Другой сусветнай вайны, пачала па яе сканчэнні набіраць эканамічную моц.

Наогул, даследчыкі вызначаюць некалькі этапаў развіцця шведскай дзіцячай літаратуры. «Дзіцячая і юнацкая літаратура Швецыі на шляху свайго станаўлення <…> прайшла тры важнейшыя этапы ад павучальных аповедаў эпохі Рэфармацыі і Рэнесансу, праз творы, якія прызнаюць значнасць для дзіцяці

гульні і развіцця інтэлекту эпохі Асветы, да сапраўднай цікавасці да ўнутранага свету, душэўнага складу дзіцяці, да сугучча з дзіцячай душой свету паэзіі, фальклору, казкі эпохі Рамантызму. Асноўная тэндэнцыя развіцця дзіцячай літаратуры на першым этапе палягала ў спробах прыстасаваць для дзіцячага чытання «дарослую» літаратуру. На другім этапе намецілася тэндэнцыя да стварэння ўласна дзіцячай літаратуры, якая паступова адыходзіла ад павучальнасці. На трэцім этапе з’яўляецца тэндэнцыя да стварэння па-сапраўднаму дзіцячых забаўляльных твораў, у якіх мараль існуе ў схаванай, латэнтнай форме, вынікаючы з самога дзейства» [4].

І вось трэці перыяд у шведскай дзіцячай літаратуры, распачаты ў пасляваенны час, доўжыцца і па сёння. Кнігавыдаўцы заахвочваюцца нізкімі падаткамі на сваю дзейнасць, і ў спалучэнні з эканамічнай стабільнасцю і павышэннем нараджальнасці створаны ўсе ўмовы да таго, каб узнікла новая хваля, кніжны бум, пра які ў Швецыі гавораць з 2006 года. Відавочныя аб’ектыўныя падставы, праз якія шведская дзіцячая літаратура карыстаецца папулярнасцю і аўтарытэтам ва ўсім свеце і актыўна прасоўваецца на кніжныя рынкі іншых краін.

Лёс беларускай дзіцячай кнігі, натуральна, непадзельны з лёсам і гісторыяй краіны. І, узяўшы такі высокі старт, мы раз за разам апыналіся на пачатку шляху. І тады, калі былі пад уціскам Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і не маглі карыстацца роднай мовай для друку кніг. І калі ў паслярэвалюцыйны час беларуская кніга «загаварыла» па-беларуску — але падпала пад новую паразу. «Перыяд 1929 — 1956 гг. у развіцці літаратуры і мастацтва быў надзвычай важным і ў той жа час супярэчлівым і трагічным. Гэта час, калі спынялася беларусізацыя (разгортванне яе прыпадае на першую палову 20-х гг.), пачалася і працягвалася барацьба супраць нацдэмаў, кулакоў, заможнага гаспадарання і інш.» [1, с. 182].

Рэпрэсіі, ваенны час, пасляваенная разруха і траўмы, нанесеныя вайной, дэрэктывы па стварэнні твораў ідэалагічнай скіраванасці ў пару СССР — якія датычылі не толькі беларускай дзіцячай літаратуры, а наогул літаратуры постсавецкай прасторы — куды падзець гэты цяжкі багаж, куды схаваць?

Нікуды не падзенеш і не схаваеш: гэта — наша гісторыя, частка саміх нас. Калі ігнараваць гэтыя складнікі і прыніжаць сябе перад тварам паспяховых суседзяў — гэта шлях у нікуды, узмацненне комплексаў, ужо нажытых, і прыдбанне новых. А закамплексаваны ані асобны чалавек, ані грамадства не здольныя — або здольныя напаўсілы — вырашаць свае праблемы і творчыя задачы.

Што ж рабіць, куды рухацца ў сённяшнім дні?

На мой асабісты погляд, на працягу апошніх дзесяці гадоў у беларускай дзіцячай літаратуры акрэсліліся досыць цікавыя, самабытныя новыя тэндэнцыі — а таксама захаваліся традыцыйныя тэматычныя накірункі. Да прыкладу, тэма вайны, надзвычай распрацаваная ў беларускай літаратуры (у дзіцячай, у прыватнасці). Толькі не будзем махаць рукамі і скрушліва ўздыхаць — «Ізноў пра вайну! Колькі ваяваць можна!» І зазначаць дасведчана: «У шведаў, да прыкладу, зусім дзецям пра вайну пісаць не дазволена!»

Зноў працытую фрагмент гутаркі з Янінай Арлов:

«**А. М.:** Наколькі я ведаю, тэма вайны ў шведскай літаратуры для дзяцей зусім не развітая. Ці, магчыма, яна забаронена?

**Я. А.:** Не, што вы, у нас няма забарон. Іншая справа, што пра вайну не пішуць па аб’ектыўных падставах: усё ж у Швецыі 200 гадоў не было вайны. Я сама родам з Фінляндыі і час ад часу ўражваюся няведаннем шведаў пра вайну. Але сучасная Швецыя сатканая з розных культур, тут жыве шмат бежанцаў з розных гарачых кропак — таму будзе няпраўдаю сцвярджаць, што гэта тэма не актуальная для нашага грамадства. Тэмы вайны, сапраўды, няма ў шведскай дзіцячай літаратуры. Але калі няма вопыту — не варта пра гэта пісаць, каб пазбегнуць фальшу. Бо заўжды паўстае пытанне, ЯК апісваць цяжкія тэмы. А тэма вайны якраз і належыць да цяжкіх, таму, калі няма асабістага досведу, перажыванняў — лепей не пісаць.

Вось шведы і не ведаюць, як падступіцца да гэтай тэмы» [2, с. 283].

Да адметнасцей сучаснай айчыннай дзіцячай літаратуры варта аднесці і вельмі яскравую з’яву, якой ужо дадзена назва — экалагічныя вершы і казкі. Тут абавязкова трэба згадаць Віктара Гардзея — ці не пачынальніка і першапраходцу гэтага жанру. Асобнымі выданнямі «Малыя дзіцячыя Чырвоныя кнігі» выйшлі ў выдавецтве «Беларусь» у 2008 і 2010 гг., але стварацца пачалі значна раней, калі Віктар Гардзей працаваў у часопісе «Родная прырода». Пісьменнік вынайшаў адметны спосаб падачы матэрыялу — канкрэтныя звесткі з Чырвонай кнігі аб прадстаўніках расліннага ці жывёльнага свету — і тут жа вершаваны твор.

Падхапіўшы гэтую ідэю, у 2003 годзе РВУ «Літаратура і Мастацтва» выдала «Чырваную кнігу ў казках і вершах беларускіх пісьменнікаў», а затым быў цэлы шэраг адметных кніг на экалагічную тэматыку гэтай установы — «Блакітная...», «Лясная...» Вельмі ўдалая і цікавая практыка! Тым больш пазнаваўчая сучаснаму чалавеку, гараджаніну, які адарваўся ад зямлі, але шукае спосабу аднавіць сувязь з ёй.

Ёсць яшчэ адзін бясспрэчны накірунак у развіцці айчыннай дзіцячай літаратуры, які не ў стане ні заняць, ні запоўніць ніхто іншы, апроч нас саміх — гэта пазнавальная літаратура пра Беларусь.

«Перад дзіцячай літаратурай традыцыйна стаяць не толькі літаратурныя задачы. Перш за ўсё стаяць задачы педагагічныя: дзіцячая кніга павінна вучыць і выхоўваць дзяцей. Павінна вучыць дзіця роднай мове, далучаць да сацыяльных норм, абуджаць пэўныя эмоцыі і знаходзіць словы для таго, што дзіця яшчэ не навучылася выказваць. У выніку дзіцячая літаратура нават у большай ступені, чым дарослая, адлюстроўвае грамадства, у якім ствараецца. То бок яна аказваецца не толькі эстэтычным прадуктам, але і грамадскай з’явай» [5], — піша папулярны шведскі літаратурны крытык Кайса Ліндстэн. Яе развагі на дзіва сугучныя разуменню айчынных літаратараў і кнігавыдаўцоў. Розніца паміж намі палягае ў сіле і аўтарытэтнасці голасу на кнігавыдавецкім рынку.

Ну, а ўжо сілы голасу апроч нас саміх нам ніхто не здабудзе! І пачынаць набіраць моц трэба з разумення адметнасцей і складанасцей нашага асабістага шляху ў літаратуры, а таксама бачання нашых адрозненняў, нашай адметнасці — і працы ў гэтых накірунках. Не быць як усе, не быць падобнымі да некага — а захоўваць індывідуальнае аблічча, з дапамогай гэтага шукаючы і развіваючы адметныя накірункі! І, канешне ж, забяспечыць творчаму літаратурнаму працэсу падтрымку праз папулярызацыю і рэкламу тым кнігам і аўтарам, якія ёсць у нас сёння, праз пераклады, павелічэнне ганарараў стваральнікам дзіцячых кніг — аўтарам і мастакам, змяншэнне падаткаў на кнігавыданне, заснаванне літаратурных прэмій і конкурсаў, стварэнне Цэнтра беларускай дзіцячай кнігі... Адным словам, праз задзеянне механізмаў, неабходных для функцыянавання паўнакроўнага кніжнага рынку, стварыць беларускай дзіцячай літаратуры ўмовы для магчымасці развіцця на роўных з суседзямі... Вось тады можна будзе папікаць за недахопы і недапрацоўкі, параўноўваць і ацэньваць.

Дарэчы, шведскія калегі з вялікай зацікаўленасцю ставяцца да таго, што робіцца ў нашай дзіцячай літаратуры. На ўласным досведзе падчас аднаго семінара пераканалася, наколькі важна ім мець аб’ектыўную інфармацыю пра нашыя здабыткі і недапрацоўкі — а не толькі слухаць, як наракаюць на тое, што «нічога ў беларускай дзіцячай літаратуры няма». «Нічога няма» — ці, як у межах згаданага семінара гаварылася: у бедных дзяцей Беларусі «ёсць толькі кніжка пра капітана Танаку» — гэта заклінанне для магчымасці атрымаць грант, але далёкая ад аб’ектыўнасці карцінка...

Любіць не значыць захвальваць абы за што, сюсюкацца і замілоўвацца кожнаму падскоку. Неабходны складнік любові здаровай — патрабавальнасць — але і разуменне абставін. Згадваецца дакументальны фільм пра славутага мастака,

педагога Сяргея Каткова. У яго студыі не было неталенавітых дзяцей. Не таму, што пры паступленні абіралі лепшых, мацнейшых. Мацнейшыя сталі мастакамі, сярод якіх шмат славутых імён. Але ў студыю да Сяргея Пятровіча прыходзілі займацца ўсе ахвотныя. І талент педагога якраз і палягаў у тым, каб ацаніць патэнцыял кожнага і дапамагчы раскрыцца яму максімальна. Урэшце, выхаванцы Каткова сцвярджалі, што ва ўсіх жыццёвых вірунках — не залежна ад таго, якую прафесію яны абралі — гэта дапамагло ім праявіцца, раскрыць свой творчы патэнцыял!

Як глыток паветра, усім нам патрэбна такое стаўленне да сябе саміх. У прыватнасці, да таго, што мы ствараем у галіне дзіцячай літаратуры. Бо абставіны ў нас не самыя лёгкія: пасля таго, як не стала спецыялізаванага выдавецтва «Юнацтва», беларускія выдаўцы наноў вучацца працаваць з дзіцячай кнігай. Праз працэсы глабалізацыі, якія не абыходзяць бокам і нас, ускладняецца неабходны працэс захавання роднай мовы…

Зацыклімся на стратах ці звернем увагу на здабыткі — дзеля руху наперад? Не шкадаваць сябе праз складаныя абставіны, у якія раз-пораз ставіць гісторыя, а памятаць — прайшоўшы праз паразы, мы штораз мелі сілы ўзняцца! Ці гэта не падстава да самапавагі? Для ўважлівага, любоўнага стаўлення створанага намі? Мне падаецца, калі возьме верх філасофія любові — мы зможам усё!

Бо няма на гэтым свеце нічога больш безабароннага, чым любоў.

І няма нічога, за яе мацнейшага.

Абяссілім мы самі сябе ці расправім крылы — залежыць толькі ад нас.

**Літаратура:**

1. Беларуская дзіцячая літаратура : вучэб. дапам. / А. М. Макарэвіч [і інш.] ; пад агул. рэд. А. М. Макарэвіч, М. Б. Яфімавай. — Мінск : Выш. Шк., 2008. — 668 с.

2. А. Масла «Дарогу адолее той, хто ідзе». *Гутарка з Янінай Арлов*». Дзеяслоў», № 3 (58) 2012 г.

3. Сказочники Скандинавии / Л. Ю. Брауде. — Серия «Из истории мировой культуры». — Ленинград : издательство «Наука» (Ленинградское отделение), 1974. — 238 с.

4. Шведская литературная критика и журналистика о становлении детской и юношеской литературы Швеции / Новицкая, И. Я. — Автореферат диссертации. — Москва, 2007.

5. Астрид Линдгрен и шведское общество / Кайса Линдстен. — «Журнальный зал», № 1 (21), 2002.



**Ігар ШАЛАДОНАЎ**

# ФАКТ І ВЫМЫСЕЛ У МАСТАЦКІМ УЯЎЛЕННІ ІВАНА НАВУМЕНКІ

Раманы І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», «Сорак трэці», выдадзеныя ў 1962, 1967 і 1973 гадах, атрымалі ў літаратуразнаўстве і крытыцы вельмі шырокі і шматлікі рэзананс і розгалас. Іх з'яўленне сталася значнай мастацкай падзеяй, таму кожны даследчык, закранаючы той ці іншы аспект развіцця беларускай прозы XX стагоддзя, не мог абмінуць ідэйна-эстэтычных і мастацка-этычных вартасцей і дасягненняў трылогіі.

А звярталіся да разгляду гэтых раманаў пісьменніка такія слынныя літаратуразнаўцы і майстры прыгожага пісьменства, як А. Адамовіч, А. Аўчарэнка, С. Андраюк, П. Васючэнка, Д. Бугаёў, С. Букчын, П. Дзюбайла, Н. Гілевіч, У. Гніламёдаў, В. Жураўлёў, В. Каваленка, Ф. Куляшоў, М. Лазарук, С. Лаўшук, Я. Лецка, А. Лойка, А. Марціновіч, М. Няхай, Ю. Пшыркоў, Л. Сінькова, М. Тычына, У. Юрэвіч, І. Шамякін, Т. Шамякіна, А. Яскевіч і цэлая кагорта іншых, не менш аўтарытэтных знаўцаў мастацка-літаратурнага працэсу.

Вялікую ўвагу разгляду раманаў надалі літаратуразнаўцы Г. Сіненка (манаграфія «Іван Навуменка: Нарыс творчасці», 1981) і Л. Піскун (манаграфія «Іван Навуменка», 1997), Д. Бугаёў (у двухтомным вучэбным дапаможніку для філалагічных факультэтаў «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры», 1982) і П. Васючэнка (у акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.: У 4-х тамах 6-ці кн.» Т. 3, 2001).

Іван Навуменка належыць да пісьменнікаў (В. Быкаў, І. Шамякін, А. Адамовіч, І. Чыгрынаў), якія стала, упэўнена і магутна ўвайшлі ў нацыянальны літаратурны працэс пасля XX з'езда КПСС, у так званы перыяд «хрушчоўскай адлігі», у часы дэмакратызацыі сацыяльна-палітычнай сістэмы савецкай дзяржавы, калі адбываўся працэс змякчэння ідэалагічна-дзяржаўнага прэса ў сістэме кіравання партыяй і мастацтвам. Сваёй творчасцю гэтыя майстры слова прывілі нацыянальнай самасвядомасці новы, больш гуманны код разумення праўды, ісціны і справядлівасці. Асабліва гэта выявілася праз адлюстраванне падзей Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікамі і сведкамі якой яны былі, і якая шмат у чым стала «момантам ісціны» не толькі для іх саміх, але і для ўсяго народа, народа-пераможцы.

Нельга не пагадзіцца з першай найбольш сур'ёзнай ацэнкай рамана «Сасна пры дарозе», зробленай А. Адамовічам. Калі літаратуразнаўца слушна зазначае: «Пісьменнік старанна малюе сам «вобраз часу». І гэта вельмі паказальна: строга рэальная праўда аб Айчыннай вайне пачынае панаваць нават у творах пісьменнікаў з вельмі рамантычнай манерай пісьма. Вядома, такі напрамак паказу Айчыннай вайны не адзіна магчымы, але ён у другой палавіне 50 — пачатку 60-х гадоў стаў асабліва характэрны. І гэта, безумоўна, звязана з агульнай тэндэнцыяй нашага мастацтва, якое больш пачало разумець героіку і рамантыку рэальных спраў, рэальных падзей, больш цаніць паэзію праўды, няхай суровай, жорсткай, але перш за ўсё праўды» [1, с. 117].

Сугучнае па сэнсе, але больш паэтычнае выказванне блізкага сябра і паплечніка І. Навуменкі — А. Лойкі, які вельмі ўдала вызначыў жыццёва-мастацкую вартасць яго твораў, а таксама асаблівасці часу, у якім яму давялося тварыць.

«Ды кожны пісьменнік, відаць, тым ужо шчаслівы, што ён пэўным чынам можа спыніць яго, зафіксаваўшы ў слове, адлюстраваўшы ў слове. Адлюстраванне ж часу — гэта далучэнне да гісторыі, да жыцця народа, да гісторыі народа. І калі я думаю пра Навуменку-мастака, то думаю, што яго лёс у літаратуры якраз шчаслівы і тым, што з-пад яго пяра выйшла і яркае адлюстраванне партызанскіх адысей ягоных семнаццацігадовых равеснікаў, з-пад таго ж пяра затым разгарнулася мастацкая эпапея ўсенароднай партызанскай барацьбы на Палессі — «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», і што, у цэлым, шляхамі духоўнасці пісьменнік намагаўся весці ўсіх сваіх станоўчых герояў шматлікіх аповесцей, кожны з якіх па-свойму крыху Лабановіч, толькі што ў іншым часе, на новых кругах жыцця народнага. А мэтай, звышзадачай мастака ці ж можа быць якая іншая, як гэтая — мэта далучэння да жыцця народнага» [13, с. 161].

А гэта меркаванне В. Каваленкі: «І. Навуменка ў раманах «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», стварыўшы прывабныя вобразы маладых падпольшчыкаў, паказаў нялёгкія шляхі моладзі да барацьбы з моцным ворагам, раскрыў псіхалагічны стан насельніцтва акупіраванай Беларусі, гатовага да барацьбы, намаляваў цікавыя характары юных падпольшчыкаў і партызан. Раманы І. Навуменкі захапляюць тым, што дзейнасць яго герояў як малодшага, так і старэйшага ўзросту мае глыбокія вытокі ў народнай глебе. Гэта дапамагае ім выстаяць у цяжкіх нягодах, як дапамагаюць сасне трымацца на моцных вятрах яе карані» [8, с. 60].

Адзін з першых адгукнуўся на выхад «Сасны пры дарозе» В. Крышталь. У сваёй лімаўскай публікацыі ён адзначыў: «Раман «Сасна пры дарозе» сведчанне ўзросшага майстэрства пісьменніка, узмужнеласці яго таленту. Шліфуецца яго ўласны, індывідуальны стыль, адточваецца манера пісьма — яркага, простага, эмацыянальна напружанага, псіхалагічна аб’ёмнага… А вобраз сасны пры дарозе, магутнай і нязломнай, непадуладнай жыццёвым бурам і нягодам, вырастае ў сімвал непахіснасці Радзімы» [11, с. 3].

Вобраз сасны як сімвал Радзімы стаў пазнавальным у айчынным літаратуразнаўстве ў дачыненні да творчасці І. Навуменкі. Паступова ён усё больш і больш паглыбляўся і пашыраўся, з’яўляліся новыя ўдакладненні і тлумачэнні таго ці іншага ракурсу шматзначнасці і сімвалічнасці яго значэння. У красавіцкім нумары «Полымя» за 1963 год з’явілася разгорнутае даследаванне рамана «Сасна пры дарозе» Ф. Куляшова — «Усё адолее чалавек», у якім вобразу сасны адводзіцца цэлы падраздзел. Аўтар артыкула дае пашыраную трактоўку створанаму пісьменнікам звышсімвалу: «Гэты вобраз яшчэ раз узнікне на апошніх старонках рамана. Узнікне — і выкліча ў памяці лермантаўскую сасну. Гэта вобразы-сёстры. Але там, у Лермантава, сасна да канца астаецца ўвасабленнем трагізму цэлага пакалення, асуджанага на адзіноту і гібенне з-за немагчымасці дзейнічаць, змагацца: тут, у рамане, сасна — лірычны сімвал непераможнасці людзей, што сцвярджаюць на зямлі хараство жыцця і разумныя чалавечыя адносіны» [12, с. 156].

Крыху пазней, у сваёй звыклай манеры, вельмі паэтычна-ўзнёсла інтэрпрэтуе вобраз сасны ўжо А. Лойка: «А для яго найсвятлей — ад сасонкі, што як залатая струна, між зямлёй і небам, як прамень, падобны на сонечны, толькі не з нябёс, а з нізі — з ліловых верасоў, духмяністага багульніку, розназялёных імшанікаў… Сасна як сама краса, як мара, як дрэва вечназялёнага жыцця і месца, твайго жыцця, — дрэва твайго лёсу…» [13, с. 161].

Не застаўся па-за ўвагай вобраз сасны і ў літаратуразнаўчым дыскурсе В. Каваленкі, які ў сваёй манаграфіі «Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры» дае наступную характарыстыку: «Ёсць у рамане І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» вобраз адзінокай сасны пры дарозе, які вынесены ў загаловак твора.

Няцяжка здагадацца, што пісьменнік у вобразе адзінокага дрэва на ветраных шляхах абагульняе вельмі многае: гэта перш за ўсё родная зямля, яе незайздросны ў мінулым лёс, небяспечнае становішча на ваенных еўрапейскіх раздарожжах, яе вынослівасць, укаранеласць, моц, хоць сасна не расце даўно і не дае патомства. Можна сказаць нават, што апісанне сасны пры дарозе — своеасаблівая прытча пра сціплую мужнасць чалавека і ўсяго народа» [9, 308].

Вельмі пранікліва-аналітычна падышоў да вывучэння сімвалічнага зместу вобраза сасны яшчэ даволі малады літаратуразнаўца Р. Дубашынскі, які выводзіць вобраз сасны на больш высокі літаратуразнаўчы ўзровень тлумачэння: «Вылучэнне ў назвах першых двух раманаў канцэпту сасны ўжо сведчыць пра тое, што ён нясе больш глыбокую сэнсавую нагрузку. Гэта вобраз-сімвал, які перарастае ў вобраз-архетып, уключаецца ў сістэму іншых канцэптаў. Тут мы мусім гаварыць менавіта пра сістэму, адзінкі якой злучаныя трывалымі канцэптуальнымі сувязямі…

Сасна пры дарозе — адпраўны пункт і ў той жа час цэнтральная кропка, вакол якой рухаецца дзеянне. Гэта адмысловы ўказальнік, што накіроўвае думку чытача на шлях пошуку адказаў на пытанні, пастаўленыя пісьменнікам у творы» [4, с. 101—102].

На гэтым даволі панарамным аглядзе вобраза-сімвала сасны спыняемся, каб закрануць іншыя аспекты праблем паэтыкі і тэксталогіі раманаў І. Навуменкі.

Так Ф. Куляшоў выказаў свежую і эмацыйна-суб’ектыўную думку-рэакцыю на выхад твора: «Да гэтага часу пісьменніка добра ведалі — і ў нас, і далёка за межамі рэспублікі — як навеліста. Цяпер ён выступіў у новым для яго жанры — апублікаваў раман «Сасна пры дарозе». Раман гэты, безумоўна, добры. Ён настолькі цікавы па сваёй тэме і добры па мастацкаму майстэрству, што яго можна і трэба паставіць побач з «Людзьмі на балоце», непасрэдна ўслед за імі» [12, с. 156].

На адметнасці мастацка-жанравай і стылявой танальнасці раманаў І. Навуменкі звярнуў ўвагу і П. Дзюбайла ў артыкуле «Адзінства і разнастайнасць». Ён сцвярджае, што «пісьменнік прыйшоў у літаратуру як апавядальнік з моцным лірычным светаадчуваннем, лірычным мастацкім бачаннем і ўспрыманнем. Аднак зварот да буйных эпічных жанраў (раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах») зрабіў уплыў і на агульную танальнасць яго твораў. У раманах І. Навуменкі пачала ярка праяўляцца агульная стылявая заканамернасць, характэрная для рэалістычна-аналітычнага напрамку» [6, с. 194]. Далей аўтар робіць зусім лагічную з яго пункту гледжання выснову: «Так, патрабаванні эпічнага ўвасаблення шырокага жыццёвага матэрыялу ў жанры рамана паўплывалі і на стыль І. Навуменкі: лірычна-эмацыянальная стыхія тут толькі час ад часу прабіваецца праз рэалістычна-дакладную, рэалістычна-аналітычную плынь апавядання» [6, с. 195].

На нашу ж думку, у заключэнні П. Дзюбайлы ўтрымліваецца крыху звужаны і аднабаковы погляд на агульную стратэгію раманнай задумы пісьменніка, не ўлічаны ідэйна-філасофскі, светапоглядны і светасузіральны аспекты канцэптуальна-вобразнай сістэмы пісьменніка. Больш правільным было б сцвярджаць, што ў першых двух раманах ідзе дыялектычная ўзаемазвязанасць эпічна-аналітычнага пачатку жанрава-раманнай зададзенасці твора з суб’ектыўным лірычна-эмацыйным прынцыпам жыццеўспрыняцця і мыслення галоўнага героя, сямнаццацігадовага юнака, вачыма, душой і сэрцам якога мы і аглядаем мастацкі свет твораў.

Можна салідарызавацца з выказваннем В. Атрашкевіча, які, разглядаючы ідэйна-мастацкі кантэкст рамана «Смутак белых начэй», робіць наступнае выказванне: «Крытыка ўжо адзначала, што гэтым раманам пісьменнік імкнуўся перадолець моцны лірычны струмень сваіх твораў і трылогіі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» і паступова ўзысці на шлях рэалістычна-аналітычнага адлюстравання жыцця» [2, с. 227—228].

Хацелася б толькі зазначыць на гэты конт, што спадзяванні крытыкаў засталіся дарэмнымі. Такі маштабны твор апошніх гадоў жыцця І. Навуменкі, як трылогія «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» — паказальны таму доказ.

Для кожнага пісьменніка заўсёды важна і вельмі неабходна знайсці тую адзіную і найбольш адпаведную яго ўнутранаму складу мыслення, а таксама самому аб’екту даследавання структуру, форму выяўлення назапашанага фактлагічнага матэрыялу. Патрабавальнаму і ашчаднаму да мастацкага слова пісьменніку (якім і быў І. Навуменка, у чым мы поўнасцю пераканаліся, папрацаваўшы ў працэсе тэксталагічнага даследавання яго творчасці, над пісьменніцкімі рукапісамі і машынапісамі) заўсёды даводзіцца траціць шмат энергіі як на пошук і адбор зала-

цінак жыццёва-факталагічнага матэрыялу, так і на выпрацоўку найбольш адпаведнай унутраным патэнцыям прыёмаў і спосабаў мастацка-эстэтычнай формы.

Дыялектычная гармонія ўзаемадзеяння паміж гэтымі дзвюма велічынямі часта вызначае змястоўную і ідэйную сілу твора, глыбіню яго праўдзівасці і паўнавартаснасці. Для пісьменнікаў, якія асабіста перажылі падзеі апошняй сусветнай вайны, уласны вопыт мае вялікае значэнне, сама іх біяграфія шмат у чым успрымалася і ўспрымаецца як цікавая і павучальная кніга падзей і фактаў, на якіх галаграмна адлюстраваліся адбіткі і водбліскі той пагранічна жорсткай эпохі жыцця і быцця чалавека.

Тая акалічнасць, што І. Навуменка даволі позна, амаль у 30 год, увайшоў у літаратуру, можа гаварыць толькі пра тое, што падзеі і звесткі яго ваеннага жыцця, якія доўга, дзень за днём і год за годам назапашваліся і адкладваліся ў глыбінях памяці і сэрца аўтара, падштурхоўвалі яго да найбольш прыдатнай і вельмі сугучнай рэальнай прыродзе саміх фактаў мастацка-жанравай апавядальнай форме выяўлення, заснаванай на моцным фундаменце аўтабіяграфізму.

Відаць, не дарэмна многія літаратуразнаўцы і крытыкі, гаворачы пра тэматычныя і ідэйна-мастацкія асаблівасці раманаў І. Навуменкі, вызначалі іх аўтабіяграфічны характар і амаль дакументальны выток задумы.

Для больш паглыбленага і сур’ёзнага разумення ўплыву паняццяў біяграфізму, факталагізму і праблемы прататыпаў у раманнай творчасці І. Навуменкі звернемся да даволі вострай палемікі 60-х гадоў XX стагоддзя. Так, у калектыўнай манаграфіі «Праблемы сучаснай беларускай прозы» (1967) у раздзеле «Праўда характару» П. Дзюбайла, аналізуючы галоўных герояў рамана «Сасна пры дарозе» Сцяпана і Міцю Птахаў, бацьку і сына, слушна зазначае: «Ваенныя абставіны былі няўмольнымі да характару, да логікі яго развіцця, свабоды праяўлення. У жорсткай барацьбе гераічны характар адстойваў сваё права быць самім сабой, развівацца ў адпаведнасці са сваёй сутнасцю» [5, с. 118].

Вось гэта «адпаведнасць сваёй сутнасці» і ўтрымліваецца на логіцы паказу чалавека ў яго канкрэтнасці і агульнасці. Вельмі цікавыя і развагі, назіранні П. Дзюбайлы над спрэчкай, якая ўзнікла на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ў 1964 годзе паміж І. Навуменкам і В. Каваленкам наконт праблемы факта і жыццёвых прататыпаў у стварэнні па-мастацку яркіх, пераканальна праўдзівых літаратурных вобразаў. Коратка перададзім сутнасць спрэчкі паміж двума таленавітымі літаратуразнаўцамі.

Іван Навуменка ў дыскусіі аб беларускім рамане даводзіць: «Ці не залішне мы прывязваем мастацкія характары да жывых рэальных прататыпаў, калі пішам свае кнігі?» І далей, развіваючы гэтую думку, ён сцвярджае: «Наўрад ці існавалі калі-небудзь як рэальныя жывыя людзі Гамлет і Дон Жуан, Абломаў і Анна Карэніна. Вобразы гэтыя нарадзіліся дзякуючы магутнай фантазіі іх творцаў. І яны жывуць у вяках» [14, с. 1, 3].

З выказваннем І. Навуменкі рашуча не пагадзіўся В. Каваленка: «Тут зноў прыніжаецца жыццёвая першаснова твора. І не толькі прыніжаецца. Пра яе тут зусім забыліся. Аказваецца, гэтыя класічныя вобразы жывуць у вяках толькі таму, што іх нарадзіла магутная фантазія, а не жыццё. Не ведаю, як хто іншы, а я ўсе пералічаныя І. Навуменкам вобразы ўспрымаю не як вытвор фантазіі, а перш за ўсё як параджэнне жыцця. Інакш наўрад ці жылі б яны ў вяках» [7, с. 2].

Рэзюмуючы палемічныя выказванні гэтых даследчыкаў, П. Дзюбайла зусім справядліва давёў свой досвед па дадзеным пытанні: «І. Навуменка слушна выступае супраць натуралістычнай прыземленасці, рабскага капіравання фактаў рэчаіснасці, няўмення вытлумачыць з’явы і характары з жыцця. Галоўную бяду сучаснай беларускай літаратуры ён бачыць у тым, што героі многіх твораў дужа цесна прывязаны да рэальных фактаў, сваіх прататыпаў. Аднак, на нашу думку, не менш небяспечна і другое — адрыў ад фактаў рэчаіснасці, адвольнае схематычнае канструяванне станоўчых і адмоўных герояў, такое абагульненне, якое не вынікае з індывідуальна канкрэтнага, жыццёва непаўторнага» [5, с. 108].

Гэтая лімаўская спрэчка-палеміка яскрава высвеціла адну з асноўных праб-

лем раманнага мыслення і структуравання, вельмі актуальную для беларускай прозы 60-х гадоў XX стагоддзя. І. Навуменка як літаратуразнаўца і творца-раманіст выразна бачыў хібы і недахопы тагачаснай прозы, таму так абвострана-палемічна і ўздымаў пытанне аб залішняй прывязанасці беларускіх празаікаў да глебы апісальнай факталагічнасці, спрошчанай хранікальнасці, суб'ектыўнай аўтабіяграфічнасці. Сам ён імкнуўся паглыбіцца ў працэс псіхалагічнай і стылявой «хімізацыі» мастацкай прасторы, які б дапамагаў уздымаць будзённую, бытавую канкрэтнасць у сферу агульнай логікі духу эпохі пры раскрыцці вобразаў і характараў герояў і мастацкіх калізій.

Мастацкая літаратура стварае свет, вобразы якой па вызначэнні не могуць суадносіцца да прамога ўспрыняцця яго, як аб'ектыўнай рэчаіснасці. Мастацкае слова — гэта такі знак, які на ўзроўні прагматыкі становіцца найперш камунікатыўным знакам, маркіруючы ці абазначаючы менавіта адсутнасць «сапраўднага аб'екта», што неадольна патрабуе свайго «напаўнення», ці, інакш кажучы, чакае працэсу пераадкрыцця сябе праз новую інтэрпрэтацыю, чакае новага напаўнення сэнсаў. Рэальнае і ідэальнае, канкрэтнае і агульнае, праўдзівае і выдуманае, рэчаіснасць і фантазія ў творчасці І. Навуменкі заўсёды імкнуліся да дыялагічнай узаемасувязі і гармоніі.

Сам аўтар у адным са шматлікіх сваіх інтэрв'ю зазначаў: «Лічу, што пісьменніка нараджае зямля, паветра, мясцовасць, з якой ён звязаны душой і целам. Карацей кажучы, гэта трохі нешта незразумелае, нездарма часта гавораць: яго пяром вадзіў Бог. Там жа маса ўсякіх псіхалагічных момантаў» [15, с. 61].

Мастацкі аўтабіяграфізм для сваёй рэалістычнай манеры пісання ён успрымае як арганічную і разам з тым псіхалагічна вельмі складаную здольнасць мастака ўлаўліваць дыялектычную раўнавагу паміж «глебай факта» і «небам вымыслу і фантазіі»: «Факты фактамі, іх я трымаўся, але і прыдумляў таксама. Побач з фактамі нямала і фантазіі, выдумкі. Факты нічога не азначаюць, усё роўна трэба інтуіцыя, каб адчуць, што, як… Трэба адчуць дух часу. Калі гаварыць пра вайну, то дух часу я адчуваў па месяцах» [15, С. 62].

Вось гэты ўнутраны генератар, факталагічна-псіхалагічны «згустак-нарыў» амаль храналагічнага адчування духу часу ваеннай пары і пазначае асноўную матывацыйную зададзенасць напісання ваенных раманаў І. Навуменкам. Астатнія імпульсы-штуршкі: «Да рамана мяне падштурхнуў Алесь Адамовіч, у якога падобная да маёй біяграфія. Ён напісаў раман «Война под крышами». Я прачытаў і падумаў: дык мне ж таксама ёсць пра што расказаць» [15, с. 59].

Гэтыя ўнутраныя і знешнія штуршкі-кліканні — толькі каталізатары глыбіннага бурлення магмы, лавы-матэрыялу, што чакала свайго часу, каб магутным выбухам вырвацца на паверхню. Аповед аўтара пра гісторыю напісання першага рамана дазваляе больш выразна і падрабязна прасачыць таксама нашу пошукава-тэксталагічную працу па аналізе напісання рамана «Сасна пры дарозе».

У музеі-архіве БДАМЛіМ у фондзе № 37 вопіс 1, дзе захоўваюцца матэрыялы І. Навуменкі, мы знаходзім машынапісны ліст, з пачаткам апавядання «Сосна у шлагбаума» на рускай мове. Поўны тэкст яго выйшаў у часопісе «Вопросы литературы» № 5 за 1978 год.

Унутраны маналог героя, пачатага апавядання ўтрымлівае магутную энергетыку аўтабіяграфізму, якая амаль набліжана да формы аўтабіяграфіі.

У тым жа фондзе №. 37, вопіс 1, справа 12 ёсць машынапіс, на першай старонцы якога пазначана «Аповесць».

Першапачаткова свайго галоўнага героя аўтар хацеў назваць Максімам Шныкам, а бліжэйшага яго сябра Міцем Амельчанкам. У раманах «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах» галоўным героем становіцца Міця Птах, на год маладзейшы за сваіх лепшых таварышаў Івана Лобіка, Нупрэя Гіля. У рамане сябруе з Міцем Птахам і яго аднакласнік Сяргей Амельчанка.

Выпісаны ва ўрыўку вобраз Максіма Шныка вельмі блізкі па духу раманнаму Міцю Птаху. Максім Шнык выдатнік вучобы, вялікі кніжнік, натура летуценная, на фарміраванне яго характару зрабіла вялікі ўплыў таксама і «ранняе калецтва, і жыццё на водшыбе».

Разам з аўтабіяграфізмам у мастацкай прасторы І. Навуменкі вельмі блізка судакранаецца прыём дакументалізму. Пра гэта адкрыта гаворыць і сам пісьменнік: «Я заўсёды трымаўся дакументальнага, таго, у чым сам удзельнічаў, ці чаго быў сведкам, што бачыў і чуў асабіста. Я ведаю, што яно было, але вельмі важным з'яўляецца, як яно было. Гэта трэба яшчэ раскрыць, «хімію» гэтага «было» трэба яшчэ здабыць» [15, с. 62].

Жыццёвая праўдзівасць, у нечым нават факталагічная празрыстасць мастацкага аповеду ў раманах І. Навуменкі дае выразную арыенціроўку ў пошуку і знаходжанні прататыпаў герояў, у распазнанні апісанай геаграфічнай мясцовасці, а таксама ў вызначэнні жыццёвага ці гістарычнага факта, які лёг у аснову той ці іншай сюжэтна-мастацкай карціны жыцця.

Праз прыём аўтабіяграфізму выразна адчуваецца, што ў працэсе «мастацкай хімізацыі» за вобразам галоўнага героя Міцем Птахам паўстае асоба самога Івана Навуменкі, а за любімым яму паселішчам Бацькавічы вымалёўваюцца родныя і блізкія яму Васілевічы.

Даследчыкі творчасці пісьменніка У. Каваленка, З. Жалезка, В. Сяргеева паспрабавалі вывесці пэўную адпаведнасць падзей і герояў раманаў з рэальнымі падзеямі, што адбываліся ў Васілевічах. У сваім даследаванні «Гістарычная аснова ваеннай трылогіі Івана Навуменкі: прататыпы герояў» мясцовы краязнавец, настаўніца гісторыі Васілевіцкай СШ В. Сяргеева даволі пераканальна суаднесла біяграфіі герояў твораў з іх рэальнымі прататыпамі.

У вобразе Сцяпана Птаха прысутнічаюць рысы бацькі пісьменніка —Якава Піліпавіча. І далей па аналогіі: Сяргей Амельчанка — Белы Анісім, Нупрэй Гіль — Ануфрый Брэль, Іван Лобік — Іван Доўжык, Мікола Цябут — Белы Мікалай, Базыль Вілюга — Васенда Аляксандр, Драгун Васіль — Драпеза Данііл Паўлавіч, Шкірман — Горбар Кастусь Васільевіч, Аляксей Прымак — Пінчук Мікалай Трафімавіч, Андрыюк — Казюк Віктар Адамавіч, Вера — Навуменка Кацярына Васільеўна, Надзя Амельчанка — Лаўшук Анастасія Іванаўна, Міхась Ключнік — Міхась Іванавіч Кучараў, Марыя Іванаўна — Кулевіч Ганна Уладзіміраўна, Шэлег Іван Пракопавіч — Астапенка Ціхан Мінавіч, Азяркова Людміла Сяргееўна — Курганская Любоў Пятроўна, Азяркова Ліза — Мілановіч Ларыса Віктараўна, Дзянісава Надзея — Трафімава Надзея Канстанцінаўна, лейтэнант Якубоўскі — Смерцін Сямён Агеевіч, Плішчынскі — Янчынскі Яўген Арсенцьевіч, Касарэвіч — Стахневіч.

Да гэтых пар вобразаў-прататыпаў магчыма трэба дадаць яшчэ некалькі выразных персанажаў трылогіі. За раманным вобразам камандзіра акцябрскіх партызан Вакуленкі праглядваецца асоба Героя Савецкага Саюза — Фёдара Паўлоўскага, а за вобразам «шчуплаватага Сямёна Грынько» бачыцца партызанскі камандзір Сямён Маханько.

Падставы так сцвярджаць дае тое, што ў фондзе № 37, вопіс 1, справа 14 знаходзяцца рукапісныя і машынапісныя матэрыялы, дзе на с. 218 (240) ідзе наступны тэкст: «Бондар стаіць за спіной роўнага яму па росту шчуплаватага Сямёна Маханька (ён тут замяняе камандзіра Паўлоўскага)» [18, с. 218]. А яшчэ на старонцы 219 таго ж фонду знаходзім невялікі тэкст, які падае сапраўдныя прозвішчы камандзіраў атрадаў, якія ўдзельнічалі ў лістападзе 1942 года ў гістарычнай і гераічнай партызанскай аперацыі па падрыве чыгуначнага 135-метровага моста праз раку Пціч.

Сярод іх хацелася б выдзеліць Макара Бумажкова брата Героя Савецкага Саюза Ціхана Бумажкова, аднаго з пачынальнікаў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі.

У мастацкую прастору раманаў побач з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, фактамі, тапанімічнымі назвамі, якія пранізваюць усю сюжэтна-фабульную канву твораў (якіх змрочных і балючых эмацыйна-псіхалагічных перажыванняў каштуе маладым падпольшчыкам кожнае паведамленне аб захопе нямецка-фашысцкімі акупантамі савецкіх гарадоў) арганічна ўплецена створаная празаікам падзейна-сюжэтная структура твора, яго мастацкая дынаміка і тапаграфія.

У раманах назвам родных Васілевіч і навакольных вёсак, а таксама Калінкавічаў, Хойнікаў пісьменнік даў іншыя назвы, у той жа час вёскам Акцябршчыны

захаваў іх сапраўдныя назвы — Ламавічы, Парэчча, Рудабелка, Карпілаўка, Рудня. Усё гэта дазваляла праз дыялектычны механізм сінтэзу рэальна-існуючага з уяўна-выдуманым ствараць мастацкую поўнавартаснасць праўды і ісціны жыцця.

Аднак аўтар заўсёды імнуўся захаваць дыстанцыю «залатога сячэння» паміж ісцінай рэальнага факта і мастацкай праўдай адлюстравання, глыбока разумеючы іх філігранную ўзаемазалежнасць і іх хісткую раўнавагу.

Ваенныя раманы І. Навуменкі, якія глыбока раскрылі веліч народнага змагання з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, увайшлі ў залаты фонд беларускай культуры як духоўна-эстэтычны набытак народнай памяці. Толькі феномен памяці дазваляе доўжыць існаванне любой з'явы гісторыі ў часе. Будзем спадзявацца, што нашчадкі будуць на вышыні духу герояў І. Навуменкі, якія змаглі стаць уладальнікамі, магчыма, самага галоўнага аксіялагічнага, духоўнага і жыццёвага набытку — набытку быць пераможцамі, які нясе вызначальны пафас для самазахавання і самасцвярджэння народа.

## Спіс літаратуры:

1. Адамовіч, А. Літаратура на сучасным этапе / А. Адамовіч // Гісторыя беларускай літаратуры : у 2 т. — Мінск, 1966. — Т. 2.

2. Атрашкевіч, В. …І была вайна / В. Атрашкевіч // Полымя. — 1981. — № 10.

3. Бугаёў, Д. Іван Навуменка / Д. Бугаёў // Гісторыя беларускай літаратуры : у 2 т. — Мінск, 1982. — Т. 2.

4. Дубашынскі, Р. Дрэва як канцэпт у ваеннай трылогіі Івана Навуменкі / Р. Дубашынскі // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі : зб. навук. арт. / рэдкал. : Т. І. Шамякіна (гал. рэд.) (і інш.). — Мінск, 2005. — С. 99—105.

5. Дзюбайла, П. Праўда характару / П. Дзюбайла // Праблемы сучаснай беларускай прозы / П. Дзюбайла, В. Жураўлёў, М. Луфераў. — Мінск, 1976. — С. 102—182.

6. Дзюбайла, П. Адзінства і разнастайнасць / П. Дзюбайла // Полымя. — 1973. — № 1.

7. Каваленка, В. Удакладнім пазіцыі / В. Каваленка // ЛіМ. — 1964. — 22 верасня. — С. 2.

8. Каваленка, В. З пазіцыі сучаснасці / В. Каваленка // — Мінск : Народная асвета, 1975. — 145 с.

9. Каваленка, В. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры / В. Каваленка. — Мінск : Навука і тэхніка, 1981. — 320 с.

10. Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль…/ В. Каваленка. // Навуменка І. — Выбр. тв. : У 2 т. Т. 1. — Мінск, 1995.

11. Крышталь, В. Суровыя шляхі юнацтва / В. Крышталь // ЛіМ. — 1963. — 20 жніўня. — С. 3.

12. Куляшоў, Ф. Усё адолее чалавек / Ф. Куляшоў // Полымя. — 1963. — № 4.

13. Лойка, А. Запрашэнне да трох соснаў / А. Лойка // Маладосць. — 1985. — № 2.

14. Навуменка, І. Радасць поўная і няпоўная / І. Навуменка // ЛіМ. — 1964. — 28 ліпеня. — С. 1, 3.

15. Навуменка, І. Усякаму пакаленню трэба баявая справа… / І. Навуменка // Пошук вядзе ў глыбіню : літаратурна-крытычныя артыкулы. Старонкі інтэрв'ю. Публікацыі / М. У. Мікуліч. — Гродна, 1998. — С. 52—69.

16. Навуменка, І. Сасна пры дарозе / І. Навуменка // Зб. тв : у 6 т. — Мінск, 1982. — Т. 3. — С. 7—344.

17. Навуменка, І. Вецер у соснах / І. Навуменка // Зб. тв. : у 6 т. — Мінск, 1983. — 4. — С. 7—328.

18. Ф. 37. Воп. 1 Спр.12. (БДАМЛіМ).

19. Ф. 37. Воп. 1. Спр. 14. (БДАМЛіМ).

Віктар РАМАНЧУК

# СТУДНЯ, У ЯКОЙ ЗАЛАТОЕ ДНО

Уладзімір Дубоўка (15 ліпеня 1900 — 20 сакавіка 1976) — адна з самых каларытных постацей у беларускай літаратуры XX стагоддзя. Ён знаходзіўся ў цэнтры літаратурнага жыцця дваццатых гадоў: быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», першым рэдактарам часопіса «Беларускі піянер» (цяпер «Бярозка»). Цудоўна заявіў аб сабе як паэт, за кароткі час выдаўшы пяць кніг. Вельмі шмат зрабіў дзеля ўзбагачэння беларускай мовы, пашырэння яе лексікі. Ведаючы некалькі моў, плённа перакладаў з арыгінала. Аднак, рэпрэсіраваны ў 1930 годзе, да 1957-га творчай працай не займаўся. За пяро зноў узяўся толькі пасля рэабілітацыі. За кнігу паэзіі «Палеская расподыя» (1961) праз год быў удастоены Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. Вялікі рэзананс выклікала з'яўленне зборніка У. Шэкспіра «Санеты» ў яговым пераўвасабленні па-беларуску (1964). Двойчы выходзілі Выбраныя творы ў 2-х тамах (1959 і 1965).

Але асабліва плённа ў гэты час У. Дубоўка працаваў у галіне дзіцячай літаратуры, аддаючы перавагу казцы. Пабачылі свет кніжкі вершаваных казак для дзяцей «Цудоўная знаходка» (1960), «Кветкі — сонцавы дзеткі» (1963), «Казкі» (1968), а таксама казкі «Як сінячок да сонца лётаў» (1961), «Дзівосныя прыгоды» (1963), «Мілавіца» (1964). Усяго ў яго больш як 50 твораў гэтага жанру. Пачатак жа быў пакладзены ў 20-я гады мінулага стагоддзя.

У 1927 г. з'явілася першая казка У. Дубоўкі — «Залатое дно». Твор вытрыманы ў фальклорных традыцыях:

Калісьці князь багаты жыў,
якому ўсё было паддана.
Аднойчы студню ён зрабіў,
а ў ёй тры дны былі ўкапаны.

Адно мядзянае. Пад ім —
са срэбра чыстага другое.
Яшчэ ніжэй, пад тым другім,
паставіў князь дно залатое.

Знайшліся тыя, хто задумаўся, а навошта князю такая дзіўная студня. Сярод іх аказаўся і Цікаўны. Яму старэнькі дзядок параіў схадзіць да Сонца: «Яно адно ўвесь бачыць свет, // яно адно і праўду скажа». Паслухаўшы добрай парады, Цікаўны адправіўся ў дарогу. Нямала прыгод ён зведаў. Не абышлося без іх і тады, калі сустрэўся з маці Сонца. Наўрад ці ўратаваўся б, але яму на дапамогу прыйшла Сонцава дачка, сама зорка Мілавіца… Сустрэўся нарэшце Цікаўны з Сонцам, а яно адгаворвае яго. Маўляў, праўда наўрад ці прынясе табе шчасце: «Ты з ёй пазнаеш горкі сум, // цябе аб'весцяць там вар'ятам». Папярэджвае Сонца: «… ідзі, юнача, у добры час, — // згарыш на попел ты ад праўды». Аднак Цікаўны настаяў на сваім.

Вяртаўся назад Цікаўны не адзін, а з Мілавіцай. Раскрыў усе князевы сакрэты:

Праб'ём мядзянае мы дно —
вада жывая край напоіць.
Пазбудземся мы ад паноў,
прабіўшы срэбнае, другое.

Калі прыдасца збіць ушчэнт
дно залатое — згіне крыўда.
Увесь народ, увесь наш свет
да панавання самі прыдуць.

Як бачым, У. Дубоўка акцэнтаваў увагу на сацыяльных, а таксама класавых аспектах, як было ў той час. Але ёсць у творы моманты, якія сведчаць: за пяро ўзяўся патрыёт сваёй Бацькаўшчыны, адданы сын Беларусі. Для прыкладу толькі адзін эпізод, але як шмат ён гаворыць! Цікаўны, чакаючы Сонца, ходзіць па садзе, любуецца хараством дрэў. Ведаеце, пра што ён у гэты момант думае? Ды пра родную беларускую зямлю, а калі больш канкрэтна — пра Случчыну. Прыгадвае Цікаўны «дзяўчат слуцкіх», якія «ўзораў дзіўныя рады кладуць на белыя тканіны». А ўбачыў тапалі, усыпаныя грушамі, не прамінуў параўнаць: «Акурат, як дзе ля Слуцку нашы бэры…»

Па-мастакоўску асэнсаваў У. Дубоўка і знакаміты сюжэт пра Музыку, калі ў 1929 г. напісаў казку «Музыка-чарадзейнік». Граннем ягоным зацікавіліся не паны, а чэрці. А ўсё таму, што «ім музыка вельмі шкодзіць: // ад грахоў людзей адводзіць». Нацкавалі было на Музыку воўчую зграю, але нічога з гэтага не атрымалася. Зайграў журботна Музыка, «слёзы з воўчых воч ліюцца», а самі шэрыя разбойнікі, усе, як адзін, скамянелі, варухнуцца не могуць. Пасля гэтага праўдамі і няпраўдамі завалаклі чэрці Музыку да сябе, забралі ў яго скрыпку. Забраць дык забралі, але з музычнага інструмента вывалілася ягоная …душа. Як ні стараліся чэрці, у саміх іх з граннем нічога не атрымалася. Вымушаны былі вярнуць скрыпку яе гаспадару:

І пайшоў Музыка ў людзі,
і цяпер па свету ходзіць.
Ён людзей да шчасця будзіць,
ён заўсёды ў народзе.

Сюжэты гэтых твораў У. Дубоўка ўзяў са зборніка Аляксандра Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў». Адзін з іх называецца «Агонь у сэрца, розум у галаву», другі — «Музыка і чэрці». І ў іншых казках, напісаных У. Дубоўкам пасля рэабілітацыі, выкарыстаны некаторыя сюжэты з запісаў Міхала Федароўскага, Уладзіміра Дабравольскага. Асобныя народныя казкі пачуў у час вандровак са сваім сябрам Васілём Віткам па Палессі ў 1959 годзе. Карыстаўся і сюжэтамі з кітайскага, індыйскага фальклору. Дарэчы, аб гэтым Уладзімір Мікалаевіч прызнаваўся ў канцы аднатомніка сваіх выбраных казак «Кветкі — сонцавы дзеткі» (1963). Дый у пачатку кнігі пад загалоўкам значыцца: «Паводле народных матываў».

Але гэта менавіта творчае асэнсаванне і пераасэнсаванне фальклору, таму казкі У. Дубоўкі трэба ўспрымаць як аўтарскія творы. На падобны момант звярнуў увагу і адзін з аўтарытэтных даследчыкаў творчасці У. Дубоўкі Юльян Пшыркоў: «Знаёмячыся з гэтымі творамі, міжвольна задаеш сабе пытанне пра іх адметнасць. Сам аўтар па сціпласці яўна змяншаў уласную ролю, лічыў сваю працу простым пераказам празаічных твораў вершамі. Аднак ніхто не адмаўляе самабытнасці казак Пушкіна і Яршова. Дубоўкавы казкі — гэта зусім арыгінальныя паэтычныя творы, якія па сваім жанры вельмі блізкія да Коласавых апавяданняў вершамі, з той толькі розніцай, што ў творах Я. Коласа дамінуе гумарыстычны пачатак, а ў Дубоўкі — маральна-этычны».

У казках У. Дубоўкі вельмі выразныя, каларытныя малюнкі. Паэт чуйна адчувае слова. Разам з тым свядома прытрымліваецца фальклорнай манеры пісьма. Відаць гэта ўжо з зачыну: «За высокімі гарамі, за сыпучымі пяскамі // над вялікаю ракою // цёмны бор стаяў сцяною» («Сквапныя мядзведзікі»), «Ходзіць кот па хаце нікам, // не дае спакою мышкам» («Срэбны званочак»), «Кажуць людзі, што калісьці // хвост у зайца быў пушысцей // і даўжэй, чым у лісіцы» («Чаму ў зайцоў кароткія хвасты»), «Калісьці ў старадаўні час, // жыў ганарысты пан у нас» («Вяльможны Пых») і г. д.

Гэткі ж традыцыйны зачын і ў «Старобінскай казцы — салігорскай былі»:

За старым, даўнейшым часам
елі людзі рэдзьку з квасам.
Ці для смаку, ці для змены
дадавалі трошкі хрэну,

хоць была ў людзей гаворка:
«А без хрэну жыць нам горка!»

Аднак пасля ўступу У. Дубоўка як бы адыходзіць ад казачных матываў, пачынае гаварыць пра колішняе жыццё-быццё народа: «Ён не толькі хлеба-солі спажываць не мог, // бо яе вазілі з Крыма, // бо па соль ішлі з грашыма». Як быцам не

казка ўжо, а быль. Разумеючы, што гэта можа заўважыць і юны чытач, аўтар прапануе ў творы магчымы дыялог:

— Ну якая ж гэта казка?
— Пачакайце, калі ласка!

Мы цяпер мяжу згубілі:
дзе тут казкі, дзе тут былі…

Пасля гэтага думка дзіцяці актывізуецца. Яно пачынае ўважліва сачыць за далейшым разгортваннем сюжэта. І вось паэт пераходзіць да галоўнага. Расказвае пра цуд, зроблены працавітымі рукамі салігорскіх калійшчыкаў:

Вы пыталіся пра казку?
Вось вам казка, калі ласка!

Гэтым казка стала явай
і вялікай нашай славай.

Выхаваўчае значэнне казак У. Дубоўкі відавочнае, але гэтыя задачы ён паспяхова вырашаў і ў сваіх празаічных творах: аповесцях «Жоўтая акацыя» (1967), «Ганна Алелька» (1969), «Як Алік у тайзе заблудзіўся» (1974). Гэтыя творы можна аднесці і да жанру навукова-папулярных. Першыя два з іх як бы працягваюць тэму краязнаўчых нарысаў Віталя Вольскага. Што тычыцца маленькай аповесці (аўтарскае вызначэнне жанру) «Як Алік у тайзе заблудзіўся», дык яна сюжэтна блізкая знакамітым «Палескім рабінзонам» Янкі Маўра.

Наколькі У. Дубоўка надаваў вялікае значэнне краязнаўству, далучэнню дзяцей да прыроды, відаць з уступу да аповесці «Жоўтая акацыя» — «Не, я не супраць падарожжаў». З першых жа радкоў дае знаць аб сабе сапраўдны культ прыроды і ідзе гэта ад народных вытокаў. Пісьменнік прызнаецца: «Як толькі я сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі, суседзі, прывучалі нас, малых, шанаваць усё жывое, што было навакол нас.

— Не тапчы травіцу, хадзі сцежачкай. Травіца вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам, каню…

— Не чапай, не ламай гэтага дубочка або сасонкі. З іх вырастуць вялікія дрэвы, пойдуць на добры спажытак людзям — або на хату, або на шафу…

— Асцярожна рві яблыкі — не паламай, не адвіхні галінку. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку не будзе яблыкаў…

— Праз жыта нацянькі не хадзі. Калі патопчаш яго, будзе менш хлеба».

Уладзімір Дубоўка працягвае спіс народных парад, пасля чаго сведчыць: «З таго менавіта часу расло ў мяне вялікае замілаванне да прыроды. Нават крапіву, нават жыгучку, якой, даводзілася, частавалі мяне (ды не аднаго мяне толькі!) за некаторыя грахі дзяцінства, забаранялася збіваць без дай прычыны пугаю».

Аповесць «Жоўтая акацыя» — сапраўдны гімн прыродзе. А яшчэ парады, як ашчадна і разам з тым па-гаспадарску ставіцца да яе. Але, паколькі гэта мастацкі твор, на першы план выходзяць не практычныя парады, а праз характары, учынкі герояў (персанажы гэтага твора вучні, якія пад кіраўніцтвам настаўніка займаюцца юнацкімі справамі) раскрываецца ўсё тое добрае, чаго можна дасягнуць, калі з маленства праяўляць актыўнасць.

Чаго толькі не робяць дзеці ў аповесці! І грушу на рабіне і таполі прышчэпваюць, і кедр да сасны прыжываюць, скрыжоўваюць акацыю з гарохам, вырошчваюць вадзяныя арэхі, упарадкуюць ляшчэўнік, збіраюць гербарый, назіраюць за жыццём традыцыйных раслін, што растуць у агародзе. Але, безумоўна, у цэнтры іх увагі жоўтая акацыя. Тыя пазнавальныя звесткі, што прыводзіць аўтар, не абцяжарваюць твор, наадварот, яны вельмі да месца, бо даюць карысную інфармацыю. Дарэчы, У. Дубоўка прывёў і выказванні грамадскіх дзеячаў і вучоных, урыўкі з паэтычных твораў — і не толькі беларускіх аўтараў. Усё гэта робіцца для таго, каб паказаць, наколькі важна з любоўю і павагай ставіцца да прыроды, як важна зберагчы яе для нашчадкаў.

Тэматычна блізкая гэтаму твору і аповесць «Ганна Алелька». Праўда, гэтым разам галоўных герояў, дый саму Ганну Алельку, больш цікавяць дзікарослыя расліны, якія — дзеці ўпэўнены — прыйдуць на дапамогу чалавецтву ў будучым, калі ў сувязі з рэзкім ростам колькасці насельніцтва ўзнікне праблема з харчаваннем.

І яшчэ на адно нельга не звярнуць увагу. У. Дубоўка, які не па сваёй волі вымушаны быў пабываць у многіх краях, перакананы ў тым, што прыгажэйшай зямлі, чым родная Беларусь, няма. Таму і пісаў гэтыя аповесці з думкай, што і «каля нашых блакітных азёр, і каля нашых шумлівых-гаманлівых пушчаў не менш цікавага, чымсьці дзе-небудзь каля далёкага сіняга мора альбо і за сінім морам нават».

І яшчэ адзін важны момант. Ён тычыцца самой назвы гэтай аповесці. На яго чамусьці ніхто не звярнуў увагі. І сам У. Дубоўка нідзе не абмовіўся, чаму ў ягонай гераіні менавіта такое прозвішча. Хоць пісьменніка можна было зразумець, столькі перажыўшы, ён асцярожнічаў. Не хацеў, каб яго абвінавацілі ў яшчэ якіх-небудзь не існуючых грахах. Гэтым жа разам так паступіць нядобразычліўцам было не складана, бо Алелькі, інакш Алелькавічы — знакаміты княжацкі род герба «Пагоня», адна з галін Гедымінавічаў. Заснавальнікам гэтага роду быў Аляксандр, якога часцей называлі (дый называюць!) Алелька. Алелька — сын кіеўскага князя Уладзіміра, унук вялікага князя Вялікага Княства Літоўска Альгерда, праўнук Гедыміна. Зразумела, У. Дубоўка Ганне даў прозвішча невыпадкова. Тым самым правёў як бы ўнутраную сувязь паміж днём сённяшнім і сівой даўнінай, напомніў аб нашых каранях, вытоках. Пільныя ж цэнзары дый тыя, хто ім мог падказаць гэта, на шчасце, пра Алельку і Алелькавічаў нічога не ведалі. Таму аповесць «Ганна Алелька» і выйшла асобнай кнігай.

У шэрагу навукова-папулярных твораў У. Дубоўкі асаблівае месца займае аповесць «Як Алік у тайзе заблудзіўся». Гэта свайго роду маленькая энцыклапедыя, са старонак якой можна даведацца вельмі шмат пра жыццё тайгі, яе насельнікаў. Юны герой твора — сямігадовы хлопчык Алік. Калі верыць аўтару, з Алікам У. Дубоўка быў знаёмы: «Яго расказ пра свае прыгоды здзівіў усіх няведама як. Я тады, паслухаўшы яго, запісаў усё на паперу, нічога не перайначыўшы. Прыйшлося перарабіць толькі імя, каб малы не дужа ганарыўся». Заблудзіўшыся, хлопчык адзін правёў у лесе шэсць дзён, пакуль жывы-здаровы ўрэшце ні сустрэўся з бацькамі.

Небяспечнае падарожжа не па добрай волі мела добры зыход таму, што Алік з расказаў бацькі, іншых дарослых назаўсёды запомніў: «...сапраўдны таежнік нават ноччу знаходзіць дарогу паводле зорак, а ўдзень — паводле многіх іншых прыкмет. Напрыклад, з якога боку мох пышней расце на дрэвах, у які бок яны нахіл маюць… Ды ці мала ўсялякіх іншых прыкмет ёсць для гэтага». А яшчэ хлопчык ведаў, чым карысныя самыя розныя расліны. Ведаў ён і звычкі звяроў, іншых насельнікаў лесу. Таму і адчуваў сябе ў тайзе ўпэўнена.

У аповесці, між іншым, даецца падрабязнае апісанне многіх раслін. Але ўсе гэтыя звесткі пісьменнік падае не як суму фактаў, а праз стасункі юнага героя з прыродай. Скажам, прачнуўся Алік раніцой, зірк у сваю схованку, а арэшкаў, якія прыхаваў вечарам, няма:

«— Ах ты, бурундук-разбойнік! Пасварыўся хлопчык у бок дрэва. — Не мог ты сам назбіраць сабе арэхаў?!

А бурундук з дупла мордачку высунуў ды толькі пасміхаецца і нібыта прамаўляе: «Дзень добры, Алік! Не сварыся! Глянь ідзі ў ручай. Там для цябе снеданне лепшае, чымся арэхі…»

Сапраўды: цуд дый толькі: «Падышоў Алік да ручаінкі, каб памыцца ды на сябе ў воднае люстэрка паглядзець, аж бачыць, што ў гэтым месцы ручай нібы вадзяную кішэнь у беразе ўтварыў. І зайшла ў гэтую затоку, у гэтую кішэнь рыбіна вялікая адна. Хоць голымі рукамі бяры».

Не разгубіўся Алік, кемнасць праявіў: «гарлавіну затокі пяском заваліў-засыпаў, пасля яшчэ і плітку каменную паклаў зверху», а пасля кепкай ваду выліў і злавіў маладога тайменя. А паколькі да гэтага здабыў агонь, дык, абгарнуўшы рыбу лістамі баршчэўніку, абмазаўшы яе глінай, падсмажыў у прысаку.

Шмат трапных назіранняў, абагульненняў і ў кнізе апавяданняў-успамінаў «Пялёсткі» (1973). Гэтыя творы народжаны з пражытага-перажытага. Як бы падае пялёстак за пялёсткам, і ажывае тое, што аўтару ніколі не забывалася. Сярод гэтых згадак і ўспамін пра першы верш. Склаў яго маленькі Валодзя яшчэ ў чатырохгадовым узросце. Атрымаў ён тады з матчыных рук «круглы, як сонейка, гарачы, як матчына ласка, спажыўны, як родная зямля», грэцкі блін.

Дзіцячыя творы У. Дубоўкі, безумоўна, плённы набытак нашай літаратуры для дзяцей і юнацтва. Шкода толькі, што яны не перавыдаюцца.

Святлана ДЗЯНІСАВА

# ШПАЦЫР НАВОБМАЦАК

***У суперпапулярным тэлесерыяле пра Стэфанію Станюту адсутнічае фінальная сцэна — яна аддадзена ўяўленню гледача. Як і ўвесь серыял, з усімі іншымі сцэнамі, — яго папросту не існуе.***

***Калі б я была рэжысёрам, я б зняла серыял пра Станюту. І аддала б фінальную сцэну ўяўленню гледача.***

Што я там пісала — у той сваёй папярэдняй («Такі ліст мне табе адсылаць нельга», «Полымя», № 5—2014) публікацыі з лістамі да Стэфаніі Станюты пра іх аўтара? Што ні імя яго поўнага (ці сапраўднага), ні прозвішча, ні адраса, ні пасады, ні дакладнага месца працы — нічога нідзе не ўказана — ні ў лістах, ні на канвертах. Ёсць толькі заўсёднае «Аля» (зрэдку — «А.» ці «Ал.») пасля трапяткога (ну канечне ж, трапяткога) «цалую» і адзін-адзінюткі аўтограф, што складаецца з літарак «Ц», «и», «р» — у тым, безумоўна, выпадку, калі яны прачытаны мной правільна. Бо і «Ц» можа не менш паспяхова чытацца як «У» (з гнутым хвосцікам — чаму не?), і ўсе астатнія літаркі — калі глядзець на іх пад новым градусам — бяруцца пад страшэннае сумненне. Не будзем тут узгадваць афарызмы пра апошняе: маўляў, яно хутчэй прывілея — для, прынамсі, тых, хто мае сваю думку. Не ў тэму неяк. Ды і не важна. А важна, між тым (можа здарыцца), тое, пра што я там не напісала.

Перш чым пачаць апавядаць чытачу пра свае ўпартыя пошукі немаведама каго, скажу, што гэты дэтэктыўна-паўмістычны аповед не ўтрымлівае лістоў Алі да Стэфаніі Станюты за выключэннем урыўкаў — з тых, што прыводзяцца Аляксандрам Станютам у яго кнізе «Гарадскія сны», або з тых, што прайшлі праз маю папярэднюю публікацыю. Не атрымаўшы дазволу сям'і актрысы на далейшае друкаванне лістоў, я ўсё ж пакідаю за сабою права апеляваць да некаторых месцаў перапіскі — тых месцаў, што маглі б праліць хоць цьмянае святло на асобу, фотаздымак якой (копія) стаіць цяпер у прыгожай рамцы на маім пісьмовым стале. У тым, што святло гэтае будзе цьмяным, я ўжо збольшага пераканалася: мой пошук нагадвае (тут дадаю аптымістычнае «пакуль»!) шпацыр навобмацак.



*Аўтограф Алі.*

*...Мне падсунулі адну працу: віцебская філія БЕЛАППа (ты ведаеш, што гэта за звер, напэўна) выпускае свой гадавы зборнік, і мне даручылі палову яго прарэдагаваць. Давядзецца пася-*

*дзець, калі не ўдасца адбрахацца, хаця нягожа, бо гэта грамадская нагрузка. А мне гэта цяжкавата, я не асабліва моцны ў літаратурнай беларускай мове. Газетную і канцылярскую я ведаю большменш трывала, хаця і гавару жахліва, як ты ведаеш…*



Стэфанія Станюта.

Ліст датаваны (дата пазначана ўверсе, над… хацела напісаць «над вітаннем», але рука спынілася: ён жа, Аля гэты, ніколі — ні ў адным сваім лісце — не вітаецца, ён або пачынае зваротам — *«Стэфік!», «Каханая!», «Мой мілы, каханы Стэфік!»* (адно і тое ж, далібог!), або літаральна адразу прыступае да справы (ці канстатацыі факта): *«Па-першае, не звяртай увагі на мой почырк», «Аловак зламаўся ў самым пачатку ліста», «Мне сумна», «Заўтра 1-ае мая», «Дні цяпер залацістыя»*)…

Ліст, значыцца, датуецца так: *12.V. 30 г.*

Што мы маем, спадарства? Ну, з улікам таго, што мы хочам даведацца, кім быў гэты чалавек (ці гэта толькі я такая цікаўная?)?

Мы бачым, што Аля атрымлівае даручэнне прарэдагаваць кніжку віцебскіх прадстаўнікоў Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Але пры гэтым — амаль не валодае мовай. Арыгінальны падыход! Хто ён такі, гэты Аля? Прамога дачынення да колаў мастацтва — літаратараў, музыкаў, тэатралаў — не мае («*я, праўда, не знаток балета*»), але цікавіцца ўсім гэтым — і коламі, і мастацтвам — далібог, не «проста так».

У 1930-м Віцебская філія БелАПП (як піша наш Аля — БЕЛАППа) сапраўды выпусціла свой гадавы зборнік, назваўшы яго настраёва-спецыфічна і таму абсалютна неарыгінальна — «Рытмы будавання». Выданне гэтага мне ўбачыць не давялося — яго як быццам няма (не знойдзена або не захавалася), але паводле інфармацыі, атрыманай у Беларускім дзяржаўным музеі-архіве літаратуры і мастацтва (ад вядучага навуковага супрацоўніка Віктара Жыбуля) выходзіў зборнік пад рэдакцыяй Язэпа Мазуркевіча. Ясная справа, што прозвішча Алі ў «выходных дадзеных» фігураваць не павінна — нават калі б ён адрэдагаваў не палову гэтай кніжкі, а ўсю цалкам. Бо калі і рэдагаваў ён яе, то не як літаратурны (не ведае ж мовы), а як палітычны (ці ідэалагічны) рэдактар, як цэнзар — на прадмет «контррэвалюцыйнай прапаганды».

Вось гэта — адзіная рэальная зачэпка. Зачэпачка, калі быць больш аб'ектыўнай. Але менавіта з-за яе ад дырэктара БДАМЛіМ Ганны Запартыка сыходзіць парада «паўважлівей прыглядзецца да адной вельмі неадназначнай асобы».

Я прыгледзелася. Таму і выкладаю тут некаторыя цьмяныя факты. Чарговы — урывак з ліста ад *15/II.34г.:*

*Вось і мяне пачынаюць даймаць кантрасты. Насамрэч: Берлін, Венецыя, Берн, Вена і... Сызрань. Нелегальная праца за кардонам, гады грамадзянскай вайны і... утульны кабінет, зваркі і дробязі «аседлай» працы.*

Тую вельмі неадназначную асобу звалі Аляксандр Фёдаравіч Ульянаў. Ну, або, у некаторых выпадках, таварыш У. Загадкава так…

Не, я не раблю тут ніякіх высноў: занадта далёка да факталогіі. Хіба што кантрасты… «*Берлін, Венецыя, Берн, Вена і... Сызрань. Нелегальная праца за кардонам…*»

«Варшава, Прага, Берлин, Данциг, Ковно, Вильно, Рига... Со всеми знакомый, всюду принятый, всех (или почти всех) обаявший и приручивший, Александр Федорович снует между центрами белорусской эмиграции подобно челноку», — піша пра Ульянава (падкрэсліваю: пра Ульянава) журналіст Сяргей Крапівін у артыкуле «Глухая пора листопада», надрукаваным у «Народнай Волі» 19 кастрычніка 2010-га. Я, канечне ж, успамінаю радкі Алі пра статую Дыяны ў горным гарадку Швейцарыі: *«Калі надыдзе вечар майго жыцця, ты будзеш гэтак жа стаяць над ім, залітая сонцам, прыўкрасная і чыстая, як тая статуя над горным гарадком»*. Натуральна, узважваю: Швейцарыя ў геаграфіі таварыша У. — па меншай меры, не заяўлена.

Ці можа Аля быць Аляксандрам Ульянавым?

У заведзеных мною на гэтых дваіх «асабовых справах» ёсць даволі істотныя несупадзенні. Канечне, яны слушныя толькі ў тым выпадку, калі прыняць за «жалезабетонныя» тыя факты, што і першы пісаў пра сябе найчысцейшую праўду, і пра другога інфармацыя справядлівая (ці хаця б нешта адно). Але Ульянаў, як чытаю ў артыкуле-даследаванні Сяргея Крапівіна, да 1917-га займаўся вучобай, у арміі — не служыў. Аля — вернемся да першай публікацыі — вельмі каларытна апісвае свой, па ўсім відаць, досыць сур'ёзны ўдзел у грамадзянскай вайне (памятаеце, як ён апісваў аднаго байца? — *«праз яго беглі ў атаку ворагі, дык ён кусаў іх за ногі, пакуль яму не выбілі зубы»*) і канстатуе, што менавіта з-за яе, грамадзянскай вайны, *«вельмі адстаў у сваім развіцці»*, таму пасля *«ўвесь свой вольны час праводзіў за кнігамі»*, чым, натуральна, перакрэслівае абедзве папярэднія акалічнасці адначасова.

Вось што стала вядома пра Ульянава ў выніку невялічкіх «пошукавых мерапрыемстваў». Нарадзіўся ў 1901-м, але ў анкетах пісаў, што ў 1897-м. Чамусьці. Месца нараджэння і паходжанне — Мінск, з сям'і ўрача-акуліста. Шмат хварэў, у тым ліку на туберкулёз. З 1917-га па 1922-гі быў членам партыі эсэраў. У 1919-м арыштаваны польскімі ўладамі, але хутка вызвалены. Зноў напішу тут «чамусьці». Калі ў 1921-м чэкісты ўчынілі масавы арышт прадстаўнікоў адзначанай партыі, Ульянава не арыштавалі. Зноў жа, па нейкай прычыне. Наадварот нават — яго кар'ера, як сказалі б сёння, пайшла ўгору: у 1922-м ён — намеснік упаўнаважанага Наркамата знешняга гандлю ў БССР, у 1924-м — дырэктар Паўднёвага аддзялення трэста «Лесбел» у Крыме, потым кіруе аддзяленнем таго ж трэста ў Рызе, з 1925-га — саветнік паўнамоцнага прадстаўніцтва СССР у Польшчы.

Не ведаю, ці запараленіў чытач арышт Ульянава ў 1919-м і яго неарышт у 1921-м. Не ведаю нават, ці канцэнтраваць мне на гэтым увагу і ці трэба ўвогуле апісваць тут лёс таварыша У. падрабязна: раптам здарыцца, што Аля — ніякі не Аляксандр, Ц. — не У., а вышукваць імя адрасата Станюты — апошняя вартая высілкаў справа. Але… У мяне ёсць матэрыял — і я з ім працую.

Ва ўспамінах і дакументах Ульянаў фігуруе як надзвычай вынаходлівы і вельмі працаздольны.

Працаздольны…

Узгадваюцца радкі Алі пра яго заўсёдную занятасць: «*Пяць начэй я амаль не спаў, насіўся па вёсках на марозе і дажджы», «ты думаеш, 29 я меў выходны? Не, канечне. Значыцца — пайшоў ужо пяты месяц маёй бесперапыннай працы*»,

«*я працаваў запар 36 гадзін і цяпер думкі блытаюцца, як у трызненні*», «*сёння ў мяне зноў наперадзе праца на цэлыя суткі. Каб напісаць гэтыя некалькі лісткоў, я не пайшоў абедаць»*.

«Наблюдателен, склонен к анализу, умел находить нужную информацию, выделять в ней главное. Владел искусством общения с людьми, слушать собеседника, донести до него свою точку зрения, убедить в правильности именно ее. В силу своих способностей не только мог контролировать обстановку, но и влиять на нее», — чытаю гэта ў даследчыкаў Мікалая Ількевіча і Расціслава Платонава — у іх працы пад назвай «Александр Ульянов и версия НКВД об антисоветском подполье в БССР» — і зноў успамінаю некаторыя радкі Алі: «*калі хачу, то звычайна ўмею дасягнуць», «у мяне ж воўчая хватка», «хачу, каб ты думала гэтаксама, як я, адчувала, як я», «хачу не толькі жыць, я хачу яшчэ і разумець жыццё і прадбачыць яго развіццё»*.

У адным артыкуле Ульянава называюць субтыльным шатэнам з рэдзенькай бародкай. У Алі бародкі няма. Прынамсі, на фотаздымках.

Ульянаў, маўляў, выпелегаваны-выглянцаваны, франт, кафэшантанны П'еро. Але ж і Аля — нічога сабе выглядае.

Ульянаў курыў, пішуць, люльку. Чорт (любімае Аліна слоўка)! Аля на здымку — з люлькай!

Ну, і што з таго?

* * *

*«Адрас мой такі,* — піша Аля ў лісце ад *5/VI. 30 г. — Ст. Новасергіеўская, Ташкенцк. ж.д. курорт «Чырвоная Паляна».* Як жа захацелася раптам кінуць усё і паехаць туды! Быццам часу — не існуе. Быццам там ён — сядзіць і чакае. «Прывітанне! Я — Аля. Вы шукалі мяне», — канстатуе. «Так, шукала», — адказваю ўражана… Верагоднае немагчымае — гэта лепш, чым неверагоднае, але магчымае. Здаецца, Арыстоцель.

Тым часам, лісты Алі да Стэфаніі Станюты на 29-і аркушыках з блакнота перададзены ў Дзяржаўную ўстанову «Навукова-практычны цэнтр Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь». Разам з запіскай, зробленай, як сцвярджаюць у БДАМЛіМе, рукой Аляксандра Ульянава, ім належыць падвергнуцца почырказнаўчай экспертызе. Спецыяльнага навуковага аналізу чакаюць таксама фотаздымкі: тры Аліных і адзін Аляксандра Ульянава. Апошні — і ў анфас, і ў профіль.

Турэмны таму што.

Пра тое, што было з Ульянавым далей, напісана вельмі сур'ёзнымі даследчыкамі і даволі шмат. Я толькі «канспектыўна» ўзгадаю асноўнае.

1 снежня 1930-га «Известия» пісалі наступнае: «*МИНСК, 30 ноября. (ТАСС). ОГПУ Белоруссии арестована контрреволюционная интеллигентская группа национал-демократов, состоящая в подавляющем большинстве из бывших эсеров и белогвардейских эмигрантов, вернувшихся из-за границы»*.

Праз два месяцы Ульянава абвінавацілі ў тым, што ён быццам бы прыкрываў справы «нацдэмаўскай інтэлігенцыі». Неяк так. «В результате — строгий выговор по партийной линии и запись о «невозможности дальнейшего использования на работе по линии НКВД», — чытаю зноў Ількевіча і Платонава. І далей: «Случившееся однако не привело к прекращению осведомительской работы А. Ф. Ульянова в среде белорусской интеллигенции. Для ГПУ он попрежнему оставался ценным агентом, способным оперативно дать необходимую информацию».

У маі 1937-га Аляксандра Ульянава арыштавалі, абвінаваціўшы ва ўдзеле ў нацыяналістычнай арганізацыі. Ён «прызнаў», што стаў «замежным шпіёнам»

і што гэта здарылася ў 1925-м (калі таварыш У. арганізаваў і правёў Берлінскую канферэнцыю, вынікам якой стала пастанаўленне «спыніць існаваньне Ўраду БНР і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі»). Як дакладна ён гэта «прызнаваў», апісана ў згаданай ужо працы Ількевіча і Платонава, другая назва якой, пададзеная ў дужках, гучыць так: «Фальсификация органами НКВД уголовных дел в 1937—1938 гг.».

Я магла б тут напісаць, як ні ў чым не вінаватага Ульянава чатыры разы дапыталі ў турме НКУС БССР, а пасля спецканвоем адправілі ў Маскву, як судзілі яго там на працягу ўсяго 15-і хвілін і як расстралялі адразу пасля прачытання прыгавору. Але ўсё гэта, можа так здарыцца, да сапраўднага героя маёй публікацыі не мае ніякага дачынення…

* * *

Дзіўная рэч — расследаванне, тым больш дзіўная — расследаванне справы амаль стогадовай даўнасці. Калі першы раз патэлефанавалі з БДАМЛіМа, я першую палову шляху туды неслася як на пажар і з адчуваннем страчанай прытомнасці адначасова: зараз, маўляў, даведаюся, хто такі Аля. «Зараз — даведаюся! Зараз — даведаюся!» — тахкала ў галаве і грудзях.

Па выхадзе з метро на Нямізе настрой мой зрабіў рэверс. Змянілася інтанацыя: зараз я даведаюся, хто такі Аля? Вось зараз? Даведаюся? Праз які месяц, не болей, пошуку? І ні табе складанай адпрацоўкі шматлікіх, між сабой пераблытаных версій, ні змарнаванага на памылковыя крокі і тупіковыя версіі часу, ні хаця б паўпрароцкіх — «мендзялееўскіх» — сноў ці паглыбленых ведаў пра тую эпоху…

Сурочыла.

Запіска Аляксандра Ульянава, змест якой датычыцца, па словах Ганны Запартыка, яго меркавання наконт паэмы Віктара Казлоўскага *(«Увогуле друкаваць можна, толькі трэба надаць паэме больш выразнасці…»*), ніводнай сваёй літарай лісты Алі не нагадвае. Што, безумоўна, яшчэ ні пра што не сведчыць. Галоўнае слова — за экспертамі-почырказнаўцамі, на іх — палова ўсіх спадзяванняў. Другая палова ўскладаецца на экспертаў у галіне навуковага фотапартрэтнага даследавання.

Так я разважаю, разглядаючы фотаздымак Ульянава і параўноўваючы яго з Аліным. Прыгажун апошні, калі глядзець «абывацельскім» вокам, зусім не падобны на зняволенага першага. Але ж пра першага казалі некалі, што ён «франт». Нічога дзіўнага: турма каго заўгодна зменіць.

Вось нос. Нічым асаблівым ад Алінага не адрозніваецца. Бровы? Бровы як бровы. Правая ўскінута ўгору, гэта, па ўсім зразумела, нервовае. А на які бок кладуцца валасы ад прабору? У Алі на правы, а ў таварыша У.? На жаль, ён проста моцна аброслы.

Пісалася (недзе ва ўспамінах Паўліны Мядзёлкі), што фотаздымак Аляксандра Ульянава стаяў некалі на пісьмовым стале Янкі Купалы. Вось там ён павінен быў выглядаць франтам. На жаль, той фотаздымак не захаваўся. І падобна на тое, што гэты турэмны — на сёння адзіны «ўльянаўскі». Аліных фотаздымкаў ажно тры: у кепцы, у шаліку і за працоўным сталом.

«Проведенное исследование представленных фотоснимков позволило установить, что:

— фотоснимок № 1 (Ульянава. — **Заўвага аўтара**) снят с соблюдением франкфуртской горизонтали (такое положение головы фотографируемого в профиль, при котором величина угла, образованного условной линией, проходящей через вершину козелка и наружный угол глаза, и горизонталью, проведенной через вершину козелка, составляет 15$^{o}$. Для фотографируемого в фас — условная линия, соединяющая надкозелковые точки, проходит по нижнему краю глазниц).



*Аля.*




*Аляксандр Ульянаў.*

Фотосъемка произведена по правилам сигналетической фотосъемки: положение головы фотографируемого нормальное (без наклона и поворота); запечатлено два положения головы — анфас и правый профиль; волосы и детали одежды не закрывают существенные элементы лица, в частности ушные раковины; использовалось комбинированное освещение с положением главного источника света под углом 40-45° к плоскости лица, несколько сверху; лицо сфотографировано без головного убора.

— фотоснимки №№ 2 и 3 (Алі ў шаліку і Алі ў кепцы. — **Заўвага аўтара**), а также черно-белое фото-изображение прямоугольной формы, распечатанное на листе белой нелинованной бумаги формата А4 (Аля ў працоўным кабінеце. — **Заўвага аўтара**), не отвечают критериям полноты отображения внешнего облика человека, предъявляемым для объектов, представляющихся для решения идентификационных задач. Вид и характер освещения, положение головы фотографируемого относительно фокальной плоскости фотоаппарата (полуанфас со значительным наклоном и поворотом головы), ракурс фотоснимков, наличие головного убора не позволяют с необходимой точностью определить антропометрические точки и установить величину, внутренние и внешние пропорции индивидуализирующих признаков внешности».

Даследаванне зроблена супрацоўнікамі Дзяржаўнай установы «Навукова-практычны цэнтр Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь» — начальнікам навуковага аддзела крыміналістычных даследаванняў Арцеміем Вадалазавым і вядучым навуковым супрацоўнікам навукова-дослед-чай лабараторыі крыміналістычных даследаванняў дакументаў і почырку, доктарам тэхнічных навук Віктарам Рэвінскім.

Гэта называецца «праехалі». Ды каб жа наш Аля ведаў, як трэба здымацца, каб праз восем з паловай дзесяцігоддзяў яго фотаздымак паспяхова аналізавалі і ідэнтыфікавалі вельмі сур'ёзныя навукоўцы з падачы адной вельмі цікаўнай асобы… Каб жа думаў ён тады пра франкфурцкую гарызанталь…

Успомніліся радкі пра «адчайную морду».

*Я яшчэ не паспеў зняцца, але днямі здымуся і вышлю табе фотакартку. Пакуль жа пасылаю табе аматарскі здымак «фінагенава». Ты толькі не разлюбі мяне па гэтым здымку — адчайная бо выйшла морда!*

Раней, чым справаздачу аб фотадаследаванні, я атрымала заключэнне спецыялістаў-почырказнаўцаў. І на момант чытання першай ужо ведала: «Ксерокопия записки Александра Ульянова и письма неизвестного автора на имя актрисы Стефании Станюты (на 29 листах) выполнены разными лицами».



*Запіска, прадстаўленая супрацоўнікамі БДАМЛіМ як узор почырку Аляксандра Ульянава.*

Почырказнаўчае даследаванне праведзена супрацоўнікамі Дзяржаўнай установы «Навукова-практычны цэнтр Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь» — навуковым супрацоўнікам Аленай Сядовай, старшым навуковым супрацоўнікам Мікалаем Манілкіным і вядучым навуковым супрацоўнікам, кандыдатам юрыдычных навук, вядучым экспертам Галоўнага ўпраўлення крыміналістычных экспертыз Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь Ганнай Купрыянавай.

Што дазволіла свярджаць пра рознасць аўтарства запіскі і лістоў?

«Почерк, которым выполнена ксерокопия записки Александра Ульянова, характеризуется простыми высоковыработанными движениями, быстрым темпом. Наклон букв преобладает левый (имеют место буквы, выполненные без наклона), размер от среднего до большого, преобладает большой, разгон в пределах среднего, расстояние между строками большое».

Выяўленыя адрозненні прыватных і агульных прыкмет почырку лістоў і запіскі зведзены даследчыкамі ў табліцу. Згодна з ёю, узровень выпрацаванасці ў запісцы («па ступенях дасканаласці») ніжэйшы, чым у лістах; памер і разгон у запісцы значна большыя і менш устойлівыя; будова пры выкананні літар «я» і «е» — у запісцы спрошчаная за кошт страты трэцяга элемента або заключнага штрыха, у лістах простая (па прописях); накірунак рухаў пры выкананні элементаў літар «ы» і «ь», а таксама заключнай часткі другога элемента літары «д» — у запісцы правакружны, у лістах левакружны; форма рухаў пры выкананні першага элемента літары «т» — у запісцы дугавая, у лістах зваротна-прамалінейная; працягласць рухаў па вертыкалі пры выкананні падрадковага элемента літары «ц» — у запісцы значна большая, чым у лістах; від злучэння рухаў пры выкананні элементаў літары «н» — у запісцы зліты, у лістах інтэрвальны.

Такім чынам, істотных супадзенняў прыкмет не выяўлена. А выяўленых разыходжанняў агульных і ўстойлівых прыватных прыкмет у сукупнасці — дастаткова для высновы, што запіска і лісты пісаліся рознымі асобамі. Але ўсе прааналізаваныя лісты да актрысы выкананы адным чалавекам.

Устанавіць гэта было таксама важна. Памятаеце, я ў першым артыкуле акцэнтую ўвагу на тым, што почырк у лістах, прысланых у 1935-м з Сызрані, «неверагодна непадобны сам на сябе, вельмі «раскіданы», таропкі і… быццам абыякавы да сябе, з кожнай старонкай усё болей»?



6.IV.30.

Мне скучно: от Стефика сегодня нет письма. Все-же таки она не исполнила обещания – писать каждый день. Ну, ничего. Видно у тебя были причины. Я только беспокоюсь не заболела-ли ты. У

*Фрагмент ліста Алі.*

Увогуле, почырк Алі (невядомай асобы, як называюць яго эксперты) характарызуецца (згодна з заключэннем) высокай гарманічнасцю (суразмернасцю, узгодненасцю) рухаў, што сведчыць пра адоранасць, высокія разумовыя здольнасці, наяўнасць густу і ўнутранай культуры. Графалагічнасць указвае на самабытнасць асобы. Такі чалавек не здавольваецца толькі прыстасаваннем да ўмоў сваёй дзейнасці, але імкнецца прынесці ў жыццё нешта сваё, новае і арыгінальнае — літаральна так заяўлена даследчыкамі. Разам з тым імі канстатуюцца жорсткасць, нізкая адчувальнасць да стрэсаў, самаўпэўненасць і крытычнасць.

Ну, некаторыя высновы мы, як чытачы, зрабілі непасрэдна з тэксту лістоў, ці не так? Першае і самае істотнае, што мяне на момант прачытання высноў хвалявала, — гэта пытанне суб’ектывізму экспертных ацэнак: ці не ўплывае на псіхалагічны партрэт змест лістоў? Няўжо такія высновы зроблены толькі на падставе графічных выяў? Каб высветліць усё да канца, я звярнулася да аднаго з экспертаў, Ганны Купрыянавай, з просьбай даць падрабязнае інтэрв’ю.

Ганна Антонаўна пачала здалёк.

— У графалогіі патрэбны не толькі веды. Ты можаш быць прафесарам, але калі ў цябе няма інтуіцыі, нічога ў цябе не атрымаецца. Чалавек можа бачыць скрозь сцяну, і калі ён прагне такога ўмення, яго трэба ўзяць і навучыць гэтаму. Чалавека можна пасадзіць у адным пакоі, а ў суседнім пусціць па сцяне вусеня, і чалавек той, калі ён трэніраваны, будзе дакладна ведаць, што ў суседнім пакоі па сцяне паўзе вусень...

* * *

Адным, даволі насычаным пошукам, днём я натрапіла на адну манахіню. Выслухаўшы пытанне, яна папрасіла ператэлефанаваць ёй пасля вячэрняга малітоўнага правіла. Ператэлефанавала. Ці гэта быў толькі сон?

— Так, са Стэфаніяй Міхайлаўнай я была вельмі блізкай у канцы яе жыцця. Так, ведаю, ад каго яна атрымлівала лісты ў 1930-я. Ведаю яго імя, і кім ён быў — таксама ведаю. Успаміны гэтай светлай, неверагодна добрай, быццам сонейка, жанчыны я захоўваю ў сшытку, у які іх сама запісала. Не, я ніколі нікому не скажу, хто гэты чалавек. Скажу толькі, што асоба гэта была вядомая. Не і не,

дзіця! Не ўгаворвай мяне. Я сталая жанчына, пражыла доўгае жыццё і маю непахісныя перакананні.

«Ну, а як ты хацела? — спытала я сябе. — Трошкі напружыцца — і атрымаць прозвішча Алі на сподачку?» Але цікава, чаму манахіня прасіла ператэлефанаваць, а не адмовіла адразу? Чаму так ініцыятыўна распавяла пра некаторыя акалічнасці — запісаны ў сшытак успамін, вядомасць асобы?..

Ды гэта блеф!

Але ж яна манахіня…

А мо гэта быў толькі сон?

* * *

Перад Наталляй Быкоўскай, экспертам-графолагам ТАА «Кінэзіа», была пастаўлена задача не толькі стварыць псіхалагічны партрэт аўтара лістоў, але і параўнаць душэўныя станы: зрабіць аналіз прыгожага роўнага почырку 1929—1930 гадоў і «раскіданага» 1934—1935 гадоў — па сутнасці, параўнаць узнёслыя віцебскія лісты Алі з яго ж дэпрэсіўнымі сызранскімі.

У кароткім графалагічным заключэнні (гэта яно так афіцыйна названа: «Краткое графологическое заключение», хоць на справе ўяўляе сабой табліцу на тры старонкі) першым падаецца аналіз почырку самай першай запіскі, у якой Аля звяртаецца да адрасаткі яшчэ ініцыяламі: «*С.М.!*»

*С.М.!*

*Мне б вельмі хацелася ўбачыць Вас сёння і сказаць колькі слоў. Тэлефанаваў некалькі разоў у тэатр, але Вас там не было. Калі можна — паведаміце мне па тэлефоне (да 4-й гадзіны ў Аддзел). Сёння вечарам я буду ў тэатры; калі палічыце патрэбным і магчымым, то Ваша рашэнне неяк мне перадайце.*

*11/XII. 29 г.*

Заўвага між радкоў. Хочацца адзначыць грунтоўнасць, якую мелі людзі мінулага. Хіба мы сёння на нашых запісках, калі яны ўвогуле здараюцца, ставім дакладную дату — дзень, месяц, год?

Вяртаемся да аналізу. Вузасць почырку, зніжаная чытэльнасць, форма літар — вуглы (пераважна), аркады; штрыхі зваротныя, вострыя; прапісная літара павялічана; словы, знакі прыпынку, радкі — усё на выверанных адлегласцях. Памер літар няўстойлівы; нахіл няўстойлівы; павялічана сярэдняя зона літар; спазміраванасць напісання; літары не дапісаныя і адкрытыя зверху.

Што з гэтага вынікае? Аказваецца, вось што.

Ідэаліст. Мысленне характарызуецца вельмі маруднай і жорсткай (непарушнай) разважлівасцю, з тэндэнцыяй да дагматычнай фіксаванасці. Прымхлівы, трымаецца асобна. Знешне стварае ўражанне моцнага чалавека, але ўнутрана падаўлены. Абапіраецца на логіку сам і патрабуе лагічнай аргументацыі ад іншых. Падае сябе стрымана, прадстаўніча.

Другім па ліку пададзены аналіз кароткага ліста ад *29.III. 30 г.*, які пачынаецца, як і большасць іх, знянацку, без вітання: «*Ты пішаш мне пра Блока. Так, правільна, Блок містык*» і заканчваецца развагамі пра акцёрскае майстэрства і мастацтва наогул.

*Я чытаў недзе ў часопісе пра адну перасоўную групу акцёраў: у вёсцы мужыкі не пусцілі начаваць артыстаў, якія ігралі белагвардзейцаў, — і не далі ім хлеба! Астатніх жа насілі на руках. Напэўна, усе там ігралі таленавіта. Канечне, гэта рэакцыя дзяцей ці паўдзікуноў — але вельмі павучальная.*

*Я магу прывесці прыклады і з ігры акцёраў Мінскага тэатра. Скажам, ролю Бярсенева ў «Разломе» або дырэктара ў «Рэльсах». Я да таго, што мерка-*

*ванне, быццам адмоўныя ролі можна выконваць бяздарна, — глупства. Так прыкладна думалі некалі імпрэсіяністы і іншыя, што прымазаліся да мастацтва. Гэта трэба кінуць.*

*А.*

Почырк зрабіўся больш вузкім, з'явіліся выпраўленні, парушана поле справа. Штрых пад мікраскопам праанялізаваць не ўдалося (з-за таго, што лісты пісаліся пяром або алоўкам), таму, заключае эксперт, карціна паверхневая. Тым не менш, у табліцы справа — цэлы шэраг якасцей: чалавек сацыяльна нягібкі, бывае незразумелым з-за сваёй катэгарычнасці і ўпартасці, схільны да адзіноты, якая іграе ролю ахоўнага механізму яго псіхікі і якую ён кампенсуе імкненнем «узвысіцца» — каб жыццё набыло сэнс. Кола знаёмстваў вузкае, трымае межы ў стасунках. Паважае закон і парадак, верыць у неабходнасць маральных каштоўнасцей. З-за няўпэўненасці ў сабе і адчування няпаўнавартаснасці хавае свае праблемы, часам свядома, а часам і несвядома. Ідэалістычна імкнецца рэалізаваць нейкую магчымасць, не ўлічваючы пачуццяў і патрэб іншых людзей. Яго ўласнае меркаванне, у якім ён упэўнены, з'яўляецца для яго адзіна важным. Яму не вельмі ўдаецца дасягнуць мэт, бо не ацэньвае свае магчымасці адэкватна, стамляецца ад перанапружання, не вылучае часу на адпачынак. Эмоцыі імкнецца трымаць пад кантролем, на словы скупы, вельмі асцярожны і скрытны. Справу ставіць вышэй за асабістае, працу выконвае педантычна, схільны да бюракратыі, любіць аналізаваць. Падвергнуты зменам настрою, з-за чаго канцэнтрацыя ўвагі зніжана. Яму складана аддзяляць галоўнае ад другаснага і быць аб'ектыўным. Пакутуе ад унутранай расшчэпленасці і дэпрэсіі. Недаверлівы і крытычны.

Што да параўнаўчага аналізу лістоў, пісаных на душэўным уздыме ў Віцебску, і тых, што літаральна вымучваліся ў Сызрані («*Пісаць пра сябе мне зараз цяжка. Я сам сябе не цярплю»; «Калі і як скончацца мае адвечныя бадзянні? Бадзянні чалавека, у якога няма радзімы, няма блізкіх людзей, няма прытулку? А вось ты, чыёй блізкасцю я так даражыў, — ты далёка і яшчэ пытанне — ці ўбачу я яшчэ калі цябе. Пытанне, баюся, невырашальнае...»; «За апошнія два гады мне ў жыцці не здаралася нічога такога, што варта было б успомніць. Страшная бязглуздзіца!»*), то заключэнне эксперта гучыць так: «Характарыстыкі почырку няўстойлівыя; высокая ступень неўратычнасці і дэпрэсіўнасці; калі ў 1929—1930 гадах на першым месцы былі ідэі, ідэалы, у якія ён верыў, то цяпер на першае месца выходзіць агрэсія, канчатковая страта даверу да людзей; калі раней ён мог неяк ісці на кантакт, хоць і складана, то цяпер гэта цалкам праблематычна; стаў больш рэзкім, можа свядома ісці на канфлікт, а агрэсію праяўляць не толькі словамі; перастаў давяраць інтуіцыі».

— Ну вось скажыце, як сэнс тэксту мог не ўплываць на яго аналіз? — пытаюся ў Наталлі Быкоўскай, уразіўшыся не столькі вынікамі экспертызы, колькі ўласным недаверам да такіх яе магчымасцей.

— Наша прафесія дазваляе рабіць аналіз матэрыялу, не чытаючы яго. Прынамсі, на першым этапе даследавання. Я раскажу вам, як мы яго праводзім. Спачатку ацэньваем «агульны план», дамінанту — штрыхі, лініі, іх напоўненасць, канчаткі, іншае. Гэта робіцца пераважна пад мікраскопам. Пасля — спрабуем почырк навобмацак.

— ?

— Так, літаральна. Для гэтай мэты нас вучаць валодаць пальцамі…

Не жадаючы перабіваць Наталлю, вымушана ўсё ж сказаць, што эксперты «Кінэзіа» вучыліся ў Інстытуце графааналізу Інэсы Гольдберг у Ізраілі. Раблю гэта для чытача, а Наталля, між тым, працягвае:

— …пальцамі мы вызначаем, дзе і як размеркаваны націскі. Далей… Ну, на

смак мы почырк не спрабуем (*смяецца*). Далей звяртаем увагу на вертыкальныя параметры: раскінутасць, вышыню літар, адлегласць паміж радкамі. Пасля глядзім почырк гарызантальна: палі, сімволіка, размяшчэнне, шырыня, адлегласці паміж літарамі і словамі… Далей — глыбінныя параметры: вяртаемся да націску, зноў глядзім штрых, асобнасць-злітнасць напісання, форму літар, іх структуру, дынаміку… Усё гэта не само па сабе стварае сукупнасць, а ўплывае адно на адно: карціна выніку збіраецца як пазл.

Гэта як прыём на працу. Кандыдат на добрую вакансію можа напісаць у рэзюме, што ён найлепшы ў свеце спецыяліст у сваёй галіне. Але ж праўдай гэта можа і не быць.

— Да нас, дарэчы, звяртаюцца па пытаннях прафарыентацыі. Школьнікі, безумоўна, пішуць пра свае памкненні і жаданні, але калі мы будзем іх чытаць, мы будзем, хутчэй, менавіта на сэнс і арыентавацца. Гэта называецца «почырказнаўца даў слабіну». Мы — не даём слабіны, не чытаем.

— Перад вамі ляжалі лісты, пісаныя 85 гадоў таму. Але ж светапогляды неяк, напэўна, эвалюцыяніруюць. Ці можна дакладна ацаніць якасці чалавека, не ўлічваючы менталітэту мінулага?

— Несумненна, адбітак часу на асобе і яго почырку прысутнічае. Але ўвогуле почырк — гэта адлюстраванне псіхікі, сто гадоў таму было так і сёння так. Таму магчыма аналізаваць почыркі і стогадовай даўнасці, і двухсотгадовай, і, калі пашанцуе з такім заказам, нават пісанае трыста гадоў таму. Калі казаць пра адбітак часу, то ён у сцісласці, строгасці почырку, вельмі моцным кантролі аўтара над сабой, што сведчыць пра ідэалы і мары. Нават у жорсткасці нашага героя — ідэалы і мары. Гэта жорсткасць дапамагала яму выжываць у той час, і менавіта дзеля мары.

— Значыць, калі наступным разам я прынясу да вас лісты Агінскага, вы дакладна зможаце сказаць свету пра спадара Міхала Клеафаса, сёлетняга 250-гадовага юбіляра, нешта такое, чаго дагэтуль ніхто з гісторыкаў не ўведаў?

— Цалкам верагодна.

— А памятаеце, як Аля выводзіць літару «ч» з папярэдняй коскі? Вы дзенебудзь нешта падобнае сустракалі? Што гэта: хутчэй яго асабістая прыдумка ці ў той час так рабілі многія?

— Я аналізавала почырк Янкі Купалы, то бок, якраз таго часу, але такога ў ім не назіраецца... Магчыма, гэта «ч» — праяўленне Алінай індывідуальнасці. У яго лістах увогуле шмат асаблівасцей, якія я раней не сустракала. Да прыкладу, літара «т», якая ідзе ўніз «цвічком», а вянчаецца «шапачкай»: яна то мае пятлю, то занадта высока пачынаецца. Пры гэтым існуе яшчэ адзін, непадобны на першы, варыянт яе напісання… Разам з астатнімі параметрамі — хуткасцю, кантролем, вастрынёй штрыха — першае «т» ёсць прыкмета рэзкасці, катэгарычнасці. Што такое «ніжняя зона» ў графалогіі? Гэта «ногі», фундамент — тое, што гаспадара почырку неяк кампенсуе. Увогуле, так літару «т» ніхто не піша, гэта адназначна адхіленне ад стандарту, і мы можам думаць, як гэта адхіленне інтэрпрэтаваць. Магчыма, як кампенсацыю таго, чаго гэтаму чалавеку не хапала, — спакою і стабільнасці. Па почырку гэта відаць.

* * *

Праз колькі тыдняў я зноў патэлефанавала манахіні. А мо гэта быў толькі сон? Але тады хочацца думаць, што ён «мендзялееўскі» і што будзе працяг.

— Як вы думаеце, навошта Стэфанія Міхайлаўна расказала пра гэта вам? Навошта яна ўвогуле пра гэта расказала? І навошта вы запісалі яе ўспамін у сшытак? Падумайце, ці не для таго гэта, каб аднойчы…

Яна была няўмольнай. «Не, не і не». Гэта таямніца сыдзе з ёю з зямлі назаўсёды...

А наконт магчымай вядомасці аўтара лістоў выказвалася і Ганна Купрыянава:

— Хачу вам сказаць, што шукаць яго трэба. Гэта не іголка ў стозе сена, таму што ён не мог быць чалавекам шараговым, звычайным. Аднойчы, я ўпэўнена, вы натрапіце на яго почырк у якім-небудзь дакуменце.

Нешараговы, незвычайны, вядомы. І ўсё гэта — толькі з почырку. Як так?..

Новая размова з Ганнай Купрыянавай пачынаецца з пытання пра розніцу паміж почырказнаўствам і графалогіяй. Недзе тут і хаваецца ісціна пра ўплыўняўплыў зместу тэксту на выніку. Нарэшце ўсё раскладваецца па палічках.

— Пасля рэвалюцыі 1917 года, калі графалогія была названа буржуазнай навукай, якая шырока выкарыстоўваецца буржуазнай юстыцыяй для апраўдання самавольства і беззаконнасці, мы афіцыйна вывучаем толькі почырк — толькі візуальны бок пісьма. Уласна кажучы, ён вельмі добра адлюстроўвае эмацыйны стан чалавека. Шматлікія даследаванні самых розных почыркаў дазволілі нам дасканала вывучыць наступныя эмоцыі: страх, гнеў і дэпрэсію — самыя важныя з усіх негатыўных. Лёгка можна вызначыць, пісалася тая ці іншая распіска пад прымусам ці добраахвотна. Але почырказнаўства і графалогія — не сінонімы. Почырк — толькі частка пісьма, яго графічная выява. Ёсць жа і сэнсавы бок, думка. Графалогія — навука пра пісьмо ў шырокім сэнсе, яна вывучае не толькі знакі, але і тую інфармацыю, якая пры іх дапамозе перадаецца.

Такім чынам, графалагічны аналіз, у адрозненне ад почырказнаўчага, ахоплівае і змест напісанага. Распавёўшы шмат цікавага пра гісторыю графалогіі ад 1622-га, года выхаду працы Каміла Бальда «Разважанне пра спосаб даведвацца пра звычаі і якасці пішучага па пісьму», да нашых дзён, Ганна Антонаўна вяртаецца да почырку Алі.

— Яго думкі высакародныя, а пачуццё да Стэфаніі — шчырае. Гэта сапраўднае высокае каханне — звонку, здалёк, на адлегласці, а не прымітыўная сексуальная заклапочанасць. Стэфанія павінна была даражыць ім. І чалавек гэты не мог быць простым. Займаў, хутчэй за ўсё, высокую пасаду, але таму, што вымушаны быў яе займаць. Ён быццам раздвойваўся — паміж тым, які ёсць, і тым, што павінен рабіць. У почырку гэта адлюстравана. Яго літара «ч» гаворыць пра аптымальнасць і творчасць. Ён заўсёды выбіраў найбольш рацыянальныя рашэнні. Мог бы займацца навукай. Увогуле, падобных почыркаў я не назірала. Амаль не назірала.

P. S. «*Я вельмі, вельмі, вельмі не люблю чытаць чужыя лісты*, — піша ў сваім заключэнні псіхолаг-практык Нелі Ксяневіч. — *Але... Часам яны шмат што даюць зразумець. Я лавіла сябе на процілеглых думках. Столькі ў гэтых лістах асабістага, індывідуальнага, што хочацца пакінуць таямніцу гэтым дваім, але разам з тым нешта важнае гавораць гэтыя лісты мне, чалавеку з іншага часу, іншай краіны. Перш за ўсё тое, як цяжка зразумець сябе. Ён хоча поўнага супадзення поглядаў і густаў — і выбірае яе, зусім на яго не падобную. Ён называе сябе зверам, а столькі ў яго лістах пяшчоты і беражлівага любавання. У кампаніі сабакі яму лепш, чым з людзьмі, але ён увесь час корпаецца ў чалавечай прыродзе, прагнучы дайсці да самай сутнасці. Атрымлівае асалоду ад заходу сонца, дорыць мілыя падарункі, любіць музыку, але... жорсткі, адводзіць прыродзе прыкладное значэнне, душыць аўтарытэтам: першая палова ліста, як правіла, пра сябе. Натура моцная, яркая. Ён небяспечны і прывабны, сам ходзіць па краі бездані — і яе туды цягне. Мяркую, гэтым дваім пашанцавала*

*даведацца пра тое, што адпрэчвае ўсе адрозненні і яднае, тое, што не купляецца ні за якія грошы і не ўтрымліваецца ніякімі намаганнямі. Гэта рэдка праходзіць праз выпрабаванне часам, цяжка ўпісваецца ў сямейны побыт, але гэта тое, што робіць людзей людзьмі, апраўдвае жыццё як такое, тое, што дай Бог перажыць кожнаму… І ўсё ж цікава, кім ён быў. Адназначна — героем. Умоўна людзей можна падзяліць на працаўнікоў, гандляроў, героеў і творцаў. У першых жыццёвая місія — абсталёўваць жыццё, у другіх — ладзіць эканамічныя сувязі і кіраваць, у герояў — змагацца, а творцы прыносяць у наш свет новыя ідэі і развіваюць душу. Яна — душа, а ён — змагар. Трагедыя змагання ў непазбежнасці падпарадкавання: выйграеш — падпарадкоўваюцца табе, прайграеш — падпарадкоўваешся сам. І невядома, што горш. Яшчэ адзін сумны парадокс: з чым змагаешся, у тое і ператвараешся. Вельмі падобна на тое, што ён змагаўся з ворагамі, а потым сам быў названы ворагам і знішчаны. Героям важна своечасова спыняць барацьбу і заключаць мір хаця б з сабою, людзьмі і жыццём. Падобна, што яна была для яго магчымасцю такога міру, калі рознае становіцца адзіным, калі стомленыя барацьбой супрацьлегласці пачынаюць адзін аднаго гарманічна дапаўняць. Хутчэй за ўсё інтраверт, ён вельмі неахвотна пускаў у сваё жыццё чужых, а зрабіўшы некага сваім, ужо ніколі не адпускаў. Пад жалезнай бранёй неабходнасці білася пяшчотнае параненае сэрца. Яна, відаць, умела слухаць біццё гэтага сэрца і загойваць яго раны. Ён сэнсорык з дакладным уяўленнем пра тое, як і што павінна быць, спалучэнне аскета і эстэта, грымучая сумесь вытанчанасці густу і неперабарлівасці ў побыце. Воля ў моцнай зоне, а ўласныя эмоцыі — у зоне страху. Таму што гэта вельмі страшна — здавацца слабым. Усё, чаго баішся, прыцягваецца. Вось і даў Бог такое каханне да такой жанчыны, ды яшчэ несвабоднай. І лісты, пра якія ён баяўся каб не былі прачытаныя трэцім, чытаюцца цяпер тысячамі… Не люблю чытаць чужыя лісты, але яны даюць надзею. На тое, што барацьбу можна замяніць на прыняцце, калі цэлае не ад падабенства, а ад дапаўнення. І яшчэ… Божа, які ж добры час нам выпаў, калі можна паверыць у непатрэбнасць барацьбы..»*

***Аўтар публікацыі выказвае шчырыя падзякі:***

***Ірыне Міхайлавай-Станюце — за прадастаўленыя лісты і фотаздымкі;***

***дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Запартыка і вядучаму навуковаму супрацоўніку названага музея Віктару Жыбулю — за ідэю пошукаў, запіску і фотаздымак;***

***Дзяржаўнай установе «Навукова-практычны цэнтр Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь» — за згоду правесці даследаванні, патрэбныя для высвятлення асобы аўтара лістоў, а таксама супрацоўнікам Арцемію Вадалазаву, Віктару Рэвінскаму, Ганне Купрыянавай, Алене Сядовай, Мікалаю Манілкіну — за праробленую працу;***

***ТАА «Кінэзіа» і эксперту-графолагу Наталлі Быкоўскай — за грунтоўны параўнаўчы аналіз;***

***псіхолагу Нэлі Ксяневіч — за псіхалінгвістычнае даследаванне.***

**P. P. S.** Апошняя тэлефонная размова з вядучым навуковым супрацоўнікам БДАМЛіМ Віктарам Жыбулем дала нечаканы паварот: супрацоўнікі архіва ўжо не так упэўнены ў тым, што даследаваная запіска належыць Аляксандру Ульянаву…

ГРАФАЛАГІЧНЫ КАМЕНТАРЫЙ

## Ганна КУПРЫЯНАВА:

### *«Пісьмо — гэта таямніца. А эксперт — гэта не пасада праз два-тры гады навучання»*



**«Веды і інтуіцыя, замацаваныя праз вопыт, запускаюць новы працэс пазнання — і атрымліваецца новае веданне. І ўсталёўваецца адзіна справядлівы, датычны выключна канкрэтнай сітуацыі, неабвержна-доказны факт. Ён непаўторны, бо і почырк непаўторны. Бо кожны чалавек насамрэч унікальны, нават калі некаму вельмі хочацца лічыць нас усіх аднолькавымі».**

**Гэтыя пранізлівыя словы, прамоўленыя Ганнай Купрыянавай, вядучым навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнай установы «Навукова-практычны цэнтр Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь», вядучым экспертам Галоўнага ўпраўлення крыміналістычных экспертыз Дзяржаўнага камітэта судовых эспертыз Рэспублікі Беларусь, кандыдатам юрыдычных навук папярэднічаюць вельмі цікавай гісторыі пра тое, што такое графалогія як навука і як яна служыць людзям.**

— Да бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расіі была менавіта графалогія, а не афіцыйна прызнанае ў нашы дні почырказнаўства — адарваная ад комплекснай навукі прыкладная галіна. Хоць і ў той час мала налічвалася спецыялістаў-графолагаў, але былі яны спрэс выдатнымі, непер:аўзыдзенымі. Яўген Фёдаравіч Бурынскі, Дзмітрый Мітрафанавіч Зуеў-Інсараў… Прыйсці ў гэтую сферу дзейнасці могуць нямногія — толькі тыя, хто мае асаблівы дар — інтуіцыю, і цікавасць да справы. Бурынскі, да прыкладу, быў спачатку фатографам, але вельмі зацікавіўся пісьмом. Ён казаў: «Не ведаю, адкуль у мяне ўзялося гэта ўменне, але я паспрабаваў — і пераканаўся, што магу па почырку доўга распавядаць пра чалавека, быццам я сустракаўся з ім у жыцці. Я не ведаю інстытута, дзе б вучылі такім навыкам. Гэта ў табе ёсць або няма. І калі яно ёсць, то яно само прарастае». Доўгі час ён саромеўся і баяўся назіраць почыркі. А потым рэвалюцыя лепшых людзей адпрэчыла, праабражэнскіх пачалі даймаць розныя швондзеры — і Бурынскаму таксама нічога лепшага не заставалася як толькі выйсці на цвінтар і дапамагаць жадаючым мінакам даведацца пра сябе па почырку. Так ён дайшоў да таго, што, глянуўшы на незнаёмага чалавека, «бачыў» яго почырк, і радаваўся, як дзіця, калі гэтае «бачанне» супадала з рэальнасцю. Яўген Фёдаравіч заўсёды гаварыў: «Вывучайце графалогію». Але недзе ў 1930-я

***Графалогія закладалася ў 1622 годзе ў Італіі прафесарам Каміла Бальда, які напісаў «Разважанне пра спосаб даведвацца пра звычаі і якасці пішучага па пісьму». Гэтая кніга ўразіла, як шмат што нас уражвае, але не болей за тое. Людзі ўжо тады лічылі, што для таго, каб даведацца пра нешта з почырку чалавека, патрэбен асаблівы дар — яснабачанне, інтуіцыя. Праз 200 гадоў графалогія перанеслася ў Францыю. Там ужо працэсам кіраваў не навуковец, а царкоўнік, чалавек духоўны — абат Фландрэн. Паслядоўнікам яго стаў абат Мішон — найбольш вядомы нам сёння графолаг мінуўшчыны. Яму і належыць тэрмін «графалогія».***

графалогія была адрынута за «буржуазнасць», было створана палітычнае меркаванне, згодна з якім гэта навука шырока выкарыстоўваецца буржуазнай юстыцыяй для апраўдання самавольства і беззаконнасці. Аказваецца, да рэвалюцыі панавалі спрэс самавольства і беззаконнасць! І графалогія, маўляў, змагаецца з камуністамі і іншымі прагрэсіўнымі людзьмі. Хіба пасля такой заяўкі партыі і ўрада графалогія магла працягваць існаванне? Потым яе «нядобранамеранасць» надзейна замацавалася ў галовах чалавецтва.

**— Раскажыце, калі ласка, пра накірункі вашай цяперашняй дзейнасці.**

— Мы вельмі моцныя ў ідэнтыфікацыі — гэта першы і, бадай, асноўны, найбольш запатрабаваны накірунак нашай дзейнасці. Другі накірунак, які я развівала ў сабе, пачынаючы яшчэ некалі ў Маскве, — дыягнастычны. Гэта ўстанаўленне не толькі таго факта, што напісанае належыць канкрэтнаму чалавеку, але і адказ на пытанне: у якіх умовах ім гэта пісалася. А ўмовы дзеляцца на знешнія (за пісьмовым сталом ці ў транспарце, седзячы ці стоячы, без зрокавага кантролю, іншыя) і ўнутраныя (пры незвычайных эмацыйных станах, у дэпрэсіі, пад страхам, у гневе). Для гэтага мы вывучаем псіхафізіялогію чалавека. Трэці накірунак — той, да якога актыўна ідзём. Мы ведаем, што почырк — індывідуальны і непаўторны, устойлівы і варыятыўны. Вось гэтыя якасці і дапамагаюць вырашаць ідэнтыфікацыйныя задачы. Але мы раскрылі і новую якасць: выбіральная зменлівасць. Што гэта значыць? Што механізм пісьма, калі раскласці яго па ўзроўнях, мае шмат задач і адлюстроўваецца ў канкрэтных прыкметах, і на гэту складаную сістэму далёка не ўсе «збіваючыя» фактары дзейнічаюць — яны выбіральныя. То бок, трэці накірунак — гэта псіхадыягностыка, якая патрабуе вывучэння не толькі почырку, але адначасова і пісьма. Яго псіхапаталогія дастаткова ўжо вывучана і на шматлікіх прыкладах прадэманстравана, што парушэнне пісьмовай мовы можа не ўплываць на ўласна почырк: шызафрэнікі могуць пісаць прыгожа, роўна, бездакорна, хоць у напісаным імі не прачытваецца ніякага сэнсу. Увогуле, пісьмо — гэта таямніца. А эксперт — гэта не пасада праз два-тры гады навучання, гэта ўзровень развіцця чалавека, які прыйшоў у гэту навукова-прыкладную або, як у нас кажуць, практыка-непасрэдную дзейнасць.

**— Пра тое, якім чалавек хоча здавацца для іншых, сведчыць яго подпіс. Ад славалюбства да фанабэрыі, ад пачуцця ўласнай годнасці да аб'ектыўнай, ацэненай іншымі вартасці — у ім адлюстроўваецца ўсё. Што вы можаце сказаць пра сучасныя подпісы?**

— Усе, ці амаль што ўсе, — яны безабаронныя і абязлічаныя. Раней подпісы былі разгорнутыя — імя і прозвішча ўказваліся цалкам. Гэта сведчыла пра жаданне праславіць прозвішча, памяць пра бацькоў, павагу да роду. Гэта давала чалавеку глебу, замацоўвала яго. А мы сёння — як з дзьмухаўца «парашуцікі»: лятаем, лятаем, лятаем… І не ведаем, хто мы ёсць. Раней у подпісах дазваляліся ўпрыгожванні, але толькі справа або злева, зверху або знізу, і ні ў якім разе не перакрэсліванні самога подпісу, што вельмі часта назіраецца сёння. Подпісы ранейшыя — не толькі цалкам ідэнтыфікаваныя, але і адрозныя сваімі індывідуальнасцю і непаўторнасцю, якія з'яўляюцца ступенямі абароны ад падробак. Гэта ўсё роўна што пячатка. А якія ў нас цяпер подпісы? Ці шмат якія з іх маюць такую абарону? Яны мала што абязлічаныя, дык яшчэ і «птушачкай» на ўсю лінейку перакрэсленыя...

**— У тым выпадку, калі заключэнне — ледзь не адзіны сродак апраўдання ці неабвержнага доказу віны, наколькі сур'ёзна яно бярэцца ў разлік?**

— Вельмі сур'ёзна, бо яно мае навуковае абгрунтаванне. Мы шмат гадоў праводзім самыя розныя эксперыменты і маем шмат практычных напрацовак, якія дазваляюць рабіць сапраўды сур'ёзныя высновы. Таму, нягледзячы на ўсе праблемы сучаснай графалогіі, ці хутчэй почырказнаўства, нашы спецыялісты маюць вагу ў навуцы і аўтарытэт у крыміналістыцы.



## Наталля БЫКОЎСКАЯ:

### *«У Эйнштэйна почырк дробны…»*

**Эксперт-графолог ТАА «Кінэзіа» Наталля Быкоўская распавядае пра самую што ні ёсць сучасную запатрабаванасць спецыялістаў у названай галіне, а таксама ракрывае некаторыя таямніцы почырку.**

— Мы рухаемся ў некалькіх накірунках. Першы з іх — індывідуальная дыягностыка. Любы чалавек можа звярнуцца да нас з той праблемай, з якой ён не можа пайсці да псіхолага — бо на прыёме ў псіхолага яму трэба гаварыць пра сябе, а гэта не ў кожнага і не з кожнай праблемай атрымліваецца. У нас жа, почырказнаўцаў, на прыёме гаворым мы. Другі накірунак — гэта прафесійная арыентацыя, канкрэтная задача з мэтай далейшага атрымання «самай сваёй» спецыяльнасці і паспяховага працаўладкавання. У гэтым выпадку да нас прыходзяць абітурыенты з сур'ёзным падыходам да пытання, дзе прымяніць свой патэнцыял. Мы не толькі прадстаўляем спіс характарыстык, асобасных якасцей, зафіксаваных пры аналізе почырку, але і тлумачым, якім чынам яны праяўляюцца на пісьме. Абітурыентам звычайна прапануецца некалькі сфер будучай дзейнасці, на выбар. Яшчэ адзін накірунак — кадравы менеджмент. Аналіз почырку асабліва важны пры адборы кандыдатур на кіруючыя пасады: нікому не хочацца атрымаць «ката ў мяшку», бо на субяседаванні мы ўсе самыя-самыя. І тут няма месца падыходу «добры-дрэнны чалавек» — мы апісваем яго магчымасці развіць пэўныя навыкі і вызначаем працоўны патэнцыял. Многія, ведаю, скажуць, што почырказнаўчая экспертыза — як варажба на кававай гушчы. Але мы адстойваем навуковасць графалогіі як метаду псіхадыягностыкі.

**— Калі сустракаеш занадта «прыгладжаны», вывераны почырк, звычайна чамусьці раздражняешся: занадта ўжо гаспадар напісанага засяроджваўся на тым, каб паказаць, як яму не ўсё роўна, што пра яго скажуць.**

— Абсалютна правільная рэакцыя. Тут чалавек «сыходзіць у форму». Ён настолькі ёю захоплены, што яна ўжо не адлюстроўвае яго індывідуальнасць. Але ў меру акуратны почырк гаворыць пра ўменне сябе прэзентаваць. На публіцы яго ўладальнік — дзелавы чалавек, акуратны, сабраны, сканцэнтраваны. Увогуле ж, прыгажосць почырку — гэта што? Для «абывацеля» прыгожы почырк — гэта каліграфія. Вывераннасць, роўнасць, чытэльнасць. А што такое каліграфія? Гэта шаблон. Унутраны моцны кантроль, падпарадкаванасць правілам. Так піша чалавек адказны, які заўсёды выканае тое, што ад яго чакаецца. Але такая форма — адыход ад сваёй сутнасці, уцёкі ад сябе. Гэта ж якую самадысцыпліну трэба мець, каб кожную літарку пад грабеньчык выпісваць! Нават сардэчны рытм у чалавека няроўны! Ды нават самі мы асіметрычныя! А почырк?! Чалавек жа не робат. Ён

фізічна не можа пісаць каліграфічна. І почырк не вельмі залежыць ад інтэлекту. Почырк — адлюстраванне псіхікі чалавека. Почырк «ідзе» за псіхікаю. Адпаведна, паказвае не толькі ўзровень развіцця асобы, інтэлект яе, але і эмацыйны план, і стыль паводзін, і спосаб мыслення. Вы ж не скажаце пра ўрача, што ён не мае інтэлекту. А піша часцяком «як кура лапай». Чаму так? Высокі інтэлект — адно, а вымушанае абстрагаванне ад чалавечага болю, немагчымасць весці з кожным задушэўныя размовы і хуткасць, з якой трэба рабіць дакументацыю — зусім іншае. Почырк урача не чытаецца яшчэ і таму, што яму не так важна меркаванне яго «чытача»: ён ведае, якое рашэнне прыняў, і цалкам адказны за гэтае рашэнне. Зразумела, што кожны почырк трэба разглядаць асобна, я ж гавару цяпер пра каноны.

**— Ёсць почырк «бісерам», а ёсць «гігантык»…**

— Тут можа быць маса варыянтаў тлумачэння, трэба глядзець на іншыя параметры. На графалагічнае заключэнне ўплывае вялікая колькасць фактараў у розных варыянтах іх спалучэнняў. Адзін нейкі фактар можа цалкам перамяніць характарыстыку некалькіх прыкмет почырку. Буйнасць літар можа ісці і ад эксцэнтрычнасці, творчасці, артыстычнасці, і ад эгаістычнасці, самазакаханасці, і ад высокай адказнасці… Дробны почырк — гэта і няўпэўненасць, і добра развітая логіка. У Эйнштэйна, дарэчы, почырк дробны…

**— А што вы скажаце наконт ужывання розных форм напісання адной і той жа літары у адным тэксце?**

— Вяртаемся да таго, што мы не робаты. У графалогіі ёсць паняцце «жывая варыятыўнасць». Можна пісаць літары па-рознаму не толькі ў адным абзацы, але і ў адным слове. Тут трэба глядзець на ступень такой варыятыўнасці. Калі чалавека сапраўды «гайдае з боку ў бок», можна задумвацца. Калі ж гэта варыятыўнасць «у меру», то і добра, нават вельмі добра: чалавек, значыцца, securітым рознабаковы і разнастайны, у яго ёсць уяўленне…

*Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА.*



Казімір КАМЕЙША

# НА СКРЫЖАВАННЯХ ПАМЯЦІ

На помніку, пад цёмна-зялёным раскрыллем кіпарыса, крыху бянтэжыць яго фотапартрэт з задзёрыстым тварам пры непакорлівым чорным чубе і адразу змушаюць задумацца радкі:

А жыццё, як імгненне,
Такое кароткае…

Як яны толькі і прамовіліся? Прачытваюцца нібы глыбока-роспачны выдых. Сумнаватыя, але і глыбокія радкі… Так прамовіць можна было ці шмат пражыўшы на гэтым свеце, ці ў пэўным жыццёвым адчаі, ці прадчуваючы нейкую блізкую немінучасць. Але прамоўлена яно было ў гады яшчэ не надта паважныя, хоць ужо і сталыя. Нездарма ж кажуць, паэты ўмеюць і адчуваць, і прадчуваць ды і прадказваць.

Жыццё яго і сапраўды з далечыні часу ўяўляецца імгненнем. Але колькі ў тым імгненні адклалася і сумнага, і горкага, ды было і непаўторнае, вясёлае, з гэткім разнасцежам душы. Не буду сцвярджаць, што шчаслівага. Але чаму ж… Словам, было ўсялякага, так як і бывае заўсёды ў жыцці. Будзем памятаць, аднак, што кожны чалавек непаўторны і кожны ідзе сваёй дарогай. Ён ішоў сваёй. Сёння і мы, хоць збольшага, паспрабуем прайсціся яго шляхам.

Хведар Чэрня, як і я, родам з той жа Налібоцкай пушчы. Хоць слова гэтае «пушча» так нідзе і не прамільгнула ў ягоных вершах — відаць, асцерагаўся прызямліць ім тое агульначалавечае, глабальнае, да чаго ён увесь час імкнуўся. Але я перакананы ў тым, што пушчанцам ён быў сапраўдным. Мы жылі з ім па адзін бок пушчы. І тое роднае, непаўторнае, толькі наша, што жыло, бунтавалася ў яго сэрцы, заўсёды адгукалася і ў маім. Я зразумеў гэта, чытаючы яго паэзію. Пра свае мясціны, якія мы неаднойчы разам з ім прайшлі пешшу, а ён і басанож, неяк паэт напіша так: «Мне б хоць раз на свет яшчэ радзіцца,— знаю, што радзіўся б толькі тут». Ніхто нам, вядома ж, такога не дазволіць. Але калі ты пакінуў пасля сябе такія роздумна-кранальныя радкі, ты маеш права і на другое, і трэцяе нараджэнне ў сваім родным кутку, дзякуючы хоць бы той самай памяці землякоў, тваіх аднакрэўцаў і аднадумцаў.

Дасціпныя крытыкі як толькі не называлі нашых з ім аднагодкаў: і «пакаленнем, апаленым вайной», і «філалагічным пакаленнем». А мы былі ўсяго народжанымі ў сваім часе і нічым асаблівым ад іншых не адрозніваліся, і пісалі амаль пра ўсё тое ж самае, пра што пісалі нашы папярэднікі. Яму выпала нарадзіцца ў 1939 годзе ў вёсцы Лінкі на Валожыншчыне. Нешта крыху наблытана з днём яго нараджэння. У пісьменніцкай біяграфіі ён значыцца чэрвеньскім, сам жа паэт настойвае на лістападзе:

Будзе восенню дзень нараджэння —
Мне яго лістапад прынясе…

Не скажаш, што дзяцінства паэта было сірочым, але як сам ён сцвярджае, «вырас, не пазнаўшы ласкі». Чалавечак, які толькі пачынае хадзіць, нешта разумець... і тут нечакана памірае маці. Бацька, які прайшоў праз вайну, адразу ж прыводзіць у хату новую жанчыну, якую ўсе родныя завуць мачахай. Халадком вее не толькі ад самога чужога слова, ён баіцца гэтай незнаёмай цёткі, імя ў якой, як палічыў ён, малы, — Мачаха. І калі аднойчы, гуляючы, ён незнарок зламаў вазон, тут жа ад роспачы заплакаў, і яшчэ ні разу ў жыцці не сутыкаючыся з хлуснёй, пабег адразу са слязьмі на вачах прызнавацца:

— Пані Мачаха, даруйце, я зламаў вазон.

Ад такога нечаканага і непасрэднага прызнання ўсміхнулася нават сама мачаха.

Хлапчук здзіўляў сваім прыродным досціпам, і ў крыўду яго не давала радня:

Акружылі цёткі і дзядзькі
Клопатам, забавамі, пяшчотай.
Неслі нешта ў клунках сваякі,
Хоць і абзываліся галотай.

У школе ў Вішневе ён ужо слыў паэтам. Яго першы верш у Валожынскай раёнцы надрукавалі ў 1955 годзе. Той, хто сам у сваім жыцці праходзіў праз гэты першы творчы калідор, добра ведае, што яно значыць — упершыню надрукавацца. Хоць і акрыліла хлопца першая публікацыя, але не давала спакою іншая мара — надта ж зажадалася, захацелася быць лётчыкам. Купалаўскі верш «Хлопчык і лётчык» вясковыя дзеці, яго аднагодкі, ведалі на памяць. І тое, што некалі ўзбунтавала ляўкоўскага хлапчука, запаліла добрай марай многіх непасед па ўсёй Беларусі. Вось і Хведар аднойчы пакляўся сабе, што будзе лятаць. І ён пачынае настойліва рыхтавацца да ўступных іспытаў у лётнае вучылішча. У марах і сапраўды ён ужо не бегае, а лятае па роднай пушчанскай зямлі. Пра гэта нават ведаюць бацькі, настаўнікі і яго вясковыя сябрукі.

О, калі б усе нашы самыя запаветныя мары ды здзяйсняліся! Колькі б шчаслівых людзей мелі б мы сёння побач з сабою!.. На жаль, мары нашы — гэта тыя ж самыя пялёсткі, што аднойчы ад самага лёгкага павеву ветрыку разлятаюцца ў прасторы і знікаюць. Большасць іх рушацца адразу пры спробе ажыццяўлення. Так здарылася і з ім. Ужо адшумеў выпускны вечар, у руках шчаслівыя дзяўчаты і хлопцы трымалі атэстаты сталасці, а ён ужо нават падрыхтаваў дакументы да паступлення ў лётнае вучылішча. І тут яго чакае першае ў жыцці непапраўнае фіяска. Яго найвялікшая мара разбіваецца ўшчэнт. Строгая медыцынская камісія скажа яму сваё катэгарычнае «не». Кволенькае, аказваецца, у маладога пушчанца сэрца. Вышыня — не яго стыхія. Добра, што тады, на самым пачатку жыццёвай дарогі розумам сваім ён дапяў, што любую вышыню можна адшукаць не толькі ў небе. Ды і зямныя вышыні, яны заўсёды трывалейшыя ад тых, нябесных.

Род Чэрні, ці Чарні, як іх называлі ў вёсцы, славіўся сваімі музычнымі задаткамі. Дзед паэта іграў на скрыпцы, бацька слыў выдатным кларнетыстам, а Хведар вырастаў у добрага акардэаніста. Пра гэта мясцовы люд ведаў, і хлопец тут жа стаўся запатрабаваным. Неўзабаве ён пачаў працаваць загадчыкам Вішнеўскага сельскага клуба. На вясёлых вечарынах, у гурце з пушчанскай пасляваеннай моладдзю, неяк самі па сабе забыліся тыя першыя расчараванні, добра пісаліся вершы. Часам ён клаў іх на музыку. Моладзі гэта падабалася, а самому не вельмі. Спакусніца паэзія клікала яго ў горад. Трэба туды, бліжэй да літаратурнага эпіцэнтра, падказвала само сэрца. А што тычыцца сэрца, тут паэт павінен быць заўсёды паслухмяным. Ды і моладзь у тыя гады масава пакідала вёску. Падаўся ў горад і ён. Скончыў тэхнічнае вучылішча пры Мінскім аўтазаводзе і пачаў працаваць фармоўшчыкам-ліцейшчыкам. А потым была армія. Служыць яму выпала

ў Гродне. Наколькі дазваляла строгая армейская служба, падтрымліваў сувязь з гродзенскімі літаратарамі і паціху рыхтаваўся да паступлення ў БДУ. Так яму раілі яго новыя знаёмцы-гродзенцы.

Дзевяцікласнікам Дзераўнянскай школы прачытаў я некалі яго салдацкія вершы ў часопісе «Маладосць», і мне адразу яны запалі ў душу. Як жа смачна пісаў малады паэт пра салдацкую палявую кухню. Чытаў я, і здавалася, сам смакаваў дымную паходную кашу, адчуваў лёгкую насалоду жаданага, вёрстамі падахвочанага прывалу. Мала тады я яшчэ разбіраўся ў хітрасцях ды мудрасцях паэзіі, але ж захапіла, спадабалася. І толькі пазней зразумеў, чаму спадабалася. Прыцягальнай была сама даверлівая размоўная інтанацыя верша. Ад яе зусім не веяла строгай класічнай метрычнасцю, складовай непарушнасцю. «Пішу, як размаўляю з блізкім», — здавалася, казаў аўтар. А гэтага якраз і хацелася душы. І напаткаўшы пажаданае, душа цяплела і адчувала сябе так, нібыта прачнулася пасля доўгай і суровай зімы. На грамадскім двары і сапраўды цяплела ды адтавала, надыходзіў час доўгачаканай хрушчоўскай адлігі. Праўда, сапраўднай вясны ўсё яшчэ не было. Мы самі, маладзейшыя, узгарэліся яе прыспешваць.

Памяць пракручвае ўжо далекаватыя кадры ўспамінаў. 1961 год… Студэнцкі інтэрнат на Бабруйскай, пры самым чыгуначным вакзале. Мы, абітурыенты, вельмі нязручна пачуваемся ў пакоі, які можна назваць салдацкай кашарай. Звольненыя ў запас хлопцы толькі нядаўна адшпілілі з плечукоў пагоны, але ўсё яшчэ не хочуць развітацца з ваеннай формай, хоць у кожнага ў шафе вісіць нейкі больш-менш прыстойны цывільны касцюмчык. Кажуць, вайсковая форма дапамагае нядаўняму салдату. Ласкавей глядзяць выкладчыкі-экзаменатары на ўступных экзаменах, не шкадуюць добрай адзнакі. Ды і дзяўчаты больш заглядаюцца, чымся на нас, неабстраляных. Ведаючы па фотаздымку ў «Маладосці», знаходжу невысокага чарнявага земляка. Пераадольваючы сорам, іду знаёміцца. І тут жа сустрэчная, вельмі свойская ўсмешка Хведара Чэрні ўшчэнт знішчае маю сарамяжлівасць. Ён кліча ў свой прасторны пакой і адразу знаёміць з усімі астатнімі. Хведар крыху расчароўвае мяне — ён паступае на журналістыку, хоць гэта той жа самы філфак, маленькае на 25 чалавек яго аддзяленне. Але праз дзень усё ў яго планах памяняецца. Сустрэўшы ва ўніверсітэцкіх калідорах і паслухаўшы вясёлага і найшчырага дэкана Міхася Рыгоравіча Ларчанку, ён забірае свае дакументы і здае экзамены з намі на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. Потым мы абяром яго старастам нашай групы. І пачнецца жыццё студэнцкае, якое кожны з нас у сваім лёсе лічыць самым найсвятлейшым.

Гарадскіх шчасліўцаў у нашых студэнцкіх аўдыторыях было малавата. Мы, дзеці вёскі, у канцы кожнага навучальнага тыдня, ашчаджаючы апошнюю бацькоўскую капейку, спяшаліся ў вёску, каб не толькі нацешыцца дарагімі сэрцу «малюнкамі і вобразамі» мілага краю, а і прывезці з сабою сякога-такога правіянту, нейкую каўбасу ці аполец сала, а на Каляды і Вялікдзень дык і свежаніны. Усё гэта потым дзялілі на ўвесь гурт інтэрнацкага пакойчыка, самы малы з якіх умяшчаў шэсць душ. Кожны пакой жыў як добрая згуртаваная сям'я. Здаралася, знойдзецца які ды і замкне на свірнавы замок у валізцы пад ложкам хутаранскага паўкумпяка ці высахлага сыру, каб потым ціхмя, употайкі ад суплечнікаў, паласавацца са смакам ды хрумстам. Але як і шыла ў мяшку, сала ў валізцы не ўтоіш. Адшукаюць хлопцы ды, нічога нікому не кажучы, пусцяць патаемны прадукт на знянацкую закуску пад сціплую бутэльку студэнцкага віна з назвай «Волжскае», а па-філфакаўску — «Волжскае-лірычнае», кошт у якога быў, здаецца, рубель і дзве капейкі. Аднаасобніцтва ў нашым студэнцкім інтэрнаце на Свярдлова не ўхвалялася.

Неяк Хведар угаварыў мяне, і мы суботнім днём выправіліся ў ягоныя Доржні. Балазе вакзал у нас праз двор. Дарога здалася далекаватай, з перасадкай у Валожыне. Прыехалі, памятаю, пазнавата, ужо цёмначы. Хата ягоная прылясная была замкнёна. «Ведаю, дзе шукаць», — супакоіў сябра і павёў мяне адразу ў

лазню. Лазня патанала ў сініх клубах пары і гудзела, як вулей, ад вясёлых мужчынскіх галасоў. Вясёлы і голы вясковы люд крактаў і яшчэ больш прасіў пары і, відаць, хацеў выпрабаваць на трываласць мяне, чужака. На што быў здольны Хведар, яны даўно ведалі. А мае прыналібоцкія пушчанцы пару прызнавалі хіба што ў гарэлцы. Выскачыў я з той парыльні, як з полымя. Больш стойкім быў потым у застоллі. Пасля лазні чарчына з аржаной пушчанскай моцай ішла лёгка. Вельмі ўпадабаў я і тутэйшую страву — гарачую разварыстую бульбу з кіслым малаком. Мой старэйшы зямляк не саромеўся называць гэту страву шляхецкай. Яна і сёння для мяне — самы найлепшы наедак. Той выезд стаўся добрым змацаваннем нашага сяброўства.

Загараліся вочы ў студэнцкіх прыгажунь, калі Хведар браў у рукі бывалы акардэон. Спачывае ён недзе зараз, сумуе без свайго вернага гаспадара, а калісьці на спачынак не меў часу. Колькі шчаслівых вечароў, добрых сустрэч памятае гэты акардэон! Хто з былых студэнтаў, што жылі ў тыя шчасныя гады ў інтэрнаце на Свярдлова, не скакаў пад яго гарачыя пералівы. А Хведар яшчэ ўмеў і падпець у такт вясёлым акордам. Голас у яго быў густы, амаль мядовы. Аб’ехаў той акардэон ледзь не ўсю Беларусь, вясёлым студэнцкім летам быў у сонечным Крыме. Памятае ён і маю вёску. Тым перадзімовым вечарам праводзілі мяне ў войска. Зацягнуліся праводзіны. А пра акардэон успомнілі толькі ў Мінску. Прыйшлося яшчэ раз гаспадару, ужо без мяне, вяртацца ў пушчу. І тут таксама былі своеасаблівыя праводзіны. А потым ён сустракаў мяне з войска, а яшчэ пазней весяліў люд на маім вяселлі. Душа самога паэта жыла ў тым акардэоне:

Ахрыпне, стоміцца за лета
І астывае пакрысе.
І ўсё было ў ім ад паэта—
Душа і выхадкі ж усе.

Ці ў даўняй згадцы, ці на здымку,
Заўсёды бачу, як праз сон,
Яны ідуць сабе ў абдымку,—
Паэт і ён, акардэон.

Дзе прызастолены, дзе нашча,
А дзе — расхрыстаны, бягом…
Але аднойчы ў пушчы нашай
Мы ўсё ж забылі пра яго.

І ён і рваў сваё раменне,
На ўсе басы свае крычаў,
Поўз з плачам сябру на калені
І ціха ўсхліпваў ля пляча.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён сёння спачывае недзе
На ўзмежку смерці і жыцця.
А зоркі гузічкамі ў небе
Нібы пад пальцамі трымцяць…

Запытаўся нядаўна ва ўдавы паэта Надзеі Анатольеўны, як пачувае сябе сірата-акардэон.

— Сіратой і пачуваецца, — сумна адказала яна.

Хоць і хацеў паэт, «каб жыў музычны род», аднак ні сын, ні ўнукі да музыкі неахвочыя. Што ж, у жыцці не заўсёды так дзеецца, як нам хацелася б. Нашы нашчадкі часта ідуць па жыцці іншым, сваім шляхам. Рэчы ж, якія застаюцца пасля нас, заўсёды спатрэбяцца нашай памяці. Рэчы таксама маюць сваю памяць.

Але не толькі акардэон быў паслухмяным у руках Хведара Чэрні. Летам, калі мы паехалі ў дыялекталагічную экспедыцыю пад Маладзечна, я адкрыў нечакана для сябе, што сябра мой адмысловы касец, не раўня мне ды іншым. Гэты камлюкаваты чарнявец так улягаў у пракосе, што прыйшла падзівіцца нават бабуля, у якой мы кватаравалі. Адкасіў ён тады добрую дзялянку ды падаўся ў Мінск, па летнюю стыпендыю для ўсёй групы. Ён жа быў старастам. О, як мы тады яго чакалі! Увесь час паглядалі ў бок чыгункі, прыслухоўваліся, а прыгарадныя цягнікі бегаць не спяшаліся. А ён з'явіўся недзе сярод ночы, захмялёны і вясёлы. Аказваецца, патрапіў яшчэ на футбольны матч, дзе нашы выйгралі. Мінскія дынамаўцы ў тыя гады давалі фору ў футболе на межах усяго вялікага Саюза, выйгралі золата. Старасту сярод ночы мы насілі на руках. А потым дзён тры вясяліліся, будзілі сярод ночы суседнія вёскі. Нам ніхто не перашкаджаў. Да студэнтаў у вёсцы была асаблівая павага. Ды і студэнты ж якія — ходзяць, спяваюць, ды запісваюць у нейкія сшыткі вясковыя песні!

Як і ўсе паэты, Хведар Чэрня любіў дарогі. Невыпадкова дарожная тэма гучыць даволі часта ў ягоных вершах. У адным з іх паэт прызнаецца: «…Усе дарогі з дому і дадому, як вены і артэрыі мае». Няма тут нічога надуманага ў гэтым параўнанні. Дарогі і сапраўды ў чалавечым лёсе, як своеасаблівыя вены і артэрыі, па якіх пульсуе жыццё. Яшчэ ў студэнцкія гады Хведар Чэрня напісаў верш, які быў адразу заўважаны літаратурнымі заўзятарамі, ён дужа спадабаўся і нашаму ўніверсітэцкаму выкладчыку, вядомаму паэту-перакладчыку Язэпу Семяжону. Верш неўзабаве быў змешчаны ў часопісе «Беларусь». Справа ў тым, што Язэп Ігнатавіч сумяшчаў сваю выкладчыцкую працу з працай у часопісе. Хведар і прысвяціў верш свайму настаўніку. Прыгадаю некалькі радкоў з яго:

Шар зямны ў вітках дарог, гасцінцаў
Я сягоння параўнаць гатоў
З галавой салдата-пехацінца,
Апавітай стужкамі бінтоў.

Паэтычнае параўнанне, ёмісты вобраз Зямлі, не маглі не ўзрушыць былога франтавіка. Уяўленне чалавека з ужо іншага, маладзейшага пакалення, было надта пераканаўчым і сталым.

Па дарожных вершах Хведара Чэрні лёгка прачытваецца ўся ягоная біяграфія. Яго жыццёвыя крокі — гэта тыя ж самыя вёрсты:

За вярстою вярста, —
Як за казкаю казка…
І раскажа зямля,
І паслухаць будзь ласкаў…

Вёрсты і вёрсты… Куды б яны ні беглі, усе заўсёды прабягаюць праз тваё сэрца. Не раз у часы роздуму, прыгадваючы іх, паэт нібы пракручваў у памяці старую плёнку былых падзей, вяртаў да сябе не толькі незабыўныя мясціны, але і блізкіх дарагіх людзей:

Нярэдка ў вечаровай цішыні
Я фотаздымкі памяці праглядваю,
І ўспамінаю зноў, і зноў прыгадваю
Сабраныя ў гады былыя дні.

Вось поўдзень. Сонца, людзі і прыбой.
Во плёнка, мусіць, недарма прасвечана.
Навошта, каб усё было дасведчана,
Хаця бы той, што лічыцца сваёй?

А тут вось Балтыка, дзе без прычын
Пагода зменліва-непастаянная,
Таму і здымкі невыразна цьмяныя.
Але пры чым пагода? Ні пры чым!

Нарэшце, і Амур, і Сахалін.
Пасёлак. Стан рыбацкі. Бухта сіняя.
За даўнасцю ж гадоў амаль не ў сілах я
Прыпомніць твар знаёмы хоць адзін.

Вось вам і «імгненне» жыцця, а яно, як бачым, умяшчае такую багатую жыццёвую геаграфію. Міжволі згадваюцца і нашы сумесныя з ім дарогі, якіх было таксама нямала. Памяць часта вяртае мяне ў год 1972. Тады ў халаднаватым ужо кастрычніку мы невялічкай групкай пісьменнікаў ехалі на Чарнігаўшчыну, дзе ладзіліся Дні беларускай літаратуры. Вельмі ўраўнаважаны склад — два «аксакалы» (Станіслаў Шушкевіч і Рыгор Няхай) і два маладыя падбрыкоўцы, ён ды я. Але якая тут раўнавага?! Дзеля раўнавагі з бліжняй Гомельшчыны гукнулі і Віктара Яраца. Драўляны цёмна-шэры сувенірны беркут, што хораша прыгняздзіўся ў маім вясковым пакоі, і сёння нагадвае мне тыя даўнія надзвычай сардэчныя сустрэчы на братняй зямлі. Крыху здзівіла мяне тое, што Хведар Чэрня вельмі непасрэдна пачуваўся ў чыне старэйшага. Не было ў яго той разгубленасці, якая ўласціва тым, хто мала цёрся вакол чужога і нязвыклага люду. «Расслабіцца» да такой ступені, што табе дазволена нават жартаваць ледзь ні «пазапанібрацку» — гэта ўжо кажа пра тое, што мяне і сёння змушае здзіўляцца. Не думаю я, што гэта быў прыём, каб такім чынам прыцягнуць да сябе ўвагу. Спосабаў дзеля гэтага, як пераканаўся я, існуе многа. А ён проста прыцягваў да сябе людзей добрым разуменнем чужых думак і клопатаў. Нічога дзіўнага не было і ў тым, што там, на братняй зямлі, мы сустрэлі сярод тутэйшага люду нават агульных знаёмых. У гасцінным чарнігаўскім гатэлі мы, ужо маладыя жанацікі, закахаліся раптам у адну і тую ж чарнушку-прыгажуню і ці не пасварыліся з-за таго. «Дружба дружбай, — пажартаваў ён потым, — а каханне, як і тытунёк, — «врозь». «Згодзен, — адказаў я, — усё роўна ты не курыш». Ён, і праўда, не цярпеў курыльшчыкаў. А я ў тыя гады смаліў добра.

Шмат паездзіўшы ды і нямала пражыўшы, зразумеў я адно: дарогі могуць і зблізіць людзей да самай найвялікшай ступені роднасці, а могуць і пасварыць, і раз’яднаць, і былую тваю прыязнасць назаўсёды падмяніць варожасцю. І, як пераканаўся я, жартаваць у дарозе можна, а вось жартаваць з дарогай небяспечна. Як хочаце, гэта разумейце. Здаралася, і мы з ім так рассварымся на нейкай вярсце, а потым і забудземся на ўсё адразу, сплюнем ды абдымемся. Ну што нам яшчэ дзяліць?! Славу хіба? Дык ні ў яго, ні ў мяне яе ніколі не было. Праўда, сёе-тое ў нашым небагатым, яшчэ халасцяцкім жыцці, даводзілася дзяліць ці хутчэй — дзяліцца. Я добра пачуваўся ў яго лёгкай дэрмацінавай куртцы, а яму латва прыфасоніўся мой паласаты швэдар, які таксама стаўся тэмай верша. Нядаўна на старым фотаздымку ўбачыўся і вясёла прыгадаўся той снягірысты паласацік. Вакол яго круціцца столькі цёплых успамінаў.

І ўсё ж самая вялікая і галоўная дарога чалавека пачынаецца там, дзе ён нарадзіўся. І самыя шчырыя радкі прысвяціў паэт тым мясцінам, дзе хадзіла яго дзяцінства, дзе чуецца «роўны шум бароў і крыніцы спеў», і «бусліны гулкі клёкат», дзе жытнёвы колас «перад тым, як з полем развітацца, кланяецца нізенька зямлі». Пра сваё дзяцінства паэт аднойчы скажа так: «Было ў дзяцінстве столькі вузялкоў на памяць нам завязана бацькамі, што і пасталеўшы, без сваіх бацькоў, усіх не можам развязаць мы самі». Што гэта за вузялкі, даводзіцца толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё паэт мае на ўвазе тыя складанасці і супярэчнасці, якія падкідвала яму жыццё і на самым пачатку, і потым, калі пасталеў.

Мы ўжо згадвалі працу Хведара Чэрні на аўтазаводзе. Рабочая тэма, якой у тыя часы надавалася асаблівая ўвага, вымалёўвалася ў яго творчасці даволі выразна. Памятаю, студэнты-філфакаўцы цытавалі, праўда, не без іроніі, яго радкі, напісаныя цягучым гекзаметрам, запазычаным ці не са старажытнагрэцкіх міфаў, якія мы тады старанна «штудзіравалі»:

Глянь:
На плітах мадэльных апокі пудовыя скачуць,
Глынуўшы па норме фармовачнае зямлі,
І канвеерам мерна плывуць да каўша, каб гарачай,
Расплаўленай масай пустое нутро апаліць.

І заліўшчыкі зноў акуляры прыўзнялі,
Усмешкі блукаюць пад крыльцамі белых павек.
У полымі веку — сплаў чалавека і сталі:
І плавіцца сталь, і гартуецца чалавек.

Канцоўка гучала і надта ўнушальна, і сцвярджальна. І крытыкі не маглі ўстрымацца, каб не працытаваць яе. У першай кнізе паэта «Добрай раніцы, людзі» (1966) знойдзем мы вершы і пра «нараджэне волата», гэта значыць, аўтамабіля, які «ўгнуў ля прахадное брамы камень», і пра тую ж прахадную, заводскае літаб’яднанне. Ён бы мог вырасці ў належнага спевака рабочай тэмы. Былі яны тады і ў паэзіі, і ў прозе. Аднак не вырас. Самыя лепшыя радкі пісаліся тады, калі ён задумваўся над жыццём, якое не замыкаецца рамкамі цэха, а здзіўляе, а то і выпрабоўвае чалавека на самых звычайных сваіх шляхах і скрыжаваннях. У кожным дні, у кожнай хвіліне чалавечага жыцця ёсць тое, над чым варта задумацца. Да адкрыцця людзі прыходзяць звычайна праз тое ж звычайнае. Вось як і ў гэтых радках:

Скуль там ведаць,
дзе яна, сярэдзіна
Той сцяжынкі, па якой ідзеш?
Пражывеш, вядома, што адведзена:
Можа, больш, чым нехта,
                    можа, менш.

І не варта думаць і маркоціцца,
Што усё — па волі не людской:
Вечна сонца тым жа шляхам коціцца,
Тыя ж зоры ходзяць талакой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Будуць ліставеі і пярэзімы,
Юны хмель, гаркота і настой.
Толькі, дружа, не чакай сярэдзіны,
Хоць яна й завецца залатой.

У маладыя гады нам вельмі карцела быць сучаснымі. А быць сучаснымі — гэта не толькі падабацца сучасніку, падпяваючы яго настрою, звычкам і захапленням. Гэта нам тады так думалася. А ўсё сучаснае, як зразумелі мы потым, грунтуецца на падмурку старога, перажытага. І яно ніколі не выключае са сваіх абсягаў яе, чалавечай памяці. Думаю, невыпадкова кнігу сваёй выбранай лірыкі Хведар Чэрня назваў «На скрыжаваннях памяці» (1982). Скрыжаванні памяці бываюць і гістарычнымі, агульначалавечымі, але ў кожнага з нас шмат ёсць і асабістых. Галоўнае для чалавека, як даводзіць паэт, разумець іншага чалавека, не растраціць душэўнага цяпла, якім саграецца свет. Гэта думка вельмі выразна акрэсліваецца ў вершы «Бацькаў гадзіннік»:

Над зямлёй,
над вёскай,
над труной
Раптам стала
боязна і ціха,
І тваёй заведзены рукой,
Твой гадзіннік
для мяне ўжо цікаў.

Ды з гадзінай кожнаю — цішэй.
І тады мне зразумела стала:
Не заводу,
каб ісці даўжэй,
А твайго цяпла — яму замала.

Цяпло і дабрыня — два галоўныя словы і паняцці, якія ў паэзіі Хведара Чэрні арганічна жывуць і часта слугуюць думцы ды пачуццю. Паэт і верыць у чалавечую дабрыню і абагаўляе яе, меркай дабрыні ён вымярае ўсё чалавечае і жадае: «не хачу, каб у часе былым пра маю дабрыню гаварылі». Думаю, зусім невыпадкова яго першыя кнігі так і называліся «Добрай раніцы, людзі» і «Дабрэе свет». Варта сказаць, што дабрыню чалавечую паэт не толькі апяваў, ён у яе шчыра верыў. Ды і сам быў носьбітам тае ж дабрыні. Падзяліцца з сябрам самым апошнім — было ў яго характары. Гэта я зразумеў яшчэ на самым пачатку нашага сяброўства і пераконваўся потым у шчырасці і высакароднасці свайго сябра неаднойчы.

У 1963 годзе я атрымаў позву з ваенкамата — мяне прызывалі на вайсковую службу. Не хацелася ажно на тры гады развітвацца са сваімі студэнцкімі сябрамі, да якіх за час вучобы так прывык, нават прысямеіўся. Ён, гледзячы на мой сумны стан, суцяшаў на правах старэйшага, ды і сам за плячыма меў тры гады вайсковай службы. «Не бойся, — казаў ён. — Той не мужчына, хто не прайшоў праз армейскую школу мужнасці. Служы і не тужы». Служыць мне давялося ў Маскве, а з Хведарам мы перапісваліся. З яго ліста я неўзабаве даведаўся, што сябра мой нядаўна ўладкаваўся на працу ў рэдакцыю літаратурна-драматычнага вяшчання Рэспубліканскага радыё. На пачатку творчага шляху можна было толькі марыць пра такое ўтульнае працоўнае месца. Паведамляў ён, што ў яго мае выйсці з друку першы зборнік вершаў і тут жа прапаноўваў мне сабраць усё напісанае мной і даслаць яму, а ён ужо сам падрыхтуе кнігу да друку. У сваім лісце я вагаўся: «А як жа быць з перадрукоўкай рукапісу? І ці будзе ў яго час займацца маімі справамі, прычым такімі клопатнымі?» Тут жа атрымаў ад яго ліст, у якім сябра нават абураўся: «Ты што, мне не давяраеш? Твая справа — сабраць і даслаць мне вершы!..» Потым выпускаючы вайсковую насценгазету, я вырываў часіну, сядзеў і перапісваў з памяці свае вершы. Тады я ўжо друкаваўся ў часопісах «Полымя» і «Маладосць», паспеў засвяціцца з армейскімі вершамі на старонках «Чырвонай змены». На невялікі зборнік у мяне набіралася. Усё перапісанае я даслаў Хведару. Дзіўна неяк усё атрымлівалася: я маршыраваў страявым крокам на маскоўскім армейскім пляцы, а ён тут, у Мінску, сядзеў і адным пальцам на старой нямецкай трафейнай машынцы (потым давядзецца асвойваць яе і мне), перадрукоўваў мае вершы. Дзе вы сёння знойдзеце такога самаадданага спагадніка?! Калі я потым звольніўся ў запас, Хведар уручыў мне дзве і не дужа тонкія папкі. Гэта былі два экзэмпляры майго зборніка «Восеньскія позвы». Я тут жа аднёс яго ў выдавецтва. І не ведаў, як гэта мне аддзячыць майму сябру. Аддзячваў жа хутчэй не я яму, а ён мне. Я вярнуўся ў Мінск без капейчыны за душой, а ён ужо меў на працы нейкі заробак, друкаваўся, выдаў кнігу. «Бяру цябе «на довольствие»,— жартаваў ён потым.

«Бяры, калі будзеш мець ад гэтага «удовольствие»! — адказваў я жартам. Час у маладых бяжыць хутка, але не хутчэй за тое, як прабягаюць грошы. Асабліва, калі яны шчодрыя. Ён аддаваў перавагу традыцыйнай шклянцы віна пад варанае яйка.

Традыцыя была яшчэ студэнцкая, але мы і ў пазнейшыя часы ёй не здраджвалі. Неўзабаве я перавёўся на завочнае навучанне, паехаў працаваць у валожынскую раёнку «Працоўная слава». Пачуваўся я там даволі зручна: ад гарадка, калі ехаць праз Івянец, блізка і да майго дому. Кватэру я знайшоў паблізу ад рэдакцыі. Хведар ухваліў маё рашэнне наконт раёнкі і прасіў часцей наведваць яго бацьку ў Доржнях. «Старому сумнавата там, на водшыбе ў пушчы,— казаў ён, і ты развеешся». Бацька быў не менш шчодры, чым сын. Аднойчы мы з ім так пасядзелі за пушчанскім сталом, што мне тут жа захацелася пабачыць Хведара, хоць для гэтага трэба было пераадолець больш як сотню вёрст. А матэрыял, па які я ездзіў у пушчу, трэба было здаць у нумар тым жа вечарам. Замест маёй замалёўкі пра лясгас паставілі на паласу нейкі іншы матэрыял з запасу. Хведар ужо быў сямейным чалавекам. Зусім нядаўна ў ягоных Доржнях мы адгулялі яго веселле. Прыгледзеў ужо гарадскую нявесту сабе і я. Час маладога разбушуйства завяршаўся. Яшчэ нядаўна наша згуртаваная халасцяцкая тройца, куды акрамя мяне ўваходзіў і Мікола Чарняўскі, не паспявала падлічваць свае вясёлыя прыгоды. Заўважу, што ўсё наша прыгодніцкае дзеялася ў межах жарту і ніколі нават блізка не падступалася да нейкага там хуліганства. Мы жартам называлі сябе папуасамі. Мікола Чарняўскі нават напісаў гімн нашай вясёлай тройцы. Радкі з яго я памятаю і сёння:

Са шляху ніхто не зверне —
Кожны вытрыманы з нас.
Бо вядзе нас Хведар Чэрня,
Наш галоўны папуас.

Усё ў гэтым жыцці мае свае межы і свой час. З маладымі звычкамі гэтак жа цяжка развітвацца, як і з дзіцячымі цацкамі, калі ты прычакаў школьнага ўзросту. Але трэба. Неяк патэлефанавалі мне ў рэдакцыю з Рэспубліканскага радыё. Па голасе я пазнаў Юрася Свірку. «Прыязджай тэрмінова ў Мінск, — казаў ён.—Хведар ідзе вучыцца ў Вышэйшую партыйную школу (была некалі і такая). Цябе ён прапануе на сваё месца». Як на крылах ляцеў я тады ў сталіцу. Як-ніяк вырашаўся мой далейшы лёс, і Хведар Чэрня, як мог, спрыяў майму працаўладкаванню.

Пасля заканчэння партыйнай школы Хведар Чэрня пачне працаваць у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Менавіта ён быў рэдактрам маёй трэцяй кнігі «Нектар». У выдавецтве ведалі, што мы даўно сябруем. Таму і казаў ён мне ці то жартуючы, ці ўсур’ёз гэтак: «Ніякіх паслабак не будзе. Сяброў трэба чытаць асабліва прыдзірліва». Я не дужа перажываў за такое сябрава прызнанне ці папярэджанне. Я ведаў, што «прыдзірлівых» там, у выдавецтве, хапала і без яго. Сёння я і сам шмат што паправіў бы, нават перапісаў з таго, што тады рэдагавалася. А тады і аспрэчваў не тое, што трэба. Лічу, усё ж, што самы найлепшы наш рэдактар — гэта час. Ён хоць і бязлітасны, а справядлівы, бо ставіць усё на свае месцы.

Трэба прызнаць, што творча Хведар Чэрня працаваў многа і плённа. Кнігі лірыкі, гумар, творы для дзяцей, пераклады — усё гэта застаецца ў яго творчым актыве. Было, што і спяшаўся часам. Адзнакі паспешлівасці сям-там адчуваюцца і ў пазнейшых вершах. Іх не схаваеш. Быў бы жывы паэт, відаць, яшчэ адшліфаваў бы некаторыя радкі. Ён цаніў і прыслухоўваўся да парад і заўваг таварышаў па пяры. Самае ж галоўнае і найкаштоўнейшае ў яго паэзіі — гэта тое, што яна ў сваёй аснове шчырая і чалавечная, без пазёрства і прытворства.

У іх было вельмі шчырае сяброўства з Уладзімірам Шахаўцом, чалавекам намнога старэйшым за яго, таксама выдаўцом. Мне здаецца, Хведар шмат чаму вучыўся ў свайго старэйшага таварыша, той жа працы з аўтарамі, з іх рукапісамі. Памятаю, у нас была цікавая паездка на Браслаўшчыну. Некалькі дзён мы купаліся ў светлым і блакітным возеры, лавілі рыбу. А прытулак нам забяспечыў цесць Уладзіміра Карызны, хата якога стаяла на самым беразе возера Дрывяты.

Я паназіраў тады, як уважліва ўмее слухаць маладзейшы старэйшага і паважаны старэйшы не саромеецца заўваг маладзейшага. Гэтыя іх зацікаўленыя размовы выклікалі павагу і захапленне. З Мінска ў Браслаў мы ляцелі самалётам-«кукурузнікам» і ўжо пры ўзлёце, дзякуючы старэйшаму, змаглі так расчуліць лётны экіпаж, што бывалыя «летуны» згаджаліся з такімі пасажырамі ляцець на край свету. Але нам патрэбен быў усяго Браслаў, а ён нам адкрыўся адразу ўжо праз нейкай паўгадзіны лёту. Авіяцыя!.. Заецца, тады і прызнаўся Хведар Чэрня, што ён калісьці жадаў пакарыць неба. Лётчыкі ў сваю чаргу казалі, што нічога асаблівага ў гэтым сэнсе ён не страціў.

Ён рана пайшоў з жыцця. Апошняй сваёй кнігі «Музыка дарог» паэт ужо не пабачыць. Ён сам рыхтаваў яе да друку. Мне выпала пісаць да гэтага невялічкага зборніка прадмову. Нядаўна перачытваючы яе старонкі, я спыніўся на радках:

Вось прыехаў неяк у сяло я —
Засталася, хоць не ўся, радня.
І зусім нядаўняе былое
Выглядае з кожнага акна.
Ранавата, быццам ранавата,
Ды мяне па бацьку ўжо завуць.

Гэтыя словы сёння мог бы сказаць яго сын Алёша, у якога падрастаюць двое сваіх дзяцей. Некалькі гадоў назад мы разам з сынам і ўнукам ды ўдавой паэта Надзеяй Анатольеўнай наведалі Вішнева.

Землякі шануюць імя таленавітага паэта. На вечарыну, прысвечаную яго памяці, прыйшлі і тыя, хто застаўся з радні, і тыя, хто некалі вучыўся ды сябраваў з ім. Чыталі вершы, згадвалі, спявалі песні на яго словы.

Цытаваліся і радкі, якія я адшукаў у апошняй кнізе:

Многа-мала, але ж у народзе
Проста лішнім не быў я, о, не.
Восень толькі яшчэ надыходзіць
І яшчэ запатрэбіць з мяне.

Восень толькі надыходзіла, а імгненне назаўсёды спынілася. Хочацца, каб і гэтымі, і іншымі сваімі радкамі паэт заставаўся з намі, жывымі. Радкі часам вяртаюць нам тое, што часта застаецца паміж імі. Адшукаць яго можна толькі перачытваючы забытае.



**Лада АЛЕЙНІК**

# РОЛЯ ДЗІЦЯЧАГА ДОСВЕДУ Ў САЦЫЯЛІЗАЦЫІ АСОБЫ

Сацыялагічная навука вылучае два асноўныя тыпы (альбо перыяды) сацыялізацыі асобы: першасная — засваенне сацыяльных норм, узораў паводзін і культурных каштоўнасцей у дзяцінстве і юнацтве, і другасная — засваенне новых норм і каштоўнасцей дарослым чалавекам. Аднак сацыялізацыя — з'ява дастаткова складаная і шматпланавая. «Вызначэнні паняцця сацыялізацыі, апроч працэсу спасціжэння сацыяльнай прыроды, сацыяльнага вопыту, адлюстроўваюць шырокі спектр іншых працэсаў і з'яў: гэта і адаптацыя, і інкультурацыя, і інтэрналізацыя норм і каштоўнасцей, і навучанне, і засваенне роляў, і станаўленне асобы, набыццё ёю асаблівых якасцей. Шырыня падыходу ў дадзеным выпадку непазбежная: канцэпцыі выбудоўваюцца на паняццях «асоба» і «грамадства» — катэгорыях гранічнай абстракцыі. Гэта значыць, што ўсе працэсы, якія адбываюцца паміж імі, надзвычай разнастайныя. Мы ўсведамляем маштабнасць і поліфункцыянальнасць працэсу сацыялізацыі, а значыць, і фундаментальнасць паняцця з усёй шматстайнасцю яго сэнсаў» [1, с. 36].

Фундаментальную ролю ў станаўленні асобы адыгрывае працэс першаснай сацыялізацыі. Менавіта ў юным узросце чалавек засвойвае асновы маралі, адносін да людзей, да свету, вызначаецца ў сацыяльнай прасторы, асэнсоўвае свае правы і абавязкі, фарміруе сістэму сацыякультурных установак. На этапе першаснай сацыялізацыі стабілізуецца характар асобы, выпрацоўваецца стыль паводзін чалавека ў грамадстве. Як правіла, змест вопыту, атрыманага індывідам у дзяцінстве, выяўляецца ў далейшым яго функцыянаванні ў якасці суб'екта грамадскіх адносін і дзейнасці. Заканамерна, што працэс першаснай сацыялізацыі асобы знайшоў шматаспектнае і шматузроўневае адлюстраванне ў мастацкай літаратуры. Перадусім — у літаратуры, адрасаванай юным чытачам, героямі якой найчасцей з'яўляюцца дзеці і падлеткі, равеснікі саміх чытачоў. Фактычна кожны мастацкі твор выяўляе пэўны факт (альбо шэраг фактаў) з жыцця героя, які тым ці іншым чынам уплывае на яго, вымагае пэўных паводзін, пакідае адбітак у свядомасці. Інакш кажучы, сацыялізуе — стымулюе засвойваць урокі жыцця, асэнсоўваць прычынна-выніковыя сувязі падзей і рабіць пэўныя высновы.

У аснову сюжэта апавядання С. Верацілы «Арол-скарбонка» пакладзены ўспамін галоўнага героя пра адзін эпізод з яго дзяцінства. Аповед у творы вядзецца ад першай асобы, ад імя дарослага чалавека, які згадвае падзеі ўласнага маленства і ўсведамляе іх уплыў на сваё наступнае жыццё, на свой характар.

Гісторыя, якая здарылася з ім, бярэ пачатак ад вельмі распаўсюджанага дзіцячага захаплення — калекцыяніравання. «Час ад часу дзятву ахоплівае інстынкт збіральніцтва: калекцыяніруюць паштоўкі, маркі, цыгарэтныя пачкі, наклейкі ад запалак, значкі, каменьчыкі незвычайных колераў і формаў, манеты, медалі і, канешне ж, грошы. <…> Я ўжо і не помню, хто канкрэтна ў нашым двары даў штуршок да «эпідэміі», але за хуткім часам уся дзятва з «нашых дамоў» пачала збіраць грошы. І кожны выхваляўся і колькасцю назбіранага, і сваімі скарбонкамі.

Але вось сапраўднай скарбонкі ніхто не меў…» [2, с. 4—5]. Аднак у дзяцей, як вядома, добрая фантазія, яны здольны да самых нечаканых вынаходніцтваў. «Хтосьці скарыстаў звычайны літровы слоік з тады яшчэ дэфіцытнаю поліэтыленавай покрыўкай. Яшчэ два хлопцы збіралі капейчыны ў бляшаныя скрыначкі з-пад халвы. <…> Аднаму хлопцу мама закрыла слоік бляшанаю покрыўкай, каб зменшыць спакусу выцягваць накопленае…» [2, с. 5].

Як падкрэслівае аўтар, бацькі бяруць непасрэдны ўдзел у гэтай справе, па-свойму падтрымліваюць захапленне сваіх дзяцей. Відавочна, што збіранне грошай — занятак зусім нядрэнны, ён у пэўнай ступені дысцыплінуе — змушае да ашчаднасці, вымагае стрыманасці, настойлівасці. І несумненна, выхоўвае волю, вучыць утаймоўваць свае жаданні і пераадольваць спакусы.

У творы выразна акцэнтавана, якія тайныя правілы існуюць у кампаніі дзяцей, аб'яднаных ідэяй збірання грошай, і да якіх «дасягненняў» яны ставяцца з пагардай, а да якіх з пашанай. «…Аднаму хлопцу ягоная мамка адразу падарыла дзве чырвоныя дзясяткі і бэзавую пяцёрку (дваццаць пяць рублёў — грошы вялікія і для дарослых, а для дзіцёнка сума наогул фантастычная!), каб, па-першае, пазбавіць свайго адзінага ўшчэнт запешчанага сына ад крыху нудотнага працэсу збірання, а па-другое, каб надаць яму яшчэ большай вагі ў нашых вачах. Але, здаецца, яна пасляхова дасягнула адваротнага эфекту. Зусім нядоўга выстаўляўся ён перад намі сваім капіталам, негалосна ён быў выключаны з кола збіральнікаў» [2, с. 5].

Як бачна, справа не столькі ў грашовай суме, колькі ў спосабе яе атрымання. Працэс збірання грошай для дзяцей — гэта перадусім спосаб самарэалізацыі, абумоўлены імкненнем да незалежнасці і самастойнасці. «Самарэалізацыя чалавека — выяўленне ім актыўнасці ў значных і/або неабходных для яго сферах і сітуацыях жыццядзейнасці і/або ўзаемаадносін, вынікі і/або працэс якой больш ці менш адпавядаюць яго прэтэнзіям і пажадана прызнаюцца і ўхваляюцца значнымі асобамі і/або групамі» [3, с. 574]. Павагу ў дзяцей выклікаюць дзёрзкія планы і сур'ёзныя намеры аднагодкаў, а не сам факт валодання грашыма. Сведчаннем тут — наступны эпізод. «…Самым сапраўдным аўтарытэтам карыстаўся Ю. П., які ці то сам, ці то з чыесьці падачы дадумаўся ўжыць пад скарбонку важкую зялёнага шкла бутэльку з-пад шампанскага, у якую, паводле меркавання, апускаліся толькі пятнаццацікапейкавыя манеты. Іх там магло змясціцца ажно дзве тысячы сто штук (2100!) на агульную суму ў трыста пятнаццаць рублёў. І сама сума, і неймаверна працяглы працэс накаплення выяўлялі як хлопцаву ўпартасць і волю, так і ягоныя далёка сягаючыя планы, за якімі праглядваліся грандыёзныя абшары мажлівасцей, а таксама выклікалі да яго пашану з нашага боку» [2, с. 6]. Натуральна, дзяцей захапляюць неверагодныя перспектывы, звязаныя з той фантастычнай сумай, якую здольна змясціць бутэлька-скарбонка. Але аўтарытэт хлопца заснаваны не на грашовай наяўнасці (якой яшчэ няма і невядома, ці яна будзе), а на тых якасцях характару, якімі ён абавязаны валодаць па вызначэнні, калі рашаецца на такі сур'ёзны крок. Інакш кажучы, ідэя збірання грошай выступае своеасаблівым трыгерам, здольным актывізаваць і выявіць патэнцыйныя магчымасці волі і духу.

А вось галоўны герой твора не мае ніякіх адмысловых прылад, якія зручна выкарыстоўваць у якасці скарбонкі, ён збірае капейкі ў звычайныя запалкавыя скрыначкі. Але аднойчы яму выпадае шанец сцвердзіцца сярод аднагодкаў — бацька «ўрачыста ўручыў» яму гіпсавага арла, прыстасаванага пад збіранне грошай. Такой скарбонкі не было ні ў кога. «І вось арол цалкам перайшоў у маё ўладанне, і ўжо назаўтра мне ўдалося вынесці яго на вуліцу, і тут ужо аўтарытэт галоўнага збіральніка перайшоў да мяне» [2, с. 7]. Арол-скарбонка можа змясціць яшчэ большую суму грошай, чым бутэлька з-пад шампанскага, гэта значыць, што яго ўладальнік гатовы прадэманстраваць адпаведныя якасці характару — надзвы-

чайную волю, цярплівасць ды руплівасць. І магчымасці ў яго з цягам часу, калі напоўніцца скарбонка, будуць несувымерна большыя.

Дзеянні юнага героя сур'ёзна матываваны. Між іншым, паводле меркавання псіхолагаў, матывацыя — неабходная ўмова для паспяховасці справы. «Галоўным узроставым матывам падлеткаў з'яўляецца матыў дасягнення, які, як правіла, звязаны з імкненнем дабівацца поспеху, пазбягаць няўдач, з тым, каб павысіць альбо захаваць самапавагу, самаацэнку, павагу свайго атачэння» [4, с. 37]. Матывы ў хлопчыка відавочныя. З аднаго боку — бацькі паабяцалі, што дазволяць яму самастойна зрабіць сабе набыткі за сабраныя грошы. «Гэтая думка, гэтая ідэя настолькі была ашаламляльна новаю, што я нат на нейкі час забыўся на сваё ўменне гаварыць. Як жа, я сам, без дарослых, без іхняе падказкі, без іхняга кіравання змагу набыць менавіта тое, што патрэбна мне з майго пункту гледжання, а не тое, што дарослыя лічаць мне патрэбным!» [2, с. 7]. З другога боку — моцна стымулююць і натхняюць сябры, якія апантана абмяркоўваюць, колькі ўсяго можна купіць за такія шалёныя грошы. «…Фігуравалі: ровары «Спартовы» й «Арлёнак», мапед і прыймач «VEF» і яшчэ нябачаны нікім з нас магнітафон, тады яшчэ й тэлевізараў было небагата. А ўжо аб прысмаках то і казаць неяк няёмка: цукеркі лічылі на пуды, марозіва мроілася снегавымі гурбамі, тарты пухкімі галовамі з крэмавымі вачыма, цвёрдыя пліткі салодка-гаркавага шакаладу ў розных закрутках уставалі роўнымі шэрагамі…» [2, с. 8]. Менавіта імкненне да сцвярджэння ў кампаніі сяброў робіцца вызначальным матывам у дзеяннях юнага героя. Натуральна, хлопчык з жарсцю аддаецца свайму захапленню.

Жыццё дзіцяці моцна перамянілася, увайшло ў рэжым «татальнае эканоміі». Усе думкі засяродзіліся на скарбонцы, усе дзеянні падпарадкаваліся пошуку грошай. «Спачатку я адмовіўся ад семак, якіх на пятачок «хахлухі» адсыпалі шчодрай рукой ажно палову шклянкі, потым настала чарга цукерак і халвы, потым піражкоў з яблычным павідлам, якія мы памылкова называлі пончыкамі. Адмовіўся я і ад палявання ў ціры, дзе за дзве капейкі можна было адзін раз стрэліць па тыгры з паветранае стрэльбы. Адмовіўся і ад марозіва. <…> Карацей, я адмовіўся ад усяго і ператварыўся ўжо ў нейкага аскета, апантанага адной маніяй…» [2, с. 10—11]. Такім чынам хлопчык ператвараецца ў закладніка ўласнай ідэі. Ён пазбаўляе сябе ўсіх звыклых радасцей і пачуваецца ўсё больш заняволеным.

Залежнасць ад скарбонкі асабліва невыносная напярэдадні Новага года, калі ўсе дзеці пачынаюць набываць у крамах святочныя «аксесуары» — хлопаўкі і бенгальскія агні, рознакаляровыя серпанціны і канфеці. І ўрэшце хлопчык не вытрымлівае. Даведзены фактычна да адчаю, ён разбівае гіпсавага арла, зграбае рассыпаныя грошы і пачынае імкліва і мэтаскіравана ад іх пазбаўляцца — вядзе сябра ў кавярню і частуе ўсімі магчымымі прысмакамі: «Я частаваў сябра на шырокую нагу, я купляў яму самыя дарагія цукеркі, я дазваляў яму з піражных з'ядаць толькі крэм, і за хуткім часам ён ужо не мог нічога есці, толькі глядзеў на мяне асалавела-шчаслівымі вачамі, і, натуральна, што нічога не разумеў у маёй шчодрасці» [2, с. 15]. Пры тым, хлопчык не можа прызнацца сябру, што разбіў сваю скарбоку (бо гэта ж параза, ганьба), а хлусіць, нібыта знайшоў кашалёк з грашыма на аўтобусным прыпынку.

З псіхалагічнай дакладнасцю аўтар адлюстраваў паводзіны і стан дзіцяці, якое імкнецца як мага хутчэй пазбыцца грошай. Рэшткі сумневу, праўда, цепляцца ў яго свядомасці — на парозе крамы з'явілася думка, што яшчэ «можна павінавацiцца перад бацькамі», спыніцца, захаваць апошнія капейкі, нават «пачалі дрыжэць рукі, і цела прабіла па чарзе то халодным, то гарачым потам» [2, с. 16]. Аднак дзіця перамагае ваганні і набывае на ўсе грошы навагоднія хлопаўкі і бенгальскія агні.

Сімвалічна адлюстраваны дзеянні юнага героя ў фінале твора, калі ён, вярнуўшыся дамоў, сам-насам у пустой кватэры па-хуткаму выстрэльвае ўсе хло-

паўкі, а пасля робіць сапраўднае вогнішча з бенгальскіх агнёў на газавай пліце. Гледзячы, як «сінім полымем» гараць яго планы, надзеі і перспектывы, хлопчык адчувае неймаверную палёгку і радасць «незразумелага вызвалення».

Псіхолагі заўважаюць, што даволі часта «тая ці іншая задача, нявырашаная ў пэўным узросце, <…> знешне не ўплывае на развіццё чалавека, але праз пэўны перыяд часу (нярэдка — вельмі значны) яна «ўсплывае», што даводзіць да нібыта нематываваных учынкаў і рашэнняў» [3, с. 577]. Аднак, думаецца, метафарычнае рэзюмэ аўтара-апавядальніка дазваляе сцвярджаць, што ён дастаткова аб’ектыўна ўсведамляе ўплыў таго дзіцячага досведу на сваю будучыню, на свой характар: «Я глядзеў на агні і не думаў, што гэтае аўтадафэ расцягнецца на ўсё маё жыццё, і колькі мар, жаданняў і магчымасцей згарыць на агні нецярпення і неабдуманых учынкаў» [2, с. 18]. Колішнюю гісторыю, успрынятую ў дзяцінстве драматычна, гіпербалізавана, аўтар экстрапалюе на сваё наступнае жыццё, даводзіць, што яна зрабілася для яго псіхалагічнай траўмай. Збыткоўныя эмоцыі, перажытыя на этапе першаснай сацыялізацыі (успамін пра пакутлівую заняволенасць і радасць вызвалення), пазней асацыятыўна звязваюцца ў яго свядомасці з сацыяльнай практыкай, з татальнай уладай соцыуму, з залежнасцю ад грамадскіх норм, правіл і абавязкаў. Адпаведна, сацыяльныя ролі ўспрымаюцца скажона — як прэтэнзія грамадства на асабістую свабоду і незалежнасць, што ў выніку прыводзіць да пратэсту і канфлікту з грамадствам.

У заключэнне мэтазгодна заўважыць, што мастацкае адлюстраванне ўплыву дзіцячага досведу на характар дарослага чалавека садзейнічае засваенню чытачамі сацыяльнага вопыту, спрыяе прадуктыўнай сацыялізацыі асобы.

**Літаратура:**

1. Лялина, С. Б. Социальное воспитание в процессе социализации. — Среднее профессиональное образование. — 2011. — № 8. — С. 35—37.

2. Вераціла, С. Разбітае сэрца Вітаўта : аповесць-мінімум, апавяданні, казкі, мініяцюры / Сяргей Вераціла. — Мінск : Маст. літ., 2013. — 174 с.

3. Мудрик, А. В. Социализация человека : учеб. пособие / А. В. Мудрик. — 3-е изд., испр. и доп. — М.: МПСИ ; Воронеж : МОДЭК, 2010. — 624 с.

4. Хурум, С. Х. Формирование мотивации достижения у подростков. — Вестник Адыгейского государственного университета. Серия 3: Педагогика и психология. — 2008. — № 5. — С. 37—39.






*Мікола МАЛЯЎКА*

**СТАРАЯ ЗЯМЛЯ.**
**Санеты, спавітыя дзеразой.**
***Серыя «Кніжная паліца школьніка».***

*Мн.: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2014.*

У чытачоў неаднназначнае стаўленне да старых паэтычных жанраў. У тым ліку і да санета. Не кажучы ўжо пра вянкі іх, а таксама пра вянкі вянкоў санетаў. Маўляў, пішучы падобныя творы, паэты знаходзяцца ў палоне самой формы, а таму і абмежаваныя ў сваіх творчых магчымасцях, мусяць прытрымлівацца канонаў жанру, а гэта нярэдка ідзе толькі на шкоду. Што наконт гэтага адказаць? Ды тое, што, як і да любой з'явы, да санета, як і да ягоных разнавіднасцей, неабходна падыходзіць зыходзячы з канкрэтнага выпадку: гледзячы, хто піша той ці іншы санет і як піша. А што ў санета неабмежаваныя магчымасці, дый ён можа гучаць па-сучаснаму — пацвярджае кніга Міколы Маляўкі «Старая зямля».

**Сяргей МАРЧАНКА**

# САБРАНА СЭРЦАМ І ДУШОЙ

У назве, як няцяжка заўважыць, прысутнічае пераклічка са знакамітай «Новай зямлёй» Якуба Коласа. І такая паралель як нельга да месца. Героі народнага песняра, як вядома, жылі памкненнем прыдбаць свой кут, пазбавіцца ад панскіх пут. У цэнтры ж увагі М. Маляўкі — па сутнасці нашчадкі тых самых мікалаеўцаў, хоць пра такое «сваяцтва» прама і не гаворыцца. Важна, аднак, не толькі гэта. «Старая зямля» для паэта — вёска, у якой былі моцныя спаконвечныя традыцыі, прысутнічала тая народная мараль, што перадавалася з пакалення ў пакаленне. На жаль, многае з гэтага страчана, а шмат што і незваротна. Таму ў кнізе прысутнічаюць і настальгічныя матывы. Аднак гэта зусім не падобна на плач па вёсцы тых, хто, утульна адчуваючы сябе ў горадзе, гатовы ці не штодня скардзіцца на тое, як цудоўна жыць у вёсцы, а самі туды даўно забылі дарогу.

Лірычны герой М. Маляўкі — чалавек іншага кшталту. Калі ён прызнаецца: «У пашпарце — прапіска гарадская, // А вёска ўсё душу не адпускае», нікольві і ні ў чым не хібіць. У роднай Мікалаеўшчыне М. Маляўка жыве штогод з ранняй вясны да позняй восені. Прытым прыязджае адзін. Канешне, наведваюцца да яго і жонка, і дачка, але яны доўга ў вёсцы не затрымліваюцца, затое сам ён адчувае сябе тут не госцем, і нават не толькі земляком, а сваім, аднавяскоўцам, нібыта і не было ростані, што ўжо вымяраецца не адным дзясяткам гадоў. Дый як жа інакай, калі ўсё ў Мікалаеўшчыне такое блізкае, дарагое, незабыўнае. Галоўнае ж у тым, што жыве памяць аб родзічах

і найперш аб бацьках, дзякуючы якім ты і выйшаў у вялікі свет жыцця, бо гэта яны заўсёды былі тваёй падтрымкай і апорай. Няхай не так і матэрыяльна падтрымлівалі — скуль такой падтрымцы было ўзяцца ў цяжкія галодныя пасляваенныя гады, — колькі маральна, духоўна, бо, не заканчваючы ніякіх універсітэтаў, як усе вясковыя людзі, мелі іншую адукацыю — тую, якую ні ў якіх навучальных установах не атрымаеш, але яна такая, што карысць ад яе назаўсёды, бо гэтыя веды ад самой народнай мудрасці, маралі і этыкі. Ад зямлі яны:

Люблю я ў вёску прыязджаць адзін,
У мілы свет, дзе двор і ўсе прадметы
Яшчэ дзіцячай ласкаю сагрэты.
На кожным кроку — дарагі ўспамін.
Здаецца, мятай пахне тут палын,
А ў хаце — бацька, маці: два партрэты,
Што два злучаюць светы, Той і Гэты.
Я зноў дзіця, я зноў — шчаслівы сын.

Без працы, пэўна, сумна ім у раі.
Я ручніком партрэты праціраю,
Бацькам сваім малюся, як святым.
Згадаю ўсё, чым жыў, наперад гляну —
І з лёгкім жалем думаю аб тым,
Што неўзабаве сам партрэтам стану.

Лёгкі жаль, сум, які нечакана апанаваў лірычнага героя, да месца. Гэта не проста натуральны стан сучаснага гараджаніна, захаваўшага сваю повязь з бацькоўскай зямлёй, а і душэўнае перажыванне чалавека, узрост якога ўжо далёка не той, калі можна разлічваць на шмат новых вёсен і зім, а ўсё часцей з'яўляецца неабходнасць азірнуцца назад, суаднесці свой лёс з лёсамі тых, каго добра ведаў. Таму М. Маляўка ў думках і з тымі, каго ўжо няма, але хто назаўсёды застаўся ў ягонай памяці. Воблікі гэтых людзей, што ажываюць у санетах, падаюцца ўсяго некалькімі штрыхамі, але гэтага дастаткова, каб чалавек запомніўся, бо паэт ўмее пісаць ярка, запамінальна. У гэтым сказваецца і ягоны прыродны талент, але ў няменшай ступені і багаты паэтычны вопыт, назапашаны на працягу амаль шасцідзесяцігадовай плённай працы ў літаратуры. Таму, для прыкладу, такім запамінальным атрымаўся Міша Стралкаў з санета «З машынкай швейнай ладзіў без нагі», Анцік Кавалёў («Ён раненька ўставаў, гадзін у пяць»), Лёня Сэтраў («Каму не хочацца прадоўжыць род?..»), а таксама шмат якія іншыя вяскоўцы. Як быццам, нічога асабліва пра іх М. Маляўка і не гаворыць, а той ці іншы чалавек паўстае перад табой нібы жывы. Паэту дастаткова невялікага штрышка, але гэта такі мастакоўскі мазок, каб той, каго ён згадвае, запомніўся

Пішучы з любоўю да роднай вёскі, яе жыхароў, М. Маляўка нічога не прапускае з іхняга жыцця, расказвае пра іх і ў радасці, і ў горы. Кніга «Старая зямля» як бы энцыклапедыя жыцця Мікалаеўшчыны. Зразумела, пра шырыню ахопу яго казаць не выпадае, тым больш, калі прыняць пад увагу, што яно раскрываецца праз санеты, а санет жа — не паэма, ці апавяданне ў вершах. Але прыкмеціць асноўнае, галоўнае паэту ўдаецца. Праз тыя ж лёсы пэўных людзей. Пра звыклы іх уклад жыцця. А яшчэ праз повязь дня сённяшняга і ўчарашняга, а такую повязь лепей зразумець, калі супаставіць тое, што ёсць, з тым, што было, зноў жа як бы праводзячы паралель паміж жывымі і мёртвымі. Дакладней, паміж нашымі сучаснікамі і тымі, хто пайшоў ужо ў лепшы свет. Арыгінальна гэтая повязь выказана ў санеце «На могілкі ідуць, як у царкву»:

На могілкі ідуць, як у царкву,
Ушанаваць любоўю продкаў памяць,
Прыбраць куточак іх… І я таксама
Схіляю перад мамай галаву,
Але травы ля помніка — не рву:
І ў лузе, і ў двары сваім, ля брамы,
І тут, на могілках, любіла мама
Не кветкі, а зялёную траву.

Купляюць ружы, гваздзікі і калы,
А я шукаю ў гарадскіх кварталах
Зялёны сквер, зялёную мяжу:
Сярод машын, пад смогу шэрай кронай,
Лячу сваю вясковую душу
Зялёным лісцем і травой зялёнай.

З гэтым санетам па сутнасці пераклікаецца «У прыбудовачку, зацішны кут…», які змешчаны праз два творы ад

яго. Заляцела «ў прыбудовачку, зацішны кут» ластавачка. Бадай, захацела звіць тут сваё гняздзечка:

На свеце тым, гавораць, нашы душы
Ператвараюцца ў звяркоў і птушак.
Я не падумаў пра душу спярша,
А потым лёгка так на сэрцы стала:
І праўда, можа, матчына душа
У госці ластавачкай прылятала.

Дый санет «Малодшыя мяне не пазнаюць» таксама пра тое, наколькі ў гэтым тлумным свеце ўсе мы ўзаемазвязаны. Ёсць жывыя і ёсць мёртвыя. Толькі мёртвыя яны, калі зыходзіць з таго, што адсутнічаюць у сённяшнім, рэальным свеце, а так жывуць, у першую чаргу, у нашай памяці. І гэтая прысутнасць тым больш відавочная, чым часцей мы ўспамінаем іх. А дзе, як не ў вёсцы, напоўніцца ўсведамленнем таго, што паняцце «былі» ўмоўнае:

Малодшыя мяне не пазнаюць,
І я з дзядзькамі ў хаце размаўляю —
З Чакерам, Сэтрам, Яшкам, Аляляем.
У памяць дзверы прачыню чуць-чуць,
І цёткі ціха да мяне ідуць:
Сцячыха, Еўка, Люба Садавая,
Гасцююча, забавяцца, бывае, —
Я не магу да раніцы заснуць.

Сусед пасля пытаецца сур’ёзна:
«Заснуў, відаць? Святло гарэла позна».
Я адчуваю радасць, а не страх,
І не было, каб не пазнаў кагосьці, —
Хоць і даўно ў глухіх Церабяжах
Ляжаць яны, мае начныя госці.

Аднак кожная вёска — беларуская не выключэнне — абавязкова мае і такіх людзей, якія, пры ўсім іншым, вызначаюцца яшчэ і сваёй дасціпнасцю, гумарам, дый часам трапляюць у такія сітуацыі, якія не можа прыдумаць нават самая шчодрая фантазія, што асабліва відаць у аповесці Янкі Брыля «Ніжнія Байдуны», у якой, як вядома, дакументальная аснова. Безумоўна, ёсць такія людзі ў Мікалаеўшчыне, пра аднаго з іх М. Маляўка расказаў у санеце «Запомніў дзень вясельны Рымашок». Ды настолькі праўдзіва, пры гэтым з мінімальным выкарыстаннем вобразна-выяўленчых сродкаў, што пры чытанні кнігі «Старая зямля» чарговы раз здзіўляешся, як шмат дадзена Богам сапраўднаму паэту, наколькі ён умее, у дадзеным выпадку адштурхоўваючыся ад таго, што было ў рэальнасці, стварыць такі малюнак, яскрава бачыш самога чалавека, пра якога расказваецца. Але хоць гэты «герой» з Мікалаеўшчыны ні ў якім разе не патрапляе пад вызначэнне станоўчы, а менавіта пошукам падобных персанажаў не адно дзесяцігоддзе настойліва займалася крытыка, нават у думках яго не асуджаеш, бо Рымашок з тых, пра каго можна сказаць: хоць смейся, хоць плач, але ён — неардынарны. Без падобных Рымашкоў жыццё вёскі стала б куды сумнейшым:

Запомніў дзень вясельны Рымашок,
Праславіўся, скупы на смех і жарты.
Хіснуўся ён у сенцах цемаватых,
Таўкнуў плячом вушак.
«Нішто штуршок!» —
Здзівіўся п’яны. Адступіў убок
І вушаку ў дзвярах сказаў, як свату:
«Прабач, браток! За стол ідзі, у хату».
Не зразумеў, чаго прабег смяшок.

Цвярозы дзядзька сердаваў спачатку
На тых, хто ў вочы рэжа праўду-матку.
А потым частаваўся першаком
І сам смяяўся — на вясёлай хвалі:
Пасля сустрэчы з госцем-вушаком
Яго таксама Вушаком празвалі.

Канешне ж, не абышоў М. Маляўка магчымасці сказаць і пра Якуба Коласа, якога так шануюць і ў самой Мікалаеўшчыне, дый на ўсёй Стаўбцоўшчыне. Некалькі санетаў узнаўляюць асобныя моманты з жыцця Кастуся Міхайлавіча. Поруч санет «Жыццёвы шлях бяжыць за небасхіл», прысвечаны ягонаму сыну Міхасю Канстанцінавічу. Ёсць і верш «Коласаў шлях». Санет жа «Скупы загон — культура нашых дзён» пісаўся яшчэ тады калі герой яго начальнік Стаўбцоўскага аддзела культуры Анатоль Грэкаў быў жывы. Анатоль Васільевіч вельмі шмат зрабіў на ніве нацыянальнай культуры. Цяпер гэты санет — даніна ягонай памяці.

Санеты М. Маляўкі — свайго роду паэтычны летапіс жыцця адной вёскі, а паколькі гэтая вёска не такая, якіх шмат на Беларусі, а Мікалаеўшчына, то тым

самым узрастае значнасць здзейсненага паэтам. Нічога падобнага ў беларускай літаратуры дагэтуль не было. Дый штосьці не магу прыпомніць, каб нешта падобнае назіралася ў суседніх літаратурах — рускай, украінскай і іншых. Маю на ўвазе не проста мастацкія творы, а менавіта паэтычныя, якія б прысвячаліся адной вёсцы.

Скажам, ёсць цудоўны раман малдаўскага пісьменніка Іонэ Друцэ «Цяжар нашай дабрыні», дарэчы, перакладзены на беларускую мову Кастусём Кірэенкам. У гэтым творы аўтар з такой цеплынёй і тонкім гумарам расказвае пра свае родныя мясціны, што атрымаўся свайго роду гімн адной з малдаўскіх вёсак. А вось як выступае першапраходцам М. Маляўка. А першапраходцу, як вядома, заўсёды нялёгка. І не толькі таму, што даводзіцца ўздымаць вялікі пласт жыцця. Прысутнічае і адказнасць іншага кшталту: перад зямлякамі, якія цябе добра ведаюць. Дый перад самім сабой таксама. Нельга хібіць ні ў вялікім, ні ў малым.

Мікола Маляўка гэтага паспяхова пазбягае. Таму кніга «Старая зямля», несумненна, успрымаецца з’явай у сучаснай беларускай паэзіі. А наколькі сур’ёзна ён паставіўся да ажыццяўлення творчай задумы, сведчыць і тое, што працаваў над сваёй «Старой зямлёй» дзевяць гадоў — з 2002-га па 2011-ы. Між іншым, дасведчаны чытач ведае, што гэта не першае выданне згаданай кнігі. Цяперашняе значна дапоўненае, а першае было яшчэ ў 2005 годзе. З-за дапаўненняў кніга толькі выйграе. Паэтычны партрэт Мікалаеўшчыны стаў больш аб’ёмны, а дзякуючы гэтаму можна лепш зразумець, як жылі мікалаеўцы колькі дзесяцігоддзяў назад і як жывуць яны сёння. «Санеты, спавітыя дзеразой», а такі падзагаловак мае кніга, — гэта і свайго роду вянок, сплецены паэтам сваёй роднай вёсцы і землякам. На адным дыханні М. Маляўка прызнаецца:

Радкі збіраў я сэрцам і душой,
Як кветкі рассыпаліся санеты
Зімы і восені, вясны і лета.
Тады я спырснуў іх жывой расой,
Спавіў з любоўю светлай дзеразой,
Каб сталі для мяне і вас букетам, —
І вось яны ў адным букеце гэтым
На сонцы ззяюць сціплаю красой.

Гэта радкі з заключнага санета «Радкі збіраў я сэрцам і душой». Як падсумаванне таго, што напісана і як напісана. Адначасова і запрашэнне пасля прачытання кнігі зноўку перагарнуць яе старонкі, каб прачытаць яе больш удумліва і ўважліва. Зрабіць жа гэта не лішне, бо ў такім разе можна яшчэ лепш адчуць і зразумець значнасць напісанага М. Маляўкам.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# КОЖНЫ ДЗЕНЬ — СВЯТА




*Мікола ЧАРНЯЎСКІ*

**З ДУМКАЙ ПРА БЕЛАРУСЬ, АЛЬБО ЁСЦЬ ДЗІВА, АДВЕЧНАЕ ДЗІВА**

*Мн.: Народная асвета, 2015*

«Ад таго, хто вёў дзіця за руку, хто адкрыў яму навакольны свет, будзе залежаць яго ўзлёт, лёс, будучыня і шчасце», — прыгадвае Мікола Чарняўскі мудрыя словы Васіля Віткі. З гэтай высновай цяжка спрачацца, хочацца дадаць тое, што гэты «спадарожнік» у ідэале павінен валодаць не толькі каласальным багажом ведаў, але і мець бясцэнны жыццёвы вопыт, цярпенне, гумар. Складана было б знайсці на такую ролю чалавека больш прыдатнага, чым сам Мікалай Мікалаевіч, які ўжо больш за паўстагоддзя піша выдатныя творы для дзяцей і падлеткаў, здольны пры гэтым заставацца на дзіва сучасным і цікавым як дзяўчынкам і хлопчыкам далёкіх шасцідзясятых, так і юным чытачам XXI стагоддзя. Выдатна адчуваючы пераемнасць традыцый выдання своеасаблівых чытанак і дзіцячых часопісаў, якія стваралі ў свой час Цётка, Якуб Колас, Леаніла Чарняўская, аўтар ставіць на мэце зацікавіць школьнікаў беларускай гісторыяй, этнаграфічным светам, класічнай і сучаснай літаратурай. «З думкай пра Беларусь» — гэта кніга не для самых маленькіх, яна разлічаная на вучняў сярэдніх класаў, якія ўжо маюць уяўленне пра асноўныя гістарычныя падзеі і выбітных асоб нашай зямлі. Але, каб падлеткі не страцілі цікавасць да беларускага культурнага і літаратурнага асяроддзя, трэба расказаць ім нешта такое, чаго не прачытаеш у падручніку. Як Янка Купала пісаў свой знакаміты верш «Хлопчык і лётчык»? Хто выступаў у беларускім друку пад псеўданімам Гаўрыла з Полацка? Якім быў першы моладзевы часопіс на Беларусі? Хто з беларускіх мастакоў рабіў чарцяжы касмічнай тарпеды? Дзе знаходзіцца краіна Аргентонія? Без якога прадмета гардэробу нельга было выходзіць з дому ў

ХІХ стагоддзі? Які сувенір прывезці родным з Івянца? Адказ на гэтыя і іншыя пытанні атрымаюць цікаўныя чытачы пасля знаёмства з кнігай Міколы Чарняўскага. Да таго ж Мікалай Мікалаевіч, які мае вялікі стаж працы на Рэспубліканскім радыё, у часопісах «Бярозка», «Вясёлка», знаёміць чытачоў з асаблівасцямі літаратурнай «кухні», распавядае цікавыя гісторыі знаёмства і творчых сустрэч з Алесем Якімовічам, Васілём Віткам, Пятром Рунцом. На дзіва ўдала глядзяцца ў кнізе вершы аўтара, тэматычна звязаныя з нарысамі кнігі, — «Купалінка» ў Доме Купалы», «Пісаў зямляк… (У вянок Максіму Багдановічу», «Вяртанне», «Ёсць дзіва, адвечнае дзіва…», «Памяць нашых продкаў», «Куток, дзе грэюць словы», «Запавет», «Вечны агонь». Апошні раздзел — «З краязнаўчага музея іх прынёс, загадкі ўсе я», безумоўна, падштурхне падлеткаў да наведвання музеяў, знаёмства з энцыклапедыямі. Бо далёка не кожны школьнік зараз можа патлумачыць, што такое калаўрот і чаўнок… Галоўнае, што аб’ядноўвае нарысы кнігі «З думкай пра Беларусь» — арыентацыя на прыгодніцкі свет юнацтва, які немагчыма ўявіць без захапляльнага чытання і падарожжаў па родным краі. Увагу на выданне павінны звярнуць настаўнікі школ, гімназій, ліцэяў, таму што больш карыснага і, галоўнае, прывабнага зборніка для пазакласнага чытання знайсці будзе цяжка. Але гэта не значыць, што кніга Міколы Чарняўскага прызначаецца менавіта для школ. Яна напісана сакавітай мовай, стыль выкладу — у меру разняволены. Чытаць яе дома, у час летніх канікул, будзе вялікай асалодай. І хто ведае, магчыма, яна натхніць юных чытачоў на стварэнне ўласных твораў па-беларуску, як натхніла ў свой час Алеся Гаруна выпадкова знойдзеная беларуская кніга.




*Уладзімір ЛІПСКІ*

**ВАЙНА ПРАКЛЯТАЯ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

«Не выжываю, а жыву!..» — так у свой час назвала кнігу пра Уладзіміра Ліпскага Маргарыта Яфімава. Назва, на нашу думку, больш чым проста ўдалая, бо яе цалкам можна аднесці як да жыццёвай пазіцыі самога Уладзіміра Сцяпанавіча, так і да герояў яго вядомых мастацка-дакументальных твораў: акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Васіля Купрэвіча; кампазітара, народнага артыста СССР Ігара Лучанка; народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч, супрацоўніка міліцыі Вячаслава Сцяпанава і многіх іншых. Заканамерна, што Уладзімір Ліпскі, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, адзначаны высокімі ўзнагародамі — Міжнароднай прэміяй А. Швейцара за дабрачынныя справы на карысць дзяцей, заложнікаў чарнобыльскай трагедыі; Літаратурнай прэміяй імя Аляксандра Грына за творы, прасякнутыя духам рамантыкі і надзеі і інш.

А да 70-й гадавіны Вялікай Перамогі выйшла кніга Уладзіміра Ліпскага «Вайна праклятая», якая змяшчае пад адной вокладкай дзве выдатныя і ўжо ацэненыя чытачамі аповесці — «Крутыя вёрсты» і «Пралескі ў небе».

Першая з іх прысвечана мужнай палачанцы, Герою Савецкага Саюза, Зінаідзе Тусналобавай-Марчанка. Вопыт асабістага знаёмства з гэтай дзіўнай жанчынай і яе сям'ёй дазваляе аўтару пісаць надзвычай дакладна, фактаграфічна, з аднаго боку, і эмацыйна, шчымліва — з другога. Твор пазбаўлены ідэалізацыі, галоўная гераіня паўстае перад намі як чалавек, якому ўласцівы звычайныя для ўсіх пачуцці: адчай, расчараванне, страх. На пачатку аповесці чуем ад санінструктара Тусналобавай: «Бог ты мой, Бог, у якім жа шынку ты забавіўся, што не чуеш, не бачыш чалавечай бойні?», «Колькі ж можа трываць чалавек? За што, за якія грахі пераносіць такія нечалавечыя пакуты?» Дзяўчына нават мае намер «скончыць адным махам са сваім жыццём», каб не патрапіць у палон. Аднак гэта толькі імгненныя слабасці. Страціўшы рукі і ногі, дваццацітрохгадовая Зіна здзіўляе ўрачоў і суседзяў па шпітальных палатах незвычайнай вытрымкай, верай у немагчымае. Пэўна, заўсёды вельмі цяжка патлумачыць чытачу вытокі падобнага аптымізму, але для светаадчування Уладзіміра Ліпскага гэта цалкам арганічна, ён сам некалі выказваўся наступным чынам: «Жыццё — гэта Божы дар. Жыццё — гэта свята! Хай кожны ваш дзень будзе святам!» Вось і Зінаіда Тусналобава не толькі сама верыць у штодзённае свята, але і ўздымае бадзёры настрой іншым, піша лісты-пасланні да байцоў у газеты, сустракаецца з рабочымі. Нездарма лозунг «За Зіну Тусналобаву!» з'явіўся на бартах многіх савецкіх танкаў і самалётаў. Пры гэтым пісьменнік не баіцца сутыкнуць чытачоў твар у твар з жорскай праўдай, не апускае ў аповедзе самае цяжкае, жудаснае. Даволі натуралістычнымі з'яўляюцца апісанні калецтваў, аперацый. Вось якой знаходзяць замерзлую Зіну каля станцыі Гаршэчная пасля апошняга бою: «крывавая льдзіна, у якой, быццам бы ў гадзіннікавым футарале, цікала сэрца». Аповесць мае стройную кампазіцыю, яна надзвычай вобразная і сімвалічная. Сімволіка колеру добра адсочваецца ўжо з першых старонак твора: бязмежная бель поля з чорнымі людзьмі-мішэнямі, якое паступова паглынае жудасная чырвань крыві. Перад пагрозай смерці ўсе роўныя, яна здымае існуючыя пры жыцці адрозненні. Аднолькава барвовымі робяцца валёнкі-разнапаркі Зіны… На працягу аповесці сустракаемся і з вобразамі-сімваламі прарочых сноў. Гэта сон пра галубку брата Зіны ў дзень жахлівай трагедыі, і сон галоўнай гераіні пра дэманстрацыю, і яе трызненні ў час пераездаў са шпіталя ў шпіталь. Таму «Крутыя вёрсты» — твор надзвычай каштоўны як у мастацкіх, так і ў дакументальных адносінах. Чытаецца ён, як кажуць, на адным дыханні, трымае ў пастаянным напружанні. Кожнаму чалавеку ў стане дэпрэсіі проста неабходна пазнаёміцца з гэтай аповесцю. Каб адчуць мізэрнасць нашых штодзённых дробязей прад подзвігам жыцця Зінаіды Тусналобавай-Марчанка — жанчыны, якая, не маючы рук і ног, стварыла шчаслівую сям'ю з паўнакроўнай радасцю выхавання дзяцей, перыядычна ладзіла сустрэчы, выступала ў друку, працавала дыктарам полацкага радыё і нястомна сцвярджала: «У мяне яшчэ багата чаго засталося. Ёсць мазгі, якія думаюць. Ёсць вочы, якія бачаць. Ёсць сэрца, якое спраўна працуе».

Своеасаблівa знітоўвае творы кнігі, рыхтуе чытача да ўспрымання яшчэ адной гісторыі гераічнага жыцця фраза ў аповесці «Крутыя вёрсты»: «Яна, беларуска, стала добраахвотніцай Сібірскай дывізіі, змагалася за варонежскую зямлю. Нейкі ж варонежскі хлопец пойдзе на смерць за яе родную Полаччыну». Акурат такім хлопцам з'яўляецца Аляксандр Мамкін — грамадзянскі лётчык, удзельнік аперацыі «Зорачка» па эвакуацыі выхаванцаў Полацкага дзіцячага дома, плануемых донараў крыві для нямецкіх салдат,

герой аповесці «Пралескі ў небе». Уладзімір Ліпскі працягвае традыцыю стварэння надзвычай жывых і кранальных вобразаў. Надта ўдала ў яго атрымоўваецца партрэтная характарыстыка Сашы Мамкіна: «Ён заўсёды смяяўся шчыра, усмешка, нібы рэнтген, прасвечвала яго. У такія імгненні шырокі адкрыты твар з белазубым ротам, блакітнымі вачамі станавіўся вельмі прыгожым. Хлопцы жартавалі: «Сашка, на танцах не вельмі выскаляйся, а то дзяўчаты ў наш бок не глянуць». Заўсёды хораша смяюцца людзі маральна чыстыя. І ў гэтым сакрэт абаяльнасці сціплага і мужнага лётчыка. Чыстым і высокім з'яўляецца яго каханне да нявесты Клаўдзіі: «Гэта мо ўжо не каханне, калі кожны певень кукарэкае пра яго. Каханне — вялікая таямніца двух сэрцаў. І няхай яна да скону захоўваецца ў іх адных. Адным ім зразумелая, адным ім падуладная для разгадкі». Выток вялікіх баявых дасягненняў таксама ў непарушных маральных прынцыпах, бясконцым самавыхаванні: «Віртуознасць — зліток працавітасці, патрабавальнасці і вялікай адказнасці перад сумленнем». Нікога не пакіне абыякавым тая пяшчота, з якой галоўны герой абыходзіцца з маленькімі сіротамі. Лётчык параўноўвае іх з пралескамі, якія, як кветачка, падараваная яму дзяўчынкай Тоняй, павінны сагрэцца і расквітнець. Ды і сам самалёт Р-5 гэта «нябесная калыска, у якой Мамкін вяртаў Вялікай зямлі яе будучыню». Пасля геraічнага ўчынку лётчыка медыкі не маглі зразумець, як мог ажыццявіць пасадку палаючага самалёта цяжкапаранены чалавек з уплаўленымі ў твар акулярамі. Відаць, межы чалавечых магчымасцей робяцца вельмі рухомымі, калі па ўласцівасцях характару не можаш пайсці на кампраміс з уласным сумленнем. А яшчэ лётчык Мамкін не мог не выканаць загаду свайго камандзіра: «Загінуць любы зможа. Навучыцеся жывымі вяртацца». Уратаваўшы жыцці адзінаццаці выхаванцам дзіцячага дома і двум параненым партызанам, ён вярнуўся з задання жывым і загінуў праз шэсць дзён змагання ўрачоў…

Перакрыжаванне лёсаў Зінаіды Тусналобавай і Аляксандра Мамкіна паступова афармляецца Уладзімірам Ліпскім у простую выснову: «Варонежчына і Полаччына — усё гэта адзіная родная зямля». «Крутыя вёрсты» і «Пралескі ў небе» арганічна ўваходзяць у адну кнігу з красамоўнай назвай «Вайна праклятая». Кнігай пра двух гераічных людзей, якія вынайшлі сакрэт супрацьстаяння пракляццю.




*Анатоль БУТЭВІЧ*

**ЧАРАЎНІЦА ВОСЕНЬ І СЦЯЖЫНКА ПАДАРОЖНІЦА**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Новая кніга Анатоля Бутэвіча, лаўрэата прэміі імя Васіля Віткі, літаратурнага конкурсу «Кімерыйскія музы» на Міжнародным фестывалі дзіцячых пісьменнікаў у Феадосіі, змяшчае пад каляровай вокладкай шэсць казак-чароўных гісторый. У кожнай з іх

пісьменнік вучыць заўважаць незвычайнае ў паўсядзённым жыцці, раскрывае вочы на нябачныя скарбы, схаваныя пад кожнай травінкай ды лістком. Нечым гэта нагадвае казачны прыём Ганса Хрысціяна Андэрсена, здольнага захапіць нават прыгодамі цыравальнай іголкі. Так і зернейка сасны з казкі «Як сасна з бярозай пасябравалі» здзяйсняе паветранае падарожжа праз вёскі і гарады беларускай зямлі, а Сняжынка з казкі «Сняжынка-падарожніца» ўпершыню знаёміцца з восенькімі краявідамі. Маляўнічасць апісанняў у кнізе можа нават і не зусім традыцыйная для дзіцячых казак. Гэта не прымітыўныя клішыраваныя выразы пра сонейка, ветрык, капеж… Чараўніца восень развешвае на дрэвах свае ўборы з чароўнага куфэрка, вастравокая зімовая фея нанізвае на павучынкі бабінага лета замарожаныя расінкі… Але не толькі эстэтычную асалоду атрымаюць маленькія чытачы. Умела спалучае Анатоль Бутэвіч мастацкія мэты з выхаваўчымі, азнаямляльнымі: тлумачыць, як дзейнічае прыродны кругазварот, як дрэвы вырастаюць, як вучацца лётаць птушкі. Можна здзівіцца, напрыклад, як у дзіцячую казку можна ўвесці звесткі пра навуку дэмаграфію. Але ў пісьменніка і гэта атрымоўваецца арганічна. Дзейнічаюць у казках і персанажы беларускай міфалогіі: бог холаду Зюзя, бог сонца Ярыла. А як яшчэ найлепш абудзіць цікавасць дзяцей да сівой даўніны? Амаль кожная старонка кніга шчодра перасыпана прыказкамі, прымаўкамі, народнымі выслоўямі, якія трапна характарызуюць казачныя сітуацыі: «Пытаецца люты, ці добра абуты», «Каб са шчасцем жыць, трэба шчасцем даражыць», «Не вучыся разбураць, а вучыся будаваць» і інш. І ўсё гэты пры тым, што казкі Анатоля Бутовіча не пазбаўлены рэалій нашага сучаснага штодзённага жыцця: яго героі звязваюцца адзін з адным пры дапамозе мабільнага тэлефона, пішуць смскі, карыстаюцца інтэрнэтам. Бо зараз, каб быць дасведчаным, трэба цікавіцца хаця б крыху абсалютна ўсім. Вунь як Дзед Усёвед удала са смартфонам упраўляецца! Быць «чамучкам» і ўважлівым на кожным кроку прымушае ўжо сам тэкст кнігі, дзе ў загалоўных літарах зашыфравана паведамленне для чытачоў. Не можа не закрануць Анатоль Бутэвіч, аўтар выдатных твораў гістарычнай тэматыкі, і праблему памяці аб падзеях мінуўшчыны. Даведаюцца дзеці і пра старажытныя замкі Беларусі, і пра Соф'ю Гальшанскую, і пра пераплеценыя бярозу і сасну на шляху да Нясвіжа.

Адказнасць перад сабой і іншымі, узаемадапамога, згода, сяброўства — вось тыя вызначальныя якасці, на якіх трымаецца казачны свет Анатоля Бутэвіча. Можа, таму так і не хочацца раставацца з казкай…



# ЛІПЕНЬ

У **№ 7 за 1936 год** «Полымя» надрукавала «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну». Пад ім было пазначана:

*«Пісьмо падпісалі 2 мільёны працоўных Савецкай Беларусі. Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну ў вершах пераклалі паэты:*

*Янка Купала*

*Якуб Колас*

*Андрэй Александровіч*

*Пятрусь Броўка*

*Пятро Глебка*

*Ізі Харык»*

Вядома, оды дзяржаўным мужам — гэта не ноу-хау савецкага часу. Успомнім, напрыклад, напісаныя ў XVII стагоддзі «Метры на пришествие во град отчистый Полоцк пресветлого благочестивого и христолюбивого государя царя и великого князя Алексия Михайловича», якія належаць пяру Сімяона Полацкага і пачынаюцца такімі радкамі:

Веселися, о царю пресветлый з востока,
Россом светячий светом от бозкаго ока.

Праўда, у першыя гады Савецкай улады складаць хваласпевы, адрасаваныя першым асобам краіны, было неяк не прынята — і так да смерці Леніна, якая паклала пачатак шматтомнай паэтычнай Ленініяне.

— Дарагія дэлегаткі!
Не журыцеся вы, маткі,
Што ўжо Леніна няма
(Чула гэта я сама).
Ён казаў — і нам, жанчынам,
Раўнапраўна жыць з мужчынам,
Бо раней, за Мікалаем,
Нас мужчына бэсціў, лаяў, —
Не пушчаў хадзіць на сходы, —

пісаў у 1925 годзе Паўлюк Трус у вершы «Аб Леніне», і яго голас гучаў ва ўнісон з тысячамі іншых галасоў шматмоўнай савецкай паэзіі.

Хто першы сярод паэтаў звярнуўся да вобраза Сталіна, сказаць цяжка, але вядома, што ўжо ў 1929 годзе з цэнтральнай газеты «Правда» паступіў сацыяльны заказ паэтам Дзям’яну Беднаму і Аляксандру Жараву на напісанне вершаў у гонар пяцідзесяцігадовага юбілею Сталіна. Праўда, тады на гэтую адказную тэму той жа Бедны мог выказацца, у нейкім сэнсе, нават «фрывольна»:

Я, вопреки заказу,
Заказу правдинскому вопреки,
О Сталине не написал ни строки.

І заўважыць, што ўслаўленне імя Сталіна — гэта справа будучыні, няхай сабе «бліжэйшых гадоў»:

Нужны ли Сталину оды?
Ближайшие годы
Над сталинским подвигом произнесут
Исторический суд.
Предвосхитить я его не намерен.

Але ў 1934 годзе ў краіне ўжо была іншая палітычная атмасфера, і Янка Купала, які ехаў у Маскву на І Усесаюзны з’езд пісьменнікаў СССР і вёз з сабою верш «Трэба нам песень», які мусіў прачытаць замест прамовы, цудоўна ведаў, чым павінны заканчвацца прамовы з высокай трыбуны:

Трэба нам песень а шчырых і чулых,
Што праўду дзён нашых
ад полюсаў неслі б
І славу вякоў, пакаленняў мінулых
Сваей перамогай геройскай устрэслі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каб тоны у песнях, геройствам
адбітыя,
Нашай эпохі зрабіліся вартыя,
Тоны, што песням дае кампазітар —
Сталін магутны і наша партыя.

Хіба толькі дзякуючы таму, што пасля смерці Сталіна яго імя знікла з усіх твораў, якія яго ўслаўлялі, камусьці можа падацца, быццам такія прысвячэнні ў літаратуры былі рэдкасцю. Пісалі пра Сталіна Колас і Броўка, Танк і Куляшоў. Як пісалі, напрыклад, Пастэрнак і Мандэльштам, Таркоўскі і Ахматава. Пісалі далёка не шэдэўральныя і сапраўды таленавітыя творы. Пісалі — хто ад страху за свой лёс, хто са шчырай верай у свае словы і таму, што так было прынята.

Зразумела, і паэтычныя «пісьмы Сталіну» ствараліся не толькі ў Беларусі. У 1939 годзе да 60-годдзя правадыра маскоўскае выдавецтва «Художественная литература» выпусціла цэлы зборнік такіх лістоў, дзе былі і «Пісьмо бакінскай інтэлігенцыі таварышу Сталіну», і «Пісьмо шчаслівага ўзбекскага народа правадыру народаў вялікаму Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», і «Пісьмо будаўнікоў Вялікага ферганскага канала Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», і іншыя. Кожнае з іх прымяркоўвалася да пэўнай падзеі альбо даты. Беларускае «Пісьмо…» стваралася ў сувязі з падрыхтоўкай да XVI гадавіны вызвалення БССР ад польскіх войскаў і гадавіны ўручэння Беларусі ордэна Леніна. Праўда, ніводзін з шасці аўтараў не быў ініцыятарам напісання гэтага твора. Сама ідэя выспела недзе «ў вярхах». Прынамсі, задачу перад паэтамі ставіў сакратар ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала. Паклапаціліся ў ЦК і аб тым, каб паэтам працавалася камфортна: іх штодня вазілі на ўрадавую дачу ў Сляпянцы пад Мінскам.

Вядома, і сам працэс напісання твора патрабаваў ад аўтараў пэўнай арганізацыі. Вось што пра гэта знаходзім у 9-м томе (першай кнізе) Поўнага Збору твораў Янкі Купала ў 9-ці тамах (10 кнігах): «У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАНБ (ф. 24, воп. 1, адз. зах. 208) захоўваюцца матэрыялы, якія дазваляюць прасачыць за гісторыяй стварэння твора і ўдакладніць дату яго напісання. Вывучэнне матэрыялаў дае магчымасць меркаваць, што менавіта П. Глебка ажыццяўляў арганізацыю калектыўнай працы аўтараў «Пісьма…» У арт. «Неапублікаваныя купалаўскія радкі» П. Глебка адзначае: «Летам 1936 г. Я. Купала разам з групай паэтаў працаваў над пераказам у вершах «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну». Перад пачаткам работы нам быў дадзены празаічны тэкст «Пісьма…» Мы падзялілі яго на часткі, і кожны ўзяў на сябе апрацоўку пэўнага раздзела. Янка Купала даў згоду працаваць над раздзелам аб мінулым Беларусі» («Літ. і мастацтва», 1951, 30 чэрв.). У фондзе П. Глебкі захоўваюцца 2 рэдакцыі той часткі твора, над якой працаваў Я. Купала, і 4 рэдакцыі ўсяго «Пісьма…» з праўкамі рэдактара. На адным з машынапісаў пазначана: «Праца над пісьмом пачата 25/V, скончана 5/VII 1936 г.» і пастаўлены подпіс П. Глебкі.

Увесь твор складаецца з шасці частак: лагічна дапусціць, што кожны з шасці аўтараў напісаў па адной частцы. На думку даследчыкаў, першую частку напісаў Якуб Колас, другую Янка Купала. Ён жа, Купала, і пераклаў на беларускую мову шостую частку, над якой працаваў яўрэйскі паэт Ізі Харык, і якая заканчваецца вельмі прыгожымі, з пункту гледжання паэтычнай вобразнасці, радкамі:

Хай смутак вачэй тваіх добрых
не росіць
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход…

Зрэшты, напісаць «Пісьмо…» было яшчэ паўсправы. Усе разумелі, што адрасата трэба ўразіць і знешнім выгля-

дам падарунка, для чаго звычайная папера яўна не падыходзіла. І тут камусьці ў галаву прыйшла ідэя вышыць усе літараты твора шоўкавымі ніткамі рознага колеру на шоўкавых лістах. Гэтая праца была даручана сямідзесяці вышывальшчыцам! Мала таго, вядомыя беларускія разьбяры з кавалачкаў дрэва розных парод змайстравалі спецыяльны куфар, у які вышытае «Пісьмо…» было ўкладзена.

23 лістапада 1936 года газета «Рабочий» (тагачасная назва «Советской Белоруссии») так апісвала незвычайны падарунак Сталіну: «Сундук состоит из набора около 100 тысяч кусков цветного дерева. Его верхняя крышка набрана рисунком белорусской скатерти. Посредине сундука замечательно сделанный из дерева орден Ленина. Кругом крышки идут орнаменты слуцких поясов. Передняя сторона сундука — картина «Охрана наших границ», изображающая пограничника, стоящего на страже границы. Вдали виднеются два пограничных столба — советский и польский. Со второй стороны сундука — картина на тему: «Вручение колхозу им. Ленина акта на вечное пользование землей». С третьей стороны — картина «Вид бобруйского деревообделочного комбината». С четвертой стороны — картина, показывающая, как 13 пар колхозников и колхозниц под скрипку, гармошку и цимбалы исполняют «Лявониху». После картин идет набор рисунка белорусского полотенца, а кругом изображены снопы. Потом идет набор рисунка Белорусского пояса, а ножки сундука набраны цветным деревом. У сундука есть замок. На ключах выгравированы слова «БССР». При открытии сундука замок шесть раз звонит. Сундук отполирован под перламутр. Внутри он отделан красным полированным деревом. К сундуку сделан футляр — ореховый, полированный. Внутри футляра — шелковые подушки. Этот сундук, ярко выражающий любовь белорусского народа к великому Сталину, сделан по инициативе Н. Ф. Гикало».

Вось з гэтым шыкоўным падарункам прадстаўнічая беларуская дэлегацыя паехала на восьмы Надзвычайны з’езд Саветаў, які праходзіў у Маскве з 25 лістапада па 5 снежня 1936 года і на якім прымалася новая Канстытуцыя СССР. Урачыстае ўручэнне «Пісьма…» адбылося 28 лістапада. Праўда, гэтую ганаровую місію выконваў не Гікала: ад імя беларускай дэлегацыі выступіла стаханаўка-ардэнаноска фабрыкі «Кастрычнік» Еўдакія Кісель, пасля чаго куфар быў перададзены ў прэзідыум.

Зрэшты, існуе версія, якую ў 1996 годзе на старонках газеты «Культура» агучыў Яўген Ціхановіч, мастак, што прымаў самы актыўны ўдзел у аздабленні куфара. Маўляў, з прамовай выступіла знакамітая беларуская артыстка Ларыса Александроўская, якую Сталін нават напачатку перабіў і прапанаваў выступаць па-беларуску. Праўда, сам Яўген Мікалаевіч дэлегатам з’езда не быў, і хто расказаў яму пра гэта, засталося загадкай. Ды і ці не пераблытаў шаноўны мастак за даўнасцю часу два розныя мерапрыемствы? Прынамсі, добра вядома, што Ларыса Пампееўна выступала на XVIII з’ездзе ВКП(б), які праходзіў у Маскве з 10 па 21 сакавіка 1939 года.

«Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну» надрукавалі многія беларускія выданні. Неўзабаве яго сталі вывучаць у школах. Мікола Ермаловіч прызнаваўся, што праз гэты твор у 1937 годзе быў выключаны са школы: дажджлівай восенню, ідучы са школы, чытаў яго на хаду, спатыкнуўся і паляцеў у лужыну. Калі назаўтра хлапчук вярнуў «Пісьмо…» настаўніку, той аж пабялеў: яно было бруднае і скамечанае.

Увогуле ж, практыка творчых заказаў «зверху» на гэтым «Пісьме…» не скончылася. І тычыліся яны не толькі першай асобы Савецкай дзяржавы. Напрыклад, 14 верасня 1936 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны твор «Дванаццаць песень» з доўгім падзагалоўкам: «пра нашу непераможную Чырвоную Армію, пра яе творца і натхніцеля вялікага Сталіна, пра яе палкаводца Клімента Варашы-

лава, пра гераічныя паходы і бітвы, пра мужнасць сыноў беларускай зямлі, пра надзейную варту савецкіх граніц, пра еднасць народа і арміі, пра нашых шчаслівых і смелых дзяцей, пра нашу сталінскую радасную моладзь, — напісалі Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, — прысвячаецца слаўнай рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі і яе правадыру — першаму маршалу краіны сацыялізму Кліменту Яфрэмавічу Варашылаву».

А вось, напрыклад, цытата з кнігі Валянціны Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу»: «Пімен Емяльянавіч Панчанка расказваў мне, як увосень сорак дзявятага вядучых беларускіх паэтаў сабралі ў Доме творчасці «Караліпічавічы» з даручэннем напісаць паэму на зададзеную тэму.

Штодня пасля снядання ўсе спраўна займалі месца за пісьмовым сталом і працавалі над «сацыяльным заказам».

Нетыпова паводзіў сябе толькі мой бацька: ён альбо бадзяўся па лесе ў пошуках грыбоў, альбо гуляў у шахматы з кім-небудзь з тых, хто не меў дачынення да задання, альбо драмаў на канапе ў сваім пакоі, непакоячы сваімі паводзінамі «трапетуна» (так празвалі Петруся Усцінавіча старэйшыя пісьменнікі за яго неспакойны характар) Броўку, тагачаснага старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў, які лічыў сваім абавязкам сачыць, каб людзі не марнавалі дзяржаўных сродкаў, а займаліся тым, дзеля чаго іх сабралі.

Калі надышоў час справаздачы, высветлілася, што пераможцам стаў Куляшоў, які выканаў заданне за апошнія некалькі дзён тэрміну. Плён яго працы быў надрукаваны ў снежаньскім нумары «Нового мира» за 1949 год».

Сапраўды, у дванаццатым нумары «Нового мира» за 1949 год імя Аркадзя Куляшова сустракаецца. Да 70-годдзя Сталіна часопіс надрукаваў вялікую падборку твораў паэтаў, прадстаўнікоў усіх — на той час шаснаццаці — саюзных рэспублік. У перакладзе Якава Хелемскага была змешчана і невялічкая паэма Куляшова «Слово о вожде народов».

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***



АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана ў друк 14.07.2015 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,45. Тыраж 2005 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 23 300 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск